# ЗМЕСТ

Крыніца

# Васіль БЫКАЎ



*Было іхняе свята..*







# РУЖОВЫ ТУМАН

Было іхняе свята, і яны з кветкамі і сцягамі ішлі да скамянелага правадыра Іграў аркестр. Блішчэлі трубы, ад дажджу блішчэў граніт помніка, гарадское наваколле дробна адбівалася ў мокрым асфальце. Усе былі без кепак ці капелюшоў — сівыя, лысыя, з мокрым пушком галовы, сурова-пакутныя позіркі на даволі старэчых тварах. Адзін нёс невялічкі вазончык бягоній, які ашчадна трымаў аберуч, на сагнутай руцэ вісела кульба. Сярод іншых старых ён вылучаўся шыкоўнай, белай, амаль дзедмарозаўскай барадою, што ляжала на яго далёка не багатырскіх, змарнелых грудзях. Як падышоў за іншымі да пастамента, няспрытна сагнуўся і паставіў свой вазончык, а, выпрастаўшыся, нязграбна, бы саромеючыся, перахрысціўся

— Глядзі, Барсук! — амаль з захапленнем тузануў за рукаў сябра Вінцэсь. — Жывы, ты глядзі

Так, гэта быў Барсук, жывы і быццам здаровы, якога Ляксей з Вінцэсем памяталі яшчэ з ваенных гадоў, як жылі ў тым гарадку, дзе пражыў вайну і гэты стары, глуханямы чалавек з прозвішчам ці мянушкай Барсук.

— І, здаецца, усё ранейшы, — не сунімаўся Вінцэсь.

Дзіўна, аднак, што ранейшы, — жыццё ці натура таму прычынай Або, можа, ружовы туман падману, развеяцца якому ўпарта не даюць абставіны Такія, як у гэтым выпадку з Барсуком

Ён паявіўся ў тым гарадку-мястэчку пры бежанстве У першыя дні вайны з Заходняй Беларусі ў перамешку з войскам рынуліся і шмат якія з цывільных. Іншыя ехалі на

## ЦЫТАТНІК

*Я з хваляваннем чытаю кожны новы твор Быкава.. Ад яго патрабуюць эпапею вайны і не заўважаюць, што якраз ён стварае эпапею, толькі падобную не на "Вайну і мір", "Ціхі Дон", а на "Ператварэнне Расіі" Сяргеева-Цэнскага і "Чалавечую камедыю" Бальзака.*

**Міхась Лынькоў**

*Творы Васіля Быкава аб вайне грунтуюцца на вострых драматычных, амаль трагедыйных сітуацыях. Усё ў іх вельмі напружана, таму што напружана пульсуе грамадзянскае сумленне пісьменніка. І, як гэта часта бывае, недахопы часам з'яўляюцца працягам вартасцяў кнігі.*

**Алесь Адамовіч**

*Крытыкі, якія з большай ці меншай грунтоўнасцю гавораць аб паграозе паўтарэння для В Быкава, выяўляючы яе ў аднолькавым падыходзе да ваеннай праблематыкі, у падабенстве некаторых драматычных калізій і ў абмалёўцы характараў, а таксама ў прыватных кампазіцыйных рашэннях і стылёвых прыёмах, магчыма, у нечым маюць рацыю — доказы ўсяго гэтага ў іх ёсць. І ўсё ж нельга не заўважыць, як амаль у кожным наступным творы В. Быкаў узбагачае*

# ЭКЗІСТЭНЦЫЯЛІЗМ У БЕЛАРУСКАЙ РЭДАКЦЫІ

**Трыццаць сем гадоў таму ў першай аповесці маладога Васіля Быкава — "Жураўліным крыку" — праявіліся рысы беларускага экзістэнцыялізму. На абшары савецкай літаратуры яны амаль не кідаліся ў вочы, але з кожнай новай рэччу Васіля Быкава крышталізаваліся, набывалі відарыс устойлівай эстэтычнай з'явы. Літаратуразнаўцы шмат разважалі пра архетып шляху, споўненага фізічнымі і духоўнымі згрызотамі, рызыкай і стратамі, які пралягае амаль праз кожны быкаўскі твор і няўхільна прастуе да катастрофы. Мне даводзілася выказвацца і пра універсальны набор сітуацый экзістэнцыйнага выбару, адметных сваёй жорсткасцю і безвыходнасцю. Па сутнасці, большасць быкаўскіх персанажаў выбірае паміж магчымасцямі (спосабамі) памерці.**

**Цяжкасць выбару, які твораць гэтыя героі, не абарочваецца чаканай палёгкай або ўнутранай разняволенасцю, якую экзістэнцыялісты трактавалі як звышмэту, этычны абсалют. Як правіла, учынкі гэтых персанажаў не прыносяць ім вялікай славы, воплескаў, кветак ад удзячных**

*і паглыбляе свой погляд на вайну новымі аспектамі ў вынашаным аб ёй ідэйна-мастацкім поглядзе. Ён упарта імкнецца дасягнуць новых вышынь у спасціжэнні яе вопыту і ўвесь час удакладняе свой падыход да многіх вялікіх і малых праблем і з'яў; асвойваючы новыя вобласці яе зместу, ён узбагачае і ўдасканальвае сваю выяўленчую сістэму; пазбаўляючыся ад некаторай мастацкай скаванасці, пэўнага схематызму ранейшых твораў, ён дамагаецца большай знешняй і ўнутранай свабоды выяўлення. Удакладняюцца і паглыбляюцца яго прыёмы псіхалагічнага аналізу.*

**Варлен Бечык**

*Кожны раз, калі ён пачынае свой новы твор, ён як бы ідзе зноў на вайну. І кожны раз, калі ён заканчвае свой твор, ён як бы вяртаецца з вайны – у сваё часовае перамір'е, у свой кароткатэрміновы, да наступнай аповесці, зацішак. Кожны раз... Якія ж, уявіце сабе, сілы, якія рэзервы ўнутранай, духоўнай энергіі патрабуюцца і выдаткоўваюцца для таго, каб увасобіць у слове подзвіг ратны! Колькі вымагаецца ад мастака лепшай крыві яго сэрца, каб уваскрэсіць для новага жыцця – жыцця ў мастацкім творы – мёртвых і каб потым, у гэтым жыцці, падзяліць з імі іх горкі лёс. Якім самаахвярным павінна быць тут пераўвасабленне!*

**Анатоль Вярцінскі**

*Драма жыцця, узноўленая В. Быкавым, вырашаецца ў яго творах*

вайсковых машынах, іншыя на фурманках, а болей ішло пехатой — з клумкамі, чамаданамі, дзецьмі. Барсук вырваўся з пекла, падобна, сам адзін. Усе ягоныя сямейнікі недзе прапалі, і ён прыпыніўся, чакаючы іх, у мястэчку. Мабыць, думаў, часова, ды так і асеў на ўсе гады акупацыі. Жыў у старой бабкі ля рова, зарабляў чым мог· капаў грады, сек дровы, а то рамантаваў абутак. Еў што дадуць, часта галадаў і ўсё чакаў, казалі, сваіх — жонку і двух дзяцей. Ды ішоў час, а сямейнікі Барсука не аб'яўляліся. Часам было яму дужа кепска, але ў лес не ішоў. Ды і хто б яго ўзяў у лесе ў партызаны — які набытак з глуханямога? Хоць часам да яго наведваўся суседскі хлопец Валера, які, як тое некаторыя ўведалі, меў справу з лесам і то прападаў на тыдзень-другі, то цішком паяўляўся ў гарадку. Барсук яму быў патрэбны, каб падрамантаваць боты ці наладзіць трафейны гадзіннік, у якім, як аказалася, неяк разбіраўся Барсук.

Аднойчы гэты Валера з'явіўся не адзін, а з незнаёмым хлопцам, сяржантам з дэсантнікаў. У іх была адмысловая справа: апрабаваць прадуктовыя карткі. Так, звычайныя карткі рацыянаванага продажу круп, мукі, солі, якія выдаваліся служачым нямецкіх устаноў і якія наладзілі падрабляць у лесе. Ці, можа, у якой гарадской друкарні? Значыцца — фальшывыя карткі. Канешне, для такой аперацыі апрабавання Валера мог бы паслаць сястру Нінку ці цётку Ганулю, але ж, мабыць, іх было шкада. І ён вечаркам з напарнікам насыпаўся да Барсука.

Якраз у той тыдзень Барсук сядзеў без працы і без хлеба, даядаў апошні чыгунок бульбы, што зарабіў за рамонт коміна ў суседзяў; солі ў яго не было даўно. А тут раптам двое лясных гасцей, партызан, гэтак сардэчна пытаюцца: як жывеш? Спачуваюць і шчодра надзяляюць карткамі. На, схадзі ў лаўку, атавар, нам прынясеш і сабе возьмеш. Нам — што-ніштo, галоўнае, каб цыгарэты, астатняе возьмеш сабе. Мы людзі не сквапныя, мы савецкія партызаны...

Барсук не мог паверыць — такая раскоша! І такія слаўныя хлопцы — гэтак сардэчна пашкадавалі адзінокага дахадзягу-інваліда! На тым тыдні на рынку паліцаі адабралі ў яго здатныя боты, якія хацеў памяняць на хлеб. Ды яшчэ

**нашчадкаў, не даюць ім самім адчування поўнай самарэалізацыі. Сотнікаву з аднайменнай аповесці, што мусіць узысці на эшафот, ёсць у чым папракнуць сябе — у гібелі бязвінных, мірных вяскоўцаў, якіх ён пацягнуў за сабою ў нябыт; не больш падставаў ганарыцца сваім выбарам Рыбаку. Учынак настаўніка з "Абеліска", які пайшоў на смерць разам з вучнямі, будзе аспрэчвацца нашчадкамі. У надзвычай гнятлівых, змрочных абставінах гінуць героі "Аблавы", "У тумане", "Знаку бяды". Наогул, фінал большасці быкаўскіх твораў — як падзенне ў бяздонную, чорную прорву быцця.**

**Паколькі ў прорве цяжка разгледзець штосьці, апроч цемры, мастакоўскі пагляд скіроўваецца ў іншы бок, да падзей, што папярэднічалі выбару. Паўстае пытанне пра самакаштоўнасць чалавечага жыцця. Экзістэнцыялізм у беларускай рэдакцыі выяўляе, такім чынам, рысы добра знаёмага гуманізму.**

**Альбэр Камю, стваральнік экзістэнцыяльнай версіі старажытнагрэчаскага міфа пра Сізіфа, не шкадаваў свайго героя, што трапіў у нялітасць да алімпійскіх багоў. Сізіф, прывязаны да свайго каменя (і тады, калі цягне яго ўгару, і тады, як ідзе з гары за ім), у вачах аўтара з'яўляецца бязмоўнай мадэллю вызваленага духу. Камю захапляецца і ўзносіць свайго персанажа, не задаўшы сабе пытання пра ягоны ўнутраны стан.**

**Васіль Быкаў нібыта ігнаруе пытанне пра ўнутранае вызваленне чалавека ў выніку выбару — не здымае з ягоных плячэй цяжару і ў постэкстрэмальнай сітуацыі. Этычнае пытанне пераводзіцца ў іншы ракурс: а ці натуральна ўвогуле выпрабоўваць каго-небудзь праз нялюдскія пакуты і штурхаць да волі**





далі выспятка ў зад. Гэтыя ж во — задарма даюць карткі: маргарын, соль, мука...

Ён не ішоў — ляцеў з тымі карткамі ў краму, дзе атрымаў усё, што належала. Гэтак жа шыбаваў дадому, дзе трохі засмуціўся, бо хлопцы чамусь яго не дачакаліся. Яны прыйшлі толькі ўначы, распыталі, як і што. І яшчэ далі картак, якія дужа тады падтрымалі згаладалага Барсука.

Пасля вайны Барсук некалькі разоў спатыкаў у гарадку пасталелага Валеру і кожны раз цалаваў ягоныя рукі, такі слаўны быў той партызан. Гэтак уважыў старога! Асабліва, калі даў Барсуку даведку, быццам той — сувязны партызанскага атрада асобага прызначэння "Граніт". Менавіта тая даведка дала яму сілы жыць пасля страты сям'і. Праўда, неўзабаве ён выйшаў на пенсію з быткамбіната, дзе рабіў на розных работах і нават выбіўся ў майстры. Цяпер ён дужа перажываў распад СССР Асабліва, як дазнаўся, што Валера вялікі начальнік, робіць не ў Беларусі і наўрад ці прыедзе на рэвалюцыйнае свята. І ўсё з прычыны кардонаў, мытняў, разрыву эканамічных сувязяў. Валеру тут яшчэ памяталі з вайны, і найчасцей успамінаў яго з цеплынёй у старэчым позірку дзевяноста-гадовы Барсук. Ужо ён быў упэўнены, што Валера не здрадзіў вялікай справе Маркса-Энгельса-Леніна. Ды і Сталіна таксама. І Барсук не хацеў здраджваць, бо здрада — заўжды кепска. Як пазванілі з савета ветэранаў, каб прыйшоў на ўскладанне кветак да помніка правадыру, ён і прыйшоў. Прынёс свой апошні вазончык з бягоніямі, бо трэба ж было ўважыць і правадыра, і змагароў за ягоную справу, Валеру і таго сяржанта, якія некалі гэтак уважылі адзінокага, пагарджанага нямога.

Зрэшты, пасля вайны тая гісторыя з Барсуком стала вядомая, можа, усяму мястэчку Хіба, апроч Барсука. Вінцэсь колькі разоў памыкаўся расказаць яму, памагчы расплюшчыць вочы. Ды так і не адважыўся — яшчэ пакрыўдзіцца.

Можа, хай жыве ў сваім ружовым тумане, дажывае век і носіць вазончыкі да падножжа правадыра.

Тым болей — не шмат засталося.

1995 г.

*зусім не на ўзроўні сусветнай прыроднай праблемы "жыццё і смерць", хоць пачатак прыроднага, агульначалавечага не толькі нагадвае пра сябе, але актыўна дзейнічае на сцэне гэтай драмы. Так, у самых вострых сітуацыях сюжэта, дзе страсць сутыкнення напаляецца канкрэтнымі грамадскімі і асабістымі інтарэсамі дадзенай хвіліны, застаецца глыбінная, вытокавая сувязь самых нечаканых паводзін чалавека з традыцыйнай асновай спрадвечнага змагання духу.*

**Віктар Каваленка**

*Лёс збярог нам Васіля Быкава, каб ён жыў і пісаў ад імя цэлага пакалення, ад імя тых, што юнакамі спазналі вайну і ўзмужнелі духам са зброяй у руках, для якіх дзень жыцця быў роўны веку жыцця.*

**Чынгіз Айтматаў**

*Героі Васіля Быкава гэта мы, гэта кожны з нас. У тым іх сіла і неўміручасць.*

**Мікола Матукоўскі**

*Быкаў не імкнецца на шырокія прасторы баталій вайны, не бярэ падзеі ў разгорнутым па часе выглядзе – яму стае і невялічкай траншэі, акопа ці пазіцыі адной артылерыйскай батарэі, каб даследаваць паводзіны людзей з абавязковым заглыбленнем у іхнія душы, акцэнтаваць увагу на*

**праз катавальню і эшафот?**

**Чалавек створаны, як сцвярджае Святое Пісьмо, з "праху зямнога", мяккага рэчыва, такі ён паводле свайго "матэрыялу", крохкае і кволае стварэнне. Літаратары, у тым ліку і савецкія, няраз спакушаліся ідэяй рабіць з чалавека "пароходы и другие добрые дела", даводзіць пра герояў, што "гвозди бы делать из этих людей — крепче бы не было в мире гвоздей". Ці такое прыдатнае рэчыва?**

**Перад нялюдскімі выпрабаваннямі здаюцца часам мужныя і моцныя людзі. Раней, чым асуджаць іх згодна з "этыкай цвікоў", Быкаў шукае больш празрыстыя сітуацыі. Калі немагчыма асуджаць персанажаў ні ў якім разе — дзеля іх кволасці, непрыстасаванасці да ваенных ды іншых жорсткіх абставін. Невыпадкова прозу Быкава апошніх гадоў усё шчыльней насяляюць старыя, жанчыны і дзеці.**

**Сумніў у мэтазгоднасці выбару разыходзіцца з канонамі не аднаго толькі экзістэнцыялізму. У свой час афіцыйныя савецкія крытыкі сварыліся на пісьменніка за "непраўдзівы паказ вайны", за тое, што ў "Круглянскім мосце" партызаны выконваюць аперацыю коштам жыцця падлетка, што, на думку крытыкаў, "не адпавядала праўдзе вайны".**

**Процістаяць канону — гэтая пісьменніцкая ўстаноўка ставіла і ставіць яго ў адвечную апазіцыю да ўлады, хто б ні прыходзіў да яе на Беларусі. Гэтая суровая і нешматслоўная апазіцыя пісьменніка хіба што крыху разыходзіцца з ягонай цярплівасцю да чалавечай кволасці і вяртае на месца нормы класічнага экзістэнцыялізму. Пісьменнік зрабіў уласны выбар — не імгненна, па-беларуску няспешна, але трывала, назаўсёды.**

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

*этыцы гэтых паводзін і, урэшце, раскрыць як мага пайней характары, агаліць маральную сарцавіну асобы, каб глыбей выявіць яе сацыяльны змест.*

**Уладзімір Юрэвіч**

*Пасля выхаду "Праклятай вышыні", "Сотнікава" і асабліва "Знака бяды" я адчуваю ўнутранае задавальненне: майстэрства прыходзіла і прыйшло да Быкава як глыбіннае паяднанне вялікага мастака са стыхіяй беларускага народнага жыцця і слова, са скарбніцай духоўных каштоўнасцяў, выпрацаваных народам.*

**Уладзімір Калеснік**

*..Здольнасць уплываць на літаратурны працэс, а таксама на іншыя галіны культуры, на ўсё духоўнае жыццё сучаснікаў – адна з самых надзейных прыкмет сапраўднай значнасці пісьменніка. Быкаў і ў гэтых адносінах выглядае, можна сказаць, магутна. Яго творы, а таксама яго асоба, яго чалавечы лёс даюць нямала першакласнага канкрэтнага матэрыялу і дзейсных стваральных імпульсаў тэатру, кіно, тэлебачанню, выяўленчаму мастацтву, нават оперы і балету..*

*І справа тут не ў нейкай модзе, за якою Васіль Быкаў ніколі не гнаўся і не гоніцца, а ў вялікай сіле і мужнасці яго таленту, у яго мастакоўскай сумленнасці, сапраўднай грамадзянскасці, глыбіні і моцы адкрытай ім праўды пра наш час, пра*

## *З Табой:*

# З Васілём БЫКАВЫМ гутарыць Юрась ЗАЛОСКА

**— Сёння многія скептычна ацэньваюць савецкую літаратуру, яе феномен. Скажыце, калі шчыра, — проста па-чалавечы вы задаволены тым, што ўдалося зрабіць у літаратуры асабіста вам?**

— Вядома, не задаволены.

Мабыць, дужа шмат творчага часу патраціў на банальныя, як цяпер пагляджу, рэчы: вайсковы гераізм, які быў не болей чым часткай (і не найбольшай) вялікай вайны, на яе пакутнікаў і яе вялікае бязладдзе. А між тым, ёсць яшчэ не менеш драматычны перыяд нашай навейшай гісторыі — 30-я гады, як след не распрацаваныя нашай літаратурай (хіба адзін Мележ). Але час упушчаны, і цяпер гэта ўжо — Атлантыда, што ўсё болей хаваецца ў нябыт. Хто яе падніме на паверхню памяці? Старэйшых пісьменнікаў ужо няма, адны адышлі з гэтага свету, іншыя свой талент аддалі іншым праблемам — ачмурэнню класавай барацьбы, звыродлівым фантомам сацспаборніцтва, прапагандзе партыйных догмаў, якія шмат каго тады захаплялі. Для маладзейшых 30-я гады — тэра інкогніта, наўрад ці яны ў ёй як след разбяруцца, хоць і глядзяць на сваіх папярэднікаў паблажліва, звысоку. Мабыць, некаторым здаецца, што яўнае калабаранцтва старэйшых ішло ад невуцтва, светапогляднай абмежаванасці. У той час як усё было болей проста і болей страшна. З тагачасным камуністычным таталітарызмам, паводле слушнай заўвагі А. Камю, можна было або супрацоўнічаць, або змагацца. Пісьменнікі, як вядома, кепскія змагары. Значыць, што ім заставалася? Адно супрацоўнічаць, калі яны хацелі элементарнага — жыць.

**— А як справілася са сваёй духоўнай задачай, на ваш погляд, ваша творчае пакаленне?**

— У творчасці майго пакалення калі не рэалізаваліся цалкам, дык хоць бы ўпершыню праявіліся пэўныя адзнакі адмаўлення, нязгоды з савецкім таталітарызмам. У час хрушчоўскай адлігі з'явіліся кнігі, у якіх был парушаны кананічны прынцып сацрэалізму — барацьба добрага з лепшым. Упершыню ў літаратуры з'явіўся "нядобры" парторг, крыважэрны энкавэдэшнік. Часопіс "Маладосць" надрукаваў аповесць свайго рэдактара "Дабрасельцы", — мажа, першы праўдзівы твор з пасляваеннага жыцця беларускай вёскі. Хоць усё было не проста. Дзяржаўна-партыйны прэс упарта цісну мастацтва ў іншы бок — у бок ідэалізацыі таталітарызму Бясконца гаварылася пра абавязак мастацтва адлюстроўваць праўду жыцця, а на практыцы тую праўду вытручвалі з твораў усімі таталітарнымі сродкамі. І бізун чаргаваўся з пернікам. У гэтым сэнсе некаторыя з нашых братоў па прафесіі свой абавязак лічылі, здаецца, выкананым, як пра тое сведчаць нядаўнія ацэнкі іхняе творчасці ды іхнія ўзнагароды. У біяграфіях нашых папулярных майстроў слова значыцца па 6—8 ордэнаў — не за вайну, за літаратуру. За кожную кніжку — па ордэну Як ў сучасных генералаў, што нарадзіліся пасля апошняй вайны, тым не менш у галіне ўзнагарод даўно могуць спаборнічаць з ветэранамі-франтавікамі.

**— Часам "постмадэрнісцкая" крытыка папракае Васіля Быкава савецкасцю. Як вы да гэтага ставіцеся?**

— Мабыць, у гэтым для мяне мала прыемнага. Хаця збоку лепей відаць. Можа, толькі варта зазначыць, што некалі мае нядобразычліўцы-крытыкі адкрыта і тайна лаялі маю антысавецкасць, а цяпер вось іншыя (ды і тыя таксама) — папракаюць савецкасцю.

**— Увогуле, ці пакінуў, на вашу думку, сацрэалізм як метад вялікія творы мастацтва, літаратуры? Калі так, то каго ці што вы маглі б назваць з гэтага шэрагу?**

— Вялікія творы былі ў розныя часы, як і вялікія аўтары. Можна па-рознаму ставіцца да М. Шолахава і яго даволі

*чалавека на крутых перавалах XX стагоддзя.*

**Дзмітрый Бугаёў**

*Час улады над людзьмі, але не да такой ступені, каб адпавядаць яму ў сваіх ідэях, у сваім выяўленні, у сваёй творчасці. Усе гэтыя гады Быкаў ішоў сваёю дарогай, і, што б ні адбывалася вакол, які б непаможны гром ні грымеў, якая б ідэалогія ні панавала, ён паранейшаму быў верны праўдзе і сваім героям. Адзінае, што змянялася ў ім, – усё нясцерпней было тое галоўнае пытанне, якое трэба неадкладна задаць. Задаць так, каб усім грамадствам была ўсвядомлена неабходнасць адказу. І адказаць, як разумелі яго героі і як разумеў ён сам, можна толькі адным: вяртаннем жыцця – чалавечнасці, апраўданне чалавечнасцю.*

**Ігар Дзядкоў**

*Трэба, нарэшце, назваць рэчы сваімі імёнамі: у сённяшняй беларускай літаратуры няма пісьменніка, які б у большай ступені, чым Быкаў, ужо на працягу трох дзесяцігоддзяў процістаяў бы сваім мастацтвам таму закаснеламу і дэмагагічнапапсяховаму, ілжыва-патрыятычнаму і халопска-лаяльнаму, што ўкаранялася ў свядомасць людзей больш за паўстагоддзя і скажала для цэлых пакаленняў важнейшыя паняцці аб годнасці і асобе чалавека, аб яго свабодзе і неабходнасці, аб гісторыі народа, аб вайне яго і міры.*

**Аляксандр Станюта**

# ПРЫВІД БЕЛАРУСІ

**У аповесцях Васіля Быкава, пачынаючы з першай, "Жураўлінага крыку", блукае прывід Беларусі. Ён то набліжаецца, то аддаляецца, то меншае ў памерах, то большае, вырастаючы да страхавітай істоты з купалаўскага "Сну на кургане". Тады здаецца, што адбываецца нешта ірэальнае, містычнае.**

**" — Ты скуль, Глечык? — запытаў Карпенка, стоячы над траншэяй.**

**— Я? З Беларусі. Бешанковіцкага раёна, калі чулі, — сціпла адказаў баец.**

**— А як ты тут апынуўся, у Расіі?**

**— Уцёк. Быў у Віцебску, у ФЗН вучыўся, а як немцы падышлі, уцёк. У Смаленску пайшоў у ваенкамат — прынялі ў армію.**

**— Добраахвотнік, значыць? — знарок здзівіўся старшына.**

**— Ды не. Мой год пачалі ўжо прызываць. Якраз у той дзень у ваенкамат загад прыйшоў — браць дваццаць трэці год.**

**— Дык колькі ж табе?**

**— Ну лічыце — з дваццаць трэцяга года, ужо васемнаццаць.**

**— Так, небагата, — задуменна зазначыў Карпенка".**

**Звычайная анкетная гаворка. Але як бы яе слухаў, скажам, жыхар ВКЛ, наш продак. Што Глечык з Віцебска трапіў у Смаленск — гэта зразумець можна: усё ж суседнія княствы, заселеныя крывічамі! А вось як юнак трапіў у Расію-Масковію? Ды яшчэ і ў расійскую армію пайшоў! І хіба не містыка — "якраз у той дзень у ваенкамат загад прыйшоў"?! Міраж Беларусі ўзнікае і шпарка знікае з вачэй: называецца высока і годна "Беларусь", а адносіны да яе ў старшыны чамусьці такія, быццам гаворка ідзе пра Мінскую, Магілёўскую, Віцебскую вобласці разам узятыя. А раз фон непрасветлены, то і ў адносінах да яго рухомай дэталі ўзнікае шмат пытанняў. Чаму Глечык "сціпла адказаў"? Таму што Бешанковіцкі раён не тое месца, якім можна ганарыцца?**

**І Глечык, і Карпенка пачуваюцца ніякавата, нібыта закранулі забароненую тэму, зачапілі душэўныя струны, якія лепш не чапаць. Вось чаму старшына Карпенка рэзка абрывае гаворку і пераключае яе ў план звычайных, побытавых рэчаў: "А чаго гэта ты адзін капаеш? Дзе Пшанічны?" Думка любімых быкаўскіх герояў увесь час блукае вакол гаворкі пра самае дарагое, і адважваюцца яны яе распачаць толькі тады, калі ўсе іншыя магчымасці даведацца пра чалавека апрабаваны і вычарпаны.**

**Лазняк, герой аповесці "Трэцяя ракета", — па духу пабрацім Глечыка. І яго ў жорсткіх франтавых умовах грэе "цёплае пачуццё патрыятызму" (Л. Талстой). Ён доўга ходзіць кругамі, спрабуючы разгадаць душу сябра па зброі Крывёнка: адкуль у таго такая нянавісць да немцаў? Уласныя прычыны нянавісці і прага помсты Лазняку зразумелыя: у яго памяці красваточыць эпізод, калі немцы забівалі мірных жыхароў, а ён з сябрамі-партызанамі быў бяссільны памагчы. У Крывёнка, калі і ёсць прычыны каго ненавідзець люта, дык гэта "сваіх", што здалі яго ў штрафроту, па**

агіднага канфармізму ды яшчэ некаторых маласімпатычных рысаў ягонага характару, але ўсё ж "Ціхі Дон" — сапраўды вялікая кніга. Ці надта стасуецца да гэтага аўтара якія літаратурны метад (у тым ліку і сацрэалізм), я не ўпэўнены.

**— Ваша творчасць у 60-я, 70-я гады складвалася такім чынам, што чытачы ўспрымалі вас найперш як пісьменніка — прадстаўніка франтавога пакалення, у сціжме вядомых савецкіх баталістаў — В. Някрасава, Р. Бакланава, Ю. Бондарава і іншых. Нацыянальная прыналежнасць Васіля Быкава як бы не ўлічвалася: пісьменнік станавіўся вядомым свету праз пераклады яго твораў не з мовы арыгінала, г.зн. з беларускай мовы, а — з мовы-пасрэдніцы. Такім чынам, фармаваўся вобраз рускага пісьменніка Быкава... Няцяжка здагадацца, што для пісьменніка вашага кшталту гэткая неадпаведнасць не магла застацца неўсвядомленай і, пэўна, не магла не спарадзіць нялёгкую экзістэнцыйную праблему: як быць — ці канчаткова станавіцца "рускім" пісьменнікам (як, да прыкладу, Ч. Айтматаў), ці сцвердзіць у сусветнай літаратуры сваю беларускую існасць. Ці перажылі вы перыяд такога вагання; ці не шкадуеце цяпер, што пэўны, досыць працяглы, час напружана працавалі на ўзмацненне ў першую чаргу ўсё ж такі расійскага літаратурнага поля, а не свайго, беларускага?..**

— Я так мяркую, што нацыянальную прыналежнасць пісьменніка вызначае перш за ўсё мова ягоных твораў, затым — нацыянальнасць яго персанажаў З першага майго апавядання я пішу па-беларуску, вялізная бальшыня маіх персанажаў — людзі Беларусі. Але праўда, што ў свет яны выходзілі з расейскіх выданняў. Тое, аднак, ад мяне не залежала. Яшчэ на пачатку мае творчасці з'явіліся цяжкасці з выданнем у Беларусі (і не толькі ў Беларусі), бо пасля "Мёртвым не баліць" (1965) мае аповесці пра вайну падвергліся астракізму ва ўсёй краіне саветаў. Становішча стала асабліва невыноснае, калі ў апарат ЦК КПСС прыйшоў наш зямляк В. Сеўрук. Адзіны часопіс, які тады мяне друкаваў у Маскве, быў "Новый мир" пад рэдакцыяй А. Твардоўскага. Але вялізнаю перашкодай між аўтарам і часопісам стаў моўны бар'ер — узровень перакладаў на расейскую мову не задавальняў рэдакцыю. Аднойчы пасля рэдакцыйнага абмеркавання Твардоўскі прапанаваў, каб пераклад аповесці ("Праклятая вышыня") зрабіў сам аўтар. (Былі прапановы заказваць пераклад У. Дудзінцаву, якога тады грамілі за раман "Не хлебам адзіным", і Твардоўскі, падумаўшы, сказаў: "Значыць, так: аўтар Быкаў, перакладчык Дудзінцаў, рэдактар Твардоўскі? І вы думаеце, што з такім трыо ўдасца надрукаваць аповесць? Хай папрацуе сам Быкаў, сам і будзе адказваць".) Я мусіў перакладаць. Не памятаю, як ацаніў А.Т. тую маю спробу (здаецца, невысока), але аповесць надрукавалі менавіта ў маім перакладзе. З перакладам наступнай ("Круглянскі мост") ранейшых праблем не было, мабыць, я больш-менш асвойтаўся ў рамястве самаперакладу Хаця наўрад ці калі дасягнуў дасканаласці, бо, як некалі заўважыў Іван Бунін, блізкія мовы горш за іншыя паддаюцца перакладу. Тое я адчуў на ўласнай практыцы.

Намеру рабіцца расейскім празаікам у мяне не было ніколі, хапіла розуму зразумець, што расейская мова не для мяне, народжаны беларусам беларусам застанецца. Хаця, мушу прызнаць, уплыў на мяне расейскай вайсковай прозы быў даволі моцны. Асабліва, калі ў

сутнасці, на верную пагібель. Усё сваё нерастрачанае пачуццё нянавісці і злосці ён рэалізуе ў знішчэнні безабаронных немцаў-"языкоў". Адказ ляжыць блізка, і Лазняк яго атрымлівае.

" — Слухай, Крывёнак, — пытаюся я ў хлопца, — адкуль ты родам?

— А ніадкуль.

— Як гэта?

— А так. Радзіўся пад Смаленскам. Пасля, як маці памерла, дзе толькі не бадзяўся. Усе дзетдомы абышоў.

— Дрэнна ўсё ж так... без роднага кутка.

— На чорта мне куток. Табе многа карысці з яго?

— Многа, — кажу я, падумаўшы. — Ты не ведаеш гэтага.

— А мне пляваць. Гадаў біць усюды няблага, — буркае Крывёнак".

Як толькі сувязь з родным кутком абарвалася, чалавеку ўжо ўсё роўна, дзе жыць, як жыць, каго забіваць. Фізічнае калецтва (у Крывёнка глыбокі шрам на твары, якога ён саромеецца) толькі вонкава выяўляе яго душэўную траўму. Бо што такое Смаленшчына ў першай палавіне XX ст.? Ні Беларусь, ні Расія. Нічыйнае памежжа, якое толькі фармальна лічыцца Расіяй. У Крывёнка няма Радзімы, і яе прывід нават не блукае ў свядомасці героя. "Адкуль ты родам?" — "А ніадкуль".

Але і тады, калі ў герояў ёсць адчуванне кроўнай сувязі з родным кутком, уяўленні пра яго часта вельмі цьмяныя. Занадта моцна змяніўся выраз твару беларусаў за два міжваенныя дзесяцігоддзі, занадта шмат легла падзей паміж мінулым і сучаснасцю. Здаецца нават, што адбыліся незваротныя змены і адлегласць паміж чалавекам і





Маскве з'явіліся аповесці аўтараў г.зв. "лейтэнанцкай прозы" — Бакланава, Бондарава, Вераб'ёва, некаторых іншых. Аднак той уплыў, хоць і быў плённы, але стаўся кароткачасовым. У маіх партызанскіх аповесцях ён сышоў на ніштo, тут ужо я працаваў цалкам самастойна і, як хутка прызналі расейскія крытыкі дэмакратычнага накірунку, даволі плённа. Здаецца, сапраўды, тут ужо мае творы пачалі уплываць на пэўную (не горшую) частку расейскай вайсковай прозы. Мабыць, у тым ёсць нейкая заслуга Быкава як беларускага пісьменніка, творы якога перакладзены болей чым на 50 моваў свету. Хоць бы і з расейскіх выданняў. Але што з расейскіх, тут я не вінаваты, хай бы перакладалі з беларускіх. Ды з беларускае перакладчыкаў не было нідзе, як не было выдаўцоў (апроч хіба беларускай дыяспары), ніхто ў свеце нашае мовы не ведаў. Памятаю маё засмучэнне, калі, будучы ў Парыжы, даведаўся, што ў Сарбоне ёсць факультэт усходніх моваў, дзе вывучаюцца ўсе ўсходнеславянскія мовы, апроч беларускай. У чым тут прычына? Ці не ў спрадвечнай падлегласці, славутай талерантнасці і рахманасці нацыі, якая толькі напрыканцы XX стагоддзя заявіла аб памкненні да дзяржаўнасці і тут жа спалохана папярхнулася — найперш каб не пакрыўдзіць суседзяў.

**— Ці схільны вы лічыць, што сёння рэалізм як мастацкі метад у сусветнай літаратуры ўвогуле страчвае сваю мастацкую каштоўнасць — з прычыны анігіляцыі самога жыцця, знікнення непасрэднасці чалавечых перажыванняў і паводзін, распаду традыцыйнай біблейскай маралі, замены ўчынкаў на фальшывыя інфармацыйныя ўмоўнасці? Ці не гатовы прызнаць, што зараз надыходзіць пара пісьменнікаў-інтэлектуалаў, калі заўгодна — філосафаў, а не мастакоў слова?**

— Так, мяркую, што рэалізм аджывае сваё найперш у сытых, забяспечаных грамадствах, дзе ён як напрамак мастацтва ўжо адпрацаваў уласныя магчымасці. І так бы мовіць, надакучыў, "прыеўся" спажывецкаму грамадству, якое, падпарадкуючыся зменлівым законам рынку, прагне новенькага, востранькага, незвычайнага. У грамадствах жа, якіх раздзіраюць сацыяльныя праблемы, якія пакутуюць без элементарных грамадзянскіх свабод, нацыянальна не рэалізаваных, у такіх грамадствах яшчэ доўга будзе існаваць патрэба ў звычайным рэалізме, з яго чэрствай праўдай жыцця, адлюстраванай у формах самога жыцця.

Тое меркаванне, вядома, не выключае памкнення пэўнай (элітнай) часткі грамадства да мастацтва іншага кшталту з ухілам у бок формы, эпатажных прыёмаў творчасці, асабліва папулярных на Захадзе. Але не забудзем: перайманне ёсць паўтор, другаснасць, няздольныя даць кшталт адкрыцця, і ў дэмакратычным грамадстве хіба што будзе цярпімае, не болей. У недэмакратычным жа не будзе і элементарнай цярпімасці.

**— Дарэчы, у вас практычна няма твораў пра сучаснасць (апроч, бадай, апавяданняў "Бедныя людзі", "Фрузына"). Вы што, інтуітыўна адчувалі немастацкасць часу і свядома адмовіліся выказвацца пра яго мастацкім словам?**

— Для мяне час так званага застою, як бы ён ні вызначаўся эканамічна, у экзістэнцыяльных стасунках, сапраўды здаваўся немастацкім. Рэалістычнае мастацтва — выяўленчае ці літаратура — усё ж вымагае пэўнага элементу стыхійнасці, неарганізаванасці, якіх не было ў нашым дашчэнту заарганізаваным, рэгламентаваным бальшавіцкім мінулым. На вайне тае

Радзімай вырасла да касмічных памераў. Ну, што агульнага паміж Цімошкіным, які кідаецца пад кулі, каб памагчы смяротна параненаму Шчарбаку, і Блішчынскім, які палохаецца ў гэты міг, што ўчынак сябра выкрые іх схованку? Гэта людзі са свету і антысвету, прышэльцы з розных гістарычных эпох. Паміж імі адрозненне не меншае, чым паміж пітэкантрапам і неандэртальцам. І марна Блішчынскі нагадвае Цімошкіну пра іх "зямляцтва": "Слухай, Валодзя! Што ты робіш? Што ты робіш? Яны ж зараз пераб`юць нас. Куды ты пнешся? Можа, ён забіты ўжо, а навошта мы лезем? Хто ён табе: брат ці радня якая, чаго ты на ражон лезеш? Давай вернемся, пакуль жывыя. Чуеш? Давай назад. Мы ж свае людзі. Землякі. А ён..." Вайна ў аповесці "Здрада" ўспрымаецца як маскарад, і Цімошкін, галоўны герой твора, здымае маску за маскай з твару свайго аднакласніка, аднавяскоўца, земляка, браткі-беларуса Блішчынскага, каб урэшце пераканацца, што той большы вораг, чым нават немцы. Калі Цімошкін увасабляе Старую Беларусь, традыцыйную, вяскова-лапцюжную, што наіўна прытрымліваецца народнай маралі, то Блішчынскі выйшаў з шэрагу "новых беларусаў", узгадаваных за гады савецкай улады на адмаўленні ўсякай маралі, нават класава-партыйнай, бо яна ўспрымаецца імі толькі як спосаб прыстасавання да крутлівых акалічнасцяў. Усё змянілася: той, хто быў сапраўды "нічым", стаў "усім", апынуўся наверсе, асядлаў хрыбет самой гісторыі.

Водападзел адбыўся вельмі шпарка і раптоўна, і людзі не паспелі як след асэнсаваць сутнасць змен. У гэтым тра-

стыхійнасці было куды болей, асабліва ў партызанскай вайне, на акупаванай тэрыторыі, і туды інстынктыўна памкнуліся мае літаратурна-эстэтычныя сімпатыі.

**— ... І таму ў дачыненні да сучаснасці вы абралі не эстэтычны, а — палітычны шлях умяшання ў жыццё. Ці азначае гэта, што літаратуру вызначае ўсё-ткі кандыцыя самога жыцця і жыццё папросту можа не даць спрыяльных імпульсаў для творчасці ("крызісны час")?**

— Наколькі наш час лёсавызначальны для нацыі, наколькі драматычны і "праклятый" для грамадства, настолькі ён неспрыяльны для мастацтва, для функцыянавання культуры. Крызісны час — тым усё сказана. Вядома, пасля ён дасць пэўны плён, можа быць, і плён значны, але — пасля. Як усё ўляжацца, настане нейкая пэўнасць і выразнасць, усталюецца пэўны позірк на мінулае, якім неўзабаве зробіцца наша сучаснае. Выпрацуецца пэўная эстэтыка, адпаведная густам новага часу Пэўна, на змену ранейшай эстэтыцы, дзе ўсё ж пераважаў рэалізм (крытычны, сацыялістычны), прыйдзе які нечуваны гіпермадэрнізм. Хай! Мае ж літаратурныя густы, што склаліся пад уплывам класічнага рэалізму XIX ст., умацаваліся ў рэчышчы рэалізму XX ст., ад таго не пацярпяць, і не мне ўжо мяняць іх на штосьць нязвыклае. Позна ўжо ды і не цікава.

**— Відавочна, што ў процістаўленні жыццё — мастацтва вы аддаяце прыярытэт жыццю. Калі так, то ўсё прыгожае, усе класічныя шэдэўры літаратуры, жывапісу і г.д. як бы народжаны самім жыццём. Дык вось: ці не можа ў прынцыпе стацца так, што мастацтва збанкрутуе канчаткова, адпрэчанае самім жыццём?**

— Адказ на гэтае пытанне вынікае з папярэдніх. Вядома, мастацтва нараджаецца з пэўных праяваў жыцця (найбольш рэалістычнае мастацтва), але таксама і з унутраных, душэўных імпульсаў, сігналаў аўтарскай падсвядомасці. Суадносіны таго і іншага ў кожным творы кожнага аўтара дужа няпэўныя. Бываюць творы, нібы само жыццё, "спыненае імгненне"; бываюць створаныя выключна з ірацыянальных элементаў, дзе ад рэальнасці, бадай, нічога няма. Мабыць, каштоўнасць тых ды іншых вызначаецца ўсё ж не так спосабам адлюстравання, як характарам творцы, сутнасцю яго часам выразнага, а часам загадкавага таленту.

У культурным грамадстве сапраўднае мастацтва (не кітч) па сваёй сіле ўздзеяння можа сапернічаць з натуральнымі праявамі жыцця Уплывы мастацкіх вобразаў на душу чалавека, аднак, дужа невыразныя, апасродкаваныя, залежныя ад псіхічнай канстытуцыі асобы, узроўню яе культурнасці, а таксама ад меры мастацкай умоўнасці твора. Тая ўмоўнасць бывае нармальнай, агульнапрынятай, бывае празмернай і цяжкой для ўспрымання, бывае недастатковай і з тае прычыны таксама не кранае спажыўца прыгожага. Іншае ж аказвае зусім адваротнае ўражанне, чым на тое разлічваў аўтар. Яшчэ Арыстоцель заўважыў пэўны парадокс успрымання мастацтва, калі пісаў, што "мы з задавальненнем глядзім на выяву таго, на што ў рэчаіснасці глядзець непрыемна". Чаму так — не зусім зразумела. Але, мабыць, у тым нешта адчувалі марксісты, якія, не маючы магчымасці выкараніць "негатыў" з рэальнага жыцця, заўзята выкаранялі яго з мастацтва.

Сучасная рэчаіснасць, вядома, тоіць у сабе безліч самага рознага, у тым ліку і драматычна-трагедыйнага, заўжды каштоўнага для мастацтва. Але праблема, мабыць, у тым, што да пары тое — сырэц, паўфабрыкат, сусла, з якога яшчэ трэба вырабіць прадукт. А тое патрабуе часу Выспее, перабродзіць у дзяжы мастакоўскай свядомасці (асабліва ў падсвядомасці), і вінар-аўтар зробіць з яго напой багоў. Але не цяпер, не ў крызісны час. У крызісны час майстра заняты не так пошукам метафар, як пошукам хлеба. Найбольш чорнага хлеба праўды.

**— ... І тады мастак — напрыклад, Васіль Быкаў — замяняе пісьменніцкі стол на публіцыстычную трыбуну. Ці азначае гэта, што ў жыцці мастака рана ці позна можа наспець момант, калі палітычная і грамадская дзейнасць стаецца як бы натуральным працягам яго мастацкай, эстэтычнай творчасці?**

— Я ніколі не быў палітыкам і не імкнуўся ні ў якую палітыку. І калі я цяпер час ад часу наважваюся нешта сказаць, дык толькі з тае прычыны, што цяжка змоўчаць. Мабыць, гэта ўжо недахоп майго характару — нязручнага, няздатнага, невыгоднага для сябе характару Зайздрошчу некаторым таленавітым старэйшым, якія ўмеюць мудра маўчаць. Але што зробіш — сябе не пераробіш. Усё жыццё я імкнуўся да свабоды — у тым ліку і да свабоды асабістай, свабоды распараджіцца ўласным лёсам, чаго, зрэшты, мне ніколі і не ўдавалася. Ды і ці магло ўдацца? Ці можна ажыццявіць якое з элементарных чалавечых памкненняў у несвабодным і бяспраўным грамадстве?

**— Аднак жа, хоць вы і вельмі ашчадна прысутнічаеце ў палітыцы, але ж паспелі набыць як заўважнае кола сваіх прыхільнікаў, гэтак і кола апанентаў. Мабыць, што да прыхільнікаў, то іх колькасць апошнім часам значна пабольшала. Скажыце, у маральным плане, ці надавалі вы калі-небудзь увагу таму, якія людзі вакол вас гуртуюцца і якім чынам і ў якіх мэтах выкарыстоўваецца ваша імя?**

— Людзі, якія ля мяне гуртуюцца? Тым болей выкарыстоўваюць маё імя? Не зусім разумею, якія людзі? І што карысці каму з майго імя? Я не банкір, не наменклатуршчык, не партфункцыянер — як і ўсе радавыя, я бяспраўны, стары пенсіянер, чым і каму я магу памагчы? Парадаў я не даю, зрэшты, па іх да мяне ніхто і не звяртаецца. У наш час кожны жыве ўласным розумам, як і ўласным разлікам.

**— Збоку здаецца, што сёння вы не маеце гэтулькі сяброў сярод пісьменнікаў, колькі мелі тады, пры канцы 1960-х... Зрэшты, сяброўства, як вядома, адносіцца да сферы прыватнага жыцця. Аднак жа ў жыцці пісьменніка, мастака сяброўства часам можа перарасці прыватныя рамкі, адбіцца на яго́ным рэнаме і нават творчасці. Асабліва калі сябруюць дзве творчыя асобы (звычайна ў такіх выпадках шукаюць нейкія метафізічныя падставы іх збліжэння). Ужо доўгі час вашым сябрам з'яўляецца Рыгор Барадулін. Скажыце, Васіль Уладзіміравіч, ці ёсць нейкая незвычайная глеба ў вашай дружбе?**

— Нічога незвычайнага. Не буду казаць, які паэт Рыгор Барадулін (вялікі паэт!), але не тое для мяне галоўнае. Ён мне дарагі найперш за свае чалавечыя і яшчэ болей — грамадзянскія якасці За шчырасць За цвёрдасць. За адданасць Беларусі, ідэям яе Адраджэння. За тое, што не сексот Якасці, якія цяпер сустракаюцца не так

**гедыя маці, гераіні апавядання "Сваякі", якая паспадзявалася на кроўныя сувязі, на "голас роду" і аддала ўласных сыноў-падлеткаў, што рваліся ў лес, у партызаны, на расправу паліцаям: маўляў, аднавяскоўцы, і нават "сваяк" сярод іх ёсць, паўшчуваюць, дадуць дубца і адпусцяць з мірам. У гэтым трагедыя лейтэнанта Клімчанкі, героя аповесці "Пастка", які лішне паверыў у "сваяцкія", "зямляцкія" прывязанасці Чарнова-Шварца, бо той і пачаў з высвятлення ступені роднасці: "Не здзіўляйся. Я рускі. Як і ты... Можаш называць Барысам. Мы ж бадай што равеснікі. Ты з якога года?.. З дваццаць першага. Ну, а я — з дзевяцьсот семнаццатага. Так сказаць, равеснік Акцября". Здань Радзімы, Расіі-Беларусі, увесь час маячыць у размове герояў: адзін націскае на клавішы патрыятызму ("Ці не даволі Расіі ліць кроў? Навошта гінуць? Недарэчныя ахвяры! Колькі іх прынесла Расія!"), а другі пакутуе, гадаючы: "А можа, ён тут па заданню нашых працуе?" Духі, нячысцікі, выяўленыя яшчэ Я. Баршчэўскім, Ф. Багушэвічам, Я. Купалам, М. Гарэцкім, Ф. Аляхновічам у беларускім жыцці-быцці, і ў нашу звышрацыяналістычную эпоху нагадваюць пра сябе. Нават у такога ўраўнаважанага рэаліста, як Я. Колас, яго разважлівы герой, кніжнік Андрэй Лабановіч, кідаецца за дапамогай да нячыстай сілы: "Чэрці! чэрці! пакажыцеся!"**

**Вайна з фашызмам, з аднаго боку, выявіла здольнасць беларусаў да супраціўлення, а з другога — падкасіла жыццёвую сілу нацыі, нанёсшы магутны ўдар па фізічнай моцы, незваротную шкоду яе здароўю. Нанесеная маральная траўма была вельмі глыбокая і закранала жыццёва важныя цэнтры нацыі. Менавіта ў вайну нарадзілася адчуванне агульнанацыянальнага Апакаліпсісу, выказанае, бадай, упершыню К. Чорным, якога, паводле ўспамінаў В. Віткі, вельмі непакоіў стан здароўя нацыі: "Трэба дбаць аб здароўі народа!" У новых умовах працягвалася, па сутнасці, усё тая ж распачатая таталітарызмам вайна з народам, вядомая нам пад эўфемізмамі "сталінскія рэпрэсіі", "парушэнні сацыялістычнай законнасці", "сталіншчына-яжоўшчына-берыеўшчына". Нядаўняе мінулае нябачна прысутнічае за кожным словам і кожным рухам герояў. І ў паводзінах Чарнова-Шварца таксама не было нічога раптоўнага — гістарычная заканамернасць дзейнічала праз яго няўмольна: "Чарноў біў люта і моўчкі, як можна біць толькі за асабістую крыўду, за ўласныя няўдачы, за непапраўнае зло ў жыцці — спаганяў усё на адным".**

**Іван Цярэшка ("Альпійская балада") і сярод квітнеючага поля цюльпанаў адчувае за сабою блізкую прысутнасць сваёй вялікай Радзімы. "Ты ўся наводдалі заўсёды", — сказаў паэт А. Разанаў, маючы на ўвазе менавіта гэта адчуванне. Тым больш наводдалі, калі герой яе можа ўбачыць хіба толькі ў сне. Паміж беларусам Іванам і італьянкай Джуліяй, якія ў гаворках аб простых побытавых рэчах карыстаюцца пераважна інтэрнацыянальнай лексікай, узнікае ўжо знаёмы па іншых творах Быкава дыялог, у якім месціцца мноства сэнсаў:**

**" — Какой твой провінцыя? Какой место ты жіль? Москва? Кіев?**

**— Беларусь.**

**— Белорусь. Это провінція такой?**

часта. І не толькі сярод пісьменнікаў Беларусі. Скажыце, хіба гэтага мала, каб сябраваць з чалавекам?

**— Ці не большасць пісьменнікаў як на абшары былога СССР — асабліва актыўна, гэтак і ў свеце сёння ўдзельнічае ў палітыцы. Ці азначае гэта, што для ўсёй літаратуры сёння як бы надышоў час змяніць пяро на шпагу, г.зн. умяшацца ў жыццё не праз эстэтыку, а — непасрэдна, праз палітыку? (У гэтай сувязі ўзгадваецца заклік-пажаданне А. Адамовіча "пішыце звышлітаратуру!")**

— Тут я вымушаны не пагадзіцца. У цяперашняй палітыцы пісьменнікаў удзельнічае дужа мала, беларускія пісьменнікі самаўхіляюцца ад палітыкі. Выхаваныя ў камуністычнай атмасферы, творчыя саюзы Беларусі (у тым ліку і Саюз пісьменнікаў) сучасную палітыку не ўважаюць за ўласную. Актыўна ўдзельнічаць у камуністычнай яны страцілі магчымасць, а далучыцца да нацыянальнай у іх чагосьці не хапае. Можа, адвагі? Мабыць, найбольш адвагі, бо яшчэ з 30-х гадоў сярод інтэлігенцыі жыве генетычны страх рэпрэсій, абвінавачванняў у нацыяналізме, што загучалі цяпер з новай сілай. Гэта што датычыць большыні. Элітная ж частка пісьменніцкай грамадскасці была і застаецца пракамуністычнай і марыць пра адно — пра вяртанне вялікай і магутнай дзяржавы з яе "руководящей и направляющей", да якой некалі прывыклі і з якой ёй было гэтак сытна, міла і ўтульна.

Што ж да закліку Алеся Адамовіча, то хацелася б зазначыць, што шмат якія з ягоных прадбачанняў здзейсніліся. Але не гэты. На мой погляд, у звышлітаратуры знікла патрэба — разам са знікненнем (часовым ці назаўжды) ядзернай пагрозы. Настала іншая пагроза, да якой, на ягонае шчасце, незабыўнаму Алесю дажыць не давялося...

**— Цікава пачуць ваша меркаванне адносна цяперашніх энергічных спроб А. Салжаніцына асабіста паўплываць на палітыку ў Расіі. Наколькі "да твару" пісьменніку гэткая палітычная заўзятасць?**

— Уплываць — хай уплывае. Уся справа — як? У якім накірунку? Калі ў імперскім, дык не дай Бог. Хіба без дысідэнта Салжаніцына ў Маскве мала заўзятых рэаніматараў-імперцаў, радзецеляў за вялікую дзяржаву? Нашто гіганту Салжаніцыну станавіцца ў шэрагі Зюганава ці Жырыноўскага, каб разам дамагацца знішчэння рэштак малых народаў? Ці да твару гэта слыннаму дэмакрату, антыкамуністу ды Нобелеўскаму лаўрэату?

**— У апошнія гады вы адкрыта выступаеце як апалагет хрысціянскіх каштоўнасцяў і хрысціянскай веры. Ці былі вашыя адносіны да рэлігіі (Бога) увесь час нязменнымі, роўнымі; якія падзеі, можа, асабліва паўплывалі на фармаванне вашага, як цяпер прынята гаварыць, асабістага містыцызму? (У гэтым сэнсе цікава пачуць вашу ацэнку вайны як не толькі "вайны", але і як памежнай падзеі быцця, удзельнікі якой як бы праходзяць своеасаблівую містэрыю "прычашчэння смерцю", г.зн. здабываюць пэўны духоўны гарт...)**

— Безумоўна, у наш складаны, бязбожны час традыцыйныя хрысціянскія каштоўнасці застаюцца галоўным духоўным апірышчам нацыі. Тое было пэўна ў гады татальнага вынішчэння рэлігіі, нездарма бальшавікі з першых дзён свайго панавання пастралялі царкоўных іерархаў, пабурылі цэрквы — яны не трывалі духоўнай канкурэнцыі. Дэмакратычна

**— Рэспубліка.**

**— Рэспубліка? Это карашо. Італія манархія. Монтэ — горы ест твой рэспубліка?**

**— Не. Гор няма. У нас болей лясы. Пушчы. Рэкі і азёры. Азёры самыя прыгожыя... Мая вёска Цярэшкі якраз ля двух азёр. Калі ў ціхі надвячорак зірнеш — не шалохнецца. Бы люстэрка. І лес вісіць уніз вяршалінамі. Як намалёваны".**

**Аўтар заўважае: "Ён сказаў адным разам занадта многа". Многа, але не ўсё. Спроба расказаць "пра ўсё" — пра голад у трыццаць трэцім, пра Сібір, пра "плёхой кольхоз" — толькі нагадала, якая прорва ляжыць паміж Захадам і Усходам, Еўропай і Расіяй. Рэальны вобраз спакутаванай Маці-Радзімы зноў паўстаў ва ўсю веліч перад вачыма героя, руйнуючы ружовыя міражы, створаныя ва ўяўленні мала інфармаванага еўрапейскага чалавека: "Нон правда! Нон! Іван — Влясов!" Давялося падрабязна расказаць пра "плёхой кольхоз". Але ўжо ў іншым творы — у аповесці "Знак бяды". Думка пра Беларусь выклікае ў памяці ўжо не "самыя прыгожыя азёры", а папялішча на месцы былога чалавечага жытла. Гэта і ёсць тая спадчына, якая засталася нам "ад прадзедаў спакон вякоў": "І тое нуднае ягнят бляянне-зоў на пастбішчы, І крык вароніных грамад на могілкавым кладбішчы". З такім духоўным багажом і ідзём мы ў сваю будучыню, несучы з сабой у новы час, за парог іншай эры свае грахі і заганы, сваю здольнасць да самаахвяравання і празмерную абачлівасць.**

**Здань Беларусі, яе гісторыі адкідвае на нашы справы і ўчынкі свой густы цень. Але ўжо не з мінулага — з будучыні, бо нашы сённяшнія паводзіны не ў**





арыентаваныя і проста сумленныя грамадзяне заўжды спантанна адчувалі згубу атэістычнай бездухоўнасці і неяк спрабавалі процістаяць ёй. На пачатку перабудовы, калі з'явілася такая магчымасць, я палемізаваў у "Комсомольской правде" з заўзятымі маскоўскімі прафесарамі-атэістамі. Але потым мой заступніцкі пафас знізіўся, калі новыя ўлады ў адносінах да царквы цынічна змянілі бізун на пернік. Вядома, ад камуністаў усяго можна было чакаць, але здзіўляла тая "хэнць", разлік або наіўная легкавернасць, з якой царква (найбольш праваслаўная) кінулася ў камуністычныя абдымкі, спрэс ператвараючыся ў банальныя "рычагі" ўлады.

Мабыць, сапраўды каштоўнасць рэлігіі не ў царкве, не ў яе зменлівай духоўнай палітыцы, а найперш у фундаментальнай сутнасці яе маралі, якую два тысячагоддзі нясе з сабой хрысціянства. Стары і Новы запавет, першакрыніцы хрысціянства. У гэтым сэнсе на памяці прыклад Льва Талстога, які, як вядома, займеўшы канфлікт з царквой, узяўся за вывучэнне грэчаскай мовы, каб без перакладу спасцігнуць першасны сэнс запаветаў Хрыста і святых апосталаў. Але гэта Талстой. А як народу, сем дзесяткаў гадоў адлучанаму ад веры, зноў далучыцца да яе, пераадолець духоўную разарванасць, спасцігнуць боскую сутнасць без карыслівых адвакатаў рэлігіі? Беларусам намагчыся на тое і яшчэ цяжэй — гісторыя не дала ім канкрэтна-ўласнай рэлігіі, кінула на раздзёр між дзвюма не надта прыязнымі канфесіямі. Уніяцтва, якое магло б стаць рэлігіяй беларусаў, амаль задушана, заціснута з двух бакоў магутнымі канфесіямі і ніяк не можа адрадзіцца. Усё тое балюча адбіваецца на духоўным здароўі народа.

Здаецца мне, вайна да тае праблемы не мае прамых адносін, бо на вайне ўсё вырашала грубая сіла, містыцы там не было месца. Гэта вернікам у акопах першай сусветнай вайны бачыліся розныя містычныя "яўленні", як правіла, з добрым, шчаслівым знакам. Атэістам жа на другой сусветнай не бачылася нічога, апроч дужа рэальнай (без містыкі), заземленай (літаральна і фігуральна) пагібелі. Што б гэта значыла? Але, мабыць, зразумела, што.

**— Наколькі вядома з вашых інтэрв'ю, вы падзяляеце той пункт гледжання на чалавечую гісторыю, паводле якога "чалавецтва паступова разумнее", г.зн. што развіццё чалавецтва ў цэлым адбываецца нібыта ў кірунку прагрэсу. Але апошняе стагоддзе пакідае па сабе і найжахлівыя сведчанні маштабнага самагенацыду "разумнага" чалавецтва — дзве сусветныя вайны з мільёнамі ахвяр, пастаянны лязгат зброі, крывавыя канфлікты, у тым ліку і апошні, чачэнскі... Гэта — пры тым высокім розуме, якога чалавецтва дасюль яшчэ не мела. Можа, слушна было б разглядаць вайну і ваяўнічасць як усё-такі фатальнае спараджэнне гульні бессвядомых сіл у калектыўным арганізме чалавецтва, г.зн. як пэўнае выйсце для той грубай энергіі інстынктаў, якая пры надта кшталтаваным розуме не знаходзіць, аднак, належнай сублімацыі ў культуры, таймуецца (чым бадай безвынікова апякуецца і Царква), але затым вырываецца на паверхню жыцця і — нішчыць, руйнуе той цывілізаваны лад, які, здавалася, цалкам паверыў у сваю трываласць і бясконцасць. Можа, след прызнаць за вайной метафізічную, ірацыянальную прыроду і, адпаведна, статус увесьчаснага спадарожніка чалавецтва праз усю яго гісторыю?..**

**меншай ступені дэтэрмінаваны менавіта будучыняй, а не адно толькі мінулым. Што такое сённяшняя публіцыстыка Васіля Быкава, яго апавяданні апошняга часу, як не жаданне зазірнуць за край часу, разгледзець у адкінутым будучыняй цені абрысы знаёма-незнаёмай істоты, у якой можна, калі пільна ўглядацца, адрозніць вобразы бацькаўшчыны? Апавяданне "На Чорных лядах" завяршаецца эпізодам, калі героі, зразумеўшы, што яны ў чарговы раз пацярпелі паражэнне, дабравольна расстаюцца з жыццём, капаюць сабе агульную магілу і кладуцца па чарзе ў яе. А чытач міжволі ўзгадвае купалаўскія радкі: "Раскрыйся нанова, магіла, страшней цябе людзі і свет!". Сёння той, хто адчувае блізкую прысутнасць мройлівай постаці-прывіду Беларусі, да гэтых слоў дадасць і радкі з верша У. Дубоўкі, якія паслужылі прычынай арышту паэта:**

*А не, дык надармо усё, жыццё надарма,*
*Лажыся ў яму Сам, Народзе мой, —*
*Пакуль ты сам не будзеш гаспадарыць, —*
*Не развітаешся з жабрацкай калітой.*

**Усё напісанае, сказанае В. Быкавым зыходзіць з вопыту нашай краіны, адносіцца да Беларусі: у іншых, больш адкрытых грамадствах, усё, мабыць, выглядае не так змрочна. Адсюль маральны імператыў, не ў апошні раз паўтораны нядаўна пісьменнікам: "Усё ж мы валодаем пэўным вопытам непадлегласці злу, вопытам, якога можа не хапіць наступным пакаленням. Менавіта таму клопат пра будучыню чалавецтва, лёс нацый, фундаментальныя каштоўнасці хрысціянскай цывілізацыі абавязваюць нас сказаць сваё слова, якое, можа быць, будзе пачута..."**

**Міхась ТЫЧЫНА**

**Г.зн. пагадзіцца з тым, што чалавецтва ўсё-такі не разумнее?**

— Мабыць, тое разуменне адбываецца не раўналегла: калі адны народы даўно "паразумнелі" і па-людску ладзяць сваё людское жыццё, дык іншыя не толькі не спяшаюцца рабіць тое, а час ад часу дурнеюць. Помніцца амаль роспачны крык у тэлевізары аднаго з самых сумленных расейскіх інтэлектуалаў: "Россия, ты сдурела!" (гэта калі Расея прагаласавала за Жырыноўскага). У нас жа, у Беларусі, не ведаю, на жаль ці на шчасце, такога ўскрыку не пачуеш — не тыя інтэлектуалы, ці не тое тэлебачанне. Нават пры магчымасці свабоднага (адносна, вядома) выбару выбіраюць не лепшае і не таму што не хочуць сабе дабра, а таму, што дагэтуль не навучыліся адрозніваць кепскае ад горшага. Бо не вучацца ні ў Бога, ні ў д'ябла, ні ў разумных суседзяў Мабыць, лічаць, што даволі марксісцкае навукі, засвоенай ва універсітэтах марксізму-ленінізму, партшколах ды на марксісцкіх кафедрах ВНУ. Часам здаецца, што такая навука — горш за цемрашальства, бо з большым поспехам замаскіравана пад навуковасць і таму робіць больш шкоды. Мабыць, было б лепш, каб тае навукі не было зусім, як і яе вучоных носьбітаў, усіх гэтых дактароў-прафесараў ад марксізму-ленінізму. Тады б людзі кіраваліся спрадвечным жыццёвым інстынктам ды меркаваннямі здаровага сэнсу з яго простымі і выразнымі законамі, што праз стагоддзі далі нацыі выжыць. Нацыя ж, спакушаная фальшывымі ідэямі, падманутая псеўданавукай, будзе хварэць, аж покуль не паразумнее і не вызваліцца ад тае ачмурэласці. Пакуль не зразумее элементарнай самакаштоўнасці здаровага сэнсу.

**— Напэўна, усе вышэйзакранутыя пытанні можна звесці да аднаго, універсальнага: адкуль на зямлі ліха і дзе прычыны зямных бед і радасцяў (мастацтва, літаратуры, грамадскага ўладкавання), — у трансцэндэнтным, г.зн. пад уладаю патойбочных сіл, ці — у самой амбівалентнай існасці гэтага свету і чалавека? Прынамсі, наколькі схільныя вы пераносіць адказнасць за тое, што робіцца сёння на Зямлі (і ў Беларусі), у сферу патойбочнага?**

— У чым тыя прычыны, — пэўна не ведае ніхто. Як не ведалі таго тысячу і дзве тысячы гадоў таму. Хоць яйкагаловым мінулага заўсёды здавалася, што яны ведаюць усё. Ва ўсякім выпадку, заўжды ўсё на зямлі і ў небе знаходзіла нейкае тлумачэнне. Але мінаў час, і рабілася відавочнай уся наіўнасць, "антынавуковасць" таго тлумачэння. І тады з'явілася агнастычнае разуменне непазнавальнасці свету. Кант і Спенсер былі не дурнейшыя за папярэднікаў, калі ўсумніліся ў іхніх поглядах. А пасля ўсумніліся і ў вызначэннях саміх агностыкаў, якія даказалі марнасць ведаў пра свет І пра чалавека таксама.

На маю думку, чалавецтва ніколі не спазнае сябе па дзвюх прычынах: па-першае, чалавек зменлівае стварэнне і спазнаць яго ў стане зменлівасці наўрад ці каму ўдасца. Па-другое, калі спазнаць да канца, дык тым спыніць сам працэс пазнання, а гэта ўжо ці не канец гісторыі? Хаця, як вызначыў Ф. Хукаяма, канец гісторыі азначае толькі тое, што людзі пачнуць яе зноў, так бы мовіць, чарговым заходам. І так бясконца. У тым, можа, і ёсць неразгаданая таямніца існавання, вялікі ягоны сэнс.

**— Любы прызнаны пісьменнік рана ці позна падпадае пад выпрабаванне вядомасцю і мусіць асэнсоўваць свой мастакоўскі кшталт, сваю місію. Ці гатовы вы, Васіль Уладзіміравіч, прызнаць за мастаком яго вышэйшую, надзямную місію, яго выключны, дэманічны кшталт?**

— Здаецца мне, няма тут ніякай "надзямной місіі". Пісьменніцтва зрабілася даволі масавай прафесіяй, рамяством для здабычы хлеба надзённага, заняткам, дзе, як і ўсюды, даволі фальшу, эгаістычнага разліку. І ніякага дэманізму, асабліва ў наш рацыянальны, спазнела рынкавы час. Раней сярод іншых талент усё ж вылучаўся пэўнай маральнасцю, прычыненасцю да народнага клопату; мастацкае слова нярэдка было раўназначна ўчынку, таленты ўважаліся за рэдкасць, не кажучы ўжо пра геніяльнасць. Але на нашых вачах адбылася дэвальвацыя таленту; усеагульная абавязковая адукаванасць ва ўсіх сэнсах пацясніла маральнасць, ідэалагічная заангажаванасць зрабілася перадумовай усякай творчасці. Апошнім часам на змену ранейшай заангажаванасці ідзе рынкавы прагматызм. Але мастацкаму таленту ў рынкавы час няма чаго рабіць, тут патрэбны здольнасці іншага кшталту Геній жа тут проста непатрэбная, чужая істота, якую па-біблейску заўсёды білі каменнем. Б'юць і цяпер. А то яшчэ запатрабуюць раскрыжаваць — тыя ж, дзеля каго ён шчыраваў. Між талентам і народам, як і дзве тысячы гадоў таму, ляжыць неадольная бездань неразумення; талент і геній — быццам істоты з іншай планеты. Хаця, паводле азначэння Шапэнгаўэра, паміж імі дзвюма таксама амаль супярэчлівая няроўнасць. "Калі талент трапляе ў цэль, у якую звычайныя людзі трапіць не могуць, дык геній трапляе ў цэль, якую звычайныя людзі нават не бачаць". Але калі не бачаць, дык і не разумеюць, а ад неразумення да нянавісці — адзін крок. Адсюль і — распні яго!

**— Ці прызнаяце вы за мастацтвам права на "манастырскі" спосаб паратунку ва ўмовах крызісу жыцця — права абстрагавання ад знешніх падзей дзеля таго, каб захаваць тое найлепшае, што было ім, мастацтвам, створана і зберажона за сваю гісторыю?**

— Мабыць, настае час, калі менавіта такая магчымасць адна і застаецца. Калі нельга развіваць культуру, дык важна хоць бы захаваць тое, што напрацавана ранейшымі пакаленнямі, законсерваваць яго (у тым ліку і мову), як кансервуюцца руіны старых замкаў і цэркваў. Сапраўды, культура падобная да евангельскага зерня і павінна памерці, каб уваскрэснуць зноў, як мудра зазначыў некалі Андрэ Жыд.

*Чэрвень 1995 г*

# ЁН БЕЛАРУСКІ ПІСЬМЕННІК НАСТОЛЬКІ, НАКОЛЬКІ ХЕМІНГУЭЙ – АМЕРЫКАНСКІ

**У кожнай Яго кнізе паміраюць людзі. У кожнай кнізе — трагедыя непазбежная. Няма ні радасці, ні шчасця, ні патолі. Пануюць — трывога, боль, няпэўнасць. Шмат холаду, снегу, туману, золі, сцюжы, восеньскай слаты і вельмі мала сонца, цяпла і наогул прыроднага супакаення. Дні амаль не заўважныя, затое страхавіта заўважныя ночы, бо змроку ў Ягоных кнігах адведзена значна большая прастора, чым святлу.**

**Кожнае чаканне — набліжэнне да пагібелі, а кожная дарога — шлях на Галгофу. І скрозь — ні каліва адхлання. Толькі пакуты, адны пакуты — маральныя і фізічныя.**

**Утвараюцца сітуацыі, у якіх на жыццё ніяк нельга разлічваць. Разлічваць можна толькі на гвалтоўную смерць. Менавіта на гвалтоўную, і быць пэўным — яна не забавіцца. І тут ужо лепей не думаць аб тым, што будзе, і лепей пакінуць усялякія прароцтвы адносна выратавання, а таксама не трэба суцяшаць сябе там нейкай надзеяй. Навошта, калі вынік і без таго вядомы. Вынік — смерць!**

**Класічная мадэль пекла пераасэнсавана ў адлаведнасці з гіпертрагічнай логікай дваццатага стагоддзя — з падземнага царства пекла ператворана ў наземнае, у якое трапляюць адначасова і каты, і ахвяры. Трапляюць без ніякага разбору, таму што ўсе яны грэшнікі. У Яго кнігах праведнікаў наогул няма, за выключэннем хіба што дзяцей. Аднак і дзеці пазней, у сваім дарослым і адносна мірным жыцці, таксама не будуць адчуваць сябе праведнікамі, бо яны прайшлі іншае, не царкоўнае, прычасце, у якім замест хлеба быў порах, а замест віна — слёзы.**

**Сюжэт у Ягоных кнігах вывераны да драбніцы, фабула дзейнічае, як сціснутая спружына. Пісьмо сухое, дакладнае, у меру апісальнае, пазбаўленае іроніі, сантыментаў і паэзіі. Словы, як позняе перадзімовае лісце. Ні паху, ні маляўнічых адценняў. Яны ўзрошчаны не на сакавітай дыялектнай ніве, а на пісьмовым стале. Толькі такія словы і патрэбны пісьменніку-стоіку. Толькі імі і можна выказаць сваю асноўную філасофскую думку — цела чалавека слабейшае за душу і таму большыя пакуты, асабліва ў час вайны, прыносіць чалавеку менавіта цела.**

**У Ягоных кнігах прачытваецца і нешта іншае — цела біялагічна валадарыць, бо душа, нягледзячы на ўсю сваю моц, не здатная запоўніць увесь цялесны абсяг. І на гераізм чалавек здатны тады, калі страх за сваё цела пераадольваецца, калі нянавісць да ворага тоесная нянавісці да цела.**

**Час падпарадкаваны дынаміцы. Статыка ўзнікае зусім ненадоўга, і калі яна ўзнікае, то**

ўжо ў наступнае імгненне трэба чакаць новых неверагодна імклівых зрухаў. Зрухі гэтыя, а дакладней — зломы, ніяк не назавеш чалавечнымі, маральнымі, і наогул час гэты, паводле вызначэння Кузьмы Чорнага, брыдкі, не варты чалавека. У Ягоных кнігах сціслая чорнаўская формула часу набыла маштабнае выяўленне. Ад старонкі да старонкі, ад аповесці да аповесці ствараецца і пачварна вырастае жахлівае аблічча часу. Час гэты нельга забыць і немагчыма адмовіцца ад яго, аднак жа нельга і ўслаўляць. Чаму? Ды ўсё таму, што ён “брыдкі час, не варты чалавека”. Яго можна хіба што праклясці. Аднак і праклёну няма. Ёсць сам гэты час.

Трактоўка часу, вядома, не сімвалічная, не такая, як у ваеннай прозе таго ж Кузьмы Чорнага. Узбуйнены рэалізм гэтай трактоўкі выкліканы перш за ўсё нашым нацыянальным катастрафізмам, які ў Ягоных кнігах робіць сінанімічнымі такія паняцці, як абыякавасць і трагедыйнасць. Цяжка не згадзіцца з тым, што абыякавасць сінанімічная трагедыйнасці, калі сапраўды ў нашай абыякавасці да саміх сябе тояцца зародкі нашай жа нацыянальнай трагедыі.

І апошняе.

Ягоная беларускасць — чыста літаратурнага кшталту. І, мусіць, будзе мець рацыю той крытык, які скажа: Ён беларускі пісьменнік настолькі, наколькі Хемінгуэй — амерыканскі. І менавіта гэтым Ён, Васіль Быкаў, цікавы мне, чытачу.

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

# “У НАС... ХАПАЛА... ЗМАГАРОЎ ЗА БЕЛАРУШЧЫНУ...”

“У нас ва ўсе вякі хапала разумных людзей, патрыётаў і змагароў за беларушчыну, але заўжды не было каму гаварыць на беларускай мове...”

У словах гэтых, узятых мною з “Зацемкаў з левай кішэні” Леаніда Галубовіча, выказана і цяперашняя наша нацыянальная трагедыя — па-людску, хораша, па-нашаму, як не ўмеюць гаварыць нават нашы “апосталы”.

“У любой сістэме, ці то капіталістычнай, ці то сацыялістычнай — заўсёды знойдзецца нейкі бок, які не на кшталт гэтай нацыі”. (В. Быкаў. “Літаратура на краёчку часу...”. “ЛіМ”, 14.5.1993).

Так пачынаецца публікацыя аднаго з бясконца-аднастайных выступленняў апошняга часу Васіля Быкава, які хоць і паўшчуваў вядучага вечара Рыгора Барадуліна за празмерную гіпербалізацыю яго “апостальскай постаці”, але ніякіх сумненняў (я сам слухаў гэтае выступленне перад чытачамі ў Палацы культуры чыгуначнікаў у маі 1993 года) у яго гаворцы не было.

Чаму такія экспромты мы не рэдагуем? Ці ад празмернага, ледзь не сакральнага піетэту, ці ад проста недаравальнай паблажлівасці да нашае, вартае абароны ад любога, хто так яе апошнім часам “узвышае”, мовы?

Што гэта такое, зрэшты, ну хоць бы вось такі цяпер модны “кшталт”?

Калі мая даўняя сяброўка-зрудытка піша пра “старасвецкую гжэчнасць і сучасны кшталт”, то першае, ведаючы збольшага польскую мову, я разумею, а другое — ну ніяк... Ні шасцітомны “Тлумачальны слоўнік” — хай сабе зроблены пры “таталітарызме” — ні “Беларуска-расійскі” (як бачым, ніякі не “расейскі”) слоўнік М. Байкова і С. Некрашэвіча (1926 год) такога слова не ведаюць. Па-польску ж “кшталт” (ksztalt) — “форма”...

Хацеў бы я і каб хто-небудзь, разумнейшы, “распавёў” мне, што гэта, зрэшты, такое — “бок... сістэмы”... А якая “<u>гэтая</u> нацыя” маецца на ўвазе? І што гэта, у рэшце рэшт, за “краёчак часу”?..

І як бы ні быў аглушаны рэдактар громам “элітарнай”, “найноўшай” лексікі з выступлення Васіля Уладзіміравіча на другім міжнародным кангрэсе ў абарону дэмакратыі і культуры “Незалежная прэса, свабода і <u>адказнасць</u>” *(падкрэслена мною)* у нашым ПЭН-цэнтры (“Культура і посттаталітарнае грамадства”, “ЛіМ”, 15.09.1995) накшталт: “табуяваны... у хрысціянскай культуры секс”, “катэгорыя... кольскасці, грандыёза”, “сакральнае боства”, “крыміналітэт”, “менталітэт этнасаў”, “валадар боскага дару”, “масавае грамадства”, “мяркуе духоўную калабарацыю з дыктатурай” і да т.п. — ці варта прыходзіць у захапленне яшчэ і ад “прыхарошвання” нашае “беднае” лексікі рускім “сугуба” і польскім “так бы мовіць”?

Ёсць у нашых слоўніках “суглінак”, “сугней”, “сугестыўны”, а “сугуба” — няма. Хіба так цяжка неўпрыкмет памяняць “сугуба палітычныя мэты” на “выключна палітычныя”, а “так бы мовіць, культурныя імператывы” — на “так сказаць, культурныя...”?

В. Быкаў, па сведчанню Р. Барадуліна, неяк заўважыў: “Нашая літаратура патраціла дзесяцігоддзі, каб даказаць, што ўмее пісьменна пісаць, выгладжваць кожнае слова”.

Ну што ж. Хто ж будзе спрачацца, што “аднаго гэтага ўмельства мала, каб літаратура сцвердзіла сябе, заявіла пра сябе на ўвесь голас”? Але ж чамусьці Васіль Быкаў “першы сказаў слова праўды, сказаў па-беларуску, сказаў шчыра — й свет пачуў Васіля Быкава, пачуў пра Беларусь”.

Чаго мы толькі не робім дзеля зусім не патрэбнае — маючы Купалу, Коласа, Багдановіча, Танка, Куляшова, Панчанку — міфалагізацыі і апалагетызацыі. Тую ж гістарычна унікальную “Мужыцкую праўду” Кастуся Каліноўскага, фігуры гістарычна, хто ж будзе спрачацца, велічнай, аб'яўляем найвялікшым творам у гісторыі менавіта нашае мастацкае літаратуры...

Так і тут.

Дапусцім, што пісалі няшчыра Якуб Колас і Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля і Міхась Лынькоў, Максім Гарэцкі і Лукаш Калюга, Іван Мележ і Уладзімір Караткевіч і што ў іх не было ні слова праўды.

Але навошта ж нам так бясхітрасна хітраваць?

Хіба Васіля Быкава пачулі найперш за яго выключную беларускасць і недасягальную для ўсіх тых, што пісалі і, дзякуй Богу, пішуць і ў нашы нялёгкія дні не горшую, а куды лепшую за быкаўскую прозу, мастацкую дасканаласць?..

Учытаемся, услухаемся, як яна гучыць, як даходзіць да сэрца сучасная быкаўская проза:

“Называецца — даваяваліся! Тое, што яны даваяваліся дарэшты, да астатняй магчымасці, камандзір зразумеў не цяпер і не ўчора, як іх секлі ў кустоўі з кулямётаў, а яны толькі агрызаліся рэдкімі вінтовачнымі стрэламі. І нават не тыдзень таму як змардаваныя, галодныя, невялічкаю групай, рэштаю батальёна туляліся па лесе, не ведаючы, куды паткнуцца адпачыць у спакоі. Іхнюю трагічную нявыкрутку камандзір выразна адчуў ужо на пачатку вясны, як стала зразумела, што гэты раён абкладзены з усіх бакоў — ва ўсіх блізкіх і далёкіх вёсках, на хутарах і фальварках поўна чырвонаармейцаў, якія браліся за іх няспешліва, абачліва, грунтоўна. Тыдзень таму іх выкурылі з наседжанага хваёвага грудка ля балота, не далі перайсці рэчку ў суседні раён, яны ледзьве адарваліся ад цэлага палка чырвоных...”

Хопіць, думаю, цытаваць.

Што можна сказаць пра такую прозу? Ні аднаго жывога жэста жывога канкрэтнага чалавека ў канкрэтнай сітуацыі, адны толькі канстатацыі, накшталт таго, што “сакатала і сакатала зграя сарок”. Не кажу ўжо пра такія мудрошчы, як пластыка, мелодыка прозы. Нам не паказваюць і не расказваюць, а вуснамі аўтарадэміурга пераказваюць аднастайна-натужліва і ўчынкі нежывых, мёртванароджаных людзей і іхнія думкі і развагі. Асноўны мастацкі прыём гэтае прозы — апісальнасць.

Нашто ўжо ўсёдаравальны мой друг Алесь Марціновіч — не раз і не два прыходзіў ён у экстаз ад твораў, мякка кажучы, не надта каб дасканалых — і той пачаў заікацца і, папрасіўшы ў Быкава прабачэння, асмеліўся выказаць бясспрэчную ісціну: “Матэрыял у некаторы момант перастаў яго слухацца”.

Як жа перапала яму, беднаму, за гэта ад таксама майго сябра, ад Дзмітрыя Бугаёва, які, аднак, мяне, чытача, ні ў чым не пераканаў. Не магу не задаць знакамітаму крытыку хоць некалькі наіўных пытанняў.

Навошта сядзець, не еўшы, не піўшы тыднямі на нейкім грудку і лезці ў раку, чаму нельга па адным ці той жа групкаю абысці хутар ці фальварак? Адкуль камандзір ведае, як апазнавалі ў горадзе забітых, дзе хлапчук Валодзька “ўжо чуў, што камандзіраў ды кіраўнікоў паўстання паляки выдалі бальшавікам”, навошта капаць такую яму, калі яе не будзе каму закапваць, чаму дарослыя людзі ў сваёй мясцовасці не могуць выйсці з лесу, калі Валодзька, які застаўся жывы, бо не хапіла патрона, “ішоў і ішоў”, хай сабе “не ведаючы куды”?..

У самым фантастычным сюжэце павінна ж быць хоць нейкая логіка? Тут жа ўсё такое алагічнае, што проста дзіву даешся.

Як жа было няёмка слухаць дыфірамбы, мякка кажучы, “не надта дасканаламу” фільму, сцэнарый якога быў напісаны Быкавым на аснове гэтага апавядання, пасля яго прагляду ў Доме літаратара з вуснаў сапраўдных творцаў. Нават сам Васіль Уладзіміравіч — хто ж сумняваецца ў яго сумленнасці — устаў і сказаў, што матэрыял гэты быў для яго такі новы і няпросты, што ён ставіў перад сабою не столькі мастацкавобразныя, колькі “элітарнапалітычныя” задачы. “Гэты фільм — элітарны, палітычны, а калі канкрэтней, то гісторыкапалітычны” (В. Быкаў).

Апавяданне аглушыла Ірыну Рышыну з “Литературной газеты”, бо яна ўвогуле не магла прыпомніць нечага падобнага — “люди сами себя добровольно хоронят”.

“Што гэта — новы погляд? Другі філасофскі падыход?” — выпытвала яна ў аўтара, беручы ў яго інтэрв'ю.

Адказ аўтара даю ў арыгінале, каб нічога не сказіць: “Это прежде всего христианская идея самопожертвования. Не для собственного спасения, даже не для души, а спасения других, в данном случае было бы громко сказать — во имя народа, во имя Беларуси”.

Як перад Богам, прызнаюся — што тут да чаго, я ну ніяк не ўцямлю. Вучыцца чытаць такое так “эзатэрычна” *(тэрмін аўтарскі)*, як Юрась Залоска, мне ўжо, відаць, позна.

Якая аглушаная ні была Ірына Рышына, але ж не збаялася пад канец сказаць: “Я, видимо, не ошибусь, если скажу, что рассказы “На Черных лядах” и “Перед концом” вами сочинены, сконструированы...” Сканструяванасць апошніх апавяданняў, асабліва “Сцяны” (гл. “Полымя”, 1995, № 5) такая, што нічога, апрача ўсім вядомага “Мяне пужаюць, а мне не страшна”, сказаць не магу.

“Хто ты такі? Куды ты лезеш? Што табе трэба?!” — пачую я, калі мае “неадэкватныя” думкі-развагі выплывуць з “Крыніцы”.

Ну што ж. Па-першае, чытач, які некалі нямала паперачытаў усяго-ўсякага. Па-другое, зноў

лезу ў літаратурную крытыку, у якую некалі, здурнеўшы, быў залез і ў якой мог і памыляцца і балюча крыўдзіць нават Мележа і Брыля, а не толькі бясконцых графаманаў, але ніколі не хітраваў кан'юнктурна. І па-трэцяе, хіба не маю я права на тое, каб мяне пераконвалі менавіта мастацкімі, а не нейкімі "элітарна-палітычнымі" сродкамі...

О, як некалі пранікаў у самую душу "Жураўліны крык", як разрывала яе, але і ўзвышала праз мастацкі катарсіс "Трэцяя ракета"... Але не мог я не спатыкнуцца, калі ў "Знаку бяды" натыкаўся на такое: "Ды і гэта ўжо ідзе на закат" ці нешта накшталт: "дагадзіш", "капытам" і да т.п.

Доўга слухаў шматлікія "вопли восторга" і маўчаў. А асмеліўся аднойчы ў рэцэнзіі на адну з апошніх аповесцяў зрабіць нясмелыя папрокі ў мастацкай непераканаўчасці яе фіналу, у пэўнай канструяванасці сюжэта, як адзін з самых дарагіх мне сяброў, сам Анатоль Клышка, усё гэта, не спытаўшы ў мяне, проста выкінуў.

Ці на карысць нам такая наша апошнім часам нічым не апраўданая "самацэнзура"?

Хіба ж і не гэта стала прычынаю таго, што "несумненны духоўны лідэр нацыі, прарок і вартавы яе лёсу" — кажучы словамі таксама майго даўняга друга, В. Каваленкі — перад усім светам (гл. "Литературная газета", 22.06.1994) дазваляе сабе такі "беспрыдзел" (неалагізм самога В. Быкава, гл.: "ЛіМ", 3.06.1994) у адносінах да сваіх равеснікаў і ўсяго сучаснага пакалення нашых пісьменнікаў, якія, маўляў, "...проповедовали ложь, сами же в нее и поверили и стали жертвой этой лжи", а ён не можа "иначе квалифицировать мое поколение, сегодняшнюю его основную массу, как только жертву собственного лицемерия".

Адны з іх — Пімен Панчанка, Максім Танк — адышлі ад нас назаўжды, спазнаўшы смак гэтых "духоўных" слоў, але пра іх "вялікае слова скажа будучыня" (Н. Гілевіч).

А хіба заслужылі такія абразлівыя ацэнкі намнога старэйшыя за Быкава Алесь Звонак і Яўгенія Пфляўмбаўм, якія да канца дзён сваіх захавалі ў сабе і чалавечую годнасць і гожасць, і высокія творчыя азарэнні. А ў чым крывадушнічалі перад сабою і перад намі такія ахвярнікі-руплійцы на ніве нашае культуры як Генадзь Каханоўскі і Барыс Сачанка?..

Як жа хораша сказаў ад імя жывых Янка Брыль, выступаючы перад маладымі з творчай суполкі "Літаратар" пры часопісе "Першацвет": "Цяпер у гэтай калатнечы шукаюць і вінаватых і правых і знаходзяць іх не заўсёды там. І многа сабак вешаюць на старэйшых пісьменнікаў, маўляў, і такія мы і сякія... Ды каб тады нас не было, не было б нічога..." *(падкрэслена мною).*

Да колькіх найвялікшых творцаў сапраўды сусветнага маштабу і не ў такія гады прыходзіла творчая, духоўная, душэўная стомленасць, колькі іх проста замаўкала. А колькі твораў маштабу "Хаджы Мурата" і "Айца Сергія" Льва Талстога выходзіла ў свет толькі пасля смерці іх творцаў — яны лічылі іх недасканалымі, недапрацаванымі.

Дык, можа, і ці варта, самому прэтэндуючы на такую высокую місію, несці на людзі свае аднастайныя, з большага накіданыя ў імя палітычных мэт запісы?..

Талент — ад Бога! Але як жа важна захаваць у сабе не нейкую міфічную "вернасць вернасці" (В. Каваленка), а любоў да жыцця пры ўсіх яго горкіх, невыносна балючых праявах. І любіць не абстрактны народ, вечна яго папракаючы, а жывых людзей...

Генадзь ШУПЕНЬКА

# ЁН — ТАЯМНІЦА

Васілю Быкаву, як і большасці вялікіх людзей, наканавана не змяшчацца ў сваім часе, апяраджваць яго. Занадта вузкія рамкі гэтага часу, занадта павярхоўныя ўяўленні большасці ягоных сучаснікаў пра свет і чалавека ў гэтым свеце, занадта прыземленае духоўнае быццё. Але ж на аснове менавіта гэтага прыземлена-шэрага побыту В. Быкаў стварае сваіх герояў, лепіць свае характары, ператвараючы банальную побытавую гліну ў высокія быційна-філасофскія катэгорыі. Быкаўскія героі, як кветкі з грудаў састарэлага смецця, вырастаюць з дробязна-побытавай будзённай плыні жыцця да трагічных постацяў агульначалавечых маштабаў.

Большасць даследчыкаў, папракаючы Васіля Быкава то антысавецкасцю, то савецкасцю, упарта лічылі яго (прынамсі, да нядаўняга часу) прадстаўніком калі не сацыялістычнага, то класічнага рэалізму. Але ж ці можа творца, што "трапляе ў цэль, якую звычайныя людзі нават не бачаць", а значыць, які стварае новае духоўнае вымярэнне сутнасці чалавечай асобы — уціснуцца ў рамкі старых традыцыйных форм? Наўрад ці! Дарэчы, ці не пра сябе таксама сказаў сам Быкаў, згадваючы Шолахава, калі сцвярджаў, што да творчасці гэтага аўтара не надта стасуецца які літаратурны метад (у тым ліку сацрэалізм).

І хоць пісьменнік перакананы, што рэалізм у нашым шматпакутным грамадстве, якое раздзіраюць сацыяльныя праблемы, яшчэ доўга будзе існаваць, здаецца ўсё ж, што ягоная творчасць якраз і выходзіць па-за межы гэтага метаду.

Калі згадаць класічнае і найбольш распаўсюджанае азначэнне рэалізму — як адлюстраванне тыповых характараў у тыповых абставінах — і пашукаць яго ў творах В. Быкава, то вынік будзе ці не адваротны. Пачынаючы з першых твораў і да самых апошніх апавяданняў, быкаўскія героі трапляюць не ў тыповыя, а ў выключныя, надзвычайныя абставіны, у тую славутую экстрэмальную сітуацыю, што стала ўжо сінонімам творчасці Быкава. Якраз гэтая экстрэмальная сітуацыя і з'яўляецца тым пробным каменем, тым рэнтгенаўскім промнем, які высвечвае ўсе прыхаванья, часам невядомыя нават самому чалавеку, маральныя вартасці і недахопы яго душы. А галоўныя героі? Ці можна назваць тыповымі паводзіны настаўніка Мароза, непакорнага Сотнікава, бунтоўнай Сцепаніды (гэтага своеасаблівага Сотнікава ў спадніцы) альбо адстаўніка Агеева? Калі ўжо і гаварыць пра нейкі нацыянальны тып, што найбольш яскрава выявіўся ў характары быкаўскага героя, то гэта будзе не Сцепаніда і не Сотнікаў, а хутчэй спакутаваны, разгублена-адчайны Хведар Роўба ці памяркоўна-палахлівы Пятрок Багацька, а, можа быць, нават дабрадушны і смелы да пэўнага моманту здраднік Рыбак... Акурат яму, гэтаму сімпатычнаму, недурному і пасвойму сумленнаму беларускаму хлопцу найбольш адпавядае згодніцкая, кампрамісная пазіцыя большасці нашага народа на працягу ўсяе гісторыі: змірыцца, прыстасавацца і трываць, а там неяк жа яно і будзе...

Зрэшты, ці ставіў калі перад сабой Васіль Быкаў такую задачу — выяўляць тыповыя характары? Ягоныя ж творы сцвярджаюць не толькі тое, што ў свеце няма падобных людзей і кожны ў аднолькавых абставінах будзе паводзіць сябе інакш, але і тое, што адзін і той жа чалавек у экстрэмальнай сітуацыі можа паводзіць сябе па-рознаму.

Амаль усе героі В. Быкава першапачаткова ставяцца ў аднолькавыя "стартавыя" ўмовы, ува ўсіх іх перад пачаткам вялікага выпрабавання ёсць пэўны маральны капітал (у каго трошкі больш, у каго трошкі менш). Потым, падчас выключнага напружання духоўных і фізічных сіл, ён альбо павялічваецца альбо змяншаецца і — фактычна незалежна ад сваёй папярэдняй вартасці. Ствараецца ўражанне, што В. Быкаў увесь час быццам даследуе аднаго і таго чалавека, эксперыментуе з ім, разглядаючы ягоную душу нібы пад мікраскопам, шляхам шокавай тэрапіі ўважліва вывучаючы яе магчымую рэакцыю на створаныя ўмовы, вызначаючы мяжу яе жыццетрываласці.

Гэта толькі ў першых творах В. Быкава быў яскравы падзел на станоўчых і адмоўных герояў, пазней гэтая мяжа робіцца ўсё больш і больш расплывістай. Зрэшты, цалкам адмоўныя героі ўсё ж амаль заўжды прысутнічаюць як фон, як чорныя постаці на даляглядзе, але з-за вялікай адлегласці заўважныя адно іх абрысы — дэталёва разгледзець іхнія рысы твару немагчыма. Відаць, калі б В. Быкаў перавёў іх з эпізадычных у галоўныя героі, з-пад гэтае чарнаты выступілі б і нейкія больш светлыя, чалавечыя праявы. Калі ж паглядзець на так званых станоўчых герояў — то перад намі звычайныя людзі свайго часу: у меру жорсткія, у меру абмежаваныя, задураныя прапагандай (ідэалагічнай), у пэўнай ступені здольныя ісці на кампрамісы са сваім сумленнем. Незвычайнымі, героямі, яны робяцца толькі тады, калі ім удаецца вытрымаць маральна-псіхалагічны экзамен на выпрабаванне духоўнасці.

Здаецца, што, чытаючы аповесці Быкава, мы ўпадаем у самападман, робімся разумнымі заднім чыслом. Уся наша літаратурная крытыка, ад акадэмічнай да школьнай, уважліва прасочвае этапы маральнага падзення Рыбака, знаходзячы падставы для яго здрадніцтва ў мінулым, у паасобных учынках, выказваннях, ваганнях. Для нас, пасля прачытання аповесці, амаль з самага пачатку робіцца зразумелым, што фінал Рыбака быў заканамерным. Але ці так гэта? Ці планаваў сам пісьменнік першапачаткова менавіта такі фінал для гэтага псіхалагічнага тыпу, для гэтага характару? І калі планаваў, то чаму? Усё ж не логіка характару, і нават не логіка развіцця саміх падзей, а нешта іншае, што, можа, пакуль і не ўлічваецца намі, дало акурат такі, а не іншы вынік. Амаль з тым жа "храмасомным наборам" маральна-псіхалагічных якасцяў, што і ў Рыбака, Пятро Багацька альбо Хведар Роўба паводзяць сябе інакш. Значыць, галоўнае — не ўмовы і, можа, не самі жыццёвыя прынцыпы (у той ці іншай ступені яны ёсць у душы кожнага чалавека). Тады што? Можа, прадвызначана-выпадковы імпульс знешняга ці ўнутранага свету, незразумелы і нечаканы для самога чалавека...

Калі суаднесці той псіхааналітычны доследа, што праводзіць В. Быкаў над сваімі героямі, з рэальным жыццём, можна сказаць, што ўсёй сваёй творчасцю пісьменнік імкнецца давесці самакаштоўнасць чалавечай асобы і непрадказальнасць яе паводзін, калі не паводле сваёй уласнай волі, а паводле злога кону, яна ставіцца ў нечалавечыя ўмовы антыпрыроднага, антыбоскага выбару паміж жыццём і смерцю. І галоўнае не ў тым, што адны выбіраюць фізічныя пакуты, каб ацаліць сваю душу, а другія — жыццё і пакуты душэўныя; а ў тым, што падобныя экстрэмальныя сітуацыі, паводле В. Быкава, — анамальныя, антыгуманныя, і якраз яны супярэчаць маралі, сутнасці жыцця і чалавечай духоўнасці. Гэта не адмоўнымі героямі, што не здолелі перамагчы страх фізічнае смерці, трэба пагарджаць; трэба адмаўляць тыя абставіны і тых людзей, што ствараюць такія ўмовы, гіпатэтычна ставячы кожнага з нас перад выпрабаваннем, якое невядома ці могуць вытрымаць адзінкі з мільёнаў без шкоды

для свайго боскага высокага духу.

У творчасці большасці пісьменнікаў існуюць героі найбольш блізкія аўтару, існуюць персанажы, якім творца перадавярае свае думкі, свае погляды на жыццё, свае маральныя прынцыпы. Часам асоба аўтара так назойліва выглядае з-пад апратак літаратурнага героя, што ажно выклікае раздражненне. Без цяжкасцяў мы ўзнаўляем, што нядаўна чытаў пісьменнік, якія праблемы ў ягонай сям'і, якія ягоныя палітычныя погляды. І ўсё гэта ў творах мастацкіх, а не аўтабіяграфічных. У Васіля Быкава такога няма. У яго творчасці не знойдзеш героя, пра якога з упэўненасцю можна было б сказаць: "Ага, вось менавіта ён найбольш блізкі да аўтара!"

Да каго са сваіх герояў найбольш блізкі Быкаў? Можа, да Сотнікава, ці Сцепаніды, да Хведара Роўбы, Петрака Багацькі ці каго іншага? Выглядае, што да ўсіх патрошкі, і не да аднаго з іх. Грамадзянская мужнасць і бескампраміснасць, з якой абараняе ён незалежнасць беларускай краіны, непадкупная прынцыповасць і сумленнасць, што прымушаюць яго выступаць супраць любых дзяржаўных і побытавых праяў антысемітызму, безаглядная смеласць, з якой кідае ён у твар магутным народам і дзяржавам свету справядлівы папрок, што, каб дагадзіць сваім карыслівым інтарэсам, яны заўсёды гатовы ахвяраваць справядлівасцю, свабодай і незалежнасцю малых і слабейшых народаў (як было гэта ў дачыненні да Літвы) — адкуль усё гэта? Ад супермужнага Сотнікава ці ад рашуча-непрымірымай Сцепаніды? Калі і ад іх, то толькі ў невялікай колькасці, бо сам Быкаў пазбаўлены іхняй недальнабачнасці, іхняй чэрствасці, абмежаванасці. А дабрыня, спагадлівасць, стрыманая мяккасць і далікатнасць, інстынктыўнае памкненне Быкава стаць на абарону слабага, няшчаснага, пагарджанага — чалавека, народа, краю... Можа, гэта ад пападдзі Бараноўскай, настаўніка Мароза, Петрака Багацькі... Але ўсе гэтыя высокія духоўныя якасці ў самога Быкава больш глабальныя і шырокія, больш духоўна ўсвядомленыя і асэнсаваныя. Ні ў адным з літаратурных персанажаў пісьменніка няма ўсяе асобы Быкава, нават адной цэлай грані яго душы. Здаецца, што душа пісьменніка ў ягоных творах як быццам раздрабнілася, рассыпалася на сотні маленькіх кавалачкаў, і кожны з гэтых кавалачкаў трапіў да таго ці іншага героя. І толькі цярпліва сабраўшы іх усе ў адно цэлае, як у склееным люстэрку, мы можам узнавіць адбітак асобы аўтара. Цьмяны, расплывісты і павярхоўны. Сутнасць ягонага духоўнага жыцця, звычак, інтарэсаў, яго жывы дух застаюцца нераскрытымі. Ён — таямніца, неспазнаная намі. Таямніца, якую наўрад ці ўдасца нам разгадаць. І, можа, нават не трэба яе разгадваць.

Галіна ТЫЧКА

# "СІНУСОІДА БОГА" Ў КААРДЫНАТАХ ЛІТАРАТУРЫ, альбо ВАЙНА І ПЕРАМОГА ВАСІЛЯ БЫКАВА

Цяжка, калі развітальнае слова літаратуры кажа Васіль Быкаў. Невымоўна сумна чуць ад яго прызнанне ў тым, што яна свой гістарычны этап, здаецца, "адпрацавала", адціснутая "іншымі відамі мастацтваў, больш масавымі і больш камунікатыўнымі" (Урыўкі з гутаркі Джуліі Манікардзі з Васілём Быкавым) /Народная газета. 1996. 10 студзеня/. Напэўна, гэтак адыходзіць ЭПОХА, падахвочаная бездапаможнасцю самага сучаснага інфармацыйнага апарату, якую ў футуралагічным трактаце "Сума тэхналогіі" даводзіў С. Лем, папярэджваючы ад захаплення сімвалічнымі апісаннямі з'явы там, дзе трэба "прызнаць саму з'яву найбольш дасканалым сваім апісаннем" (інакш нават для перадачы "нейроннага эквіваленту" чыху прыйдзецца стварыць ледзь не шматпавярховы том). Аднак... З'ява, якая пераўзыходзіць ідэю, — ці не залішняя плата за гонар адчуваць сябе на строме часу? Аспрэчаныя інфарматыўныя магчымасці літаратуры — гэта яшчэ палова справы, калі хочаце — тэхніка рамяства. Жыццё, ахвяраванае мінуламу, заняволенае ў з'яве, якая не мае перспектывы развіцця, — куды больш сур'ёзны выбар, усё ж такі зроблены В. Быкавым (і таму на развітанне зусім не падобны) у той прасторы-часе, што з рызыкоўнай парафразы "Сумы тэалогіі" Фамы Аквіната ў назве лемаўскага трактата праз трыццаць гадоў утварыла "сінусоіду Бога", адмовіўшы неабачліва ўслаўленае спаборніцтва Бога і Канструктара дзіўным рытмам жыццянябыту: "...Бог існуе напераменку: спачатку ён ёсць, потым яго няма... і гэтак далей. Перыядычна, па сінусоідзе. І нічога агульнага з чалавекападобнасцю ён не мае" (Станіслаў Лем: "Палітык не павінен быць занадта разумным") /Книжное обозрение. 1995. № 51/. Мабыць, таму, што намаганнямі слыннага Фамы з'ява ўжо вырывалася з учэпістых абдымкаў апісання (калі пад ідэяй разумелася форма рэчы, якая існуе незалежна ад самой рэчы і якую не вынаходзяць, а выкарыстоўваюць), а ў пераможным поклічы "звышчалавека", што з ускрайку жывёльнай Прыроды сягнуў за межы ўласнай экзістэнцыі, чуўся роспач знясіленай і зняверанай душы, чыя мараль упарта, пакутліва, але безвынікова шукала сабе мэту?

Не здрадзіўшы літаратуры і свайму мінуламу, В. Быкаў саму літаратуру ператварае ў факт экзістэнцыі, абмінаючы хітрыкі Ф. Ніцшэ, які пахваляўся тым, што падмануў слоўца "я" ва ўцёках да "само", але адначасова наважваючыся прайсці гэткі ж шлях па-свойму. Балазе філалагічны спрыт, з якім знаўцы вызначаюць "негамагенны" характар прасторы і часу для міфічнай — касмаганічнай — свядомасці, зусім не пярэчыць абвостранаму адчуванню В. Быкавым мяжы (убачанай у няўмольным пераадоленні ролі ваеннай мінуўшчыны ў духоўным жыцці грамадства), адкуль пачынаюцца-ствараюцца новая прастора і новы час. Сцвярджаючы Падзею, каштоўнасць якой была б у ёй самой, пісьменнік-франтавік падзяліў у назве свайго мінулагодняга юбілейнага артыкула тое, што ў нашай свядомасці за дзесяцігоддзі паядналася непарушна: "Вайна і перамога". Вайне ніколі не выпадае быць з'явай самакаштоўнай. Перамога... "...ці такая адназначная для нас наша гістарычная перамога? Можа, тоіцца ў ёй штосьці і яшчэ, болей для нас важнае? Ці гэта Уладар сусвету так адмыслова размеркаваў сваю боскую міласць: каму пустазвонства перамогі, а каму камфортнае людское жыццё?" Уяўная непадзельнасць сімвала веры (вайна—перамога) наўрад ці дапамагла каму-небудзь адказаць на гэтае быкаўскае пытанне. Адказ схаваны ў самой падзеі, за межамі яе супярэчлівых наступстваў, там, дзе перамога роўная сабе, бо не перамагчы фашызм было нельга. Аднак такі маральны гатунак з'явы ўжо непадуладны меркаванням элементарнай маралі, якая раптам выкрывае свой другасны змест.

Так, Прырода мае заўсёднае абгрунтаванне ў сабе самой. А чалавек? Ці можа быць дакорам ягонае хістанне паміж ісцінай і маной (сінусоіда Бога!), калі ён шчыры ў тым, што толькі гэтак, а не інакш здольны ажыццявіць сваю ўласцівасць у межах Ніцшэвай антытэзы свету з'яў і свету сапраўднага: "свет" ці "нічога"? І якая розніца — гэта любы сэрцу германца антычны грэк, які ў сваіх міфах хацеў быць падманутым, але ж і: плакаў, калі было балюча, смяяўся — калі весела; альбо — палітрук Каламіец з аднайменнага быкаўскага апавядання, які напярэдадні бою перакanaў салдат у тым, чаму не верыў сам: у шчаслівым жыцці пасля перамогі над Гітлерам, у маючых быць распушчанымі таварышам Сталіным калгасах, "каб жылі, як раней. Як пры Леніне". Фальшывыя прапагандысцкія козыры — "большых і лепшых ... у яго ўжо не было. І ён сам гатовы быў у іх паверыць" — высветлілі патаемнае, стан душы, спасцігальны ў пазамаральным сэнсе, дзе хлусня і праўда аднолькава нішчацца аўтарытэтам Падзеі. Эпізод вайны, набрынялы пралітай крывёй, пазбаўляецца ўсіх магчымых меркаванняў разам з вынікам. Загад адступіць пасля цяжкага бою менавіта Падзею прызначае ў наступствы, галоўнае з якіх — арышт не ў меру гаваркога палітрука. За праўду? А можа, ману, бо на самай справе: падмануў?.. Неабвержным застаецца адно факт, выкрыты ў адносінах тоеснасці ("гэта ёсць тое... гэта не ёсць тое"), якія, паводле распаўсюджанай высновы, адыгрываюць вызначальную ролю ў касмалагічных уяўленнях. І з гэтага пункту гледжання быкаўская літаратура сапраўды ўжо не толькі факт, але і ўмова экзістэнцыі. Ісціна ў пазамаральным сэнсе адкрывае маральны сэнс Падзеі, тоесны сабе, як Ідэя і Дзея раскрыліся ў этымалагічным вынаходніцтве мінскіх тэатралаў ("Дзе-я?"). Мы пачынаем, мы становімся, адказваючы лемаўскім пацалункам на дамаганні снобаінтэлекту, збянтэжанага нашымі магчымасцямі нават тады, калі недахоп мовы для выяўлення гэтага стану адчувальны не столькі ў анталагічным, Ніцшэвым разуменні, колькі літаральна, у штодзённым жыцці (нацыя невымоўнага?). Нашае "я" ахоўвае цнатлівасць першапачуцця і пярэчыць самым сур'ёзным прэтэнзіям сімвала на сэнс. У апавяданні В. Быкава "Кацюша" (менавіта так, у двукоссі) сама назва — сімвал: Перамогі, салдацкага шчасця. Аднак у гісторыі, пра якую распавядае пісьменнік, высунутая на пазіцыі пехацінцаў "Кацюша" прыносіць бяду, бо робіць з невялічкай групы байцоў, што незаўважанымі акапаліся на бугарку пасля няўдалага агульнага наступлення, выдатную мішэнь для ачунялага ворага. Колішні ўнутраны енк-спадзяванне на агнявую падтрымку канае ў грымоце Падзеі, чые правілы мала стасуюцца з чалавечымі. Ні пачуццёвае яе вымярэнне ("От цяпер зададуць немчуры! От зададуць!"), ні разумовае не ратуе сэнс ад жабрацкага падлашчвання да яе. Невыпадкова ў фінале твора, калі пасля залпа "Кацюшы" на пагорак абрушыўся шквальны агонь нямецкіх мінамётаў, паўстае касмаганічны вобраз зямлі: "...выбухі таўклі, калацілі зямлю, якая, здаецца, трэскалася, разломвалася на ўсю глыб, гінучы сама і цягнучы за сабой пагібель на ўсё астатняе".

Зямля-бездань у стварэнні няіснага і існаванні няствораннага — "Зямля ж была нябачная і пустая, і цемра над безданню..." (Быццё, 1:2) — мадэлюе сінусоіду Бога, якой напраўду "мулка" ў чалавечых

каардынатах. Ці не з гэтай прычыны чалавекападобнасць Бога імкнецца перакласці метафізічны абавязак з “я” на “само”? У апавяданні В. Быкава “Падоранае жыццё” так і адбываецца. Мімалётная сустрэча параненага і бездапаможнага аўтара, адзіны аргумент якога — восем патронаў у абойме пісталета, і нямецкага аўтаматчыка ў сенцах вясковай хаты робіць іхным учынкам... НІЧОГА: “хай і міжволі”, яны падаравалі адзін аднаму жыццё. Пісьменнік устрымліваецца ад гуманістычных гімнаў, якія, прыгадаўшы даўняе быкаўскае апавяданне “Адна ноч”, цалкам справядліва маглі б праспяваць яму крытыкі. “...штосьці стрымала мяне. Не адчуванне небяспекі, не натуральная патрэба самазахавання — дзесь у глыбіні свядомасці рашучасць мая сама па сабе нейтралізавалася”. Мо, свет выслізнуў з-пад чалавечага разумення, утварыўшы пустэчу, якую не змог запоўніць сам, бо адпаведнасць яго сабе магла б азначаць катастрофу для абодвух удзельнікаў ваеннай трагедыі? “...там, дзе заканчваецца душа, але яшчэ не пачаўся свет, атрымліваецца рэшта, — тлумачыў філосаф і тэолаг М. Бубер, — а ў ёй жа і заключана самая сутнасць”. Мяжа душы амаль з графічнай выразнасцю акрэслена ў творы пальцам апавядальніка на спускавым курку пісталета, накіраванага на праціўніка. Аднак і свет яшчэ не пачаўся, выключыўшы гэтае маўклівае, безвыніковае супрацьстаянне са сваёй прасторы. Яна ствараецца нанова, нязмушанымі намаганнямі герояў, што ўнікаюць канчатковага адказу, захоўваючы боскую стваральнасць Слова, якое было ў пачатку. Не ў прыклад ім шчырая дзяўчына з быкаўскага апавядання “Зенітчыца” наўмысна заб'е свайго каханага камбата ў адказ на ягоную просьбу прастрэліць яму руку, каб было чым апраўдацца перад тылавымі дабрадзеямі за акружэнне, з якога героі В. Быкава выходзілі разам (“здрада...”). Аднак “маральны” ўчынак зенітчыцы страціць для яе апошнія рэшткі бездакорнага памкнення да таго, што ёсць ісціна і што... вышэй за мараль. Богам? Абсалютам, які вычарпальнай паўнатой існага выключае маральнае тлумачэнне і ўзнагароджвае цярплівае чаканне “Пасмяротных афарызмаў” пасткай для недасведчанага альтруіста: “Што зроблена з любові, тое не маральнае, а рэлігійнае” (Ф. Ніцшэ)? Але — парадокс! — такім абсалютам, ісцінай у пазамаральным сэнсе становіцца факт — прызнанне камбата, што “непараненым туды выходзіць нельга”. Дык, мабыць, Бог сапраўды памёр, калі нічым не вызначаны абсалют і выкліканы абставінамі падман — адно і тое ж, і, адпаведна, ніякага заступніцтва за чалавека на ўзроўні рэлігійнай любові быць не можа? Хіба не гэта даказвае ў творы праведны гнеў гераіні, які не абумоўлены менавіта ўмовай, набліжаючы “сінусоіду Бога” да траекторыі падзення неба ў бездань няўдалага эксперымента? І толькі засведчаная гераіняй “Зенітчыцы” пасля здарэння немагчымасць выбару паміж “я” і “ты” ў крытычным пункце перарывае гэтую наканаваную, гібельную лінейнасць, бо не ахвяруе Бога вопыту, прычыннасці, дзе, паводле М. Бубера, жывыя адносіны “я—ты” падмяняюцца культам, здзейсненым і знікае “тайна самавідавочнага, якая бліжэй да мяне, чым маё “я”.

Праблематычнасць эстэтычных дачыненняў да прычыннасці вымагае іх самакаштоўнага вызначэння, і ў апавяданні В. Быкава “Палкаводзец” структура твора ўзнімае на ўзровень самадастатковай падзейнасці Слова. Знаёмы нам маршал Перамогі ў творы беларускага пісьменніка — постаць гранічна абагульненая: герой-прынцып, а ў ідэйна-кампазіцыйным сэнсе і герой-функцыя. Акрамя таго, гэта чалавек, убачаны вачыма салдата або афіцэра-акопніка. Для іх ён Іншы. Але быкаўскі Іншы не можа разглядацца па-за межамі той прасторы, дзе набываюць свой лёс героі апавядання Палкаводзец — не апэратычны баязлівец і нават не напалохана-помслівы тылавік з “Мёртвым не баліць”: замест магчымасці з ехаць з перадавой ён накіроўваецца “ў самае пекла і жалезнай рукой...” Ён існуе ў адной плоскасці падзеі, ствараючы падставы для кантакту-супрацьпастаўлення і ўласнай матывацыі. Першыя ж словы Палкаводца, звернутыя да салдат-“бегуноў” (“Пачаму бежалі?.. Пачаму бежалі?.. Здаць аружыя!”), у далейшым падсілкаваныя нейтральным моўным кантэкстам, сведчаць метафізічную наканаванасць жудасных падзей, якую не ўлагодзіць узорным расстрэлам некалькіх няшчасных. Чужасць, “інакшасць” Палкаводца, падкрэсленыя ідэальнай адпаведнасцю плана змястоўнага і плана выяўлення ў самадастатковасці мовы, ёсць міфічная маніфестацыя Ідэі як Цуду, больш чым пераканальны нават для марксісцкай метадалогіі (ну хіба не дзіва?), якая ў гэтым выпадку нічога заганнага не параіць. Папершае, разглядаючы Слова як “сацыяльную падзею” (хоць і з істотнымі агаворкамі). А падругое, удакладняючы — роздумам В. Валошынава — паўнамоцтвы аб'ектыўнага аўтарскага кантэксту, які можа супрацьстаяць чужому выказванню, усведамляючы “самога сябе... у якасці такой жа суб'ектыўнай “чужой мовы” (“Марксізм і філасофія мовы”).

“Усё” здолела вылучыць сябе з навакольнага свету як “само”, бездакорным выгібам сінусоіды злучыўшы неба і зямлю. Мараль адшукала мэту і, стаўшы сама—мэтай, страціла маральны абрыс. Яе змест — па-за мараллю, у абсалюце рэлігійнага пачуцця, дзе “само” збліжаецца з пэўным, акрэсленым нацыянальным “я”, выяўляючы сімвалічную моц у апавяданні В. Быкава “Сцяна”.

Гэты твор амаль пазбаўлены канкрэтных адзнак прасторы і часу. Зняволены дыктатарам безыменны герой употай будуе падземны ход з турмы на волю, перспектывы якой малююць яму пакінуты горад, спатканне з сябрамі і з каханай. Ім рухае пагарда да прычыны, быццам выпадкова атрыманая свабода пазбавіць яго небяспекі вярнуцца сюды зноў. Аднак гульню з лёсам герой В. Быкава вядзе па вышэйшым рахунку, ратуючы свой намер ад дадзенасці ў вопыце. “Не надта рэлігійны” чалавек, ён не спакушаецца на “валоданне” Богам як рэччу, як культам (“Мусіць, для надта вялікае мэты здатны ўсе сродкі — і д'яблавы, і Богавы. Абы памаглі”), але ў вырашальны дзень, перахрысціўшыся на каленях, усё ж не запрашае ў памагатыя д'ябла. Чыстае стаўленне, забяспечанае мэтай, узнаўляе матрыцу Бога ў вядомым “я—ты” (Бог-першаслова М. Бубера), а сакральныя каштоўнасці прасторы і часу, якія папярэднічалі чалавеку і міфалагічна абумовілі яго, складаюць факт экзістэнцыі быкаўскага персанажа “праз нялёгкае пераадоленне каменя і часу”. У яго няма мінулага, бо мінулае (турма) непадзельнае з сучаснасцю. Няма будучыні, шлях у якую выводзіць героя да шыбеніцы ў квадраце турэмнага двара. Напэўна, лемаўскі Канструктар хутчэй дапяў бы да гэтай гармоніі НІЧОГА, прыгадаўшы секундную вартасць сучаснасці (адна секунда як імгненне бягучага моманту) і пасмяяўшыся з летуценнікаў, чыё падарожжа ў часе немінуча скончыцца жменькай уласнага попелу ад скарыстанай дзеля вандроўкі энергіі. Шкада, але ў героя В. Быкава сэнс здрадзіў Падзеі значна раней, тады, калі бурыць старадаўні мур сцяны “было цяжэй, чым будаваць”. Менавіта чалавек пакутуе ад вастрыні гэтага разладу, і нябачны ўсемагутны Канструктар са стрыманым пачуццём нязбыўнай перавагі чакае надыходу хвіліны, калі тайна “не чалавекападобнасці” Бога адкрыецца ўсім і ў люстэрку няспраўджаных зямных надзей з'явяцца пышныя вусы багаборца, які ўзнясе на пастамент асабістае ECCE HOMO і нагадае знерухомленым відавочцам, што д'ябал ёсць толькі “гультайства Бога ў кожны сёмы дзень”. Аднак згубленая чалавекападобнасць знянацку вызваляе Бога ад абавязкаў быць ім, засцерагаючы ад спакусы адпачынку, а пакутлівы зыход небаракі ў фінале быкаўскага апавядання ахвяруе надзею сведкам: “...пастка за ім зачынілася. ... Жыць у турме не мела сэнсу, памерці таксама не больш сэнс. Добра б не нарадзіцца зусім. Але, на жаль, тое ад яго не залежала...” Свядомасць, прачнуўшыся ў пустаце, набывае касмічнае вымярэнне (натуральнае ў касмаганічнай традыцыі), у якім усе аргументы Канструктара вычарпаныя назаўжды. І няхай ягоныя паслядоўнікі апантана шукаюць выяву Бога ў сінусоідзе — ці так гэта мала для нас: вызначыць ёй каардынаты?..

Іван АФАНАСЬЕЎ



# МЕТАМАРФОЗА

Раней усе пыталіся: ну калі ж Васіль Быкаў звернецца да сучаснасці? Інтуітыўна публіка чакала ад майстра менавіта такой трансфармацыі. Але не дачакалася. У новых сваіх творах пісьменнік па-ранейшаму пазбягаў рэальнага жыцця. Напружаныя псіхалагічныя калізіі разгортваліся ў ідэальных дэкарацыях, якімі стала мінулая вайна і сталіншчына. Публіцыстыка аперыравала эмпірычнымі катэгорыямі, побач з якімі канкрэтыка цэнзурнага ўціску або разгон мітынгу ў Курапатах выглядалі як умоўная тыповая фактура. Васіль Быкаў відавочна пазбягаў сучаснасці. Чаму? — публіка так і не зразумела. Тым больш не зразумела яна трансфармацыі прызнанага майстра савецкай літаратуры ў ідэолага беларускага нацыяналізму. Правільныя савецкія вэтэраны ўрэшце сказалі: здраднік! Грамадскае неразуменне дасягнула крытычнае масы.

Вядома, Васіль Быкаў нешта казаў пра свае чаканыя і нечаканыя трансфармацыі ў гутарках, але пры гэтым заўсёды нібы даваў зразумець, што само пытанне не ўяўляецца яму істотным, а значыць, няма чаго тут вытлумачваць. Самакаштоўны вынік, а не матывацыі.

Пісьменнік дэклараваў свой выбар. Хочаце — далучайцеся, не хочаце — як сабе хочаце. Публіка разгубілася: хочам, але не можам.

На маю думку, тут спрацавала як быццам зусім ужо вытерлая ў штампах формула: народны пісьменнік — сын свайго народа. Сын кажа: я прыняў рашэнне – пераходжу з левых у правыя! Бацькі: раскажы, сынок, *як жывеш*. Ім нецікава, чым правыя лепш за левых. Раскажы, чаму ТЫ так вырашыў. Бо яны праз ЦЯБЕ шукаюць водгуку ў сваім сэрцы і робяць СВОЙ выбар, а не праз дэкларацыю правоў чалавека ці тэзісы лібералізму.

Заўважу, што быкаўская метамарфоза адбылася не з кім іншым, а з прызнаным лідэрам нацыянальнага адраджэння, г. зн. у пэўнай ступені і з самім адраджэннем.

Пра сябе Васіль Быкаў не расказваў ніколі. “Успаміны пра дзяцінства радасці мне не прыносяць... пераключыўся на ваенную тэму... працаваў у абласной газеце...” І ўсё. Дакладней, па сутнасці нічога. Гэта вам не Сартравы “Словы”, не Мілашава “Шуканне Айчыны”, не “Карэнні і галіны” Шамякіна...

Вытлумачэнне такой *сціпласці* бачыцца мне ў творчым метадзе, які ўзводзіць Васіля Быкава да купалаўскага феномена “чалавека без біяграфіі”, прарока. Быкаўская метамарфоза вытлумачваецца як метамарфоза ме-

таду. Прызнаны рэаліст, класік “акопнае праўды”, дэмакрат-шасцідзесятнік становіцца рамантыкам ці неарамантыкам, нават сімвалістам (элементы ў “Сцюжы”, “Сцяна”). Адкуль што бярэцца?

Рызыкну выказаць думку, што рамантыкам Васіль Быкаў быў заўсёды. Ягоныя адносіны да сябе не змяніліся, а нежаданне “звяртацца да сучаснасці” толькі падкрэслівае адмаўленне ад эстэтызацыі жыцця дадзенага на карысць прыдуманага. Рэальнасць выпадае з гэтага творчага метаду. Метафізіка — вось сапраўдная стыхія пісьменніка.

Будучы паводле натуры чалавекам выразна незалежным, у савецкія часы ён мусіў супрацьпаставіць сябе метафізіцы савецкай, афіцыйнай, абавязковай, з чаго і паўстаў ягоны *вымушаны* пазітывісцкі феномен. Гэта быў сапраўдны рыцарскі чын. Але як толькі бастыён ранейшае ідэалогіі рухнуў, адразу быў адкінуты і той вымушаны пазітывізм. Пэўную ролю тут адыграў і грамадзянскі выбар на карысць рамантычнага народнага фронту — найбольш заўважнай дэмакратычнай сілы ў краіне.

Васіль Быкаў стаў галоўным правадніком метафізікі нацыянальнай. Ягоны пазітывізм у чыстым выглядзе (г.зн. без супрацьстаяння якой-кольвек ідэалогіі) існаваць не здолеў, таму што ў пісьменніка не было СЯБЕ. Не стварыўшы свайго самадастатковага літаратурнага “бастыёна”, свайго свету, сваёй Ёкнапатофы, Васіль Быкаў мусіў выйсці за межы прафесіі — у палітыку.

Лагічным працягам такой сітуацыі, а таксама агульнапрымальным і зразумелым вытлумачэннем метамарфозы павінна было стаць прэзідэнцтва прарока. У такім выпадку нацыя атрымлівала магчымасць трансфармавацца следам за сваім духоўным лідэрам, а нацыянальная метафізіка набывала выразныя рысы рэчаіснасці. Урэшце да такой развязкі ішла ўся наша перабудовачная сітуацыя. Але тут прарок раптам зноў ператварыўся ў адзіночку-пазітывіста, і Гавела ў Беларусі не атрымалася. Васіль Быкаў аддаў свой шанц іншым.

Неразуменне з’явілася ад таго, што народ не можа трансфармавацца “па выбару”. Ён не можа выбраць сабе ідэал, вынік, а толькі — шлях да ідэалу, працэс, жыццё. Ён выбірае сэрцам, слухаючы сваіх зразумелых сэрцу сыноў. “Па выбару” вызначаюць хобі — маркі, кактусы, рыбак. Але не мову, дзяржаву, гісторыю. Хобі не можа быць справай усенароднай. Але спецыфіка нашае сітуацыі якраз у тым, што адраджэнцы выбралі беларушчыну так, як выбіраюць хобі. І цяпер, калі яны агітуюць увесь народ “разводзіць рыбак” і “збіраць маркі” — іх не разумеюць. А тут яшчэ нехта пераагітоўвае за суднамадэлізм...

Беларушчына як ідэал страчвае свой прыярытэт адзіна магчымага для нацыі шляху і апынаецца ў штурханіне ўсялякіх іншых ідэалаў і ідэальчыкаў — “выбарных” варыянтаў развіцця.

Народу не трэба нашыя ідэалы — ідэалы Васіля Быкава. Яму трэба сам Быкаў і самі мы, хто мы такія ёсць. Калі нас няма, тады ідэалы ператвараюцца ў дыдактыку, а пачнём разважаць — аказваецца, розную мы ўсе бачым гэтую ідэальную Беларусь.

Трансфармацыя метафізікі ў рэальнасць — капрызлівы працэс. І сёння мы маем ужо тое, што маем сёння. Лагічнае развіццё гэтае сітуацыі бачыцца мне ў тым, каб Васіль Быкаў, не стаўшы аднойчы лідэрам нацыі дэ-юрэ, захаваў рэнаме класіка пазітывізму і атрымаў заслужаную Нобелеўскую прэмію. Бацькі абавязкова ацэняць гэтую ўзнагароду і зразумеюць метамарфозу сына.

Сяргей ДУБАВЕЦ

# ПРАБЛЕМА ДАБРА І ЗЛА Ў ТВОРЧАСЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА

*Праект экзістэнцыяльнага аналізу*

Не памятаю, хто з нашых беластоцкіх калег-літаратараў у гутарцы з карэспандэнтам сцвярджаў, што В. Быкаў у сваіх творах заставаўся “савецкім пісьменнікам”. Савецкім не ў тапанімічным сэнсе (у нашых энцыклапедыях да канца 1991 г. ўсе мы вызначаліся паняццем беларускі савецкі пісьменнік, мастак, вучоны, дзеяч і г.д.), а паводле быццам бы добраахвотнага прызнання ідэалагічных савецкіх каштоўнасцяў і арыентацый. Трэба зазначыць, такія чорна-белыя ацэнкі не навіна ў нашым асяроддзі. Яны датычацца не толькі ўзвышшаў літаратуры (В. Быкаў, У. Караткевіч, М. Танк, Н. Гілевіч, напрыклад), але і астатніх постацяў.

Мабыць, з пункту погляду ідэалагічнай ангажаванасці гэта часткова і так. Кажу часткова, бо ў савецкай літаратуры заўсёды была моцная апазіцыйная плынь.

Беларуская літаратура ў самыя цяжкія свае часы (яе носьбіты знішчаліся і падаўляліся) заставалася духоўным запаветам для народа. Нават у форме ідэалагічнага канфармізму яна сцвярджала самабытнасць нацыі, яе мову і яе архетыпы. Тут яна падзяляла лёс Хрысціянскай Царквы ў СССР. Апалогія камуністычных ідэалаў альбо тактычная лаяльнасць часткова вынікалі з крыніц пазітыўных, часткова былі праявай татальнай дэзінфармацыі і масавага прапагандысцкага гіпнозу.

У творчасці В. Быкава, які таленавіта выявіў воблік нацыі, яе сумленне, нашая літаратура рана разгледзела бесчалавечную і антыбеларускую існасць бальшавізму. Праблемы дабра і зла, сумлення і злачынства супраць жыцця, віны і пакарання — цэнтральныя ў ягонай мастацкай прозе і публіцыстыцы. І зусім натуральна, што поруч з антыфашызмам тут спакваля набірала сілу антыбальшавіцкая плынь, яна стала ў рэшце рэшт ідэйна-мастацкай дамінантай. Да традыцыйна савецкай ваеннай прозы з яе адналінейнай палярызацыяй дабра і зла (савецкія салдаты — і фашысты, народ — і здраднікі-паліцаі) можна ўмоўна аднесці хіба што раннія апавяданні пісьменніка 50-х гадоў. Кажу — умоўна, бо і тут мала звыклых савецкіх ідэалагемаў, дамінуе трагічнае жывапісанне народнай бяды (“Ранак-світанак”, “Страта”, “Эстафета”, “Нязгойная рана”). Пластычная дакладнасць чалавечых вобразаў, ландшафтнага фону, драматургічная кантрастнасць завязкі, кульмінацыі і развязкі (амаль паводле класічнага канона), засяроджанасць на мастацкім аналізе памежных сітуацый у жыцці герояў самабытна выявіліся ў першых аповесцях В. Быкава (“Жураўліны крык”, “Трэцяя ракета”, “Здрада”, “Альпійская балада”).

Ужо на гэтым этапе творчасці пісьменнік адмаўляецца ад палярызацыі дабра і зла паводле савецкіх канонаў. Канфлікты пераносяцца са сферы сацыяльных аб’ектывацыяў (класы, нацыі, грамадскія функцыі) на ўзровень быційнай самарэалізацыі чалавечых асоб, учынкі якіх нераўнацэнныя: яны альбо несвабодныя, дэтэрмінаваныя абставінамі, раней напрацаванымі псіхалагічнымі стандартамі; альбо свабодныя, але палярна арыентаваныя паводле выбару паміж дабром і злом. Поліфанічнасць быцця, першапачатковая недыферэнцыраванасць дабра і зла, іх палярызацыі і ўзаемапераходы, трагічныя сутыкненні дабра неаднолькавага ўзроўню і каштоўнасці, урэшце, усведамленне чалавекам фундаментальнага трагізму жыцця, непераадольнага ў рамках зямнога быцця, усё тое, што дамінуе ў сусветнай мастацкай і філасофскай культуры, якраз выявілася ў мастацкай прозе В. Быкава на творчым узлёце ягонага таленту (аповесці “Дажыць да світання”, “Мёртвым не баліць”, “Сотнікаў”, “Воўчая зграя”, “Абеліск”, “Круглянскі мост”, “Знак бяды”).

Дабро — трагічнае паводле сваёй сутнасці. Носьбіты дабра не могуць самасцвярджацца за кошт жыцця іншых, іхняе самасцвярджэнне — у ахвярапрынашэнні ўласнага жыцця. У жыццёвай біяграфіі Я-герояў пісьменніка, іх душэўным ладзе, учынках і выбары прачытваюцца хрысціянскія архетыпы. Разам з тым — гэта традыцыйна беларускія характары, выяўленыя не толькі ў творах пісьменніка, але і ў ягонай чалавечай асобе. Яны пакутніцкія, але ў гэтым пакутніцтве гартуюцца ваяры духу, за якімі — будучыня.

У апошніх творах (аповесці “У тумане”, “Аблава”, “Чорныя ляды”, апавяданнях пра пакутнікаў бальшавіцкага генацыду, у яркай публіцыстыцы) Васіль Быкаў здзейсніў другую задачу свайго літаратурнага жыцця — раскрыў д'ябальскі характар бальшавізму, які непазнавальна сказіў людское жыццё нашага стагоддзя. Бальшавіцкая імперыя, па сутнасці, была першая ў часе апакаліптычная антыхрыставая акцыя — татальнае зло пад маскаю класавага дабра.

Змагары за дабро і нашую Маці-Беларусь у творах пісьменніка найчасцей паміраюць. Астаецца толькі рэштка іх як надзея на адраджэнне. У рэшце рэшт тут вымалёўваецца і ненапісаны фінал: Боская апека над зямным быццём раскрываецца ў тым, што нябесныя сілы дабра раздзяляюць зло на варожыя бакі, якія самазнішчаюцца ва ўзаемнай канфрантацыі. А дабро выспявае для вечнага жыцця.

У найвялікшых канфліктах нашага стагоддзя В. Быкаў удзельнічаў у трох іпастасях: як салдат арміі, якая коштам невядомых у гісторыі ахвяр, страт сваіх “ціхіх” герояў, перамагла фашызм; як пісьменнік, які стварыў мастацкі аналаг гэтай сусветнай драмы, выявіў “першафеномены” дабра і зла, іх складаную дыялектыку — аж да перамены месцамі; урэшце, як публіцыст і грамадскі дзеяч, духоўны рыцар нашай Бацькаўшчыны-Беларусі, краіны, што сёння зноў і зноў намагаецца вярнуць сабе свае спрадвечныя каштоўнасці, завяршыць пакутніцкі шлях нацыянальнага адраджэння.

Сёння ў чытачоў Васіля Быкава, верагодна, узнікае пытанне: наколькі вычарпаў пісьменнік генеральную тэматыку сваёй творчасці — выяўленне мастацкімі сродкамі ў жанры аповесці-прытчы татальнага зла фашызму і бальшавізму? Ці ўдасца яму калі-небудзь адпачыць ад бясконцых франтоў, ваенных ды ідэалагічных, каб, сабраўшыся з сіламі, пачаць новую плынь у беларускай літаратуры? Урэшце, якія жанры ў блізкай будучыні пераважаць у ягонай творчасці — аповесць і апавяданне, магчыма, раман, ці праблемны артыкул на актуальную для Беларусі тэму?

Зразумела, самога сябе найлепш ведае сам пісьменнік. Аднак, вядома, Васіль Быкаў не любіць самаўпэўненых прагнозаў. Тут праяўляецца спрадвечная для беларуса-селяніна і беларуса-інтэлігента сціпласць, што выявілася прыслоўем: як Бог дасць. Праўда, нам, чытачам, таксама вядома (пра тое неаднойчы гаварыў пісьменнік), што Васіль Быкаў не бярэ для мастацкай распрацоўкі літаратурных ці “чужых”, асабіста не пражытых сюжэтаў. Бо “курапацкія” і “лістападаўскія” (пра Слуцкі ўзброены чын супраць бальшавіцкай акупацыі Беларусі) сюжэты па-свойму перажываліся пісьменнікам на вайне і не менш інтэнсіўна пасля вайны. Калі не эмпірычна, то псіхалагічна. А гэта азначае, што духоўнае і сацыяльна-палітычнае змаганне за Беларусь і беларусаў, за іх спрадвечныя каштоўнасці і надалей застанецца ў цэнтры ўвагі Васіля Быкава — мастака і публіцыста.

Уладзімір КОНАН

# Алесь РАЗАНАЎ



*Сярод залатых дзьмухаўцоў
адзін серабрысты:
у німбе?!*

# ПУНКЦІРЫ





*

**Адгарадзіўся ад наваколля
плотам з бярозаў і соснаў
і сам за імі
стаіўся:
лес.**

*

**Змяркаецца.
У парку крычаць вароны —
і крыкам
намацваюцца,
што яны ёсць.**

*

**Такі прыгажун,
а зажураны:
неба не хоча
ужо ўсміхацца табе,
сланечнік?!.**

*

**Каменне ў затоцы,
сярод камення
шэрыя качкі:
восеньскі морак.**

*

**Лужына.
Захапіла
жоўты кляновы ліст
і зашклілася лёдам:
е й н ы ! . .**

*

**Вострыць і вострыць дзюбу
аб камень крумкач:**

ну, ляці ўжо,
досыць!..

*

Тулю да грудзей абярэмак
паленаў скалелых:
і ў нас
будзе нарэшце свята!..

*

Цягнецца з коміна дым
па-над снежным бязмежжам:
адна сцяжына —
і тая ў неба.

*

Схапіў недакурак
і аніяк
даўмецца не можа,
што ў ім знаходзяць людзі:
грак-бедалага.

*

Падпіў —
і трымаецца што ёсць сілы
аберуч за бохан хлеба:
стары вясковец.

*

Пакінуты дом.
Зазірае ў акно
галінка зялёнай вішні:
няўжо нікога?!.

*

Блукаю па Вільні.
На даўніх мурах
новыя назвы.





*

Схаваўся ў царкву ад дажджу:
знянацку
зірнулі знаўпроць святыя.

*

Дзе — старасць,
дзе — маладосць?!.
Зацвілі
яблыні сёння.

*

Збягаюць струмкі з капяжа:
у асфальце
ямачкі-чаравічкі.

*

І гэта адзенне?!. —
здзіўляецца клён:
касцёл
у леташніх рыштаваннях.

*

Спеў у нябёсах,
нябёсы ў спеве:
жаўрук.

*

Боязна,
што заўважаць
і што не заўважаць —
таксама...
Суніцы зачырванелі.

*

Сярод залатых дзьмухаўцоў

адзін серабрысты:
у німбе?!.

*

Якімі высокімі павырасталі
быльнік і лебяда:
быў бы малым —
схаваўся б!..

*

Вось ужо й скончыўся лівень!..
А ліст кляновы лісту
яшчэ ўсё перадае
першыя кроплі.

*

Далёка ісці...
Смакчу
няспелую сліву.

*

Вецце спусціла
ў замерлы ставок
і сама замерла:
вярбіна ў спёку.

*

Вуліцу заняло
паважнае шэсце:
ідуць
з пашы каровы.

*

Хочаш са мной
паблукаць па свеце? —
Да рукава
бадзяк прычапіўся.





*

Хаваецца дзень.
У кожным
акне па сонцы.

*

Акрылася жабурыннем —
і неба
схавала ў сабе,
і з ім
схавалася ад паверхні:
затока.

*

З рынку нясу на руцэ
капусную галаву.
Ці ведаеш ты,
капусная галава,
колькі "зайцоў" каштуеш?

*

У ржышчы жытнёвым
конік застракатаў:
яшчэ
нешта не зжата?!.

*

Шэпчуцца:
ці застацца
стаяць у вадзе,
ці выйсці
усё ж на сушу...
Азёрныя чараціны.

*

Гронкі рабіны
зачырванелі:
ўгару
горнецца позірк.

# Алесь КАЖАДУБ



*Чачэн імчаўся, і ўслед яму ляцеў крык ворагаў, падобны да выцця зграі.*

# ЧАЧЭН

*Апавяданне*





Юнус прыехаў у Гомель з Растова.

У Растове сабраліся ўсе браты, сем чалавек. А было іх восем. Забілі пятага ў сям'і, Аслаўдзіна.

Юнус малодшы ў сям'і, ён ведаў, што адпомсціць яму не дазволяць, але прымчаўся ў Растоў першы. Забіў брата яго падзельнік, той самы чалавек, якога Аслаўдзін падабраў голага і босага. Прывёў у свой дом, накарміў, абагрэў Чатыры гады карашавалі яны, рабілі адну справу, пароўну дзялілі прыбытак. А скончылася тым, што сябра, падпаіўшы брата, засек яго на кухні сякерай. Пакуль быў п'яны, сябра шукаў у кватэры грошы. А працверазеўшы, адразу пабег здавацца ў міліцыю. Цяпер ён сядзеў у "адзіночцы"

— Паедзеш у Гомель, — сказаў Юнусу старэйшы брат

— Аддайце мне яго! — узмаліўся Юнус.

— Бацька сказаў — ты не можаш. Што ты абяцаў бацьку?

Юнус апусціў галаву.

Толькі нядаўна Юнус зразумеў, што такое бацька. Няма Бога, акрамя Алаха, і Магамет прарок яго. А на зямлі першы чалавек — бацька. Малодшы ў сям'і, Юнус рос самым разбэшчаным. У васемнаццаць гадоў стаў майстрам спорту па дзюдо. У дзевятнаццаць быў першы раз асуджаны за незаконнае захаванне зброі.

— Вон з дому! — сказаў бацька. — Паршывая авечка ўсю атару псуе

Юнус узяўся рукамі за дзверы хаты, выдраў іх з касякамі, кінуў бацьку пад ногі.

— Пракладу асфальтавую дарогу да парога, прыеду на "мерседэсе", тады ўсе ўбачаць, хто такі Юнус!

Цяпер жа, праз пяць гадоў, ён гатовы ногі цалаваць бацьку. Прыйшоў у дом, стаў на калені, нахіліў галаву:

— Бі, бацька.

— Мне лянота руку на цябе падняць! — чмыхнуў той. — Уставай

Юнус у турэмным карцэры не плакаў, а тут не стрымаўся.

Пяць гадоў, можа, і не вялікі тэрмін, але не для Юнуса У дзевятнаццаць гадоў ён хадзіў з гранатай у кішэні, і падарваць сябе разам з ворагам было для яго справай гонару. У дваццаць ён яшчэ думаў, што найвялікшая пакута — гэта карцэр, дзе цябе кормяць вадой з хлебам праз дзень, і ты не знаходзіш у сабе сілы захаваць скарынку назаўтра. У дваццаць адзін не здагадваўся, што любая з дзяўчын можа стаць маці ягонага сына. У дваццаць два даведаўся, што ў чалавека ёсць сэрца, ныркі, печань, і кожны з гэтых органаў можа балець.

Шчанюк, у якога прарэзаліся вочы, прыпоўз да бацькі і пачаў лізаць яму ногі.

— Бяры Каран і чытай! — адштурхнуў той яго цвёрдым ботам.

Шчанюк пачаў вучыцца чытаць.

Цяпер Юнус ведае, што ён не мае права загінуць. Сваёй смерцю ён заб'е бацьку і сына, якога яшчэ няма.

І ўсё роўна ён прасіў братоў, каб яны дазволілі яму адпомсціць за Аслаўдзіна.

— Я сяду ў турму, і там яму ад мяне нікуды не дзецца!

— Мы дастанем яго без цябе, — сказаў старэйшы брат — Турма — той самы дом, толькі з кратамі. І ў любы дом можна ўвайсці. Што ты абяцаў бацьку?

— Я жанюся! Заб'ю яго — і жанюся.

— Паедзеш у Гомель. Знойдзеш там кульгавага армяніна і скажаш яму, што гэты горад цяпер наш.

— А дзе гэты Гомель?

— Цягнік давязе, — усміхнуўся брат — З табой паедзе Саслан. Асфальт бацьку абяцаў? Рабі.

Брат жартаваў, і Юнус супакоіўся

— Ён не ўцячэ з турмы?

— Не ўцячэ, — пагладзіў вусы брат. — Грошы нам даюцца для таго, каб купляць.

Братавага забойцу яны дасталі на дзевяты дзень. Яго знайшлі ў камеры з гальштукам на шыі, прывязаным да трубы ацяплення.

"Павесіўся", — вынесла вердыкт медыцынская камісія. Так, зняволены здабыў дзесьці модны італьянскі гальштук і на ім павесіўся.

Але Юнус у гэты час быў ужо ў Гомелі.

Кульгавага армяніна яны з Сасланам знайшлі лёгка. Той, зрэшты, і не хаваўся, жыў у цэнтральнай гасцініцы.

— Нумар трыста тры, — сказаў швейцар, тоўсценькі адстаўнік з плаваючым позіркам. — Надоўга да яго?

— Салідны чалавек? — паглядзеў на яго Юнус.

— Салідны не салідны, але абы з кім не сустракаецца.

Швейцара трывожыў Саслан. Ды і каго не ўстрывожыць чалавек памерамі з шафу, на коратка стрыжанай галаве глыбокі шрам, рукі ў кішэнях скуранай курткі. А хто ведае, што ў тых кішэнях?

— Ён з вамі?

— Са мной, — сунуў у складзеную лодачкай руку пяць "штук" Юнус. — Мы будзем у вас жыць. Не пакрыўдзім, бацька.

Швейцар адвярнуўся.

Армянін не адразу зразумеў, хто да яго прыйшоў і з чым. Ён растлусцеў, гэты армянін, за два гады ў Гомелі, страціў нюх, вочы яго кепска бачылі

— Гэта мой горад, — ляніва сказаў ён.

— Быў твой, — ветліва паправіў Юнус. — А з гэтага дня робіцца маім.

— Мае людзі цябе зарэжуць, — зарагатаў армянін. — Хто ты, каб яны ведалі, каго яны будуць рэзаць?

— Я чачэн, — таксама засмяяўся Юнус. — Саслан, скажы яму...

Саслан скокнуў да армяніна, прыставіў да горла нож. Армянін, штосьці зразумеўшы, заблагаў — і папярхнуўся. Саслан яго рэзаў, і рэзаў па-сапраўднаму. Юнус схапіў крэсла, што трапілася пад руку, з размаху стукнуў па галаве Саслана. Крэсла развалілася ў руках, Саслан перастаў рэзаць. У нумар заскочылі двое армян — і спыніліся пад дулам пісталета.

— Перавяжыце яго, махнуў пісталетам Юнус. — Скажыце яму, што ў брата нервы не вытрымалі. Мы возьмем нумар на гэтым паверсе. Будуць пытанні, хай заходзіць. І яшчэ — мае людзі прыязджаюць з Масквы заўтра. Зразумелі? Заўтра прыязджаюць чачэны. І я таксама чачэн.

Назаўтра кульгавы армянін з гасцініцы выехаў Праўда, ён быў ужо не толькі кульгавы, але і з крывой шыяй.

У горадзе былі людзі, якія мелі справу з братамі Юнуса. Яны дапамаглі Юнусу і Саслану ўладкавацца ў гасцініцы, адкуль выехалі армяне Юнус выбраў трыста другі нумар, Саслан трыста трэці.

У першы ж вечар у нумар Юнуса пастукаліся. Ён адчыніў дзверы. Чалавек, які стаяў перад ім, не быў знаёмы Юнусу, але быў зразумелы Джынсы, турэцкая скураная куртка, вострыя насы туфляў падбітыя бляхамі, без гальштука.

— Я прывёз тавар, — сказаў чалавек. — Заўтра буду гандляваць на рынку. Можна сказаць там, што я ад Юнуса?

— Можна, — згадзіўся Юнус, — толькі абавязкова скажы: ад чачэна Юнуса.

Чалавек падзякаваў і знік. Праз дзень ён прынёс пятую частку навару.

— Хто-небудзь быў незадаволены?

— Не, цябе ўжо ўсе ведаюць.

— Усе? — здзівіўся Юнус.

— Не ўсе, — паправіўся чалавек, — але тыя, хто павінен ведаць.

Без адзінага стрэлу, нават без добрай бойкі, да якіх Юнус быў прывычны і падрыхтаваны, ён зрабіўся гаспадаром рынку. І той, хто не хацеў мець праблем, ішоў да чачэна.

— Табе армяне на вочы не трапляліся? — пытаў здзіўлены Юнус Саслана.

— Не.

— І грузін не бачыў?

— Не

— Што за горад такі? Што за людзі? Чаму ўсе яны простыя?





— Затое дзяўчаты прыгожыя! — рагатаў Саслан.

Юнус прыгледзеўся — сапраўды прыгожыя. Ён узяў адну з іх за руку проста на вуліцы:

— Ты прыгожая і простая!

Дзяўчына пачырванела.

— Я чачэн, — сказаў Юнус. — Ты ведаеш, хто такія чачэны?

— Не, — пазірала тая праз вялікія акуляры.

— Хочаш грошай? — дастаў ён з кішэні шырокіх штаноў пачак. — У кожнага чачэна ёсць грошы. І не толькі грошы. У нас ёсць усё!

Ён павёў Галю ў рэстаран, у кіно, набраў у камерцыйным ларку "снікерсаў"-"марсаў", амерыканскіх сасісак, падпаіў італьянскім "Амарэта" і авалодаў ёй. Галя не была дурненькай, — яна была простай.

— Заўтра паедзем у наш аул, — сказаў Юнус. — Я павінен паказаць цябе бацьку.

— А мой бацька? — спытала Галя

— З тваім бацькам убачымся потым, — паказаў белыя зубы Юнус. — Мне здаецца, ён просты чалавек, як і ты.

Галя паціснула плячыма: потым дык потым. Галоўнае, што ёй падабаўся ладны, дужы, дасціпны, багаты Юнус.

— Ты якую машыну больш любіш· "мерседэс", "БМВ" ці "вольва"? — абняў яе за плечы Юнус.

— Мне ўсё роўна, — сказала Галя, — я толькі хачу, каб мы жылі ў Гомелі.

— Будзем жыць у Гомелі, — згадзіўся Юнус. — Кватэру куплю, машыну, дачу. Твайму бацьку асфальтавая дарога не патрэбна?

— Якая дарога? — здзівілася Галя.

— Я ж і кажу — простыя. Добра, што мяне да вас адправілі. Хадзем пасядзім у рэстаране.

Швейцар радасна ім усміхнуўся, валюхавата прабег колькі крокаў, каб адчыніць дзверы.

— Вазьмі, бацька, — даў яму бутэльку "Шампанскага" Юнус. — Хутка вяселле, гуляць будзем!

Швейцар кланяўся, мармытаў пра шчасце і доўгія гады.

— Вунь за той столік, — паказаў Юнус. — Я сёння хачу пагаварыць з чалавекам. Ты не супраць?

— Не.

Юнусу падабалася, што Галя ні ў чым яму не пярэчыла

Камандзіровачны, да якога яны падселі, быў чалавек сярэдніх гадоў і сярэдняга дастатку Лупатыя вочы з-пад акуляраў пазіралі разумна. Праз пяць мінут яны ўжо гаварылі, як добрыя знаёмыя.

— Чачэн? — паглядзеў на Юнуса праз фужэр з мінеральнай вадой Барыс Міхайлавіч. — Першы раз жывога чачэна бачу

— А вы адкуль будзеце? — без асаблівай цікавасці спытала Галя, абводзячы позіркам залу рэстарана.

— Я?.. — замяўся Барыс Міхайлавіч. — Ды так.

— Яўрэй? — падміргнуў яму Юнус. — Самая моцная нацыя ў свеце. Апроч нас.

— Апроч чачэнаў? — удакладніў Барыс Міхайлавіч.

— Так, апроч чачэнаў і астатніх мусульман. Вам аддадзены гэты свет, зямны. Вы і ў Маскве кіруеце, і ў Амерыцы. Але на тым свеце вас не будзе.

— Вы прававерны?

— Мне Каран дзед расказваў. У Каране ўсё напісана. Наш Магамет на зямлю больш не прыйдзе Прыйдзе Іса, прарок хрысціян. Будзе вялікая вайна — і мы пераможам.

— Вайна каго з кім?

— Паміж тымі, у чыіх руках золата свету, і прававернымі. Людзі падзеляцца на тых, хто верыць у Бога, і на мукапакаў.

— Каго?

— Мукапакаў. Мукапак — чалавек без веры. Іса прызаве пад свае сцягі, і золата вам не паможа. Нікому не паможа. Але зараз на зямлі вы самы моцны народ. Тры тысячы гадоў золата збіраеце.

— Няўжо пра ўсё гэта ў Каране напісана?

— Каран — самая вялікая кніга ў свеце. Вышэй чым Біблія. Яшчэ не было ніводнага чалавека, які б растлумачыў кожнае слова ў Каране. Біблія простая кніга.

— А дзе прарадзіма чачэнаў? Адкуль вы прыйшлі?

— Старыя людзі расказваюць, што мы былі да рымлянаў. Нас адусюль гналі. Адзін час мы жылі ў Аравіі. Народы баяліся нас і гналі, аж пакуль мы не прыйшлі ў горы і не аселі. Далей гор загнаць нельга. Але ў якім месцы зямлі мы ўзніклі — не ведаю.

— У нас прарадзіма ёсць, — сказаў Барыс Міхайлавіч.

— Так, з вашай зямлі пайшла і наша вера, і хрысціянская Але вашаму царству падыходзіць канец. Ты ведаеш, чаму хрысціяне хрысцяцца сваім крыжам?

— Раскажыце.

— Вашыя людзі пасадзілі Ісу на крыж у храме. Бог паслаў Джабраіла яго забраць. Джабраіл зірнуў у дзірку ў купале і паклікаў Ісу. Той паказвае. галава ў дзірку пройдзе, а тулава і дзве рукі — не.

Юнус дакрануўся пальцамі правай рукі да лба, жывата і грудзей справа налева.

— Дык чый жа Бог галоўны, ваш ці хрысціянскі?

— Бог адзін, а Магамет, Іса і Буда ягоныя пракокі. Наш прарок самы любімы ў Бога, але на зямлю ён больш не прыйдзе. Іса вернецца.

— Хачу марожанага, — сказала Галя.

— Зараз, — азірнуўся Юнус і — засмяяўся.

У залу зайшлі трое каўказцаў у аднолькавых куртках, некага выглядаючы. Адзін з іх быў малы, кульгавы, з перабінтаванай шыяй.

— Бачыце вунь таго армяніна? — паказаў пальцам Юнус. — Ён недаростак. У нас ёсць звычай: таго, хто ніжэй за метр шэсцьдзесят, не пускалі на базар да дванаццаці гадзін дня.

— Чаму? — устрывожана закруціўся Барыс Міхайлавіч, ён быў невысокага росту.

— Недамерак абавязкова пачне бойку. А ў нас у кожнага зброя. Старыя прынялі закон: недаросткаў на базар не пускаць. Вазьмі грошы, расплацішся.

Юнус перадаў Галі тоўсты пачак грошай.

— Вайна будзе па ўсім свеце, — усміхнуўся Барысу Міхайлавічу чачэн. — Мукапакаў шмат, як пяску на беразе мора. Але золата ім не паможа. Іса падзеліць людзей на праведных і вінаватых.

Юнус пругка падняўся, размахнуўся і пусціў цяжкое крэсла ў рэстараннае акно. Шкло лопнула, як ад выбуху снарада. Юнус скочыў на падаконне, растварыўся ў начным мораку. У зале падняўся гвалт. Армяне рваліся да акна, але іх збівалі з ног людзі, якія беглі да выхаду. Барыс Міхайлавіч непрыкметна знік пад сталом. Галя, схапіўшыся рукамі за галаву, вішчала.

Чачэн бег у начы. Тысячы гадоў яго гналі, ён прызвычаіўся. Чачэн не баяўся сваіх ворагаў, але ўцякаў, бо на гэтым свеце ў яго былі яшчэ справы: нарадзіць сына, накарміць у старасці бацьку, схапіцца з мукапакамі.

Чачэн імчаўся, і ўслед яму ляцеў крык ворагаў, падобны да выцця зграі.



# Анатоль СЫС

## Я маю твор...



### Страцім-Лебедзь

*Маёй першай і апошняй любові*
*Уладзіміру Някляеву*

Страцім-Лебедзь ляціць
у евангельскім небе Радзімы,
за ўсё трэба плаціць:
і за тое, што ты нелюдзімы,
і за тое, што ты
сам назваўся найлепшым паэтам,
балазе – не святым,
ну, дык дзякуй табе хоць за гэта,
мой каханы паэт,
самы шчыры і самы шчаслівы,
улюбёны у свет,
як жабрак, на людзей не зласлівы.
Бы дзіцятка свой сон,
ты ляпечаш наіўныя вершы,
ды яны мне, як звон
па вясне жураў самых першых
А ты, Страцім, адзін
у евангельскім небе Радзімы..
Ты ляці. Не глядзі,
Ты ж прывык да азёр у ільдзінах

У НАС

# Васіль САХАРЧУК



*Паміж людзьмі ёсць хісткая мяжа...*

# У ПОШУКАХ СВЯТЛА





## МЯЖА

**Паміж людзьмі ёсць хісткая мяжа,**
**і перад ёю чалавек нямее:**
**па правы бок яе**
**блішчыць лязо нажа,**
**па левы бок яе**
**віно спагады спее.**

**“Ідзі і выбірай!” —**
**гарыць неон над ёй,**
**і мудрая змяя глядзіць каварна ў вочы,**
**але чарнее ноч над хісткаю мяжой,**
**і мудрая змяя за чалавекам сочыць.**

**І кожны:**
**“Выбіраць віно ці нож? — скажы!” —**
**у мудрае змяі парады нема прасіць,**
**але маўчыць змяя на конавай мяжы,**
**і кожны з ночы ў дзень**
**віно і нож выносіць.**

## У ПОШУКАХ СВЯТЛА

**Анёлы лётаюць наўзбоч,**
**але не з тых,**
**што белакрыла**
**нясуць святло з нябёс,**
**і ноч**
**іх чорных ценяў свет накрыла.**

**“Святла няма, —**
**трывожыць слых**
**іх стройны хор, —**
**бо люты вораг**
**сядзіць адвеку ў вас саміх,**
**як хіжы звер у цёмных норах.**

**Пакіньце змрочнае жытло,**
**у цемры шчасця не шукайце.**
**Вылазьце з нораў**
**і святло —**
**саміх сябе —**
**сабе вяртайце”.**

**А людзі,**
**цяжка сапучы,**

у цемры звужанай прасторы,
нібы сляпыя ўцекачы,
яшчэ глыбей паўзуць у норы.

Адны хаваюцца ў віне,
другія тояцца ў жанчынах,
а трэція,
бы рак на дне,
сядзяць на зрабаваных спінах...

...З такіх складаецца натоўп,
які то з нор, то ў норы рвецца,
ды ў вечным крузе,
быццам стоўп,
скрануць сябе не можа з месца.

Хоць нагадаў мне гэты рух,
што ў пошуках сябе самога
у кожнага ляжыць праз круг
найкарацейшая дарога;

а я таксама —
ад сябе —
па веснавым зялёным лузе
то ў скрусе, то ў глухой жальбе
за ім услед бягу па крузе...

## БЕЛЫ ГОЛУБ

*(развітальная акварэль)*

Васілю Гаўрылавічу Давідчыку

Туман над ракой раставаў нетаропка,
бы хорам, свіціўся на беразе дом.
Ля соннай альтанкі альховая лодка
чарот варушыла кляновым вяслом.

Стаяла каса ў кроплях свежых травінак,
на цёмным лязе пунсавела зара.
Нябёсы цвілі, быццам сіні барвінак.
Спакоем і сном патыхала з двара.

Туманна і золка бадзёрыўся ранак.
У майскай кунезе танулі сады.
Заснуў гаспадар і не выйшаў на ганак.
З маланкай у сэрцы заснуў назаўжды.

На плыні гайдалася сонца барвова,





і хоць быў уздых перадсконны слабы,
прачнуўся сабака, рыкнула карова,
а з даху ўзняліся ў блакіт галубы.

Але ненадоўга. З паўкруга нясмела
стракатай чародкай рвануліся ўніз...
Дамоў не вярнуўся адзін толькі,
белы —
над домам самотным расстайна павіс.

Гукнула галубка яго з-за аблокаў,
і рады ў блакіце яе адшукаць
у неба ўзляцеў ён высока-высока,
і крыл трапятлівых яго не відаць.

## НА ВАКЗАЛЕ З МІКОЛАМ КУПРЭЕВЫМ

Сяджу на халодным вакзале
паміж Брэстам і Мінскам
з паэтам Міколам Купрэевым,
які пракураным басам
з паўголаса
нетаропка чытае мне
свае апошнія вершы.

Ціха ў чакальнай зале.
Туруючы яго басу,
раз-пораз б’ецца ў аконную шыбіну
сонная муха,
а з валовага вока паэта
коціцца па шчацэ серабрыстая зорка.

“Кожны нясе свой крыж”, —
чытае паэт,
і я заўважаю: гэты радок
ён вынес у загаловак,
а Мікола паказвае,
што аздобіў яго пытальнікам,
падобным да ягонай кульбы.

“Добра жывём...” —
смяецца Мікола, выцірае шчаку
і доўга сухотна кашляе,
кінуўшы пагаслы недапалак
ля адкаркаванай пляшкі “Пятроўкі”,

што прытулілася да гранёнай “шклянкі Малянкова”,
накрытай пліткай шакаладу.

Дрогкая рука кладзе поруч
белыя аркушы,
ад якіх мне пахне
прэлым лісцем,
бацькоўскай хатай
і рукапісам нявыдадзенай кнігі
майго сябрука Васіля Гадулькі.

## КАЛЯДНАЯ СЦЮЖА

Бацьку на спачын

Да ранку на Каляды дождж ішоў,
услаўшы галалёдам двор і ганак...
На восемдзесят бацькавых гадоў
я пастарэў за той калядны ранак.

Яго душа да Бога на паклон,
пакінуўшы зямлі астанкі цела,
на векі вечныя на неба адляцела,
да зор,
у невараць,
што мае шмат імён.

Як дагукацца да яго цяпер?
Каму паскардзіцца за ўсе яго пакуты?
А ён маўчыць,
каляднай сцюжай скуты
ў прасторы, дзе няма ні меж, ні мер.

Нікому ўжо ні помачы, ні рады
не дасць ён на апошняе “бывай”...
Суцеха ёсць — забраным на Каляды
пад спеў анёлаў Бог даруе рай.

## ЗАЛАТАЯ ПЯСЧЫНКА

Я сваё пражыву і растану, як дым,
а як скоціцца з неба іскрынка,
знак падам, што з’явілася ў родзе маім,
бы ў рацэ, залатая пясчынка.

Непрыкметная зблізку, заззяе яна





светлячком над прыціхлай зямлёю,
і я буду глядзець на яе давідна,
назаўжды неразлучны з раднёю.

Задаволены бацька падасць мне руку,
а матуля змахне дзве слязінкі.
Вось чаму між зярнятак рачнога пяску
пападаюцца зрэдзь залацінкі.

Упадзе мая зорка на дно ручая
лёгка-лёгка, нібы парушынка,
і я выдыхну ціха: галубка мая,
я твая залатая пясчынка.

## ШЧЫГРЫНАВАЯ СКУРА

Вужу старому ад зімы
знутры і звонку плоць смылела.
Як вязень рвецца прэч з турмы,
так ён са скуры рваўся целам.

За слізкі хвост сябе хапаў,
рваў на сябе сябе зубамі
і ў коле цела шкадаваў,
што нарадзіўся не з рукамі.

Запоўз пасля ў дрымучы лес
трываць смылячы боль не ў сіле.
Праз боль у шчыліну залез.
Праз боль з яе са скуры вылез.

Безабаронны, як дзіця,
наўкол нясмела азірнуўся.
Цаной любові да жыцця
аблуплены ў жыццё вярнуўся.

Стары, па-новаму на свет
глядзеў і быў такі не першы.
Як вуж ад скуры,
і паэт
так вызваляецца ад вершаў.

Вуж нарадзіў сябе наноў
і галаву схіліў панура...
...Чытач, ты часам не знайшоў
маю шчыгрынавую скуру?

# Анатоль ДЭБІШ



***

Ізноў вясна. Ля хаты лоўка
Сусед капае агарод.
Чарвяк, рассечаны рыдлёўкай,
Звіваецца, паўзе за плот.

Здаецца ж мне: ля хаты лоўка
Чарвяк капае агарод.
Сусед, рассечаны рыдлёўкай,
Звіваецца, паўзе за плот.



# Вера РЫЧ





*. .мы павінны быць удзячныя, што ў ісляндзкіх сагах захаваліся хоць нейкія весткі, якія адносяцца да самых раньніх часоў Хрысьціянства на Беларусі.*

## *Пра Веру РЫЧ*

**Калі вы прыедзеце ў Лондан і захочаце сустрэцца з яго жыхаркаю, якую завуць Вераю Рыч, магу параіць два найбольш надзейныя варыянты. Першы — дабрацца падземкаю да станцыі Woodside Park, адкуль вы за пяць хвілін трапіце ў Беларускую бібліятэку імя Францішка Скарыны, дзе спадарыня Вера даўно заваявала рэпутацыю самай сталай чытачкі. І другі — прыйсці на літургію ў размешчаную побач беларускую грэка-каталіцкую царкву святых апосталаў Пятра і Паўла, прыхаджанкаю якой Вера Рыч зрабілася ўжо колькі дзесяцігоддзяў таму.**

**Госцю з Беларусі яна не будзе апавядаць пра студэнцкія гады ў Оксфардзе альбо пра свае ўласныя паэтычныя кнігі. У лепшым выпадку вы пачуеце пра два тамы яе перакладаў з беларускай. У 1971 годзе ў Лондане выйшла кніга "Як вада, як агонь. Анталогія беларускай паэзіі з 1828 г. па сённяшні дзень", дзе прадстаўлены 41 аўтар, а ў 1982-м — зборнік "Снуецца зданяў рой", які склалі выбраныя творы Максіма Багдановіча, Змітрака**

# РАНЬНЯЯ СЬВЯТЫНЯ НА БЕЛАРУСІ

*(Паводля ісляндзкай сагі)*

Сярод розных вестак аб беларускіх гарадах і землях у ісляндскіх сагах[1] найбольш цікавай бяз сумлеву зьяўляецца вестка аб раньняй царкве бліз Полацку і аб магіле пахаванага там ісляндца, якога мясцовае насельніцтва ўважала за сьвятога.

Захавалася дасюль перадусім Kristnisaga ў расказе аб Хросьце Ісляндыі. Расказ гэты ведамы нам з рукапіснага зборніку Hauksbok, складзенага на жаданьне Гаўкра, сына Эрленда[2], які праўдападобна напісаў прынамсь частку яго ўласнаручна[3]. Гаўкр (?—1334) быў знатным ісляндцам і займаў важныя становішчы ў Ісляндыі і Нарвегіі. Зборнік адлюстроўвае ягоныя шырокія зацікаўленьні. Там можна знайсьці ўсё: гісторыю, геаграфію, новую арытмэтыку з арабскімі лікамі, астраномію і філязофію. Галоўную частку аднак яго складаюць расказы аб засяленьні і Хросьце Ісляндыі. Апошні расказ быў складзены ў дайшоўшай да нас форме праўдападобна ў канцы 13-га стаг. з ранейшых жаролаў, сяньня загінуўшых[4].

Крыстнісага кажа, што сярод першых апосталаў Хрысьціянства ў Ісляндыі былі Торвальд, сын Кодрана (які прыняў Хрост у часе свайго побыту ў Саксоніі), і, крыху пазьней, Стэфнір, сын Торгільса. Выглядае, што іхнія стараньні спярша ня прынесьлі жаданых вынікаў і абодва павінны былі пакінуць Ісляндыю. Некалькі год пасьля аднак Хрысьціянства там сталася афіцыяльнай рэлігіяй. Але паслухаем цяпер, што кажа нам Крыстнісага (разьдзел 12).

"Лета, калі Хрысьціянства было зацьверджанае правам у Ісляндыі, было 1000 зімаў[5] ад нараджэньня Госпада Нашага Ісуса Хрыста. У тым самым годзе кароль Оляф[6] зьнік з Доўгай зьмяі[7], на поўдзень ад Свольду, у чацвёрты дзень перад ідэс (г.зн. 13-га верасьня), панаваўшы ў Нарвэгіі пяць зімаў Пасьля яго пачаў панаваць Эйрэк, сын Ярля Гакона. Пасьля таго, як прапаў Оляф, Торвальд, сын Кодрана, і Стэжнір, сын Торгільса, спаткаліся і паехалі разам у Ерузалім, а адтуль у Канстантынопаль (Міклягард) і ў Кіеў (Кайнугард) на ўсход па Дняпры. Торвальд памёр на Русі (Рузія), недалёка ад Полацку (Пальтэскія), і ён там пахаваны на гары пры царкве сьвятога Яна Хрысьціцеля, і людзі лічаць яго сьвятым. Вось што кажа аб ім Бранд Вялікі Падарожнік:

*Я прыйшоў туды,*
*Дзе Торвальду,*
*Сыну Кодрана,*
*Хрыстос дараваў супакой.*
*Там яго гроб*
*На высокай гары*
*У Дрофне,*
*Пры царкве сьвятога Яна*[8].

Стэжнір паехаў на поўнач у Данію..." і т.д.

Больш падробныя весткі аб усім гэтым дае нам Таттр (г.зн. кароткая сага) аб Торвальдзе Вялікім Падарожніку Гэты расказ захаваўся ў шматлікіх сьпісках (якіх мы ведаем толькі клясыфікацыйныя нумары)[9], а таксама ў ведамым Flateyarbok, аб якім варта было-б напісаць асобны артыкул. У расказе даецца Торвальду крыху пераўвялічаная рэпутацыя сьвятасьці і папулярнасьці. Так, напрыклад, там гаворыцца, што Торвальд быў духовым дараднікам бізантыйскага імпаратара. Адным словам яго спаткаў лёс шматлікіх іншых вялікіх людзей старажытнасьці, вакол якіх пасьля іхняй сьмерці пачалі нарастаць лягенды. Аб тым, што нас тут цікавіць, Таттр кажа, што Торвальд збудаваў манастыр пры "саборы" сьв. Яна (зноў пераўвялічаньне: у Kristnisaga — гэта была звычайная царква) і сам памёр там манахам. У расказе гаворыцца, што манастыр "называецца манастыром Торвальда" і што ён стаіць "пад высокай гарой Дрофн"[10]

Трэба тут адцеміць, што, акрамя ісляндзкіх сагаў, мы нідзе больш не спатыкаем вестак аб гробе Торвальда бліз Полацку і аб царкве сьв. Яна Хрысьціцеля. Гэта аднак ня ёсьць доказам непраўдзівасьці ўсей гісторыі. Кіеўскія летапісы былі ў агульным варожа настаўленыя да Полацку, і ёсьць даныя думаць, што прыхільныя да Полацку весткі ў Першапачатковым Летапісе былі зьнішчаныя[11] Полацкія летапісы, якія захоўваліся пры саборы сьв. Сафіі, нажаль не дайшлі да нас[12]. Нам няведамы ўзгорак ці "гара" Дрофн каля Полацку. Трэба аднак мець на ўвеце, што словы "недалёка" і "высокі" ёсьць вельмі адносныя. Спробы знайсьці славянскае значэньне назову Дрофн таксама не далі да гэтага часу жаданых вынікаў[13]

Ёсьць аднак адна рэч, якая, на маю думку, паказвае праўдзівасьць расказу — менавіта тое, што царква насіла імя сьвятога Яна Хрысьціцеля. Сьвята Яна Хрысьціцеля прыпадае амаль на той самы час, што і старое паганскае сьвята Купалы, вельмі пашыранае сярод беларускіх плямёнаў. Ёсьць добра ведамым, што місіянэры стараліся, дзе маглі, "ахрысьціць" паганскія сьвяты і звычаі, надаючы ім новы хрысьціянскі зьмест Гэта якраз напэўна здарылася з сьвятам Купалы. Дзеля гэтага нас не павінна дзівіць тое, што сьв. Ян Хрысьціцель быў вельмі папулярным сьвятым ад пачатку на Беларусі і што ўжо ў першых гадох хрысьціянства мы там спатыкаем царкву, якая носіць ягонае імя. Хоць цяпер усе іншыя весткі аб ёй прапалі, як і загінула таксама магіла Торвальда, мы павінны быць удзячныя, што ў ісляндзкіх сагах захаваліся хоць нейкія весткі, якія адносяцца да самых раньніх часоў Хрысьціянства на Беларусі.

**"Божым Шляхам", № 1, 1965.**

---

[1] Першы, хто зьвярнуў увагу на ісляндзкія сагі, як жаролы гісторыі Усходняй Эўропы, быў беларус па паходжаньню Язэп Сенькоўскі ў сваім артыкуле "Ісляндзкія сагі" у І-шым томе "Библиотеки для чтения" (1834), якой ён быў сам рэдактарам.

[2] Ісляндзкія назовы людзей складаюцца звычайна з собскіх імёнаў і імёнаў па бацьку. Прозьвішчы, нават сяньня, бываюць вельмі радкімі.

[3] Адносна паўстаньня Hauksbók гл. прадмову, якую напісаў Jon Helgason у Manuscripta Islandica, vol.5, Hauksbók, Copenhagen 1960.

[4] Паводля Jon Johanneson, гэта сага была, праўдападобна, напісана Стурлам, сынам Торда. Гл. Gerdir Landnámabókar 1961, bač. 36—37, 70—71, 175—202.

[5] Гады ў Ісляндыі аблічаліся паводля "зімаў". З другога боку Хрысьціянства, як правільна гаворыцца ў расказе, было ўведзена летам, бо яно было зацьверджанае на вечы (Althingi), якое зьбіралася летнім часам.

[6] Оляф сын Трыгві. Ён прыняў хрост на абтоках Сцылі (на паўднёвы захад ад Англіі) і быў такім чынам першым хрысьціянскім каралём Нарвэгіі.

[7] Так называўся слаўны карабель Оляфа. Пасьля бітвы ля Свольду, дзе яго перамог Эйрык, сын Гакона, Оляф выскачыў з карабля. Далейшы лёс ягоны няведамы, хоць хадзілі чуткі, што Оляф выратаваўся і скончыў сваё жыцьцё ў манастыры ў Грэцыі. Гл. G. Turville-Petre, Origins of Icelandic Literature, Oxford 1953, pp. 194—195.

[8] Для цікавасьці вось лацінскі тэкст верша Бранда з паралельнага ісляндзка-лацінскага выданьня, зробленага Арнамагнейскай Камісіяй у 1773 г.:

Veni in locum
Ubi Thorvalldo
Filio Kodranis
Christus quietum indulget.
Illic sepultus est
In cacumine montis
Cuiusdem in Drapne
Ad templum Johannis.

[9] Вось нумары гэтых рукапісаў у выданьні Арнамагнейскай Камісіі: А. М. фаліял 61, 53, 54 і 552 (4-то). Сюды таксама трэба залічыць і А. М. 62, які аднак, як і Flateyarbók, розьніцца крыху ад папярэдніх.

[10] А. М. 62 і Flateyarbók падаюць расказ у крыху скарочаным відзе і прапускаюць назоў мясцовасьці, дзе стаяў манастыр. Усе іншыя падробнасьці аднак (падарожжа у Канстантынопаль, блізкасьць да імпаратара, залажэньне манастыра і сьмерць) там знаходзяцца.

[11] Гл. A. Von Reutz. "Eymunder Saga", Dorpater Jahrbuch für Literatur, Statistik und Kunst. 1834, pp. 104—106, дзе аўтар падазрае пазьнейшае скарачэньне Летапісу там, дзе гаворыцца аб барацьбе Брачыслава Полацкага з Кіевам (1016—1031).

[12] Гл. В.І. Іконнікоў, Опыт РусскойІсторыёграфіі, том ІІ, частка І, Кіеў, 1908, бач. 535. Гэты аўтар уважае, што полацкія летапісы былі зьнішчаныя палякамі ў 1579 г у часе вайны супроць Масквы. Магчыма аднак, што яны згінулі далёка раней, у часе пажару ў 1440 г.

[13] Праблема ўскладняецца тым, што ў некаторых рукапісах назоў мясцовасьці падаецца як Drǫfn, а ў іншых як Drǫpn. Калі f ёсьць правідловым, дык гэта адказвала-б гуку "в" у першапачатковым славянскім назове. У ісляндзкай мове карэнныя галосныя назоўнікаў мяняюцца ў залежнасьці ад склону і праўдападобна гук "а" давальнага склону Drafni зьяўляецца галосным гукам славянскага арыгіналу.

---

**Бядулі і Алеся Гаруна. Апрача таго яе пяру належаць пераклады паэмы "Тарас на Парнасе", паэтычных і празаічных твораў новай генерацыі беларускіх літаратараў, што неаднаразова друкаваліся ў часопісе "Index". Калі вы дасканала валодаеце ангельскай моваю, то маеце магчымасць згадзіцца або не з "Энцыклапедыяй літаратуры і мастацтва Беларусі", якая сцвярджае, што пераклады Веры Рыч "высокамастацкія, максімальна набліжаныя да зместу арыгінала і характарызуюцца дакладнасцю ўзноўленага паэтычнага малюнка і адэкватнай перадачай асаблівасцяў формы першатвора..." Дзеля паўнаты партрэта Рыч-перакладчыцы варта дадаць, што яна мае багаты досвед узнаўлення на сваёй роднай мове твораў польскай, украінскай, расейскай, старанарвежскай і стараангельскай літаратур.**

**Падчас сустрэчы спадарыня Вера абавязкова засыпле вас пытаннямі пра Беларусь, прычым іх храналагічныя межы будуць цалкам натуральна абдымаць падзеі ад першых згадак пра Полацк у старажытных ісландскіх сагах да ганебнага прэзідэнцкага рэферэндуму. Сябра Беларускага ПЭН-цэнтра Вера Рыч ніяк не можа зразумець, чаму гісторыя Беларусі для большасці яе сучасных насельнікаў пачынаецца з тых часоў, калі піва было таннейшае.**

**Уладзімір АРЛОЎ**

Я маю твор...

# Міхась БАЯРЫН



*Аўтапартрэт*

## Сястра мая – Смерць

Сястра мая, Смерць, распранаецца ў ложніцы
Яна можа і бачыць свой позірк праз шчыліну,
Але ёй асалодна ад юру і нізасці
Яна ціха скідае сукенку і станік і

Павяртаецца тварам, блакітнымі вочамі
Працінае халодна-бялёсыя дзверы
І спакойна й паволі сцягвае трусікі
З загарэлых унізе і чыстых дзеўчыных ножак.

Ў гэты свет мы прыходзім ужо апранутымі,
Нараджэнне і ёсць гэты акт апранання.
Мне спякотна і горка пад строямі архітэктурнымі
Ў чарапашыных строях аселага племені

Я таўкуся на людных мясцінах і вызіраю
На таемныя дзеі ў свабодным ліхтарным святле.
Дзе блудніцы палююць на «мерседэсы» начамі
Дзе збіваюць кіямі менты бажавольных людзей

Я глынаю паветра. О, толькі б мяне не заўважылі!
Сцёгны танчаць і вусны бязэтна ўсміхаюцца,
Але мне невыносны ўжо дотык апалены.
Я іду на халодны пясок, што між дрэваў на беразе

Ў месяцовым святле часткі цела асветлены,
Калі воля злякаецца холаду сібера?
Толькі крок у ваду, і па целе смяротныя сутаргі.
Гэта лекі жыццём, гэта дух мой гартуецца.



# Срэчка КОСАВЕЛ

ЁН



*Аўтапартрэт*

*«Ува мне творыцца вялікі пераварот. Не ведаю, ці на карысць, ці на шкоду. Аднак ведаю, што ў маім станаўленні ён неабходны і ў цэлым азначае крок наперад. Тое, што я рабіў дагэтуль, было толькі пошукам, цяпер жа, мне думаецца, я набліжаюся да стваральных магчымасцяў...» (1925)*

## *Пра Срэчку КОСАВЕЛА*

**Уваходзіны Срэчкі Косавела ў славенскую паэзію расцягнуліся на дзесяцігоддзі.**

**Ён памёр у 1926 годзе, ад запалення мазгавых абалонак, пражыўшы ўсяго 22 гады, і асноўная, найбольш запаветная частка яго спадчыны, напісаная ім у апошні – канструктывісцкі – перыяд жыцця і насычаная трывожна-радасным прадбачаннем непазбежнасцяў, што ўжо насялілі ноч рэчаіснасці, засталася ў рукапісах і ў чарнавіках.**

**Ён не паказваў тых вершаў нават самым блізкім сябрам, нібы аб'явілася ў іх нешта заўчаснае, што вылучала яго з асвоенага асяроддзя і належала яму аднаму.**

**Гэта быў не проста новы паэтычны цыкл і нават не проста новыя ўзоры вершатворчасці, а цэлы накірунак, які па-свойму фармуляваў сэнс і мэту творчасці. І нават, магчыма, больш: сустрэча з самім сваім лёсам, сустрэча, якая сталася паражэннем для асобы і перамогай для творцы.**

**Спачатку ў 1967, а потым у 1984 г. канструктывісцкія вершы Срэчкі Косавела, якія нярэдка так і азначаліся ім: «Канструкцыя», альбо, скарочана, «Канс», былі выдадзены асобнай кнігай пад назвай «Інтэгралы». Па сутнасці, «Інтэгралы» зрабілі з дагэтуль знаёмага паэта незнаёмага, выявілі ў яго творчасці загадкавыя глыбіні, але разам з тым сталі пачаткам сапраўднага асэнсавання творчага феномена Срэчкі Косавела.**

**Перакладзеныя вершы – адтуль.**

**Алесь РАЗАНАЎ**

## Рыфмы

Рыфмы страцілі сваю вартасць.
Рыфмы не пераконваюць.
Вы чулі, як труцца колы?
Верш будзе трэннем вераду.

Што з фразамі, лю́бы прамоўца?!.
Складзіце фразы ў музеях.
Вашы словы мусяць мець трэнне,
каб захапіць чалавечыя сэрцы.

Усё страціла сваю вартасць.
Белае мора вясновай ночы
разліваецца па загуменнях.
Здань будучыні ідзе паўз нас.

## Восеньская цішыня

Восеньская цішыня
ува мне і знадворку.
Прыгожа —
куды кіруюся думкай.

Вялікая справа мяне чакае.
Ці гэта не радасць?

Не пасягаю
на ганаровае грамадзянства
у чалавечай супольнасці,
але, аднак,
яго дамагаюся ў свеце
праўды
і прыгажосці.

Радасць — што гэта, зрэшты?
Ці не прага самога жыцця,
яго смак?
Што нам прызнанне!
На крок бліжэй да жыцця,
у якое
павінен удрукаваць
свой знак.





## Канс: кошка

Кошка скокнула праз акно.
Скокнула на раяль.
Зайграла і здзівавалася:
калі я скачу,
спявае раяль.

Я быў у суседнім пакоі
і думаў, што гэта іграе дух.
Але яшчэ раз загрукатала —
і кошка скокнула
праз акно.

Там, дзе блукае новы паэт,
усюды гучыць раяль.
Але, у параўнанне з кошкай,
гэта яго не бянтэжыць.
Свет захапляецца ім: ён вар'ят,
а калі больш дакладна — паэт.
І ўсе слухаюць яго крокі,
якія спяваюць,
нібыта кранаюць раяль.

## Канс: АБС

Застанься зімным, сэрца!
Цынік.
Трансфарматар.
На віядуку
усходні экспрэс на Парыж.
На руках аковы.
Аўтамабілі плывуць.
Я не павінен.
Мая думка-электрыка
у Парыжы.
Смурод медыцыны
з клінік.

## На пірамідзе

Нібы ў мармуровай труне нябожчык.
У сэрцы людзей залатыя даляры.
Попел пячэ нам вочы.

Вібруе, вібруе, вібруе
электраматор
па маіх зубах.
Пад скалою палае, палае,
палае агонь.
Сацыялізацыя залатой прадукцыі.
Канец развіцця.
Канец, чалавек!
О-о-о чалавек!
Стаіць
чалавек з залатым сэрцам
на пірамідзе белай.

## Канс: 5

Гной — гэта золата
і золата — гэта гной.
Абое = 0
0 = ∞
∞ = 0
АВ <
1, 2, 3.
Хто не мае душы,
не мае патрэбы ў золаце,
а хто мае душу,
не мае патрэбы ў гнаі.
Але.

## Смех караля Дада

Загад нумар 35:

Аказалася раптам,
што вечаровая чырвань
небяспечная для дзяржавы.
Таму кожны раз,
як толькі абвесціцца,
замыкацца
будзе яна (вечаровая чырвань)
у чорным моры.
На залацістай мазаіцы цвінтара
ірдзіцца зыркая чырвань.
На полі ў самоце
сланяецца конь.





Магія чырвані вечаровай.
Конь меланхоліі.

## Селядцы

Прывандравала ў Любляну
судзіна з селядцамі.
Пыталіся ў іх
аб палітычных пераканаўнях.
Паведамілі, што яны
паходзяць з Ісландыі.
Кажа
мадэрны паэт
пра згубу.
Былі селядцы
зачынены ў судзіне
тыдзень цэлы
і прасмярдзелі.

## Чорныя сутарэнні

Рушацца чорныя сутарэнні
над маёю душою.
Людзі — як ліхтары,
што падаюць і згасаюць.
Аднавокая рыбіна
плавае ў чорным зроку
цемрадзі.

Чалавек
прыходзіць з сэрца сутоння.

## Вочы нашыя

Вочы нашыя заліла
чорная лава.
І шэры попел
цэментных слупоў
спёк нашыя губы.

Нібы палымяныя дрэвы,
мы нахіліліся
ў новы дзень.

## Чорныя мае вокны

**Чорныя мае вокны —**
**няма ў іх святла.**
**Самотны пакой мой —**
**няма ў іх сябра.**
**Горкі мой хлеб —**
**напоены жоўцю.**

**Я згублены:**
**мо ад голаду?**
**мо ад самоты?**

**Зялёная рама святла**
**падае на сцяну**
**знаўпроці.**

## Канс (Ты мірна спіш)

**Ты мірна спіш.**
**Нібы месяцовы —**
**твой белы твар.**

**А я ад людзей,**
**ад хат**
**прагнаны,**
**мая сяброўка —**
**балеснасць.**

**Але іду за святлом**
**невідочных зорак.**
**Ты мірна спіш.**
**Я ж горкі,**
**горкі і цяжкі.**
**А ўсё адно**
**цалую свой крыж.**

## Не вецер вясновы

**Не вецер вясновы,**
**не шэпты каштанаў**
**ужо не суцішаць**
**болю твайго.**





**Сама самота.**
**Сама самота.**

**Чуеш: белыя матылі**
**прыляцелі з-за свету,**
**крылы ім пасініў**
**адвячорак сустрэты.**

**Люблю цябе, чалавек —**
**чалавек без мэты!**

## Развітанне з жытлом

**З горкай душою**
**ты ўжо адыходзіш.**
**Сны пра яе залатыя косы**
**плаваюць у вечаровых промнях.**
**Нас пакідаеш цяпер?**
**Ах, гэта калісь было.**
**Усе шчырыя шэпты**
**даверлівых таямніц.**
**Я згасіў промні.**
**І дзверы я зачыніў.**
**І ў ціхі морак пакрочыў.**
**Але —**
**заплакалі дзверы.**

## Гадзіна жалобы

**Стары свет памірае ўва мне.**
**Гадзіна жалобы прыходзіць.**
**Прыходзіць у залатым зіхаценні**
**новая містыка.**
**Містыка чалавека.**
**Магічны агонь**
**зззяе з ягонага сэрца.**
**Ягоныя вочы свецяцца,**
**нібы ўначы**
**радый.**
**Смерць — адступленне жыцця.**
**Смерць — пераможная радасць.**

*Пераклаў са славенскай*
*Алесь РАЗАНАЎ.*

# Алесь ПІСЬМЯНКОЎ



## Логіка

Кожны раз,
калі мне выпадае
піць піва з грузчыкам,
падобным на прафесара,
я заўжды ўспамінаю
прафесара,
падобнага на грузчыка,
які ў alma mater
вучыў мяне логіцы.





# Джэрам Дэйвід СЭЛІНДЖЭР

# ГЭПВАРТ, 16, 1924

**Мушу напачатку даць пэўныя звесткі, самыя простыя і неабходныя: папершае, мяне завуць Бады Глас, і ладню жыцця — вельмі мажліва, што ўсе сорак шэсць гадоў — я пачуваўся так, нібыта мяне дзесьці ўстанавілі, як мае быць зманціравалі і момантамі ўторквалі ў разетку, каб я праліў крыху святла на кароткае і заблытанае жыццё старэйшага майго брата, ужо нябожчыка, Сімара Гласа, які памёр, учыніў самагубства, палічыў за лепшае абарваць жыццё яшчэ у 1948, маючы трыццаць адзін год.**

**Я збіраюся адразу ж, ці й не на гэтым самым аркушы паперы, пачаць друкаваць дакладную копію Сімарава ліста, пра існаванне якога я не падазраваў чатыры гадзіны назад. Мая маці, Бэсі Глас, даслала яго заказным.**

**Сёння пятніца. У апошнюю сераду ўвечары па тэлефоне я сказаў Бэсі, што ўжо колькі месяцаў пішу доўгае апавяданне пра адну не зусім звычайную вечарыну, якая адбылася, бо павінна была адбыцца, і на якую і яна, і Сімар, і бацька, і я — усе мы пайшлі аднаго вечара 1926 года. Гэты апошні факт мае, хоць і невялікае, але, мяркую, ледзь не цуднае дачыненне да нашага ліста. Так, “цуднае” — не дужа вабнае слова, але тут яно здаецца да месца.**

**Больш ніякіх каментароў, паўтару толькі, што я маю намер выдрукаваць дакладную копію ліста, слова ў слова, коска ў коску. Распачынаю. 28 мая 1965.**

*Лагер Сайман Гэпварт*
*Возера Гэпварт*
*Гэпварт, Мэйн*
*Гэпварт, 16, 1924, або*
*проста на лане ў багоў!!*

Дарагія Бэсі Лэс, Бэатрыс, Уолтэр і Уэкер!

Буду пісаць за нас абодвух, як відаць, бо ж Бады бавіцца недзе, і невядома, дакуль. Ад шасцідзесяці да васьмідзесяці адсоткаў часу напэўна, як бы я ні здзіўляўся і ні засмучаўся, гэты цудоўны, няўлоўны, камічны хлопец бавіцца недзе ў іншым месцы! Перакананы, што вы сэрцам і пячонкамі адчуваеце, як страшэнна не стае нам вас усіх. На жаль, я нават не пешчу надзеі, што гэткае, з вашага боку, стасуецца да нас. Гэтае шкадаванне — прычына маёй не надта глыбокай, несур’ёзнай роспачы, хоць, зрэшты, не такой і несур’ёзнай. Заўжды да агіды прыкра: штосьці асягнуўшы сэрцам або целам,

шукаць тады, як падтрымкі, ухвалы свайму чыну. Цалкам перакананы, што калі капялюш А. падчас шпацыру А. па вуліцы сарвала ветрам, то прыемны абавязак Б. падняць і ўручыць той А., не вывучаючы твар А. і не шукаючы на ім знакаў удзячнасці! Божа, няхай мне бракуе маёй каханай радзіны без шчымлівага спадзявання, што й ёй бракуе мяне гэтак жа, дай мне ўзбіцца на гэта! Тут патрэбны мацнейшы характар, неасягальны для такой размазні, як я. Божа, але ж чыстая праўда і тое, што Ты бязлітасна праследуеш чалавека, калі той проста ўспамінае! Як не хапае нам кожнага вашага няўрымслівага, жывога твару! Я нарадзіўся без ніякага апірышча на выпадак працяглай разлукі з роднымі людзьмі. Просты і смешны факт, які вярэдзіць душу: мая незалежнасць тонкая, што павуцінка, не гэтак, як у майго няўлоўнага малодшага брата і таварыша па летніку

Працяты думкай, як невыносна, і асабліва сёння, мне вас не стае (ледзь трываю, па праўдзе кажучы), у дадатак я хапаюся за шчаслівую магчымасць ужыць сваё новае, хоць і цалкам трывіяльнае валоданне пісьмовай канструкцыяй і прыстойнай будовай сказа, як гэта падавалася ў той малой кніжачцы, адначасна неацэннай і нікчэмнай, над якой, вы бачылі, я сляпіў вочы на працягу тых няпростых дзён, што папярэднічалі нашаму ад'езду сюды. Хоць гэта вам страшэнна нудна, дарагія Бэсі і Лэс, раскошная ці проста зграбная канструкцыя сказаў займае юнага дурня накшталт мяне, валодаючы пэўнай мімалётнай значнасцю! У мяне гара спала б з плячэй, калі б сёлета мая сістэма пазбылася напышлівасці. Бо інакш магчымая мая будучыня як маладога паэта, вольнага навукоўца і шчырага, не сапсутага манернасцю чалавека, пад пагрозай Прашу вас абодвух і, магчыма, міс Овэрман, калі раптам вы зойдзеце ў бібліятэку або завітаеце да міс Овэрман у вольны час, зірніце свежым вокам на ўсё, што я тут напісаў, а пасля неадкладна паведамце мне, ці не наткнуліся вы на грубыя хібы або проста на неахайнасць у будове сказаў, граматыцы, пунктуацыі, а мо на якую безгустоўнасць. Калі вы сапраўды натрапіце на міс Овэрман, зусім выпадкова ці знарок, калі ласка, папрасіце яе быць да мяне ў гэтай невялікай справе жорсткай, міла запэўніваючы яе, што мяне даводзяць да шаленства і непакояць пэўныя неадпаведныя непадабенствы, і сярод іншага, шырозны прагал паміж галасамі: маім жывым і тым, якім я прамаўляю з аркуша! Чуешся пагана і несамавіта з двума галасамі. І яшчэ, будзьце ласкавы, перадайце гэтай цудоўнай, вартай хваласпеву даме маю вечную любоў і пашану. Як бы я жадаў, каб вы, прызнаныя мае ўлюбёнцы, адкінулі прэч думкі пра яе як пра старамодную зануду. Аніякая яна не зануда. У гэтай малой лагоднай жанчынкі сціпла праглядвае вялікая прастата і слаўная моц духу невядомае гераіні Грамадзянскае ці Крымскае вайны, мажліва, найбольш хвалюючых войнаў некалькіх апошніх стагоддзяў. Божа, прашу цябе, зрабі невялікую ласку, не забудзься, што гэтая годная жанчына і старая дзеўка не мае ў нашым стагоддзі ўтульнага жытла! Цяперашняе стагоддзе, на жаль, для яе суцэльная вульгарная турбацыя! У глыбіні душы яна з радасцю пражыла б рэшту сваіх гадоў у якасці мілай суседкі і сяброўкі Элізабэт і Джэйн Бэніт, да якое гэтыя чароўныя, хоць і неаднолькава, гераіні "Гордасці і прадузятасці" часцяком звярталіся б па разумную і практычную параду. Яна нават і не бібліятэкарка па прызванні, на жаль. Ва ўсялякім выпадку, калі ласка, падбярыце ёй як узор ладны кавалак гэтага пісьма, які не здасца вам занадта асабістым або вульгарным, адначасна пераконваючы яе не выносіць ізноў майму стылю занадта строгі вырак. Калі шчыра, мой стыль не варты ейнага напружанага цярпення, знясільвання, ды яшчэ зважаючы на вельмі няпэўнае адчуванне ёю рэальнасці І яшчэ, калі казаць шчыра, пакуль мой стыль трохі палепшыцца (як я пасталею), робячыся ўсё менш і менш падобны на мову вар'ята, ён невыпраўляльны Мая асабістая нестабільнасць і лішак эмоцый будуць выразна відаць, на маю бяду, у кожным росчырку пяра.

Бэсі! Лэс! Сябры мае дзеці! Магутны Божа, як не стае мне вас гэтым прыемным бесклапотным ранкам! Бледнае сонечнае святло струменіцца праз дужа прывабнае бруднае акно, а я вымушаны ляжаць тут у ложку Вашы забаўныя, жвавыя, прыгожыя твары, магу запэўніць, як жывыя перада мною, як быццам яны падвешаны на цудоўных вяровачках, прымацаваных да столі! У абодвух у нас здароўе вельмі нават здавальняючае, Бэсі любая. Бады есць проста выдатна, калі страву можна ператравіць. Ежа тут сама па сабе не жахлівая, але гатуюць яе без каліва любасці або натхнення, кожная фасоліна і морквіна апынаецца на талерцы дзіцяці, цалкам пазбаўленая сваёй маленечкай раслiннай душы. Становішча з ежаю магло б, я ўпэўнены, мігам змяніцца, калі б





містэр і місіс Нэльсан, кухары, муж і жонка, з пекла родам, мяркуючы па маіх выпадковых назіраннях, толькі ўявілі сабе, што кожны хлапчук, які заходзіць у сталоўку, іхняе ўласнае любае дзіця, чым бы нашчадкам яно ні было ў гэтым абліччы Аднак, калі б вы мелі малапрыемную аказію некалькі хвілін пагутарыць з названымі асобамі, дык убачылі б: гэта было б, што кіем па вадзе, бескарысна. Неадольная млявасць скоўвае абаіх, змяняючыся прыступамі безразважнага гневу, і забівае ў іх усялякую волю і жаданне гатаваць прыемную, вартую пахвалы ежу або нават трымаць чысцюткім пагнуты срэбраны посуд на сталах. Выгляд адных толькі відэльцаў часта выклікае ў Бады шал. Ён імкнецца пераадолець гэта ў сабе, але брудны агідны відэлец ёсць брудны агідны відэлец. Да таго ж, апроч аднаго важнага кранальнага моманту, я нітрохі не маю права лагодзіць ягоную гняўлівасць: зважаючы на ягоны век і на тую ашаламляльную ролю, якую ён выконвае ў жыцці.

Усё абдумаўшы, прашу вас нічога не казаць міс Овэрман наконт майго стылю. Гэтак найлепш для яе, штодня цэлымі гадзінамі яна сядзіць, уткнуўшыся ў мой жахлівы стыль або гаворыць пра яго, пакуль душа не задаволіцца. Я ў неаплатным даўгу перад гэтай добрай жанчынай! Яна была гарліва вышкалена міністэрствам адукацыі. На вялікае няшчасце, мой завэдзганы стыль ды тое, што мяне ў той ці іншы дзень у апошнія гадзіны займае дужа часта — адзіныя тэмы для дыскусіі, якія здаюцца ёй цалкам адпаведныя і знаёмыя. Пакуль не ведаю, дзе я падвёў яе ў гэтым плане. Відаць, я збіў яе з тропу і мы пакіравалі не ў той бок, калі я быў меншы і ўвёў яе ў зман, нібыта я вельмі сур'ёзны хлопчык, бо чытаю ўсё, што толькі трапляецца. Сам таго не жадаючы, я нават не пакінуў у яе натуральнага чалавечага разумення, што дзевяноста восем адсоткаў майго жыцця, дзякуй Богу, не маюць нічога супольнага з такім сумніўным заняткам, як здабыццё ведаў. Часам мы абменьваемся жарцікамі каля ейнага стала або калі падыходзім да шуфляд каталогаў, але гэта дужа фальшывыя жарцікі, без усякіх пячонак. Нам абаім цяжка і нудна весці нашы размовы — без пячонак, без дурноты, уласцівай чалавеку, без агульнавядомай ісціны, цудоўнай і вясёлай, на маю думку: усе, хто сядзіць у бібліятэцы, маюць пад скурай жоўцевы пузыр ды іншыя разнастайныя цікавыя органы Льга яшчэ шмат чаго сказаць па гэтай тэме, але плённа развіваць яе сёння я не ў стане. Мае пачуцці сёння, трасца на іх, што аголеная рана. Ды і вас, маю даражэнькую пяцёрку, зараз аддзяляюць ад гэтага месца незлічоныя мілі, і заўжды да халеры лёгка выпусціць з памяці, як блага я пераношу бескарысную разлуку Хоць часта гэтае месца вельмі ўражвае і натхняе, мне асабіста здаецца, што некаторым дзецям на гэтым свеце накшталт вашага дзівоснага сына Бады і мяне, мажліва, больш адпавядае карыстацца гэтым прывілеем толькі пры крайняй неабходнасці або калі яны ў глыбокім разладзе з іхнімі роднымі. Але дазвольце мне, і не марудзячы, перайсці да больш агульных тэмаў Ах, Божа, з якой асалодай вяду я няспешную гэтую гутарку з вамі!

Бальшыня юных насельнікаў лагера, няхай вам будзе вядома, відаць, не можа стацца ні больш мілая, ані больш жахлівая на працягу нейкіх дзён, асабліва, калі яны не раскашуюць з падазроным захапленнем у групоўках, якія забяспечваюць папулярнасць або сумніцельны прэстыж. Небагата хлопчыкаў, дзякуй літасціваму Богу, што мы на такіх тут натрапілі, не ўважаюць сябе за "соль зямлі", у гэтым пераконваешся, калі ўдаецца абмяняцца з імі колькімі словамі, у баку ад іхніх халерных дружбакоў Як ні сумна, тут, як і ўсюды на нашае кранальнае планеце, імітацыя — гэта пароль, а прэстыж — найвышэйшая амбіцыя. Не мая справа турбавацца наконт агульнай сітуацыі, але ж не са сталі я зроблены Мала хто з гэтых шыкоўных, здаровых, а то і надзвычай прыгожых хлапчукоў даспее. Бальшыня — такі мой змрочны прагноз — проста састарэе. Ці можа цешыцца сэрца гэткім малюнкам? Наадварот, ад яго яно разрываецца на часткі. Ды і выхавальнікі такімі толькі завуцца. Бальшыні іх, здаецца, наканавана прайсці сваю пуцявіну ад нараджэння да магілы, захаваўшы дробнае недаспелае стаўленне да ўсяго ў сусвеце і далей за ім Бясспрэчна, гэта круты і жорсткі прысуд. Але ён яшчэ недастаткова круты! Вы ж думаеце, я, у глыбіні душы, добры хлапчына? Божа, пабі мяне градам і камянямі: не! Не мінае ніводнага дня, каб я, чуючы з вуснаў выхавальнікаў бяздушныя, абыякавыя тырады і розную лухту, употай не жадаў бы істотна выправіць справы, лупянуўшы пару вінаватых па кумпалу добрай рыдлёўкай або замашным кіем! Я не быў бы гэткі бессардэчны, хочу верыць, калі б сам тутэйшы маладняк не меў у падвалінах свае натуры такога, што ад'ядае сэрца і даймае да дрыжыкаў. Мажліва, самы

невыносны з хлопчыкаў, да якіх сягае мой недарэчны голас, гэта Грыфіт Гэмасміт. О, якая тут з ім фатыга! Адно ягонае імя адразу поўніць вільгаццю вочы, калі я не пасляваю зацугляць свае эмоцыі; і хоць дзень пры дні вучуся авалодваць гэтай эмацыянальнай тэндэнцыяй, пакуль я тутака, поспехі мае мізэрныя. Божа, няхай бы клапатлівыя бацькі спачатку трохі пачакалі, паназіралі за дзецьмі ў практычным, так бы мовіць, узросце, перш як узычыць малым імя "Грыфіт" альбо накшталт таго, якое ніяк не памагацьме малому стварэнню цягнуць жыццёвую ношку. Маё ўласнае імя Сімар было велізарнай нявіннай памылкай, бо некаторыя сімпатычныя памяншальныя формы, ці то "Чак", ці нават "Ціп" альбо "Коні" маглі б здавацца дарослым і настаўнікам куды зручнейшыя, каб звыкла звяртацца да мяне падчас выпадковых гутарак, так што і я сутыкнуўся з гэтай праблемкай. Яму, юнаму Грыфіту Гэмасміту, таксама сем; аднак я старэйшы за яго на імгненне часу, нейкія няшчасныя тры тыдні. Ён самы маленькі, шчупленькі хлопчык ва ўсім лагеры, нават меншы, як ні дзіўна і ні сумна, за вашага цудоўнага сына Бады, нягледзячы на ладную — у два гады — розніцу ва ўзросце. Цяжар, які ён валачэ падчас гэтага свайго з'яўлення на свет, як падняць. Толькі падумайце пра пакуты, якія гэты цудоўны, фацэтны, мілы, дасціпны хлопец мае трываць. Будзьце гатовыя вырваць з грудзей свае сэрцы з карэннем!

***а*** Ён страшэнна заікаецца Гэта куды горай за мілую шапялявасць, усё ягонае цела спатыкнецца, пакуль ён вымавіць слова, так што для выхавальнікаў і дарослых прыемнага тут мала.

***б*** Гэтае малое дзіця вымушана спаць з гумавай прасцінай на ложку па зразумелых прычынах, падобных на тыя, што і ў нашага дарагога Вэйкэра, але ж цалкам інакшых, калі быць дакладным. Мачавы пузыр Гэмасміта пакінуў усялякую надзею абудзіць якую-кольвек цікавасць або вымаліць спачуванне.

***в*** У яго змянілася дзевяць (9) розных зубных шчотак з таго дня, як лагер цалкам адчыніўся Ён закопвае або хавае іх у лесе, як трохгадовае або чатырохгадовае дзіця, або ладзіць для іх патаемнік пад лісцем ці пад іншаю лухтою ў сваім бунгала. Робіць ён гэта без гумару і помсты, і без усялякай асалоды. Бясспрэчна, тут ёсць помста, але штосьці не дае яму спажываць яе напоўніцу альбо адчуць сапраўднае задавальненне ад яе, гэтак цалкам і поўнасцю ягоны дух быў прыцiснуты, а мо і ўдушаны сям'ёю. Сітуацыя, скажу я вам, страшэнна тонкая і паганая.

Ён, юны Грыфіт Гэмасміт, ходзіць следам за вашымі старэйшымі сынамі, часцяком залазячы з намі ў кожны зацішны куток і запаўзаючы ў кожную шчыліну. Ён прыемны, кемлівы кампаньён, калі толькі яго не цкуюць, як ганчакі, ягонае мінулае і сучаснае. Ягоная ж будучыня, мне да смерці прыкра гэта казаць, выглядае жудаснай. Я прывёз бы яго да нас дадому пасля лагера, нават не думаючы, з поўнай упэўненасцю, радасцю і лёгкасцю, калі б ён быў сірата. У яго, аднак, ёсць маці — маладая разведзеная з дыстынктоўным фанабэрыстым тварам, які злёгку падпсавалі славалюбства, эгаізм і пара неразумных расчараванняў у жыцці, зрэшты, неразумных не на яе погляд, можаце быць пэўныя. Сэрца і чыстая пачуццёвасць цягнуцца да яе — і гэта мы адчулі — нягледзячы на ейную незайздросную, пякельную працу маткі і жанчыны.

У мінулую нядзелю папаўдні (ашаламляльны дзень, ані аблачынкі) яна зазірнула да нас і запрасіла праехацца з ёю і Грыфітам на іхнім салідным, шыкоўным, элегантным Піэс-эроў, а перад вяртаннем дамоў перакусіць у Элмз. З засмучэннем мы адхілілі гэтае запрашэнне. Святы Божа, то было ледзяное запрашэнне! Я чуў у свой час некалькі ледзяных запрашэнняў, але пальму першынства артымала б гэтае! Мяркую, цябе трохі пацешыў бы ейны цалкам фальшывы сяброўскі жэст, Бэсі, а зрэшты, наўрад; ты недастаткова старая, мая любая! Хоць і нельга сказаць, што гэта надта ўжо ўсхвалявала празрыстае, трохі камічнае сэрца місіс Гэмасміт, але ўсё ж яна была моцна расчаравана тым, што мы — найлепшыя Грыфітавы камрады ў лагеры, бо ейны мозг і надзвычай вёрткае вока імгнення аддалі перавагу Рычарду Мэйсу і Дональду Вігмалеру, двум суседзям Грыфіта па бунгала, якія былі ёй больш пад густ. Прычыны тут відочныя, але не буду закранаць іх у звычайным сяброўскім лісце да сям'і. Час ідзе, я звыкаюся з падобнымі рэчамі, ды і ваш сын Бады, і ў вас ёсць досыць падстаў гэта ведаць, зусім не дурань, нягледзячы на такі, здавалася б, цудны, ранні ўзрост. Аднак для маладой, прывабнай, акрутна-строгай адзінокай маткі з усімі муніцыпальнымі вартасцямі, то ж бо: фанабэрыстыя, патрыцыянскія рысы твару, вялікія грошы, вольны доступ у найлепшыя





дамы, пальцы ў пярцёнках — дэманстраваць гэткі ўзор сацыяльнага расчаравання і ў дачыненні да свайго юнага сына, галапупка, і без таго "ашчасліўленага" нервозным, панылым пузыром, проста недаравальна і безнадзейна. Безнадзейна — гучыць занадта моцна, але я не бачу на гарызонце ні прыкметы, што такія праклятыя і тонкія праблемы калі-небудзь удасца развязаць. Будзьце ўпэўненыя, я думаю пра гэта, але ж неабходна браць пад увагу мой юны век і надзвычай сціплы вопыт, набыты мной за час цяперашняга майго ўвасаблення.

Напачатку, як вы ведаеце, яны бязглузда сунулі нас у розныя бунгала, сыходзячы з перадумовы, што гэта надта разумна і карысна — раздзяляць братоў ды іншых крэўных. Аднак пасля таго, як я пачуў выпадковую камічную рэмарку, кінутую вашым непараўнальным сынам Бады, з якою я ўсім сэрцам згадзіўся, мы мелі страшэнна прыемную размову з місіс Гэпі на трэці або чацвёрты з тых недарэчных дзён, уводзячы ёй у вушы, наколькі проста гэта — забыцца на абсурдны (толькі першая квецень) век Бады і на кранальна людскую патрэбу ў размове і ў бліскавічным дасціпным адказе і — о шчаслівы вынік! — Бады атрымаў дазвол перанесці свае пажыткі, як і сваё ўласнае файнае, мініяцюрнае, смешнае цела, сюды наступнае ж нядзелі пасля агляду. Для абодвух нас у гэтай перамене — палёгка, уцеха і проста справядлівасць. Я страшэнна спадзяюся, што вы пазнаёміцеся з місіс Гэпі напраўду блізка, як скарыстаеце або калі скарыстаеце з магчымасці завітаць да нас, альбо калі прыдумаеце такую магчымасць. Уявіце сабе яскравую брунетку, гарэзную, дужа здатную да музыкі, з вельмі прывабным невялічкім пачуццём гумару! Патрэбны велізарны самакантроль, каб утрымацца, не схапіць яе ў абдымкі, калі яна шпацыруе сабе па траве ў адной са сваіх густоўных сукенак. Яе высокая думка пра вашага сына Бады, яе гарачая любоў да яго — для мяне як шчодрая прэмія, ажно слёзы зусім неўспадзеўкі прыліваюць да вачэй. Адно з радасна-трымтлівых узрушэнняў, на якія багатае маё існаванне — гэта бачыць, як маладая яскравая дзяўчына ці жанчына інстынктыўна распазнае вартасць гэтага хлопца на працягу чвэрцьгадзіннай выпадковай гаманы з ім на беразе чароўнае ручаіны, што высыхае. Ісусе Хрысце, кожнае жыццё мае сваю долю шляхетных радасна-трымтлівых узрушэнняў, усяго толькі расплюшчы вочы і глядзі! Дарэчы, місіс Гэпі палкая паклонніца вашых талентаў, Бэсі і Лэс, шмат разоў яна бачыла вас на сцэне ў Готэме, звычайна, на Рыверсайд, паблізу іхняга месца жыхарства. Так сталася, што і яна дзеліць з табой, Бэсі, кранальнае багацце дасканалых ног, шчыкалатак, дзёрзкіх грудзей, вельмі свежага, ладненькага азадка, а таксама цудоўных маленькіх ступняў з надзвычай мілымі невялічкімі пальцамі. Самі ведаеце, дарэчы, які гэта неспадзяваны дарунак лёсу — увабрацца ў маладую сталасць, захаваўшы цудоўныя або й нават цалкам прэзентабельныя пальцы ног; звычайна, страх, што з імі робіцца пасля таго, як яны пакідаюць дзіцячае цельца, ці ж не праўда. Божа, блаславі сэрца гэтага дзівоснага дзяўчаці! Немажліва часам паверыць, што гэтая неадчэпна-прынадная, спакуслівая красуня на пятнаццаць (15) гадоў старэйшая за мяне! Пакідаю на ваш уласны, справядлівы і важкі суд, Бэсі і Лэс, ці варта ўведаць гэткае малым, але калі поўная шчырасць мае панаваць паміж бацькамі і дзецьмі гэтак жа бесперашкодна ў ліставанні, як падчас жывое размовы, а менавіта да такіх стасункаў імкнуўся я ўсё сваё жыццё, няхай са сціплым, але штораз большым поспехам, дык мушу прызнацца, і мне ажно весела — бываюць моманты, калі тая пекная, зваблівая дзеўка, місіс Гэпі, міжволі ўзбуджае бязмежную маю пачуццёвасць. Маючы на ўвазе мой абсурдны ўзрост, сітуацыя, безумоўна, трохі гумарыстычная, але гэткая яна здаецца толькі тады, як яе прыгадваеш, павінен сказаць са скрухай. Падчас дзвюх ці трох нагодаў (яны моцна сядзяць у маёй памяці), калі я згаджаўся з ейным ласкавым запрашэннем зайсці ў галоўнае бунгала выпіць какава або халоднага напою пасля купання, я чакаў тае хвіліны з нецярпеннем ды ўсё большай прыемнасцю: а раптам (маё спадзяванне не выказаць словамі) яна, проста не падумаўшы, адчыніць дзверы галышом. Гэтае ўзбурэнне пачуццяў зусім не смешнае тады, калі яно адбываецца, я паўтараю, такое яно толькі ў рэтраспектыве. Я яшчэ не абмяркоўваў гэтае недалікатнае пытанне з Бады, чыя пачуццёвасць зацвітае ў тым жа пяшчотным, занадта раннім веку, як у свой час зацвітала мая, але ён і так здагадаўся, што гэтая мілая істота захапіла мяне ў пачуццёвы палон, і ўжо кінуў пару гумарыстычных заўваг. О, мой Божа, які гонар і прывілей быць кроўна звязаным з гэтым прыцягальным юнаком і тайным геніем, што ніколі не прыме за праўду выкруты ды хітрыкі з маіх вуснаў! Праблема місіс

Гэпі зарасце травой забыцця, як лета пойдзе на спад, але было б вялікім дабрадзействам, дарагі Лэс, калі б ты пажадаў прызнаць, што мы ўспадчылі твой дар пачуццёвасці, улучна з дужа паказальным хрыбтом пажадлівасці адразу ж за тваёю ўласнаю пачуццёваю ніжняю губою, як успадчыў гэта наш цудоўны малады брат, бліскучы Уолтэр Ф. Глас (юныя Бэатрыс ды Уэйкэр Глас, дзве беззаганна чыстыя істоты, амаль што не пазначаны згаданым вымоўным хрыбтом). Зазвычай, спадзяюся, вы згодзіцеся, калі я гляджу на чалавечы твар, то не надта зважаю на прыкметы, якія быццам бы варта браць у рахубу, бо яны абсалютна ненадзейныя ці могуць знікнуць або змяніцца воляю Бацькі-Часу, але я ніколі не ігнарую хрыбта за ніжняю губою: звычайна, больш цёмна-чырвонага колеру. Не буду зацыклівацца на тэме кармы, ведаючы і цалкам салідарызуючыся з вашай пагардай да маёй паглынальнай і выпадковай цікавасці да яе, але даю слова гонару, што хрыбет, пра які гаворка, ёсць трохі болей, як знак адказнасці за папярэдняе жыццё; ты атрымліваеш гэты знак, ты адольваеш яго, а калі не ўдаецца, уступаеш з ім у сумленны двубой, не шукаючы літасці і не літуючыся. Што датычыць мяне, я зусім не прагну, каб юр, зачараваўшы маё цела, валачыў дзень пры дні мяне за сабою на працягу тых нешматлікіх і цудоўных гадоў, што яшчэ засталіся, якімі надзелены я ў цяперашнім з'яўленні. Велізарная праца мае быць здзейсненая падчас гэтага з'яўлення, хоць яшчэ не зусім вядома мне, якая, і я з радасцю лепш згадзіўся б здохнуць сабачай смерцю, як дазволіў, каб у крытычныя моманты маю ўвагу адцягвалі павабны, раскошны платан або ўзгорысты контур вабнага цела. Мой час занадта абмежаваны, гэта мяне і засмучае, і бавіць. Я, несумненна, намерваюся безупынна працаваць над праблемай пачуццёвасці, і падарункам з неба для мяне было б, каб ты, любы Лэс, як мой дарагі бацька і шчыры прыяцель, быў бессаромнай, поўнай разгорнутай кнігай у тым, што датычыць тваёй уласнай настырнай пачуццёвасці, калі ты меў столькі гадоў, як мы. Я скарыстаў з магчымасці прачытаць адну ці дзве кніжкі, прысвечаныя пачуццёвасці, але яны альбо ўзбуджаюць, альбо не па-чалавечы напісаныя і думкам ад іх малы спажытак. Я не хочу ведаць, якія пачуццёвыя акты ты ўчыняў у нашым веку, я пытаюся пра штосьці горшае· я хочу даведацца, якія ўяўныя пачуццёвыя акты прыносілі тваймў мозгу найжывое задавальненне, у якіх, аднак, сарамата прызнацца. Акрамя мозгу пачуццёвасць не мае ніякіх сваіх уласных органаў. Горача заклікаю цябе быць наконт гэтага бессаромным. Мы хлопчыкі, сыны чалавечыя, і не сталі б цябе любіць або паважаць меней, зусім наадварот, калі б ты агаліў перад намі самыя раннія і найгоршыя пачуццёвыя думкі, я ўпэўнены, што яны падаліся б нам вельмі кранальнымі і хвалюючымі. Прыстойны, цалкам шчыры крытэрый — заўсёды, на пэўны час, цудоўны для маладой асобы. У дадатак, ні ў натуры твайго сына Бады ані ў маёй, ані твайго сына Уолтэра не закладзена здатнасць адчуць шок або агіду ад чаго хочаш мілага, зямнога, уласцівага роду людскому. Напраўду, усе формы чалавечага грэху і чалавечай жывёльнай бессаромнасці закранаюць надта сугучную струну ў нашых сэрцах!

Божухна! Якая ўцеха і ўзнагарода, калі выкройваеш у лагернай мітусні трохі вольнага часу пагаварыць са сваёю радзінаю! Баюся, вы нават не падазраяце, якую процьму блаславёнага часу я маю сёння, каб задаволіць патрэбы сэрца і розуму; поўнае вытлумачэнне — неўзабаве.

Працягваючы маё канфідэнцыяльнае і надта бесцырымоннае апісанне місіс Гэпі, якую, я ведаю, вы змаглі б навучыцца любіць або шкадаваць, зазначаю, што яна моцна высільваецца ў прыватным жыцці, каб даволі паганы шлюб, у якім яна жыве, не атруціў шчаснай і салодкай ношкі мацярынства Цяпер яна цяжарная, хоць і мае наперадзе шэсць—сем месяцаў да таго, як падзея, якую яна так слаба сабе ўяўляе, адбудзецца Гэта для яе неверагодна цяжкое змаганне ад самага пачатку. Яна запраўды беднае дзіцё з ужо надзьмутым жывоцікам і галавой, поўнай вельмі кранальнай лухты. ад збянтэжанасці, прыкрых кніжак, напісаных лекарамі, што падзяляюць такія ж стэрэатыпныя, плыткія погляды, ды ад інфармацыі, якою яе забяспечвала ейная шчырая сяброўка, яны разам жылі ў пакоі, калі вучыліся ў каледжы, першакласны гулец у брыдж, як я зразумеў, па імені Вірджынія. На няшчасце, увесь гэты лагер поўны вартых жалю недарэчных сужэнстваў, але яна, місіс Гэпі, адзіная тут цяжарная жанчына, наколькі мне вядома. Таму, з-за адсутнасці вышэйзгаданай Вірджыніі, місіс Гэпі даручыла мне выконваць паслугі суразмоўцы, і гэта сямігадоваму хлапчаняці, заўважце! Мне прыносіць бязмерны клопат, але, бывае, і невялікую ўцеху, як ні сорамна прызнавацца, тое, што





яна, па сутнасці, не ўсведамляе, што на вачах ва ўсіх наймае дзіця майго веку як слухача для сябе. Зрэшты, яна сарамяжлівая, незвычайная размоўца; і калі б не давала выйсця сваёй тузе, гутарачы са мною, то, будзьце пэўныя, вылівала б яе тутака перад кімсьці іншым, чый твар пазначаны пачуццямі. Усё, што яна кажа, трэба ўспрымаць, падсольваючы гэта незлічонымі драбкамі солі. На самай справе, яна, хоць і мілая, але ў размове далёкая ад абсалютнае сумленнасці. Яна пераканана лічыць сябе вельмі душэўнай асобай, а містэра Гэпі — не надзеленым такой рысай. Дужа папулярная тэорыя, але, на жаль, чыстая лухта. Бог мне суддзя: містэр Гэпі, вядома, не падаруначак, але ён зусім пэўна душэўны чалавек. З другога боку, на жаль, місіс Гэпі — асоба з вельмі пяшчотным сэрцам і ніколечкі не душэўная Ад яе ілюзій кідае ў жар, калі толькі ты патаемна не прагнеш яе красы! Яна не ведае і гэтулькі, каб часам падняць малога накшталт вашага сына Бады, які зараз далёка ад матулі ды іншых родных, і цмокнуць яго, каб аж рэха пайшло па блізкім лесе! У яе і не ўзнікае натуральная чалавечая думка пра тое, як страшэнна неабходнае на гэтым неабсяжным і зусім не шчодрым свеце звычайнае цалаванне! Аднае мімалётнае чароўнае ўсмешкі занадта мала. Кубак найсмачнага какава, аздоблены задуменным зефірам, слабаватая замена пацалунку ці шчырым абдымкам для пяцігадовага дзіцяці. Яна не здагадваецца, што яе чакае, я амаль перакананы. Калі ёй ад мяне як ад суразмоўцы будзе замалая карысць, пакуль лета не скончыцца, гэтую вабную прыгажуню падсцерагацьме небяспека амаральнасці, няцяжка прадбачыць цалкам субтэльнае падзенне і dégringolade*, што вынікнуць з простага флірту і дзявочай балбатні. З ейнай безудзельнасцю, глыбознай невялікадушнасцю яна даспявае да гарачага, пачуццёвага кахання з файным чужаком, бо занадта гордая і аточаная сябелюбствам, каб дзяліць свае незлічоныя чары з сапраўды блізкім чалавекам. Я ў вялікай трывозе На жаль, мая пазіцыя цалкам фальшывая падчас крызісаў у нашых размовах, я разрываюся паміж добрай, разумнай, бязлітаснай парадай і нячыстым жаданнем, каб яна адчыніла дзверы голаю. Калі ў вас знойдзецца вольная хвіля, дарагія Лэс і Бэсі, і ў вас, малыя, маліцеся, каб я выбраўся больш-менш ганарова з гэтай недарэчнай пустыні, дзе звар'яцець можна. Маліцеся толькі ў вольны час і як хочаце, сваімі ўласнымі слаўнымі, цудоўнымі словамі, адно рабіце націск на тым, каб я мог асягнуць раўнавагу, разрываючыся паміж цалкам здаровай, дасканалай парадай і звычайнай пажаднасцю майго цела і геніталіяў, нягледзячы на іхні юны памер. Прашу вас, будзьце пэўныя, вашы малітвы не пойдуць у глум, я перакананы; усяго толькі вымаўляйце іх як словы, і яны дойдуць, гэтак, як я казаў вам падчас абеду летась узімку. Калі Бог палічыць мяне прыдатным, каб уладзіць гэтую справу, я магу быць бязмежна карысны для прыгожанькага, кранальнага дзяўчаці. Усе злыбеды прыватнага жыцця місіс і містэра Гэпі караняцца ў тым, што яны не здолелі стацца дасканала адзіным целам. Смела і старанна растлумачыўшы адпаведны, той менавіта, які патрабуецца, метад, гэта можа быць дасягнута вельмі добра і амаль што імгненна. Я мог бы надта лёгка прадэманстраваць, калі б тутака была Дэзірэ Грын з яе надзвычай смелымі і шчырамі для васьмігадовай дзяўчынкі разважаннямі, але магу выдатна абысціся і без дэманстравання. Не вагайцеся маліцца за мяне ў гэтай далікатнай справе! Уэйкэр, стары дружа, я асабліва спадзяюся на пранізлівую нявінную моц тваёй малітвы! Памятайце, што я не маю права скінуць з сябе ношу адказнасці на той падставе, што я ўсяго толькі сямігадовы хлопчык. Калі я стану на крохкі, паганы грунт падобных апраўданняў, дык я хлус ці баязлівы махляр і саматужнік, што вырабляе танныя, нармальныя адгаворкі На жаль, я не магу падступіцца да містэра Гэпі, да яе мужа, наконт гэтага. Не надта падступішся да яго ні наконт гэтай, ані якой іншай справы. Калі ж адпаведны для гутаркі час выпадзе, я буду змушаны проста прывязаць містэра Гэпі да зручнага крэсла, каб ён аддаў мне ўсю сваю ўвагу. Ён вырабляў вяроўкі падчас свайго папярэдняга жыцця, але не надта добра, дзесьці ў Турцыі ці Грэцыі, дакладна не ведаю. Ён быў пакараны смерцю за тое, што зрабіў няякасную вяроўку, праз якую загінула некалькі ўплывовых альпіністаў; калі ж браць глыбей, то да такога канца яго прывялі неверагодная ўпартасць і фанабэрыстасць, спалучаныя з нядбайствам. Як я казаў яшчэ перад нашым ад'ездам, я са скуры лезу, каб як мага меней усялякіх відзежаў завітвала да мяне, бо мы тут дзеля прыемнага звычайнага лета. У дзевяці выпадках з дзесяці ўсё

* Скочванне ўніз, дэградацыя (фр.).

адно пустое марнаванне часу — дазваляць, каб гэтыя відзежы шныпарылі ў мазгах, незалежна ад таго, як успрыме тая ці іншая асоба шчырую дыскусію наконт іх: як вельмі карысную, цалкам жахлівую або проста агідную.

Пэўна, гэта будзе вельмі доўгі ліст! Не падай духам, Лэс! Я напаўжартам даю табе дазвол прачытаць толькі чвэрць майго паслання. Можаш смела занесці памер майго ліста на рахунак нечаканай прэміі — вольнага часу, пра што далажу неўзабаве. Пакуль што скажу толькі, што ўчора я сур'ёзна параніў нагу і зараз прыкаваны да ложка дзеля разнастайнасці, удача з удачаў! Здагадайцеся, хто па-майстэрску здабыў дазвол быць маім кампаньёнам і прыслугоўваць мне! Ваш улюбёны сын Бады! Ён павінен вось-вось вярнуцца!

Мы атрымалі яшчэ ладню дрэнных адзнак за паводзіны пасля вашага хвалюючага тэлефанавання з атэля Ля Саль, якое прынесла нам невыказную радасць, нягледзячы на паганую сувязь. Апроч таго: я згубіў свой прыгожы новы наручны гадзіннік у час нядаўніх заняткаў плаваннем; але па яго зноў збіраюцца ныраць заўтра або сёння папаўдні, так што не трэба турбавацца, калі толькі ў яго не набралася поўна вады. Вяртаючыся да тэмы дрэнных адзнак за паводзіны, большыню іх мы атрымалі за хранічна неахайнае бунгала, а ўслед за імі яшчэ цэлы акуратны букецік за няўдзел у спевах на ігрышчах і за тое, што пакідалі ігрышчы без дазволу. Вось так яно атрымліваецца. Ісусе Хрысце, спадзяюся, вы можаце лёгка адчуваць на гэтай адлегласці, як нам не стае вас, дарагія Бэсі і Лэс, і астатнія, тры арэшкі майго сэрца! Божа, няхай бы просты ліст не быў гэтак наладаваны элегантнымі пісьмовымі канструкцыямі! Пачынаеш сумнявацца, ці гэта твой уласны голас, голас вашага сына і брата, але ўсё ж строга трымаешся высокіх і кранальных патрабаванняў раскошнай канструкцыі. Гэта абяцае стацца адным з няшчасцяў будучага майго жыцця, але я вылузнуся са скуры, каб дамагчыся ганаровага гумарыстычнага замірэння.

Тысячу разоў дзякуй за ваш забаўны і цудоўны ліст і некалькі паштовак! З палёгкай і бязмернай радасцю ўведалі мы, Лэс, што Дэтройт і Чыкага, як выявілася, не такія ўжо і цяжкія. З гэткім жа задавальненнем мы даведаліся, што юны містэр Фэй быў на адной афішы з вамі ў Горадзе вятроў*, не навіна, а свята для цябе, Бэсі, калі твая бяскрыўдная сяброўская пасія да гэтага слаўнага хлопца яшчэ не прайшла. Я збіраюся напісаць гэтаму хлопцу, нечакана для яго, як з грому, цэлы год пасля нашай недарэмнай і камічнай гутаркі, калі мы разам ехалі ў таксоўцы пад маляўнічай залевай, ён разумны і ўмеркавана арыгінальны дзяцюк, і, прыгадаеце мае словы, яму паўсюдна будуць наследаваць ды красці ягоныя знаходкі, пакуль ён вычарпае свае мажлівасці. Даганяючы дабрыню, арыгінальнасць — адна з самых хвалюючых рэчаў на свеце, і найрэдкая! Будзьце ласкавыя, раскажыце нам у вашых будучых лістах усе навіны, чым больш банальныя і міла нязначныя, тым больш яны чытабельныя. Навіна пра "Бамбаліна" выдатная і болей як проста захапляльная! Выкладвайце ўсё, што ведаеце, малю вас! Гэта чароўная мелодыя! Калі вы паспееце, пакуль працавацьме летнік, хуценька дашліце нам адну з першых кружэлкаў, бо тут, ва ўтульных апартаментах місіс Гэпі, ёсць "Віктрола", хай у незайздросным стане, і я, не задумваючыся, скарыстаю з нашага асаблівага знаёмства ў такім выпадку. Працуйце гэтак жа слаўна, як заўсёды! Ісусе Хрысце, вы таленавітая, мілая, найцудоўная пара! Будзьце пэўныя, маё захапленне вамі было б бязмернае і тады, калі б мы нават не былі крэўныя. Бэсі, мы страшэнна спадзяёмся, што ты зноў у выдатным настроі, любая, і не надта дзьмешся з тае прычыны, што зноў у раз'ездах. Калі ты яшчэ не пачала варушыцца, каб зрабіць тое, што шчыра клялася зрабіць і прынесці палёгку майму смешнаму сэрцу, прашу цябе, паспяшайся і зрабі. Гэта кіста напэўна, паводле майго невясёлага пераканання, і які-небудзь салідны хірург мае бліскавічна выпаліць або выразаць яе. Я размаўляў з імпазантным хірургам, калі мы нарэшце пад'язджалі ў цягніку, і той хірург сказаў, што гэта анікольчкі не балюча, калі яе выдаляюць, чык — і як не было. О, Божа, чалавечае цела такое бездапаможнае, з яго незлічонымі плямамі ды кістамі ды пагарджанымі, кранальнымі прышчамі, што з'яўляюцца і знікаюць з дарослага цела, калі найменш чакаеш. Адсюль яшчэ адно настойлівае жаданне зняць капялюш перад Богам спанталычаным днём; асабіста я не магу і не стану бачыць Яго такім, які мог бы абысціся, не

* Чыкага.





ствараць чалавечых кістаў, плямаў, ані дзіўнага прышча на твары або кранальнай скулы! Я ніколі не бачыў, каб што-кольвек створанае ім не было б цудоўна невыпадковае! Абмінаю гэтую далікатную тэму і проста дасылаю вам, усім пяцерым, каля 50000 пацалункаў. Бады ахвотна далучыўся б да мяне, калі б ён быў тут. Баюся, я падышоў да яшчэ адной далікатнай тэмы. Бэсі і Лэс, я разважна звяртаюся да вас. Не крыўдуйце, але вы абое, цалкам, абсалютна і надта моцна памыляецеся, бо лічыце, што яму ніхто ніколі не патрэбны, толькі я. Вядома ж, гаворка пра Бады Па праўдзе кажучы, ты зрабіў бы мяне куды шчаслівейшым, мой дарагі Лэс, калі б ізноў не ўводзіў мне ў вушы па тэлефоне гэтую балючую і хібную лухту. Вельмі цяжка адыходзіць ад тэлефона на двух уласных нагах, калі твой уласны ўлюбёны і таленавіты бацька гаворыць гэткія шкодныя, памылковыя і надта неразумныя рэчы. Выбітная асоба, пра якую мы гаворым, не выстаўляе сваіх пачуццяў напаказ у адрозненне ад большыні людзей, у тым ліку цябе і мяне Першае і апошняе, што ты павінен ведаць пра гэтага невялічкага, надзвычай адметнага хлопца — усё сваё жыццё імкліва і шчыльна будзе ён зачыняць за сабой дзверы, ледзь ступіўшы на парог пакоя, дзе ёсць хвалюючы, прывабны запас добрых, завостраных алоўкаў ды багата паперы. Я цалкам бездапаможны, ды і сумнеўна схільны змяняць яго курс; гэта старая гісторыя і незлічоныя пытанні гонару, будзьце ўпэўненыя! Як ад ягоных улюбёных бацькоў ад вас (гэта ў чалавечай прыродзе) не выпадае чакаць, што вы палегчыце яго ношу, але вы не павінны, малю вас, наўмысна ўзвальваць цяжар папрокаў на яго кволую спіну. Не кажучы пра гэтыя субтэльныя рэчы, ён, у прыватным жыцці, найбольш вынаходлівае Божае стварэнне, якое я калі-небудзь сустракаў, чыя душа ўсю дарогу не прымае патрыманага існавання, не зважаючы на гарачыя рэкамендацыі практычна ўсіх, з кім ён сутыкаўся. Ён будзе спрытна і далікатна накіроўваць крокі кожнага дзіцяці ў сям'і яшчэ доўга пасля таго, як я канчаткова знясілею і зраблюся ні да чаго не прыдатны ці наогул сыду з гэтай сцэны. Непаважліва і недаравальна для малога хлопца майго веку размаўляць гэткім чынам з маім мілым бацькам, але Бады адзіная рэч на свеце, пра якую ты не ведаеш анічога. Паспяшаемся, аднак, перайсці да менш казытлівай тэмы.

Адзін кангрэсмен ЗША, франтавы сябра містэра Гэпі, наведаў лагер мінулым уікэндам. Паколькі ён быў адной з найменш вартых цікавасці фігур, якія я калі-небудзь сустракаў, будзе цалкам слушна абмінуць ягонае прозвішча ў гэтым асабістым лісце. Подых няшчырасці ды імпазантнай прагніласці прайшоў па лагеры, паветра ў ім дагэтуль смярдзіць як выпырмаць. Угодніцтва і штучны смех з боку містэра Гэпі не падлягаюць апісанню. Сам-насам з місіс Гэпі падчас выпадковай сустрэчы на ганку ейнага бунгала я папрасіў яе трымацца і не дазволіць, каб кангрэсмен і містэр Гэпі з яго агіднымі адказамі на пытанні першага, засмуцілі яе і яе дзівосны эмбрыён, пакуль гэтае панурае непаразуменне працягваецца. Яна цалкам згадзілася. Пазней таго ж дня, дзеля яе, з вялікай неахвотай прыняў я запрашэнне і загад містэра Гэпі, што мы з Бады прыйдзем у іхняе бунгала пасля трэцяй імшы і паспяваем ды трохі пазабаўляем ягонага госця кангрэсмена. Я не маю жаднага права прымаць нячыстае запрашэнне за майго каханага малодшага брата; усім сэрцам спадзяюся, употай, што Усявышні дасць мне добрага прачуханца за маю злачынную саманадзейнасць; ніхто не ўпаўнаважваў мяне на паспешныя рашэнні, не параіўшыся з гэтым бліскучым юнаком. Праўда, мы пракансультаваліся адзін з адным пасля таго, як запрашэнне было прынятае, дамовіўшыся паміж сабой не абуваць нашы чаравікі для чачоткі, калі пойдзем, але то была вельмі фальшывая палёгка і самападман для нас. Вечаровай гарачынёй мы вырашылі абуць мяккія туфлі! Іронія лёсу: мы былі ў выдатнай форме, калі місіс Гэпі іграла на акардыёне як акампаніятар; ды і вельмі цяжка нам не быць у выдатнай форме, калі прыгожая, неталенавітая асоба жахліва акампануе нам на акардэоне; гэта кранае нас за жывое, але трохі і пацяшае. Нягледзячы на нашую надзвычайную маладосць, мы застаемся дужа ломкімі, забаўнымі рапірамі там, дзе ёсць файныя, неталенавітыя дзяўчаты. Я працую над гэтым, але праблема досыць крутая.

Калі ласка, калі ласка, КАЛІ ЛАСКА, не сярдуйце і не рабіцеся халодныя, як лёд, датычна гэтага ліста з тае прычыны, што памер ягоны расце! Як толькі вы гатовыя выбухнуць, хуценька прыгадайце, як багата сёння ў мяне ў запасе вольнага часу і як патрэбная мне такая прыемная гутарка з далёкімі зараз пяццю сямейнікамі майго сэрца! Я не створаны для працяглых разлук; я ніколі не сцвярджаў, што гэта па мне.

Апроч таго, мне здаецца, шмат якія мае навіны і маё пасланне ўвогуле павінна быць вельмі цікавым і лагодзіць настрой

Вы як двойчы два ведаеце, што мы ніколі істотна не змяняемся ў нашых сэрцах. Але ў нас з'явіўся лёгкі загар і выглядаем мы зусім так, як выглядаюць здаровыя дзеці і гадаванцы летніка. Нам можа спатрэбіцца ўсё праклятае здароўе, якое льга здабыць, гэта напэўна. Непрывабны выпадак нядаўна здарыўся У дадатак да агульнавядомай інфармацыі, што мы дзеці паважаных Галахэр і Гласа і што мы даволі вопытныя і дасведчаныя забаўляльнікі самі па сабе, дзякуючы вашаму кранальнаму і хвалюючаму прыкладу, па лагеры разышлася навіна, што мы абодва, ваш сынок Бады і я, ад ранняга ўзросту сумна знаныя заўзятыя чытачы ды яшчэ маем пэўныя здатнасці, умельства, спрыт ды здольнасці вельмі няпэўнае вартасці і пачуццё самай сур'ёзнай адказнасці, апошняе проста прыстала да нас, як цэмент, з ранейшых увасабленняў, асабліва астатніх двух, дужа няпростых. Ваш сын Бады, зразумела, скарыстоўвае аказію напоўніцу. Тут патрэбны не абы-які гарт, скажу я вам. Вазьміце ў рахубу, калі не шкадуеце хвілінкі, абсалютную сакаўную свежасць навіны як стравы для плётак, і шкадлівасць хлопца, якому пяць гадоў, а ён з кожным днём увачавідкі стаецца ўсё больш дасведчаным чытачом і аўтарам, і які да таго ж, нягледзячы на як быццам смешны ўзрост, ёсць вялізарны аўтарытэт у чалавечых тварах з усімі іхнімі кранальнымі маскамі, славалюбствам, успышкамі найчыстай харобрасці і хлуснёю якая палохае! Вось вам сучасная сітуацыя гэтага малога хлопца. Далей уявіце, якая заварылася б каша, калі б хоць частка гэткай патаемнай інфармацыі прасачылася ды сталася вядомым фактам ці чуткай сярод гадунцоў летніка і выхавальнікаў таксама. Акурат такое і адбылося. На жаль, як ён добра ведае, тое нядаўняе ўзбурэнне пераважна вынік ягонага неабачлівага ўчынку.

О, мой Божа, я маю фацэтнага і нязвыклага кампаньёна на дрогкай жыццёвай дарозе Вось коратка, як гэтая лухта здарылася. Містэр Нэльсан, прыроджаны неафіл* і заядлы балбатун і пляткар, поўнасцю, як ужо казалася, апякуецца сталоўкай, разам з місіс Нэльсан, сварлівай, няшчаснай кабетай і натхнёнай парушальніцай спакою. Калі ў сталоўцы нікога няма, гэта адзінае блаславёнае месца ў лагеры, дзе можна цешыцца жыватворнай адзінотай. Бады на гэтую ціхую затоку адразу паклаў вока. У аўторак папаўдні, спякотным днём, ён пабіўся аб заклад з містэрам Нэльсанам, што зможа завучыць на памяць кніжку, якую містэру Нэльсану на той час надарылася чытаць, не за дваццаць хвілін, дык за паўгадзіны. Калі б ён зрабіў гэта дасканала, то містэр Нэльсан, у сваю чаргу, каб засведчыць высокую ацэнку спрэчнага дасягнення, дазволіў бы нам, братам Гласам, выкарыстоўваць пустую ўтульную сталоўку ў наш вольны час для чытання, пісання, вывучэння моваў ды іншых шчымлівых патрэб, такіх, як ачышчэнне нашых галоў ад пазычаных і шматкроць пазычаных апіній і поглядаў, што гудуць над лагерам, як мухі Божа мой, як не вітаю я і не падтрымліваю ўсялякага роду трансакцыі, ці то з адказнымі за свае слова дарослымі, ці то з дарослымі без гонару і сумлення! Без майго ведання пра такі проста жахлівы факт гэты ашаламляльны, незалежны хлапец кінуўся наперад і заключыў трансакцыю з містэрам Нэльсанам, нягледзячы на нашыя несканчоныя дыскусіі перадсвітальнымі гадзінамі пра пажаданасць трымаць язык за зубамі наконт некаторых нашых талентаў і асаблівасцей На шчасце, гэты выпадак не стаўся суцэльнай стратай або паразай. Так здарылася, што кніжка, пра якую гаворка, была "Цвёрдая драўніна Паўночнай Амерыкі" Фолі і Чэмбэрліна, двух незвычайна сціплых і непрыкметных людзей, якімі я даўно захапляўся дзякуючы свайму чытанню, з надта заразлівай для іншых любоўю да дрэў, асабліва да бука і белага дуба, пры тым яны маюць чароўную, празмерную прыхільнасць да букаў! Таму абмен фразамі паміж Бады і мною не быў занадта невыносна рэзкі або непрыемны; і без слёз, дзякуй Богу, абышлося Аднак Вайты Пітман, галоўны выхавальнік (паходзіць з Балтымора, штат Мэрыленд), вясёлы дружака містэра Нэльсана, прачуў пра дасягнуты рэкорд ды ўвішна пажывіўся з аказіі, скарыстаўшы навіну ў сваёй размове. Пры ўсёй сумленнасці ды абаяльнасці, ён валодае адмысловым дарам: павялічваць уласны прэстыж за кошт якога-небудзь дзіцяці; кемны, ласы на адкіды ды мярцвячыну птах, паразіт на чужых размовах. Гэта той самы дваццацішасцігадовы фраер, аніяк не жаўтаротае птушанё, што сказаў Бады, аточанаму гуртам незнаёмцаў· "Я так і думаў, што ты дужа разумнае хлапчаня" Ці тактоўна звяртацца з гэткай заўвагай да пяцігадовага малога? Дзякуй Богу, абышлося без сораму і клопату для ўсёй сям'і, бо я не меў з сабой аніякай добрай зброі, калі гэткая агідная, дурная заўвага была зроблена; аднак, пазней ужо, я выкарыстаў зручны момант і сказаў Роджэру Пітману (такое поўнае імя далі яму ягоныя злашчасныя бацькі), што заб'ю яго ці сябе, магчыма, яшчэ раней, як надыдзе вечар, калі ён у маёй прысутнасці зноў загаворыць з Бады падобным манерам, ды і з любым іншым пяцігадовым хлопчыкам. Думаю, у рашаючы момант я здолеў бы зацугляць гэтае злачыннае памкненне, але балючая праўда тое, што вена неўраўнаважанасці праходзіць праз мяне зусім як нейкая бурлівая рака, гэта нельга не браць пад увагу Я так і не выправіў сваю турботную неўраўнаважанасць у двух папярэдніх увасабленнях, грэшна і агідна; яе не выправіш сяброўскай лагоднай малітвай Гэта можа быць выпраўлена страшэннымі намаганнямі з майго боку, дзякуй Богу; я не магу годна або задушэўна маліцца да якойсьці мілай, кволай боскай істоты, каб яна завітала і прыбрала смецце пасля мяне, нават ад думкі пра гэта мне моташна. Аднак чалавечая мова можа занадта лёгка быць прычынай dégringolade ў цяперашнім маім увасабленні, калі толькі я не паспяшаюся Я намагаўся як д'ябал ад часу нашага прыезду сюды цярпліва сустракаць чалавечую нядобразычлівасць, страх, зайздрасць і панылую нялюбасць да неардынарнага. Не чытай услых гучна гэтую неасцярожную заўвагу двайнятам, ды і ў вушы Бу-Бу ёй ранавата трапляць, але прызнаюся (слёзы плывуць па маім неўраўнаважаным твары), што ў сэрцы ў мяне нямашака празмернай надзеі на чалавечую мову, якою яна сёння ёсць.

Калі апошні абзац занадта нечытэльны ды прыкры, пастарайцеся прыгадаць, што я пішу са страшэннай, імклівай хуткасцю, і тут не да прыгожага стылю. Праз жменю хвілін ці праз чвэрць гадзіны будзе вячэра, пішу я не ў адпаведны час. У бунгала "Ліліпут" патрабуюць спаць, як сабак, па дзесяць невыносных гадзін кожнае начы, калі дакладна а дзевятай цемра паглынае бунгала. Я загаворваў з містэрам Гэпі наконт гэтага некалькі разоў, але бясплённа Божа, які жахлівы чалавек, калі ён не ўводзіць каго-небудзь у зман, дык даводзіць да істэрычнага рогату, і тое, і другое марнаванне часу Калі б ты ўзяўся напісаць яму кароткі, зычлівы, жывы ліст — я наважыўся звярнуцца да цябе асабіста, дарагі Лэс — ды разжаваў яму, што для таго, хто валодае хоць бы азамі правільнага дыхання, дзесяць гадзін сну чыстае вар'яцтва і кара. Мы маем, вядома ж, ліхтары, але такое ўладкаванне дужа нязручнае. кепскае святло і кепскі настрой

Мая пагарда да сябе самога за тое, што я паказваю вам толькі чорны і пануры бок жыцця ў лагеры, бязмерная Заняўшы такую лядачую пазіцыю, я не патрапіў прыгадаць незлічоных рэчаў, што зіхацяць вакол, уражваючы ладнасцю і годнасцю. Нягледзячы на мае змрочныя заўвагі ў папярэдніх абзацах, кожны дзень шчодра аздоблены шчасцем, эстэтычным задавальненнем, уцехай і досыць гучным смехам. Багата цудоўненькіх жывёлін трапляе ў поле зроку, зусім нечакана: бурундучкі, неядавітыя змеі, але ніводнага аленя Я наважыўся на сумнеўную вольнасць, Лэс, і дасылаю табе колькі голак дзікабраза, мёртвага, але не дохлага, яны могуць стацца дасканалым вырашэннем тваёй старой праблемы з мяккімі ды ломкімі зубачысткамі Наваколле тут чароўнае, і пад нагамі, і па баках. На маю радасць і шчырае здзіўленне, ваш сын Бады стаўся цалкам і глыбока nemophilous! Для мяне гэткае ягонае пераўтварэнне — сенсацыя, дый годзе Я таксама адчуваю вострую асалоду ад сельскай прыроды, і ўсё ж гэта толькі між іншым, бо ў глыбіні душы я не ў сваёй стыхіі, калі перабываю ўдалечы ад халодных, аж душу праймае, гарадоў смешных памераў накшталт Нью-Йорка або Лондана. Што датычыцца Бады, то ён назаўжды парве тыя сувязі, што злучаюць яго з горадам, гэта відавочна, мы не здолеем утаймаваць яго на працягу нейкай жменькі гадоў. Шкада, што вы не можаце ўбачыць, як ён тутака прабіраецца праз гушчэзны лес, калі моцныя гэтага свету не перашкаджаюць улюбёным заняткам кожнага з нас, з неймавернай, пільнай асцярогай, як хвацкі, забаўны, нястомны індзейскі ганец. Кожнае начы — нам і забава, і пакута — я выліваю бязмерную колькасць ёду на ягонае ўпартае цельца, скалечанае шыпамі ажыны ды іншай брыдотнай нарасцю. З прыемнасцю праглынуты намі перад ад'ездам сюды ці не тузін кніжак, як выдатных, так і пасрэдных, аб раслінах, ядомых і неядомых, быў для нас, як выявілася, надта каштоўным, які дазволіў прыгатаваць, употайку, мноства добрых страў· параныя амаранты, маладую крапіву, партулак, а

* Аматар новага, навін (лац.).

гэтаксама апошнія маладыя лісты папараці, скарыстоўваючы кубак са сталоўкі як пасудзіну для гатавання. Часта да нас далучаўся гэты злашчасны земляны арэшак, Грыфіт Гэмасміт, проста надзіва прагна ласы да падобнай ежы. Каб не выпала з маёй не дужа трывалай памяці, Бады прасіў цябе, дарагая Бэсі, прыслаць яму яшчэ трохі блакнотаў без лінеек, а таксама крыху яблычнага павідла ды кукурузнай мукі, бо ён, можна сказаць, практычна жывіцца ёю, калі мы маем магчымасць прыгатаваць у спакоі прыемны, няспешны пасілак. Ведайце, што кукурузная мука вельмі спажыўная для яго; ягонае маленькае цела незвычайна падыходзіць да кукурузы і ячменю, калі па праўдзе Хутка ён напіша вам, пры адпаведнай аказіі ды жаданні Ці вельмі ён заняты? Божа літасцівы, я ніколі не бачыў яго болей занятым, калі не здраджвае мне памяць. Ён напісаў 6 новых апавяданняў, мясцінамі напраўду гумарыстычных, пра ангельскага юнака, які нядаўна вярнуўся з-за мяжы, з вандроўкі, поўнай натхняльных прыгод. Што за невымоўны дарунак: бачыць, як асоба пяцігадовага ўзросту зноў сядае на кукішкі (якія мілыя, камічныя, бязмясыя сцягенцы), ды чыркае барвістую гісторыю з імпэтам і з немалою дасціпнасцю розуму. Даю слова гонару, вы яшчэ аднойчы пачуеце пра гэтага хлопца, не мінае сутоння, каб я ў думках не здымаў перад вамі капялюш за тое, што вы падаравалі свету Бады; ваш мілы, цудоўны ўдзел у тым, што ён наогул нарадзіўся, застаецца невыказна хвалюючым для мяне. Карціна гэтая робіцца яшчэ больш вартай і хвалюючай, калі ўлічыць панурую вопратку, якую я меў канікулярным часам, пасля калядных вакацый, і якая адкрыла, што наша інтымнасць з табою, дарагі Лэс (калі ты па-ранейшаму тут), была досыць неглыбокая і абцяжараная несумяшчальнасцю. Што да маёй уласнай творчасці, дык у вольны час я завяршыў тут блізу дваццаці пяці (25) прымальных, але не болей, вершаў, услед за якімі з'явіліся яшчэ 16, што маюць пэўную вартасць, хоць і пазбаўлены праўдзівай высакароднасці. І яшчэ 10 было напісана, але атрымаліся міжвольныя кашмарныя імітацыі Уільяма Блэйка, Уільяма Уордсварта ды аднаго ці двух іншых мёртвых геніяў, чый раптоўны адыход не перастае кроіць мне сэрца як нож. Так што, мой паэтычны плён выглядае бедна і паныла. Глыбока перакананы: адзіны верш з напісаных гэтым летам, які ўяўляе для мяне самога сапраўдную непазбыўную цікавасць — той, што пакуль я ўвогуле не напісаў. У час вашага нятаннага тэлефанавання з Ля Саль я паведаміў, прыгадай, што мы з калегамі па лагеры цэлы дзень правялі ў Вагль Фішэрыз. Па дарозе туды нас чакаў грунтоўны ланч з сандвічаў у атэлі Калборн, рэспектабельным папулярным атэлі, куды з'язджаюцца маладыя ўлюбёныя пары на мядовы месяц. Шпацыруючы каля возера з Бады і Гэмасмітам, я ўбачыў парачку, яна дурэла і смяялася Прыкінуўшы сёе-тое ў думках і раптам адчуваючы жаданне, з галавы да пят, гарманічна паяднацца з гэтымі двума невядомымі маладымі закаханымі, мне захацелася напісаць верш, што вось гэта мільённы малады ў атэлі Калборн гулліва апырсквае марской вадой мільённую маладую. Я неаднойчы бываў сведкам, як маладыя каханкі бавяцца падобным чынам у Лонг Біч і на іншых папулярных курортах. Бэсі, дарагая, гэтае вясёлае відовішча прынесла б табе прыемнасць, узрушэнне, лёгкую ўсмешку, зважаючы на розум і сэрца, якімі ты надзелена — штопраўда, несмяротная паэзія, з якой я сутыкаўся, нідзе не пацвярджае, што яны, розум і сэрца, будуць на свеце запатрабаваны. Але ж лёс не выбіраюць. Абыдзем, аднак, гэтую вострую тэму Каб ты асабіста і, магчыма, міс Овэрман ведалі, але будзь крыху абачлівай, бо апошняя, на жаль, не мае вялікага дару не пераказваць даверлівыя прызнанні — мы працягваем авалодваць італьянскай мовай і прыгадваем іспанскую, добра пастукаўшы па прыймачу Вельмі грубы, прымітыўны намёк, але новыя батарэйкі былі б для нас як усмешка фартуны.

Лэс, якая гэта палёгка і прыемнасць чыркнуць пару радкоў, не прыслухваючыся да абрыдлых гукаў горна! Я проста не магу стрымаць свой разгон. Калі ты замарыўся або калі чытанне табе папраўдзе дакучыла, перастань чытаць зараз жа, з майго шчырага дазволу. Я, як вядома, карыстаюся тваёй добрай воляй, бацькоўствам і тваім сумна славутым, амаль смяхотным цярпеннем. Упэўнены, Бэсі перакажа табе існасць іншых далейшых паведамленняў ды разваг; бестурботна закурвай цыгарэту, кідай мой збрыдзелы ліст як гарачую бульбіну, ды ідзі сабе ў хол якога заўгодна атэля, дзе ты спынішся, і няхай уцехай табе будзе чыстае сумленне і мая бессмяротная любоў. Гульня ў пул* або пінакль** магла б цябе крыху асвяжыць!

* **Разнавіднасць більярда.**

** **Картачная гульня.**





З асалодай працягваю пісаць наўдачу, як падказвае душа. Пакуль што мы не надта папулярныя ў нашым бунгала, сярод іншых хлопчыкаў. Гэта галоўным чынам датычыць Дугласа Фолсама, Бэры Шарфмана, Дэрэка Сміта малодшага, Тома Лэнтарна, Мідж Імінгтана ды Рэда Сілвармана. Том Лэнтарн!* Прывабнае ці не вельмі прозвішча, каб існаваць з ім па жыцці? На жаль, праўдападобна, гэты юнак вырашыў не запальваць ніводнай сваёй лямпачкі, так што ягонаму дзівоснаму прозвішчу пагражае небяспека марна згібець. Занадта жорсткая думка. Усе мае думкі занадта часта, ліха на іх, жорсткія для слоў. Я імкнуся ўдасканаліцца, але гэтым летам дазваляў сабе такую жорсткасць зачаста, аж не ператравіць. Памагай табе Божа, Том Лэнтарн, запаліў ты сваё святло ці не! На верхнім паверсе гэтага пагана збудаванага бунгала ёсць адзін хлопчык — сапраўдная соль зямлі, ніводны камплімент, якім яго ўзнагародзіш, не будзе занадта прыўкрасны, запэўніваю вас. Ён часта, калі мае вольны час, збягае лёгка і з імпэтам уніз па не надта трывалых сходцах і бавіць дзень з вашымі нічога не вартымі сынамі, распавядае шчыра і з гумарам пра сяброў, знаёмых ды непрыяцеляў у Троі, штат Нью-Йорк, вялікім паселішчы далей за Олбані, і ўвогуле бачыць жыццё і чалавецтва цудоўнымі, нягледзячы на падманлівыя абалонкі. Ягоная адвага, перакананы, разбіла б ці балюча раскалола вашае сэрца, проста сказаць нам сардэчнае хэлоў патрэбна бязмерная харобрасць, я не паруплюся паведаміць, што якраз цяпер мы сталіся аб'ектам астракізму На імя ён Джон Колб, 8 $^1/_2$ гадоў, паводле поўнага права Прамежкавы, але ў бунгала Прамежкавых для яго нямашака месца, і нас ушанавалі прывілеем цешыцца яго шляхетнай кампаніяй у гэнай перапоўненай будыніне. Малю цябе запісаць гэтае харобрае, дабрадушнае імя ў памяці на сёння і на ўвесь наступны час! На жаль, размова, што цягнецца звыш пяці хвілін, аж да слёз дакучае гэтаму мужнаму, дзейнаму хлопчыку, зірнеш — і са здзіўленнем ды замілаваннем бачыш, што ягонага добрага, абаяльнага твару ўжо нямашака на абсягах бунгала! Я ахвяраваў бы незлічонымі гадамі свайго жыцця, каб хоць трохі дапамагчы яму з яго будучыняй. Ён ласкава даў мне слова гонару, зусім не здагадваючыся пра матывы, якія змусілі мяне прасіць пра гэта, што ніколі не глыне віскі і ніякага іншага трунку, калі стане дарослым, але мяне мучаць праклятыя панурыя сумненні, ці стрымае ён слова. У ім жыве і чакае свайго часу схільнасць напівацца да супакойвальнай здранцвеласці, гэта можна перамагчы поўнасцю, калі ён выкарыстоўвацьме ўвесь розум і волю ды ўключыць адно-другое святло, але баюся, ён занадта лагодны і няўрымслівы хлопчык, каб выкарыстоўваць дзеля чагосьці ўвесь свой розум. У нас ёсць яго адрас у Троі, штат Нью-Йорк. Калі буду жывы, як надыдуць лёсавызначальныя гады, я прылячу ў Нью-Йорк без адкладу і пры неабходнасці ўстану на абарону гэтай бліскучай асобы; тады не будзе лішнім выпіць кубак, што адурманіць мяне, але ты павінен зразумець: мы розуму крануліся ад любові да гэтага хлопчыка, у сэрцы якога няма ні каліва зababоў. Мой Божа — ці ж не дзіва — гераічны хлопчык $8^1/_2$-гадовага ўзросту! Цяжка пагадзіцца з такой іроніяй лёсу, але гераічным людзям куды болей патрэбна абарона, як здаецца на першы пагляд. Цалую тваё шляхетныя, няўслаўленыя песняром ногі, Джон Колб, тубылец Троі, брат высакароднага Гектара!

Што датычыцца іншых рэчаў, мы нармалёва тусуемся, калі акалічнасці дазваляюць, бяром удзел у бясконцых спартовых ды іншых забавах, а шмат якімі цешымся напоўніцу. Нам тут лафа, бо мы досыць хвацкія, прыстойныя лёгкаатлеты, самыя зацятыя незычліўцы не аспрэчылі б нашу ўмеркаваную класнасць у бейсболе, магчыма, найхвалюючым, найцудным спорце ў Заходняй паўкулі. Гэта не падстава для пыхі альбо гонару, а як бы забаўны прэзент з мінулага жыцця; у кожнай гульні з мячом мы з лёгкасцю дэманструем дасканаласць, кожную гульню без мяча патрапім, як ні сумна, спляжыць. Апроч гульняў ды іншых заняткаў тут у нас ёсць мажлівасць зусім выпадкова займець купку сяброў на ўсё жыццё Аднак, Бэсі, вам, каму выпала доля быць нашымі ўлюбёнымі бацькамі, трэба змусіць сябе глядзець некаторым рэчам проста ў твар, нат не думаючы здрыгануцца, калі адзін-два чыннікі выглядаюць пагрозна. А зараз прашу цябе ў гэты самы момант, калі ласка, прыхавай без цэню засмучэння ў памяць на чорны дзень, што да апошняй нашай ґадзіны заўжды будзе безліч хлапцоў, якія кіпяць злосцю ці аж пырскаюць варожасцю, нават усяго толькі калі бачаць, як адно нашыя твары ўзыходзяць над гарызонтам. Заўваж, я кажу адно нашыя твары, незалежна ад нашых нязвыклых і

* **Ліхтар (ангельск.).**

часта нязносных асоб! Гэта была б досыць смяхотная дэталь, не болей, калі б з агіднай збянтэжанасцю я не заўважаў, што такое здараецца занадта шмат сотняў разоў для маіх нядоўгіх гадоў. Я, аднак, спадзяюся, што калі мы працягвацьмем угрунь паляпшаць ды ўдасканальваць нашыя характары, намагаючыся дзень у дзень пазбаўляцца смаркатай самаўпэўненасці, плыткага славалюбства і процьмы, д'ябальскай безлічы эмоцый, спалучаных яшчэ з колькімі наскрозь гнілымі якасцямі, дык адзін наш выгляд і розгалас не будуць спараджаць і выклікаць гэткую лютасць у сэрцах братоў па чалавецтву. Я чакаю добрых вынікаў ад гэтых захадаў, але не Бог ведае якіх вынікаў; я, папраўдзе, не прадбачу Бог ведае якіх вынікаў у галоўным. А ўсё ж не дазволь, каб гэтае месца ў маім лісце кінула на вашы сэрцы занадта вялікі цень! Радасцей, суцяшэнняў, забаўных кампенсацый — мноства! Ці бачыла ты на свае вочы такіх двух няўрымсных, неўгамаваных шыбенікаў, як твае сыны, якіх зараз няма з табой? Калі згушчаюцца непамыслоты, калі ты як утрапёная, ці ж не гучаць для цябе нашыя маладыя жыцці незабыўным вальсам? Мажліва, калі тваё ўяўленне раптам станецца перакручаным, дапраўды, мажліва, адзіным вальсам, які Людвіг ван Бетховен нібыта напісаў на Божай пасцелі! Без сораму самаўпэўнена бараніцьму гэтую тэзу. Мой Божа, якое ашаламляльнае ўзрушэнне можна спазнаць, калі наважышся па-свойму ўчуць просты, незразумелы вальсок! Ніколі ў жыцці, даю слова, не ўстаў я з ложка ўранні, не пачуўшы ўдалечы лёгкі, чароўны — і раз, і другі, — стук дырыжорскай палачкі! Акрамя далёкае музыкі, прыгоды і рамантыка палоняць нас; усёпаглынальныя зацікаўленні ды разрыўкі лагодна вядуць рэй; дзякуй Богу, жаднага разу не апыналіся мы неабароненымі ад душэўнай млявасці. Не варта грэбаваць такімі блаславёнымі дарамі. Забраўшыся на вяршыню гэткага шчасця, што яшчэ знаходзіш ты? Здатнасць здабываць багата цудоўных сяброў, хоць колькасць іх не будзе вялікая, сяброў, якіх мы будзем горача любіць і аберагаць ад бескарыснай, непавучальнай шкоды аж да скончэння нашых жыццяў, і якія ў сваю чаргу таксама будуць любіць нас і ніколі не пакінуць, не засмуціўшыся дужа моцна, а гэта, не сумнявайся, куды лепей, больш памысна і весялей, як быць пакінутымі без усялякага жалю наогул. Я мімаходзь кранаюся гэтай шчымлівай лухты, няцяжка здагадацца, дзеля тваіх салодкіх успамінаў ці перад, ці пасля заўчаснага нашага адыходу; але нельга, каб гэта гняло цябе ў міжчассі. І яшчэ, з другога, светлага боку, каб ты трохі пажвавела, май на ўвазе цёпла і ўсцешна, што папярэднія нашы з'яўленні ўзычылі нам творчы талент, сурова нас абавязалі і ўганаравалі прывілеем, часта сумнеўным, прынесці яго сюды з сабою. Цяжка сказаць, што мы з яго зробім, але ён нязменна пры нас, хоць і марудна, трасца на яго, набірае сілу Я заўважаю, асабліва адчувальны ён пасля адбою, калі мазгі, несусветна смяхотныя, ужо ўлегліся ды паводзяць сябе належным чынам, і ўвесь увогуле досыць прыстойны дух твой у рэшце рэшт рахманы і нават не думае кудысьці мкнуць; бачыш, як у гэтай інтэрлюдыі дар тварэння грае ў дзівосным святле, пра што я казаў табе асабіста, Бэсі, мінулым травенем, калі мы разам міла і жвава мянташылі языкамі на кухні. Я назіраю таксама, як тая ж абнадзейлівая дзея адбываецца ў душы гэтае выключнае персоны і майго кампаньёна, якога вы далі мне ў браты Калі згаданае вышэй святло стаецца непераможліва моцнае, тады я іду спаць абсалютна пераананы, што мы, ваш сын Бады і я, кожнаю крывінкаю сваёю гэткія ж прыстойныя, неразумныя і людскія, як кажнюткі хлапчук або выхавацель у нашым лагеры, што мы надзвычай пяшчотна і смяхотна экіпіраваны тымі ж сімпатычнымі, паўсюднымі, невыноснымі заганамі. Божа мой, падумаць толькі пра тыя слаўныя магчымасці і тыя штурхялі, што чакаюць наперадзе, калі без драбка сумнення ведаеш, які ты ў глыбіні душы звычайны і нармальны! Маючы крыху стойкай прыхільнасці да небудзённае красы і крыху адданасці маральным падвалінам сэрца, хоць і яны не трываюць вечна, у спалучэнні з нашай нязломнай пэўнасцю, што мы такія ж нармальныя і чалавечыя, як і хто іншы, і ведаючы, што гэта — не проста высалапіць языкі, як іншыя хлопчыкі, падчас першага ў годзе, чароўнага снегападу, хто можа перашкодзіць нам зрабіць нешта добрае ў гэтае нашае прыйсце? І сапраўды, хто, я пытаюся, пры ўмове, што мы будзем выкарыстоўваць усе свае магчымасці і так ціха ісці, як гэта толькі магчыма? "Ціха! Ідзі наперад, але не кажы нікому!", як раіць незраўнаны Сянг Самдуп Цалкам слушна, штопраўда, выконваць параду вельмі цяжка і шмат каму агідна

Без утойванняў, бегла знаёмячы цябе з тым, што на левым прыходным баку рахунка, мушу, аднак, засмучана адзначыць, што вялікі адсотак вашых дзяцей, Бэсі і Лэс (калі





ты яшчэ не падаўся ў хол, шукаючы якой уцехі), маюць даволі жахлівую здатнасць адчуваць боль, які, уласна кажучы, не заўсёды іхні. Часам якраз ад гэтага болю ўхінаўся зусім не знаёмы нам чалавек, магчыма, лянівы дзяцюк у Каліфорніі ці Луізіяне, з якім мы нат не мелі прыемнасці стрэцца і перакінуцца словамі Гаворачы і за вашага сына Бады, і за сябе, я не бачу ніякага спосабу ўнікаць невялікага болю, тады-сяды, пакуль мы не выкарыстаем свае шанцы ды не выканаем свой абавязак, мы, у цяперашніх цікавых, фацэтных целах. Палова болю навокал, на няшчасце, цалкам належыць камусьці іншаму, хто альбо ўхіляецца ад гэтага болю, альбо не патрапіць учэпіста ўхапіць яго за тронкі! Аднак, ужыццявіўшы нашыя шанцы ды абавязкі, дарагія Бэсі і Лэс, даю вам слова, што мы адыдзем з чыстым сумленнем і ў гуморы, дзеля разнастайнасці, чаго поўнасцю мы ніколі ў мінулым не рабілі. Гаворачы зноў за вашага ўлюбёнага сына Бады, ён можа вярнуцца ў любы момант, яшчэ даю вам слова гонару, што адзін з нас будзе прысутны падчас адыходу другога, на тое розныя прычыны; такая, наколькі мне вядома, наша планіда Я не малюю змрочную карціну! Гэта ні ў якім разе не здарыцца заўтра! Асабіста я жыцьму, прынамсі, не меней за тэлефонны слуп, што добра захаваўся, гэта шчодры тэрмін у трыццаць (30) або і болей гадоў, з якога ніяк не выпадае кепікі строіць. Вашаму сыну Бады наканавана крочыць яшчэ даўжэй, як бязмежна радасна будзе вам уведаць. А ў гэты шчаслівы прамежак часу, Бэсі, калі ласка, папрасі Лэса прачытаць наступныя заўвагі, як альбо калі ён вернецца з хола ці любога іншага прыемнага месца, якое ён выбраў. Лэс, прашу цябе, будзь цярплівы з намі ў твой вольны час. З усіх сіл старайся моцна не трывожыцца і занадта не маркоціцца, калі мы не нагадваем табе вельмі адчочна і кранальна іншых добрапрыстойных хлопчыкаў, магчыма, хлопчыкаў твайго ўласнага дзяцінства. У частыя чорныя хвіліны хуценька выкрэсвай у сэрцы згадкі, што мы надзвычайна і ад галавы да пят добрапрыстойныя хлопчыкі, якія ўсяго толькі перастаюць быць дужа добрапрыстойнымі, калі здараецца нешта крыху важнае ці вырашальнае. Божа літасцівы, я поўнасцю адмаўляюся раніць вашы сэрцы далейшымі развназваннямі такога кшталту, але не магу сумленна сцерці ніводнае з папярэдніх, размашыстых, безгустоўных заўваг. Баюся, яны павінны заставацца ў сіле. Ды гэта і не зрабіла б вам добрай паслугі, калі б я сцёр іх. У вялікай ступені праз маю ўласную танную мяккасць і баязлівасць вы двойчы раней у папярэдніх увасабленнях не наважыліся твар у твар сустрэцца з падобнымі рэчамі; проста не ведаю, ці вытрымаў бы я ваш паўторны боль. Адкладзены боль — з тых найжахлівых, якія толькі можна адчуць. Каб вас трохі пацешыць, заткніце за пас некалькі вясёлых навін, якія прыўзнімуць настрой Асабіста ў мяне ад іх дух перахоплівае. Ці гэтаю зімою, ці зімою, што не замарудзіць прыйсці праз год, вы, Бэсі, Лэс, Бады і той, што падпісаўся ніжэй, усе мы пойдзем на вечарыну, якая багата чаго тоіць у сабе, на адну з самых важных для нас вечарын, дзе нам, разам, у гарманічнай кампаніі ці самотна, увогуле калі-небудзь надарыцца пабываць. Падчас гэтага прыёму гасцей, калі будзе ўладарыць вечаровы час, мы сустрэнем чалавека цяжкага, як гармата, які ў вольную хвіліну зробіць нам трошкі бесцырымонную, звязаную з нашай кар'ерай, дзелавую прапазіцыю, яна будзе датычыць нашага лёгкага, чароўнага спявацкага ды танцорскага ўмельства, але гэта далёка не ўсё, чаго яна будзе датычыць. Ён, гэты паўнацелы мужчына сваёй дзелавой прапазіцыяй не зменіць занадта сур'ёзна мернай, нармальнай плыні нашага маленства і ранняга, фацэтнага юнацтва, але магу вас запэўніць, што на паверхні ўзбурэнне будзе страшэннае. Аднак гэта толькі палова маёй відзежы. Уласна кажучы, калі па ўсёй шчырасці, другая палова куды бліжэйшая майму сэрцу і душы. Другая палова відзежы дзівосным чынам высвечвае яго, Бады, у іншы, пазнейшы дзень месяца праз нязлічоныя гады Зусім асірацелы — без маёй сумнеўна-прыемнай адданай кампаніі, піша ён пра гэтую самую вечарыну на вельмі вялікай, чорнай, як смоль, любата якой, шыкоўнай пішучай машынцы. Ён курыць цыгарэту, час ад часу сашчэпліваючы рукі і кладучы іх на макаўку галавы задуменна і знясілена У яго сівыя валасы; ён старэйшы, як ты цяпер, Лэс! Жылы на руках крыху выдаюцца ў прабліску відзежы, таму я ўвогуле нічога не казаў яму пра яе, трохі зважаючы на ягоны юны забабон наконт выпнутых жылаў на руках у небарак дарослых. Вось як яно. Вы маглі б падумаць, што такі асаблівы праблiск здатны працяць душу выпадковага сведкі наскрозь, зрабіць яго нагэтулькі бездапаможным, што ён аніяк не здолеў бы сабрацца з сіламі, каб абмяркоўваць мільгнуўшае са сваёй любай, талерантнай сям'ёй. Гэта не зусім той выпадак; галоўнае тут, зрабіць надзвычайна глыбокі ўдых,

засцерагчыся ад млоснасці самым простым, жыватворным сродкам. Братаў пакой — вось што кроіць мне сэрца найболей Гэта ўсе ягоныя юныя мары, ужыццёўленыя цалкам і поўнасцю! У столі ёсць адно з тых прыўкрасных вокнаў, якія, мне абсалютна дакладна вядома, заўсёды паланілі ягоную ўяву, калі ён чытаў пра іх. Паўсюль вакол Бады, у дадатак, дыстынктоўныя паліцы для ягоных кніг, прыладдзя, блакнотаў, вострых алоўкаў, вырабаў з чорнага дрэва, дарагой пішучай машынкі ды іншай вельмі каштоўнай для яго асабістай маетнасці. О, мой Божа, ён будзе ўзрадаваны немаведама як, убачыўшы гэты пакой, памятайце пра мае словы! Гэта адна з самых уцешных і ружовых відзежаў за ўсё маё жыццё і цалкам магчыма, з найменшаю доляю прыкрых дамешак. Скажу, не мудрагелячы, што я апынуўся б далёка ад праўды, сцвярджаючы, што гэта была ці не апошняя відзежа ў маім жыцці Аднак тыя дзве, здзекліва адчыненыя ў маім мозгу маленькія брамкі, пра якія я згадваў летась, пакуль не думаюць зачыняцца; шусне яшчэ год ці блізу года, і тады, праўдападобна, штось патане, а штось паўстане. Калі б гэта залежала ад мяне, я сам ахвотна зачыніў бы брамкі; толькі ў трох ці чатырох выпадках — у гэтым, прыкладам — пробліск адкрыцця варты таго, каб пашкуматаць звычную ўладкаванасць і блаславёную бязбурнасць душы, як і спакой бацькоў Але ўсё ж дужа прашу вас уявіць сабе, што за дзівота ўбачыць, як гэты хлопец, ваш сын Бады, пяцігадовы малы, які ўжо ажно згубіў галаву ад любасці да кожнага алоўка ў сусвеце, уміг перакінуўся ў сталага смуглявага літаратара! Як бы мне хацелася ўлегчыся на ўтульную аблачыну ў далёкай будучыні, магчыма, з добрым крамяным Паўночным разведчыкам* у руцэ ды чытаць кажнюсенькае слова, што ён піша пра гэтую багатую на падзеі і наступствы ў досыць блізкім часе, не зусім звычайную вечарыну! Спадзяюся, першае, што гэты адораны хлопец як цалкам даспелы смуглявы літаратар апісвае, гэта прыгожыя паставы нашых целаў у святліцы, калі мы вось-вось пакінем дом тым памятным вечарам Самы прыгожы момант на свеце ў даволі вялікай сям'і, што збіраецца на вечарыну або нават у выпадковую рэстарацыю, гэта памяркоўныя, паблажліва-нецярплівыя паставы ўсіх сямейнікаў у святліцы, бо ўсе чакаюць, калі ж нейкая маруда збярэцца! У думках я прашу чуллівага сівавалосага пісьменніка з аддаленай будучыні пачаць з прыгожых паставаў, у якіх перабываюць целы ў святліцы, з найпрыгажэйшай, на мой погляд, мясціны для пачатку! Слова гонару, я лічу, што ўся відзежа таго вечара ад пачатку да канца вартая ціхай умеркаванай радасці. Мне здаецца дзівосным, як душы, падобныя на файныя вольныя канцы троса, знаходзяць адна адну ў свеце, калі толькі чакаеш дастаткова цярпліва і з табой пругкасць духу і няўтрымна безразважная сіла. Лэс (калі ты вярнуўся з хола), я ведаю, ты ставішся з гумарам, хай сабе шляхетным, да веры ў Бога або ў Вышэйшую Боскую волю, ці якое падабраць слова, каб яно гучала меней напышліва і не бянтэжыла, але даю слова гонару сённяшнім спякотным памятным днём майго жыцця, што не закурыш і выпадковай цыгарэты, пакуль сусвет не дасць на гэта свой артыстычны шчодры дазвол! Магчыма, дазвол — занадта моцна але чыясьці галава мусіць згодна кіўнуць, перш як цыгарэта кранецца агню запалкі. І гэта, усёю істотаю шкадую, таксама, на жаль, занадта прыблізна. Упэўнены, Бог ласкава ўздзене на сябе чалавечую галаву, цалкам здатную ківаць, дзеля задавальнення якогасьці аматара падобных рэчаў, што любіць уяўляць Яго ў такім выглядзе, але я асабіста без прыхільнасці стаўлюся да ідэі пра тое, што Ён носіць чалавечую галаву, і, пэўна, павярнуўся б і пайшоў, калі б Ён надзеў якую дзеля майго сумнеўнага спажытку. Гэта, вядома, перабольшанне, я быў бы бяссільны адцурацца Яго, нягледзячы ні на што, нават пад пагрозай смерці.

Я сяджу тут, сабе на ўцеху, зусім неспадзявана, адзін у пакінутым бунгала, плачучы або рыдаючы, якое слова вам болей даспадобы. Гэта скончыцца праз момант, не сумняваюся, але надта сумотна і пакутна ўсведамляць падчас неабачлівых, стыхійных інтэрлюдый, які я малады зануда на працягу ад сямідзесяці пяці да васьмідзесяці адсоткаў пражытага мною дасюль жыцця Я моцна абцяжарваю вас, усіх да аднаго, бацькоў і дзяцей, вельмі даўгім нудным лістом, які літаральна перапоўнены высакамоўным патокам слоў і думак. Што да мяне самога, маёй віны тут меней, як можа здавацца; пад цяжарам мноства з'явішчаў хлопчыку майго сумнеўнага ўзросту і дасведчання нават вельмі проста стацца лёгкай здабычай напышлівага, дрэннага густу, зіхоткага збытку

* Гатунак яблыкаў.





і выстаўляння. Бог мне суддзя, я змагаюся з гэтым, але без найдасканалага настаўніка, да якога я мог бы звярнуцца з абсалютнаю вераю і нязмушанасцю, маё змаганне вымотвае з мяне кішкі. Калі ж найдасканалага настаўніка нямашака, ты абавязаны пасяліць такога ў сваёй душы; рызыкоўная, што й казаць, справа, калі нарадзіўся маладушным, як я Аднак уласна мяне мусіць бараніць тая акалічнасць, што цалюткі дзень я ляжу тут, малюючы ў думках вашы твары, Бэсі і Лэс, разам з непазбыўнымі, свежымі тварыкамі дзяцей, так што патрэба ў надзвычай моцным кантакце з вамі заканамерная "Прэч налыгачы! Волі — слава гучы!" — ускліквае незраўнаны Уільям Блэйк. Цалкам слушна, але не зусім суцяшальна для ўзорных сем'яў ды бездакорных людзей, якія трохі нервуюцца або так змучваюцца, што ледзь кеўляюць, калі іхні любімы старэйшы сын і брат тут пры кожнай нагодзе кляне налыгачы.

Прычына, па якой я зараз у ложку, даволі недарэчная, і я занадта доўга не згадваў пра яе, але яна не гэтак ужо займае мяне, як магла б. Учорашні дзень быў перасыпаны дробнымі непрыемнасцямі. Пасля снедання кожны Гном і Прамежкавы ва ўсім лагеры быў абавязаны пайсці ў суніцы, скарыстаўшы, магчыма, з апошняга сумнеўнага шанцу ў сезоне. Тою раніцай я параніў сваю злашчасную нагу. Мілі і мілі дабіраліся мы туды, дзе ёсць сунічныя лапінкі, на маленькіх, растрэсеных, старасвецкіх, адурэць можна, калёсах, ламачына, а не калёсы, у якія былі запрэжаныя двое, а не хоць бы чацвёра коней. З калодкі аднаго драўлянага кола вытыркаўся нейкі кавалак жалеза, і ён пракалоў маё сцягно на добрую цалю і тры чвэрці або і на дзве цалі, калі мы папіхалі ззаду гэтыя занядбаныя Богам калёсы, каб вывалачы іх з гразі; напярэдадні ліло як з цэбра,ператвараючы дарогу ў нешта кашмарнае для экспедыцыі па суніцы Упохапкі, як у жахлівай меладраме, мяне пасадзілі на задняе сядзенне таксама Богам забытага матацыкла містэра Гэпі, матацыкл паімчаў мяне да шпіталя, мілі тры назад. Тут мелася некалькі лёгкіх гумарыстычных момантаў. Па-першае і найгалоўнае, мне дужа няпроста, з жалем вымушаны прызнацца, змусіць сябе адчуць штосьці меншае за пагарду і гнеў у стасунку да містэра Гэпі асабіста. Я змагаюся з гэтым, але ён ажыўляе маю прыхаваную нянавісць, ад якой, здавалася мне, мая сістэма даўным-даўно вызвалілася. Дзеля ўласнае кволае абароны дазвольце высунуць думку, што трыццацігадоваму мужчыну ніяк не пасуе прымушаць малых, недалужных хлопчыкаў папіхаць праклятыя, дрэнь, а не калёсы, выцягваючы іх з гразі, тады як на добры лад патрабавалася праўдзівая запрэжка з чатырох ці шасці маладых вынослівых коней Мая злосць узвілася, як змяя. Я нагадаў яму, седзячы на матацыкле, калі мы былі гатовыя газануць назад, што Бады і я, ён гэта добра ведае, вопытныя, досыць таленавітыя спевакі і танцоры, як нашы бацькі, хоць пакуль усё яшчэ аматары. Я выказаў меркаванне, што ты, Лэс, верагодна ўзбудзіш супраць яго судовую справу і ён заплаціць спаўна, да апошніх сваіх дзесяці цэнтаў у тым выпадку, калі я застануся без маёй няшчаснай нагі ад інфекцыі, страты крыві ці гангрэны. Містэр Гэпі прыкінуўся, што не зважае ці не чуе бязглуздай лухты, якую я плёў; тым не меней, ад гэтага ён ніяк не стаўся лепшым кіроўцам і двойчы траха не ўтрупяніў нас, пакуль мы дабраліся да месца прызначэння Зрэшты — гэта выключна мой погляд — сітуацыя была смяхотная з самага пачатку Цуд дый годзе, я заўважаю, што ў забаўнай ці дастаткова смяхотнай сітуацыі кроў, праўдападобна, цячэ не гэтак моцна, як было б пры іншых акалічнасцях. Штопраўда, хоць мне падабаецца тлумачыць спыненне крывацёку гумарыстычнай сітуацыяй, мажліва, прычына ў тым, што праклятае сядзенне матацыкла ўпіралася ў параненае сцягно; увогуле, тыя часткі майго цела, у якія штосьці ўпіраецца, як правіла, вельмі пругкія, з прыемнай пульсацыяй Неаспрэчна толькі тое, што містэр Гэпі быў далёкі ад захаплення, убачыўшы кроў маладога летнікоўца, з якім яго звязваюць адно служба ды грошы, і як кроў расцякаецца па задняй частцы матацыкла, па сядзенні, коле, крыле ды па баках шыны. Не магло быць і гаворкі, каб ён уважаў яе за сваю; ён не палічыў бы нават кроў місіс Гэпі сваёю, дык як адчуў бы ён штосьці супольна чалавечае з крывёю дзівакаватага дзіцяці, чый твар пазначаны выразнымі, надта непрыгожымі, фацэтнымі рысамі?

У шпіталі, камічнай разніцы, зрэшты, цалкам верагодна, вартным і адмысловым, як мае быць, міс Калгэры, прамыўшы рану, зрабіла мне перавязку. Яна маладая дзяўчына і дыпламаваная медсястра, дакладнага ўзросту не ведаю, не адметная прыгажосцю або пагляднасцю, але з акуратненькім, ладным целам, якім надта настойліва імкнецца

авалодаць бальшыня выхавальнікаў і адзін-два студэнты старэйшых курсаў да таго, як ім трэба будзе вяртацца ў каледж. Баюся, гэта старая гісторыя. Міс Калгэры сціплая асоба, якая не мае ніякіх унутраных магчымасцей (або здольнасці), каб самой прымаць разумныя рашэнні. Пад мноствам мудрагелістых абалонак міс Калгэры хавае збянтэжанасць і страшэнную ўзбуджанасць з тае прычыны, што яна — адзіная наяўная ў лагеры прывабная кабета, місіс Гэпі на гэтую ролю не падыходзіць. Разважная, рахманая, з голасам, што гучыць у шпіталі вельмі кампетэнтна, яна робіць ураджанне асобы, якая ў самай казытлівай сітуацыі захавае прысутнасць духу, але гэта ўсяго толькі неймаверная, невыносная поза! Калі казаць проста, то гэтая маладая жанчына смела магла б згубіць сваю галаву яшчэ да таго, як нарадзілася; у цяперашні момант гульні, бясспрэчна, галавы на плячах у міс Калгэры нямашака. Толькі ейны падманлівы голас, нязменна халодны і кампетэнтны ў сталоўцы, як і ў шпіталі, не дае ёй канчаткова апынуцца ў кіпцюрах выхавальнікаў і вышэйзгаданых студэнтаў-старшакурснікаў, як на падбор маладых і вельмі здаровых, вельмі вульгарных у гурце і неміласэрна ўважных да ўспрыімлівых дзяўчат, асабліва, калі тым не ўласцівая класічная прыгажосць. Сітуацыя выклікае трывогу і неспакой, але рукі ў мяне звязаныя. Бачна з першага погляду, што міс Калгэры нічога ніколі не абмяркоўвала цалкам шчыра ні з сябрамі-дзецьмі, ні з дарослымі, так што ў гэтай справе да яе не падступішся; аднак, маючы наперадзе цэлы месяц жыцця ў лагеры, я асабіста не ручаўся б за ейную бяспеку, калі б яна была маё дзіця. Пытанне цнатлівасці, безумоўна, казытлівае пытанне; крытэрыі датычна гэтага прадмета, пра якія я пільна чытаў, зусім не бясспрэчныя і заслугоўваюць гарачых дыскусій, але не пра тое цяпер гаворка. Гаворка цяпер ідзе пра тое, што гэтая паненка, ёй, мабыць, гадоў дваццаць пяць, без жаднай сапраўднай галавы на плячах, ды ў спалучэнні з голасам, што гучыць падманліва кампетэнтна і як быццам сведчыць пра адменны, просты, здаровы клёк, не можа сама апекавацца з глыбокім асабістым гонарам і прадбачлівасцю гэткай важнай рэччу, як ейная пекная дзявочасць; вось да якое прагрэсіўнае ідэі я прыйшоў. Вядома, яна нічуць не лепшая і не больш бясспрэчная, на вялікі жаль, за прагрэсіўную ідэю любой іншай асобы на зямной кулі. Калі не стаяць на бязлітасна-пільнай варце, удзень і ўначы, дык ад разнабою прагрэсіўных ідэй, што нараджаюцца на свеце, лёгка з глуздоў з'ехаць; я не перабольшваю, урэшце, колькі можна карыстацца прагнілымі, ненадзейнымі крытэрыямі, дужа кранальнымі і людскімі, якраз такімі, каб іх даследаваць, шанаваць і трымацца, але гатовымі рассыпацца на кавалкі праз раптоўную змену хаўрусу або мінучасць абставін? Ты пытаешся ў мяне шмат разоў, Бэсі мілая, чаму я ганяю сябе як нейкага сабаку; хоць і часткова, але якраз таму я і ганяю сябе. Найперш, я старэйшы хлопчык у нашай сям'і. Падумай, як карысна, прыемна і хвалююча было б час ад часу адкрыць свой рот і пачуць штосьці іншае, а не ісцівую, перадавую, ненадзейную ідэю! На няшчасце, юны асёл, якіх пашукаць, я трошкі плачу, робячы такую заўвагу. На шчасце, прычына для плачу зусім дробная. Калі ты пасляшаешся з высновай, што нешта я разглядаю як асабістую думку (да прыкладу, страта або захаванасць дзявочай цнатлівасці), а штосьці як цалкам бясспрэчны, салідны факт, ты задаволішся вельмі прыемнай, легкадумнай высновай, але горка памылішся. Горка — занадта агульна, ты прамахнешся на мілю міма праклятай цэлі. Я ніколі не сустракаў цалкам бясспрэчнага, салiднага факта, які не быў бы, самае меншае, стрыечным братам, калі не яшчэ бліжэйшым сваяком, асабістага погляду. Уявім сабе, калі ты здатная вытрываць невялічкае кароткае тлумачэнне, што ты няспешна вяртаешся дадому з дзённага спектакля, дарагая Бэсі, і роўным голасам пытаешся ў асобы, якая адчыніла табе дзверы, у мяне, твайго дзівакаватага сына, Сімара Гласа, ці памыліся ўжо двайняты? Я ахвотна адкажу: але. Мая цвёрдая асабістая думка такая, што я ўласнаручна паклаў іхнія гнуткія целы, якія выслізгваюць з рук, у ванну і асабіста зрабіў націск на тым, каб яны карысталіся мылам, а не проста плюхаліся, заліваючы вадой усю падлогу. Мае юныя рукі і цяпер яшчэ мокрыя ад тых маіх абавязкаў Цягне за язык сказаць: вось бясспрэчны, салідны факт — двайнятаў пакупалі, як было задумана! Зусім не! Не ёсць неабвержны, салідны факт нават тое, ці дома цяпер двайняты! Мала таго, наважваюся сказаць, што ўзнікае моцнае сумненне, ці якія-кольвек цудныя двайняты са жвавымі язычкамі і смешнымі вушамі ўвогуле калі-небудзь з'яўляліся ў нашай сям'і! Бо ж дзеля сумнеўнага задавальнення назваць нешта на гэтым прыўкрасным і вар'яцкім свеце неабвержным, салідным фактам, мы, дабрадушныя вязні, мусім безагаворачна





абапірацца на крохкую інфармацыю, якую ўзычваюць нам, шчыра ў яе верачы, нашы вочы, рукі, вушы і да болю наіўныя мазгі. Вы гэта называеце дасканалым крытэрыем? Я — не! Гэта вельмі неблагі крытэрый, тут няма ні каліва сумнення, але ён вельмі-вельмі далёкі ад дасканалага. Гэтае абсалютна сляпое спадзяванне на кволыя асабістыя магчымасці! Ты знаёмая з выразам "сувязнае звяно"; нават чалавечы мозг — чароўнае "сувязнае звяно"! Я нарадзіўся без жаднага даверу да жаднага міражу пад назвай "сувязнае звяно" на паверхні зямлі, напэўна, так; ведама ж, незайздросная сітуацыя, але нішто не перашкаджае мне скарыстаць з хвіліны і расказаць табе вясёлую праўду пра гэтую рэч. Аднак тут мы значна бліжэй падыходзім да галоўнай нявыкруткі, якая жывіць заўсёднае забурэнне ў маіх недарэчных грудзях. Хоць я і не маю ніякага даверу да пасрэднікаў, асабістых думак ды неабвержных салідных фактаў, у той жа час у глыбіні душы ўсе яны мне дужа даспадобы; мяне бязмерна кранае адвага кожнай дзівоснай чалавечай асобы, што прызнае гэтую цудную, крохкую інфармацыю кажнюткі, невераемна шчымлівы міг свайго жыцця! Божа літасцівы, чалавечыя істоты — адважныя стварэнні! Найбольшы баязлівец на зямлі — і той, небарака, невыказна адважны! Уяві сабе, яны ўважаюць усе гэтыя асабістыя, крохкія сродкі за звонкую чыстую манету! І разам з тым, несумненна, гэта заганнае кола. Я журботна ўпэўнены, той, хто зламаў бы яго, зрабіў бы ласкавую і трывалую паслугу ўсім. Штопраўда, часта наракаеш на жахлівую сумятню ў звязку з гэтым. Нельга быць разлучаным больш са сваімі слаўнымі, каханымі роднымі, як тады, калі нават усяго толькі разважаеш наконт вышэйзгаданай далікатнай справы. На жаль, я маю на ўвазе і страшэнную сумятню вакол яе ў маім уласным выпадку; так, паспех звязаны з кароткачасовасцю майго цяперашняга з'яўлення. Маючы вельмі шчодры, але ў пэўным сэнсе мізэрны запас часу, пакінутага мне для гэтага жыцця, я шукаю вырашэнне праблемы, якое было б і ганаровым, і не сеяла паняверку. Тут, аднак, я выпускаю прадмет сваіх развагі, як тую гарачую бульбіну; я толькі трошкі закрануў адну з ягоных незлічоных праяў.

Пасля таго, як міс Калгэры вельмі кепска і смешна перавязала мне нагу, да таго ж размаўляючы са мною ў стрыманай, фальшывай кампетэнтнай манеры, якая магла б змусіць чалавека напіцца дап'яна, калі б той не валодаў пэўным самакантролем, яна адаслала мяне з пацешнай мыліцай у маё бунгала, каб я чакаў там доктара, які павінен быў прыехаць з Гэпварта, дзе ён жыве і мае сваю сумнеўную практыку. Ён, доктар, прыехаў неўзабаве пасля трэцяга пасілка ў сталоўцы і перавёз мяне назад у шпіталь, каб накласці мне на нагу адзінаццаць (11) швоў Непрыемная, ліха на яе, праблема, узнікла ў звязку з гэтым Мне прапанавалі абязбольвальны ўкол, але я ветліва адхіліў прапанову Адразу, найперш за ўсё, седзячы на праклятым матацыкле містэра Гэпі, я перарваў сувязь паміж болем у назе і мозгам, вылучна дзеля маёй зручнасці. Пасля маленькага здарэння, звязанага са сквічнай косткай і з губамі, што адбылося мінулым летам, упершыню я зноў ужыў гэты метад. Часамі ледзь не роспач бярэ, ці спатрэбіцца табе асаблівае, набытае табою ўменне больш як адзін раз, а мо і наогул не спатрэбіцца, але такі момант конча прыходзіць, калі ёсць трохі цярпення; у двух выпадках, як мы сюды прыехалі, я нават выкарыстаў выбленачны вузел*, а мне здавалася, што гэты мой навык змарнуецца без ужытку!

Калі я ветліва адхіліў анестэзію, доктар вырашыў, што я выстаўляюся, і містэр Гэпі, са свайго боку, падзяліў гэты бязглузды погляд. Як найдурны абэлтух, а я, запэўніваю, такі і ёсць, ідыёцкім чынам я прадэманстраваў, што поўнасцю спыніў перадачу болю Было б яшчэ дурней і нават зняважліва ў стасунку да іх сказаць ім проста ў іхнія фальшыва цярплівыя твары, што я лічу за лепшае не дазваляць ні сабе, ні любому іншаму дзіцяці ў сям'і пазбаўляцца ад прытомнасці па несур'ёзных дзеля такой падзеі матывах; перш, як працягваць гэтую тэму, стан чалавечай свядомасці сумнеўна каштоўны для мяне Пасля некалькіх хвілін палкіх, дурнотных дэбатаў з містэрам Гэпі я дабіўся лекаравай згоды на тое, што буду цешыцца поўнай свядомасцю, калі ён зашываецьме мне рану. Гэта недарэчна балючая для цябе тэма, Бэсі, ведаю з ранейшага досведчання, але магу цябе запэўніць, з гумарам кажучы, часамі мне надзіва зручна мець твар, які толькі маці можа любіць: чаго вартыя брыдкі, паганы нос і кволы, нядошлы падбародак! Калі б я быў ладным хлопчыкам, меў досыць прывабныя рысы, то цалкам

* Адзін з марскіх вузлоў.

пераканаaны, што мяне змусілі б пагадзіцца на анестэзію. Нічыёй віны тут нямашака, адразу гэта ведай, будучы чалавечымі істотамі са сваімі думкамі і мазгамі, мы адгукаемся на кожнае каліва красы, якое толькі можам угледзець, і я сам безнадзейна чуйны да яе!

Пасля таго, як мая нага была зашыта — Бады з-за яго юнага ўзросту не дазволілі назіраць за аперацыяй і ўвогуле быць побач са мною, мяне хуценька занеслі назад у бунгала і паклалі на мой ложак. Рэч у тым, што дзякуючы шчасліваму выпадку ўсе ложкі ў шпіталі былі занятыя; некалькім хлопчыкам з высокай тэмпературай і мне дазволена было заставацца ва ўласных бунгала, пакуль не вызваляцца ложкі ў шпіталі. Я лічу сітуацыю з ложкамі дарункам неба. У пэўным сэнсе, нават у некалькіх, гэта першы цалкам бестурботны, няспешны, паўнакроўны дзень, што я меў з таго часу, як я сышоў з цягніка, тое ж на ўсе сто стасуецца да Бады, містэр Гэпі дазволіў яму на працягу дня быць вольным ад усіх шыхтоў і глядзець мяне. Дазвол ён атрымаў з цяжкасцю, але містэр Гэпі вырашыў, што лепш, урэшце, даць яго, як твар у твар размаўляць з Бады, бо ў прысутнасці апошняга ён пачуваецца не надта нязмушана і не надта прыемна. Паміж гэтымі дзвюма асобамі — гара гумарыстычнай варожасці, часткова яна паўстала пасля панядзелкавай інспекцыі. Падчас той інспекцыі, асабіста я лічу яе неапраўданай, зняважлівай, непатрэбнай фатыгай, якую тут узвальваюць на кожнага малога, містэр Гэпі зайшоў у бунгала, калі мы стаялі па стойцы "зважай", і кінуўся сварыцца на Бады за тое, што Бады не запраўляе свой ложак так, як некалі рабіў ён, містэр Гэпі, тады — шараговы пехацінец, які дзеля нас цудам здолеў не прайграць усю тую праклятую вайну ўвогуле. Ён выплюхнуў на Бады некалькі непатрэбных абраз у маёй прысутнасці. Назіраючы за тварам вашага сына Бады, тварам, цалкам здатным, запэўніваю вас, бараніцца, я не ўтыкнуўся ці не ўмяшаўся ў тую грубую праборку. Я маю поўны давер да здатнасці гэтага хлопца абараніцца заўсягды, і той момант не быў выняткам. Зусім спакойна, якраз тады, калі містэр Гэпі даваў Бады прачуханку, бянтэжачы яго перад таварышамі па бунгала і калегамі па лагеры, Бады выдаў гэты гумарыстычны нумар са сваімі пекнымі, выразнымі вачыма, якія ўзялі ды закаціліся пад гожыя чорныя бровы, стаўшы безжыццёвымі, белымі і даволі страхотлівымі для таго, хто ніколі не бачыў, як мой брат гэта робіць. Шчыра кажучы, я сумняваюся, што містэр Гэпі калі-небудзь раней бачыў, каб хоць хто гэткае вырабляў. Устрывожаны і разгублены, самае меншае, містэр Гэпі ўмомант агледзеў ды праінспектаваў ложак Гнома Імінгтана, на які ён пераключыўся, ужо ніяк не дбаючы пра той, што стаяў побачкі, і нават забыўшыся ўзычыць вашаму моцнаму спадзяваннем на ўласныя сілы сыну хоць адну чародную дрэнную адзнаку за паводзіны! О, мой Божа, які дасціпны, цікавы хлопец на свой пяцігадовы ўзрост! Збярыце ўвесь свой гонар, малю вас, і шчодра ўскладзіце яго на гэтага малога хлопчыка! Ён восьвось прыйдзе і, мабыць, яму вельмі захочацца дадаць пару сваіх радкоў А тымчасам, калі ласка, не прасіце мяне, каб я пераконваў Бады хадзіць перад містэрам Гэпі на пальчыках; рэч не ў тым, каб хадзіць перад некім на пальчыках; рэч у тым, каб ведаць, калі ўжываць адмысловую вынаходлівасць дзеля абароны ўласнае асобы і справы ўсяго свайго жыцця ад непазбежных непрыяцеляў, не наносячы ім сур`ёзнае шкоды.

Бывайце на кароткі антракт у колькі дзён або гадзін! У мяне хопіць простае літасці і ветласці скончыць сваё пасланне, запэўніваю вас, бацькоў, як і дзяцей, што вы не ў меру, збыт добрыя і вартныя, каб мець такога апантанага сына, але што я магу зрабіць? Няможна выказаць словамі, як нам вас не стае. Гэта адна з рэдкіх у мяне магчымасцей пакарыстацца чалавечай мовай у згодзе з ейным прызначэннем. Бэсі, будзь ласкавая, май на ўвазе тую невялікую справу, пра якую ішла ўжо гаворка. А таксама прашу цябе, няхай поўны занепад тваіх душэўных сіл найчасцей здараецца паміж спектаклямі падчас гастроляў; сярод іншых прычын, абмяркоўваць якія цалкам вольна тут, зараз, я не маю ніякага права: калі ты не адпачыла і вельмі стомленая, тады менавіта ты наймацней жадаеш развітацца са сцэнаю. Малю цябе не спяшацца. Малю цябе гахнуць молатам толькі тады, калі жалеза, пра якое мы гаварылі раней, будзе адменна напаленае. У іншым выпадку, калі ты адмовішся ад выдатнай кар'еры ў бадзёрым дваццацівасьмігадовым узросце, і не істотна, колькі бліскучых творчых гадоў у цябе ўжо за плячыма, — ты не ў пару сапсуеш сабе лёс. У пару, няма сумневу, лёсу могуць быць нанесены аглушальныя ўдары, але не ў пару, на жаль, памылкі — рэч цалкам звычайная, і яны дорага абыходзяцца. Памятай пра нашую дзелавую і шчырую размову ў дзень, калі да нас прывезлі новую прыгожую пліту: акрамя таго часу, калі ты іграеш на сцэне альбо





занятая надта празаічнымі рэчамі цягам тых гадзін, пра якія я ўпамінаў, прашу цябе, настойліва старайся дыхаць вылучна левай ноздрай, а ў іншы час адразу ж дыхай правай. Пачні дыхаць з левай ноздры, калі ўпэўнілася, што пачала як след, адалікатна засунь кулак пад супрацьлеглую паху, злёгку прыціскаючы яго да цела альбо проста прыляж на некалькі хвілін на бок, супрацьлеглы задзейнічанай зараз ноздры. Запэўніваю цябе яшчэ раз, няма нічога дзіўнага, што ты робіш усё гэта з бязмежнай прыкрасцю, але калі твой нясмак будзе найбольшы, паспрабуй зняць капялюш перад Богам, натуральна, у думках, за дзівосныя складанасці чалавечага цела. Ці так ужо цяжка было б хутка, прачула салютнуць, ушаноўваючы гэтага невымернага мастака? Ці ж не ў вышэйшай ступені спакусліва зняць капялюш перад тым, хто аднолькава вольны выбіраць для сваіх дзеяў таемныя шляхі і шляхі зусім не таемныя? О, мой Божа, мы маем Бога дык Бога! Як я казаў тады, калі намі валодала свежая радасць ад новай кухоннай прылады, занятак з ноздрамі можна кінуць уміг, у той самы момант, як пачынаеш бачыць і знаходзіць адзіную апору ў Богу датычна дыхання, зроку, слыху і астатніх недарэчных функцый; аднак жа ўсе мы ўсяго толькі чалавечыя істоты, страшэнна няўважныя да гэткага роду апоры, калі ў нашыя паўсядзённыя клопаты не завітала роспач або напруга. Каб згладзіць гэтую нядбайнасць, і надта мілую, і лядачую, каб поўнасцю спадзявацца на Бога, мы павінны разлічваць на не дужа зручныя, хоць і разумныя, уласныя прыдумкі, аднак, яны не нашы ўласныя, гэта яшчэ адзін гумарыстычны, цудны бок справы; не дужа зручныя, разумныя прыдумкі — Ягоныя таксама! Гэта ўсяго толькі мой перадавы погляд на справу, але не проста нейкая імпульсіўная думка.

Калі рэшта майго ліста падасца табе занадта порсткая і сухая, будзь ласкавая, выбачай, я наважыўся дапісаць яго пад знакам эканоміі слоў і фразеалогіі, гэта якраз найслабое места ў маіх пісьмовых канструкцыях. Калі я гучу надта холадна і порстка, памятай, што гэта дзеля маёй уласнай практыкі і што сам я ані не чуюся холадна і порстка там, дзе гаворка пра вас — як пра бацькоў, так і пра дзяцей; зусім не!

Каб не выпала з памяці і каб трапіла ў гэтую сціслую фінальную частку ліста: я літаральна ўкленчваю перад табою, Бэсі, і малю, спявай сваім уласным разнасцежаным голасам, іграючы ў "Бамбаліна" разам з Лэсам! Малю цябе не спакушацца бяспечнымі, звычнымі манерай і гучаннем голасу — як быццам ты сядзіш на паганых нейкіх арэлях, у цэнтры сцэны, трымаючы ўгары прыгожанькі парасон; такое вельмі тонка і натуральна пасуе некаму накшталт Джуліі Сандэрсан, прыемнай акторцы, несумненна, але ты ў душы бурная, неўгамаваная персона, адтуль, з глыбіні крынічаць твая дужа прынадлівая ды мілая грубаватасць і файная жарсць! Лэс, калі ты зноў тут, у пакоі, я таксама пра нешта прашу цябе. Будзь ласкавы, вельмі старайся рабіць тое, што прасіў, каб ты рабіў, калі будзеш запісваць другую кружэлку: любыя словы або ферматы, якія вольна рыфмуюцца з "try" ці "my", ці "by" вельмі шкадлівыя і небяспечныя пры гэтай акалічнасці! Наперадзе крутыя павароты! Акрамя тых выпадкаў, калі ты спяваеш перад публікай або горача ці сярдзіта пра штосьці дыскутуеш каля сямейнага агменю, твой акцэнт, я запэўніваю цябе, ужо нельга вычуць, цалкам магчыма, нікому за выняткам мяне, Бады, Бу-Бу, альбо нейкай іншай асобы, надзеленай бязлітаснымі, як пракляцце, вушамі. Калі ласка, не зразумей гэтыя заўвагі няправільна. Я, асабіста, безнадзейна прывязаны да твайго акцэнту; ён проста надзвычай мілы. Аднак пытанне тут пра тое, як твой акцэнт гучыць для безлічы людзей, у якіх·няма часу ці жадання слухаць без прадузятасці; увогуле публіка ўспрымае французскі, ірландскі, шатландскі, акцэнт Паўдзённага Дыксі, шведскі, ідыш і колькі іншых акцэнтаў як досыць забаўныя і прыемныя самі па сабе, але пекны, непрыхаваны аўстралійскі акцэнт, здаецца, не дае асаблівых падстаў разлічваць на цёплае да яго стаўленне, практычна, ён на сто адсоткаў засцерагае ад гуляў у замілаванасць ды забаву. Сумныя справы, з агульнай тупасцю і снабізмам у падмурку, але ты мусіш браць іх у рахубу ў час запісу кружэлкі! Калі ты, магчыма, у стане зрабіць гэта без залішняй напругі, не стаўшы няшчасным, і табе не падасца, што ты крыўдзіш прыстойных, абаяльных аўстралійцаў твайго маленства ці пагарджаеш імі, будзь ласкавы, не пераносі свой акцэнт на кружэлку, хоць мы, сваякі, смакуем яго напоўніцу! Ты вельмі злуешся на мяне? Не трэба, прашу цябе, на мяне злавацца. Адзін-адзінюткі сябелюбны інтарэс у маім сэрцы, які датычыць гэтае сур`ёзнае справы, — тваё ўласнае, глыбокае, пакутлівае жаданне выдаць, нарэшце, хіт, які ўзварушыў бы кожнага. З належнымі прабачэннямі я ўдзячна кіруюся далей ад тэмы, якую дзёрзка закрануў; я люблю цябе, стары дружа.

Наступныя борздкія пасланні адрасаваны двайнятам і Бу-Бу. Аднак ласкава папрасі Бу-Бу прачытаць іх самой і абсалютна без помачы бацькоў, з чым яна цалкам здатная справіцца! Гэтая чароўная чарнавокая дзяўчынка патрапіць прачытаць, калі пастараецца!

Бу-Бу, практыкуйся ў напісанні поўных слоў! Мяне не цікавіць алфавіт сам па сабе! Не чапляйся за традыцыйныя адгаворкі! Не хавайся больш за хітрае апраўданне — свой юны ўзрост, заклінаю цябе! Не абвяшчай нам ізноў, што ад Марцін Брэйды ці Лоты Дэйвіла, або ад любога іншага знаёмага чатырохгадовага дзіцяці не патрабуюць чытаць і пісаць цалкам бегла. Я не іхні нягодны брат; я твой нягодны брат Некалькі разоў я даваў табе шчырае слова, што ад прыроды ты няшчадны, няўтольны чытач, зусім, як Бады і я; калі б ты такая не была, ахвотна, у адзін дух, я пазбавіўся б ад гэтай маёй нягоднасці, спаліў бы яе, як рыззё! Для няўтольнага чытача ранні старт з пяром, як і з вокам, вельмі пажаданы: З плюсаў, што будуць відочныя адразу, адзнач, якую невымоўную прыемнасць прынясуць тваім ашаломленым братам (часова на экзылі) паштоўкі, якія ты час ад часу дасылацьмеш! Калі б ты толькі ведала, як нам да густу, як цешыць нас твой почырк і неўяўляльны выбар слоў! Усяго толькі напішы ў сваёй звыклай манеры, друкаванымі літарамі на паштоўцы дватры словы ды бягом з ёю ў хол да паштовай скрынкі альбо дай пакаёўцы, якой захочаш. І вось што яшчэ, мая дарагая, мілая, незабыўная міс Бэатрыс Глас, калі ласка, у прыватным жыцці, як і на людзях, больш сачы за сваімі манерамі ды пільнуйся этыкету. Мяне куды меней хвалююць твае паводзіны на людзях, чымся тое, як ты трымаешся зусім адна ў пустым пакоі; калі ты выпадкова ўгледзішся там у самотнае люстра, няхай у ім адаб'ецца дзяўчына з бліскучымі чорнымі вачыма і з невераемнай тактоўнасцю!

Уолт, Бэсі перадала нам тваё пасланне. Нам было радасна атрымаць яго, хоць гэта і лухта, якой свет не бачыў. Нас так і цягне апраўдвацца сваім раннім векам. У тым, што камусьці тры гады, ні на панюх табакі нямашака падстаў, каб не рабіць тых простых рэчаў, пра якія мы гутарылі ў таксі па дарозе на вакзал; я глуха смяюся ў глыбіні часу са збітых расповедаў ды звычаяў, учэпіста звязаных з раннім, трохгадовым узростам! Па сутнасці, ты сам, напэўна, больш за любога, каго я калі-небудзь сустракаў, здатны сардэчна, глуха пасмяяцца з такіх замшэлых баек! Калі для практыкаванняў цяпер сапраўды занадта "пякельна горача", як паведамляюць, тады, прынамсі, насі свае чаравікі для чачоткі даволі стала, да прыкладу, калі падсілкоўваешся, хай яны будуць на тваіх нагах пад сталом, альбо калі пахаджаеш па нумары ці холе атэля, дзе вы спыняецеся; аднак, няхай яны будуць на тваіх незабыўных, магічных ножках самае малое дзве гадзіны ў дзень!

Уэйкар, тая ж просьба, цалкам нягодная і дэспатычная, як найлепей падыходзіць і да жангліравання ў гэтую гарачыню! Калі цяпер не па-людску спякотна гэтым займацца, дык хаця б насі задушлівым днём каторыя свае ўлюбёныя штуковіны для жангліравання, умеркаваных памераў, з сабою ў кішэнях. Я ведаю, Бады шчыра падзяліў бы маю задаволенасць, калі б вы, мае незраўнаныя хлопчыкі, раптам узялі ды назаўжды адмовіліся ад абранай кар'еры. Штопраўда, вы пакуль яшчэ не прыйшлі да такога рашэння, і да таго часу страшэнна неабходна, каб вы не адрываліся поўнасцю ад абранай вамі справы больш як на 2 ці $2^{1}/_{2}$ гадзіны запар! Да вашых чаравікаў для чачоткі і прадметаў для жангліравання трэба ставіцца як да неразважных, раўнівых каханак, што не могуць вынесці ніякага расстання з улюбёнай асобай, нават на 24 гадзіны. Твой бліскучы старэйшы брат і я, Бог сведкам, не даём сваім навыкам зацягнуцца бросняй тут, у гэтым лагеры, нягледзячы на незлічоныя перашкоды і цяжкасці. Калі гэта выхвалянне, то няхай Бог не паскупіцца на простую, элементарную ласку пакараць мяне самым суровым чынам, але гэта не таннае выхвалянне; я ўсяго толькі сцвярджаю, хлопчыкі, што вы абодва здатныя рабіць усё, што робяць вашы старэйшыя браты, наша ўласная неўраўнаважанасць, я запэўніваю, не меншая, як чыя б там ні была на зямлі!

Бу-Бу, я адчуваю да сябе штосьці мацнейшае за агіду, бо сказаў табе ўсяго адну рэч, і тая, да таго ж, прагучала нядобра і неяк непрыгожа. Няпоўная ж праўда вось якая: твае манеры і этыкет з кожным днём робяцца ўсё больш няўкорныя. А бубню я толькі пра адну-дзве неадпаведнасці, бо ты гэтак любіш мілыя, элегантныя рэчы і заўсёды аддаеш перавагу перада мною альбо Бэсі чытанню кніжак, населеных адменна выхаванымі, арыстакратычнымі, далікатнымі дзеткамі і дарослымі, зазвычай, англічанамі з іх як быццам бы вытанчанымі манерамі, з густоўнымі строямі і такімі ж вакол інтэр'ерамі, і гэткім жа неаспрэчна высокім класам ва ўсім астатнім. О, Божа, ты пацешнае, забаўнае дзеўчанё! Ты захопліваеш у палон сэрцы сваіх старэйшых братоў! Ты адна з тых рэдкіх асобаў, якія мне тады-сяды сустракаліся на вяку і якім, верагодна, сам Бог дазволіў нічога як след не дадумваць! Цудны, дзівосны дар, і нямашака ў мяне жаднага намеру пляваць у ягоны пекны твар, але зазначу, што ёсць яшчэ я, твой брат, з якім ты як адзін спарыш; лічу цалкам натуральным цябе запэўніць: калі б ты вырасла і ў глыбіні сэрца ведала, што твае ўзорныя, раскошныя манеры на людзях былі ўсяго толькі павярхоўным нейкім макіяжам, які ніколечкі не перашкаджаў табе быць, не раўнуючы, брудным свінчом адной, у сваім пакоі, пад назіраннем толькі ўласных вачэй, ты не мела б шмат уцехі, гэта цябе паціху раз'ядала б, як іржа.

Больш не буду тыраніць анікога! Бывайце здаровы ўсе замест інтэрлюдыі! Дасылаем вам нашыя аголеныя сэрцы!

З палёгкай і немалым задавальненнем я адкрыў, што маю яшчэ адзін стос паперы, пра існаванне якога не здагадваўся, а ў дадатак убачыў, што гадзіннік Грыфіта Гэмасміта, які Бады ласкава пазычыў дзеля маёй выгоды, не быў накручаны і зараз паказвае час учорашняга, а мо спякотнага пазаўчорашняга дня! Аднак маюся быць вельмі борзды і сціслы. Шчыра скажу, мая рука і палец так, як і вы, пачынаюць бунтаваць супраць памеру гэтага пісьма, якое я пачаў пісаць неўзабаве пасля світанку і якое мяне змушалі адкладваць усяго адзін-два падносы з ежай, на маю радасць. Святы Божа, як даспадобы мне раздолле вольнага часу! Зусім рэдкае, пры гэтых акалічнасцях.

Лэс, карыстаючыся аказіяй, і да таго, як вось-вось загучыць на поўную сілу праклятыя горн, склікаючы ў сталоўку падхарчавацца ў трэці раз, ды запануе гармідар, дазволь мне выказаць адну апошнюю просьбу ад імя абодвух тваіх старэйшых сыноў. Буду выключна сціслы. Калі пісьмовыя канструкцыі, якія ты неўзабаве чытацьмеш, атрымаюцца дужа некрасамоўныя, куртатыя і здадуцца табе занадта халоднымі ці нават ледзянымі, усяго толькі згадай, колькі твайго часу я ўжо спажыў; зараз я са скуры вылузваюся, ашчаджаючы твае і так расцвеленыя нервы.

Расклад вашых гастроляў, стары дружа, з таго часу, як ты ўзычыў яго мне, не разлучаўся з маім смешным целам. У гэты самы момант я кладу яго на пакровец ложка перад сабой для ўважнага вывучэння. 19 гэтага месяца ты і п'янлівая місіс Глас, дэман бегавой дарожкі і краса, вартая, каб у яе гонар вымаўлялі тосты на тысячах кантынентаў (я толькі аддаю належнае гэнай зграбнай шэльме), пакінеце тэатр у Корце, няхай ён квітнее сабе; і пакінеце дзеля Нью-Йорка, каб служыць музам у Элбі, чытай, у Брукліне. Божа літасцівы, як бы я хацеў, каб мы, твой сын Бады і я, маглі быць з табой, а замест нас двое іншых, зусім незнаёмых хлопчыкаў атрымалі гэтую магчымасць цягам усяго лета заставацца ўдалечы ад гарадскіх вуліц і ўдушлівай гарачыні цягнікоў, гасцінічных нумароў ды падобных "выгодных" прытулкаў. А вось, смешкі набок, і мая просьба. Як вы зноў утульна ўладкуецеся на Манхэтане, калі ласка, забяжы ў бібліятэку, звычайную тамтэйшую філію гарадское, і перадай нашы паклоны, як і нашу любоў, незраўнанай міс Овэрман. У вольны час, будзь ласкавы, папрасі яе звязацца дзеля нас з містэрам Уілфрэдам Дж. Л. Фрэйзарам, сябрам бібліятэчнай рады, каб мы змаглі яго злавіць на ягоным неабдуманым, сяброўскім, магчыма, безразважным слове, маю на ўвазе прапанову містэра Фрэйзара прысылаць нам з бібліятэкі любы неабходны матэрыял, пакуль мы ў ад'ездзе. Мне страшэнна не падабаецца звяртацца з просьбай да міс Овэрман, надта занятай персоны, каб узвальваць на сябе лішнюю турботу, але яна мае ягоны асабісты адрас на гэтае лета; ён не палічыў патрэбным даць яго нам перад нашым ад'ездам, магчыма, сумысля, з пэўным вясёлым прыцэлам! Калі б я мог не падбухторваць міс Овэрман ісці на гэтае злоўжыванне, то ахвотна так бы і зрабіў; мяне ніколькі не радуе мой замах на ейны вольны час; адвеку дружба на белым свеце моцна псуецца безліччу розных варункаў ды асабістых інтарэсаў, дылема, што й казаць, паганая, нягледзячы на выразны гумарыстычны аспект. Аднак, можа, ты коратка прыгадаеш ёй, што містэр Фрэйзар нібы з грому сам, асабіста прапанаваў нам гэную нязвыклую паслугу, ашаламіўшы нас, магу цябе запэўніць. Ён паабяцаў, што вышле любыя неабходныя мне кнігі персанальна ці дасць такое даручэнне, калі будзе па-за горадам, несумненна, маючы на ўвазе, што сябра або надзейны сваяк возьме на сябе паштовыя выдаткі. Але хопіць таптацца каля брамкі, вось прыблізны спіс кніжак дзеля зручнасці — тваёй і міс Овэрман; нас бы моцна ўсцешыла, калі б кнігі былі пасланы ў гэтым сумнеўным кірунку Містэр Фрэйзар не згадаў, колькі кніг ён пагодзіцца дасылаць нам, таму, калі я тут занадта смелы, будзь ласкавы, папрасі міс Овэрман падключыцца і паводле свайго слаўнага ўласнага меркавання скараціць спіс. Сцісла перадай наступнае:

"Гутарковая італьянская мова" Р.Дж. Абрагама. Гэта прывабная, патрабавальная асоба, наш добры сябра з далёкіх дзён вывучэння іспанскай мовы.

Усялякія, талерантныя або фанатычныя, кнігі пра Бога ці ўсяго толькі аб рэлігіі, напісаныя людзьмі, чые прозвішчы пачынаюцца з той ці іншай літары пасля "Г"; на ўсялякі выпадак, калі ласка, уключы таксама і "Г", хоць мне здаецца, у асноўным, я вычарпаў яе

Чароўныя, вельмі добрыя, проста цікавыя або хай сабе і пасрэдныя вершы, якія яшчэ не сталіся для нас занадта знаёмымі і непазбыўнымі, нацыянальнасць паэта не мае значэння. Досыць ладны спіс вычарпаных вершаў ёсць у маёй шуфлядзе ў нью-йоркаўскім неапраўдана знакамітым абсталяванні для заняткаў фізкультурай, калі толькі вы не кінулі тамтэйшае памяшканне ды не паслалі ў тартарары ўсю яго маетнасць у апошнюю хвіліну; вы зусім забыліся сказаць нам наконт гэтага ў сваіх лістах, а я не палічыў патрэбным папытацца ў вас падчас таго незабыўнага, хвалюючага тэлефанавання з Ля Саль.

Яшчэ раз збор твораў графа Льва Талстога. Гэта не складацьме жаднай нязручнасці для містэра Фрэйзара, гэта будзе нязручнасць для сардэчнай сястры міс Овэрман, таксама страшэнна прыгожай, упэўненай ў сваіх сілах старой дзеўкі, пра якую міс Овэрман згадвае, вельмі кранальна, не іначай, як "мая малодшая сястрычка", хоць румянак юнацтва даўно знік са шчокаў апошняй. Яна, малодшая міс Овэрман, мае поўны збор твораў графа і, пэўна, пагодзіцца зноў пазычыць яго нам, ведаючы ўжо наш рупны, належны клопат пра кнігі, давераныя сябрамі. Калі ласка, адзнач, але не ўгнявіўшы ніводнай з гэтых уражлівых жанчын, каб яны не пасылалі зноўку "Уваскрэсенне" або "Крэйцэраву санату" ды, магчыма, і "Казакоў", інтэнсіўнае перачытванне гэтых шэдэўраў не ёсць неабходнае ці пажаданае. Не перадавай ім тое, што я зараз скажу, бо гэта не зусім пад іхні густ, але асабліва нам хочацца ўзнавіць наша знаёмства са Сцяпанам і Долі Аблонскімі, якія літаральна захапілі нас, нашы сэрцы, нашу чалавечую прыроду і ейную прыхільнасць да ўцехі, калі мы апошні раз сустракаліся з імі; гэтыя героі, муж і жонка, "Ганны Карэнінай" найцудоўныя сваёй існасцю. Бясспрэчна, малады задуменны герой кнігі таксама проста зачароўвае, як і ягоная каханая — будучая жонка, слаўнае дзяўчо, па сутнасці; аднак надта яны яшчэ недаспелыя; куды больш дарэчы тут выглядаў бы абаяльны авантурыст з простай, шчырай добразычлівасцю ў сэрцы і пячонках.

"Малітва Гаятры", невядомага аўтара, пажадана з гулкімі словамі арыгінала побач з ангельскім перакладам; надта прыгожа, узвышана і асвяжальна. Дарэчы, адна істотная рэч, што тычыцца Бу-Бу, каб не забыцца. Бу-Бу, цудоўнае маё дзіцятка! Адмоўся цалкам ад часовай малітвы перад сном, якую ты папрасіла даць табе. Замяні яе новай, калі яна адразу ж прыйдзецца табе даспадобы, новая малітва вельмі адпавядае тваім цяперашнім пярэчанням супраць слова "Бог". Няма на свеце такога закона, які абавязваў бы карыстацца словам, што ў дадзены момант камень спатыкнення для цябе. Паспрабуй паўтараць наступнае: "Я малое дзіця, якое збіраецца ісці спаць, як заўсёды. Слова "Бог" цяпер для мяне што бяльмо на воку, бо гэтае слова зазвычай ужываюць і шануюць, магчыма, з глыбокаю верай, дзве мае знаёмыя дзяўчынкі, маленькія Лота Дэйвіла і Марджэры Гэрцбэрг, якіх я лічу даволі-такі нікчэмнымі, ды і манюкамі несусветнымі. Я звяртаюся да безназоўнага Крытэрыя, найлепей без формы або смяхотных атрыбутаў, які заўжды быў добры і досыць сімпатычны, каб не пакідаць мяне адну на велічнай і кранальнай пуцявіне людскога жыцця-быцця. Дарагі Крытэрый, дай мне якія-небудзь слушныя, разважныя інструкцыі на заўтра, і якраз тады, калі я спацьму. Неабавязкова, каб я ведала, што гэта за інструкцыі, аднак, пакуль даспявае мой розум, з захапленнем і ўдзякаю я паклала б іх у кайстру. А часова меркавацьму, што гэтыя інструкцыі выявяцца моцнымі, эфектыўнымі, абнадзейвальнымі ды надта дзейнымі пры ўмове, што я захаваю ў сваёй душы супакой і пустэльнасць, у той манеры, што прапанаваў мой самаўпэўнены старэйшы брат". У заключэнне скажы "Амін" або проста "Дабранач", слова, што заўсёды табе даспадобы і здаецца шчырым ды непасрэдным. Вось усё, што я здолеў прыдумаць у цягніку, але прыхаваў, каб прадоўжыць гэтую малітву пры першым зручным выпадку. Аднак ужывай яе толькі ў тым выпадку, калі яна не выклікае ў цябе непрыемнага пачуцця! Звяртайся з ёю так вольна і палка, як пажадаеш! Калі штосьці ў ёй цябе адштурхоўвае ці бянтэжыць, адкладзі без драбка жалю і чакай, пакуль я не вярнуся дамоў і нанова як след яе не перагледжу! Не думай, што я ніколі не памыляюся! Спатыкаюся і я!

Спіс для містэра Фрэйзара далей працягваецца наўдачу:





"Дон Кіхот" Сэрвантэса, два тамы зноўку, калі не завялікая турбота; гэта — геній, вышэй за дзяжурнае ці таннае параўнанне! Я маю спадзёўку, што міс Овэрман адправіць іх асабіста, а не звяртаючыся да містэра Фрэйзара, бо, баюся, ён проста не здатны паслаць нам стварэнне генія без свайго каментара ды дзівацкай, паблажлівай ацэнкі У знак пашаны да Сэрвантэса я жадаў бы атрымаць гэты твор у мяшку для пошты без бескарысных дыскусій ды іншай непатрэбнай лухты.

Раджа-Ёга і Бхакці-Ёга, два фантастычныя, зручныя для карыстання, маленькія томікі, адмыслова для кішэняў звычайных, мабільных хлопчыкаў нашага ўзросту, аўтарства Вівекананда, Індыя. Гэта адзін з самых хвалюючых, арыгінальных і дасведчаных гігантаў нашага стагоддзя, з якімі я сутыкаўся; для майго сэрца ён ніколі не стане цесны ці вузкі, або вычарпаны, пакуль я не скаваю, запомні мае словы; я з лёгкасцю аддаў бы дзесяць гадоў жыцця, а можа, нават болей, калі б толькі змог паціснуць яму руку ці хаця б сказаць сціслае, паважлівае "дзень добры" на якой-небудзь шматлюднай вуліцы ў Калькуце або ў якім іншым месцы. Ён дасканала, намнога лепей за мяне валодаў ведай, як і калі ўключаюць тое ці іншае Святло, пра якое я згадваў раней. Хочацца спадзявацца, што ён не палічыў бы мяне празмерна мітуслівa-зямной і пачуццёвай асобай! Гэтая д'ябальская думка часта трывожыць мяне, калі ягонае валатоўскае імя ўсплывае падчас маіх разважанняў; дужа загадкавае і журботнае перажыванне; як было б слаўна, калі б паміж аскетычнымі і пачуццёвымі насельнікамі сусвету былі цяплейшыя, заснаваныя на супольным грунце, узаемадачыненні. Мяне дрэнчаць такога роду разыходжанні; я проста не ведаю, як вытрываць, і гэта яшчэ адзін пагрозлівы знак маёй неўраўнаважанасці.

Для першага знаёмства альбо дзеля ўзнаўлення знаёмства — як найменшага фармату выданні наступных геніяў і талентаў:

Чарльз Дзікенс, ці ў выглядзе блаславёнага збору твораў ці ў любой іншай форме або кшталце. Святы Божа, я вітаю цябе, Чарльз Дзікенс!

Джордж Эліэт, аднак не ў поўным аб'ёме. Будзь ласкавая, перадай гэтае пытанне міс Овэрман або містэру Фрэйзару на вырашэнне. Паколькі міс Эліэт, калі па праўдзе, не надта блізкая маёй душы і сэрцу, тое, што я давяраюся меркаванню міс Овэрман ці містэра Фрэйзара, дае мне яшчэ і шчымліва неабходны шанц прадэманстраваць ветласць ды паважлівасць, належную ў маім смешным узросце, не плацячы за гэта занадта дорага. Даволі агідная думка, якая ўпрытык мяжуе з камбінатарскай разважлівасцю, але я нічога не магу зрабіць з сабой. Няёмка прызнацца, але мяне вельмі трывожыць маё бесчалавечнае стаўленне да ненадзейнай парады. Я намагаюся з усіх сілаў выпрацаваць адпаведны такой сітуацыі падыход, адначасна чалавечны і прымальны для мяне.

Уільям Мэйкпіс Тэкерэй, не цалкам. Зрабі ласку, папрасі міс Овэрман, каб містэр Фрэйзар выбраў творы асабіста. Вялікіх страт мне гэта не прычыніць, маючы на ўвазе тыя дзве кнігі Уільяма Мэйкпіса Тэкерэя, што я ўжо чытаў Як і міс Эліэт, ён выдатны мастак, але бачу, што не магу зняць перад ім капялюш з пачуццём бязмежнай удзякі, і таму ёсць яшчэ адна добрая, агідная магчымасць даверыцца асабістаму густу містэра Фрэйзара. Я цяпер дэманструю свае нікчэмныя слабасці ды разлікі проста ў вочы любімым бацькам і малодшым братам з сястрою, я гэта ўсведамляю, але мае рукі звязаныя; апроч таго, я не маю жаднага права, якое дазваляла б мне здавацца мацнейшай асобай ці юнаком, як я ёсць папраўдзе, а я не надзелены страшнаю сілаю, зусім не!

Джэйн Остэн, поўнасцю альбо ў любой форме ці кшталце, за выняткам "Гордасці і прадузятасці", што ўжо ў нас маецца. Не буду болей турбаваць сумнеўнымі заўвагамі геній незраўнанай дзяўчыны; я і так параніў пачуцці міс Овэрман, адмовіўшыся пра гэтую дзяўчыну размаўляць, але мне бракуе нават прасцюткае прыстойнасці як след пашкадаваць пра гэта. У найгоршым выпадку, я згадзіўся б сустрэцца з кім-небудзь у Роўзынз, але я не магу ўступаць у дыскусію пра жаноцкі геній, нагэтулькі вясёлы, зіхоткі і блізкі мне; я рабіў такія-сякія кволыя чалавечыя спробы, але нічога вартнага яны не ўяўлялі

Джон Баньян. Калі я станаўлюся занадта лаканічным ці сціслым, будзь ласкавая даравваць, бо я хачу як найхутчэй скончыць гэты ліст. Кажучы поўную праўду, я не дужа высока цаніў яго, калі быў меншы, бо ўважаў, што ён не надта схільны даваць сваім героям пару асабістых слабінак, такіх, як лянота, сквапнасць ды многія іншыя, прывілей мець некалькі колкіх, ажно пакутлівых, сумненняў; я сам сустракаў на дарозе жыцця не адзін дзесятак бліскучых, абаяльных чалавечых істотаў, што ажно млеюць ад лайдацтва,

але застаюцца тымі чалавечымі істотамі, да якіх звяртаешся ў патрэбе, як і цудоўнымі, жыццядайнымі кампаньёнамі дзецям, возьмем да прыкладу таго ж нядбайнага, дзівоснага Гэрбза Каўлі, якога выганяюць то з адной то з другой дробнай, паслужніцкай тэатральнай працы! Ці быў такі выпадак, каб лянотны Гэрбза Каўлі не выручыў сваіх сяброў? Ці ж ягоны гумар і жыццярадаснасць не лагодзяць і не падбадзёрваюць падарожных, што спатыкаюцца з ім? Няўжо Джон Баньян думае, што Усявышні мае больш як дзіўнае, прадузятае стаўленне да такіх рэчаў, каб прымаць іх пад вельмі зычлівую ўвагу ў Судны дзень, які, на мой прагрэсіўны погляд, досыць рэгулярна бывае ў людзей? Перачытваючы Джона Баньяна нанова, я маю намер аддаць натуральнаму, прывабнаму генію гэтага мастака большую даніну прызнання і любасці, але, баюся, ягонае светаадчуванне будзе для мяне заўсёдным бяльмом на воку Ён занадта, страшэнна суровы для мяне. Вось дзе прыходзіць на помач грунтоўнае, асабістае перачытванне кранальнай, цуднай Святой Бібліі, якая шчыра аберагае наш здаровы розум у чорную пару, непараўнальны Ісус Хрыстос, шчыра радзячы наступнае. "Дык вось, будзь дасканалы, як твой Айцец, які на небе, ёсць дасканалы" Абсалютна правільна; я не знаходжу тут нічога няслушнага, зусім наадварот; аднак, Джон Баньян, хрышчоны ваяр Хрыстовай царквы, несумненна, думае, відаць, што высакародны Ісус Хрыстос казаў наступнае: "Дык вось, будзь беззаганны, як твой Айцец, які на небе, ёсць беззаганны!" Святы Божа, такой недакладнасці свет не бачыў! Ці ж нехта нешта казаў пра беззаганнасць? Дасканаласць — зусім іншае слова, шляхетна пакінутае дзеля дабра чалавечай істоты вісецъ велічна, як сцяг, на працягу стагоддзяў! Гэта тое, што я называю хвалюючым, разумным дрэйфам або адхіленнем ад курсу Мой Божа, я шчыра ўхваляю невялікі дрэйф, бо інакш гэтая праклятая гульня скончана! На шчасце, мой асабісты прагрэсіўны погляд, які грунтуецца на сумнеўнай інфармацыі ненадзейнага мозгу, такі, што гульня ніколі не бывае праклятая і ніколі не заканчваецца, калі здаецца неймаверна праўдзівым якраз супрацьлеглае, папросту трэба ізноў сабрацца са сваімі тытанічнымі сіламі і перагледзець пытанне, магчыма, па горла ва ўласнай крыві ці ў падманлівай, невуцкай тузе, не шкадуючы ладнага, прыстойнага кавалка часу, прыгадаць, што нават дасканаласць нашага велічнага Бога пагаджаецца з кранальнай колькасцю прыкрых дрэйфаў, возьмем хоць бы голад, заўчасны, як нам падаецца, скон, малых дзяцей, гожых кабет і спадарынь, доблесных, непахісных мужчын ды незлічонае мноства іншых ашаламляльных з пункту гледжання чалавечага розуму неадпаведнасцей. Зрэшты, калі я працягвацьму ў такім плане, дык, бадай, цвёрда адмоўлюся ўшанаваць гэтым летам несмяротнага пісьменніка Джона Баньяна добрасумленным паўторным чытаннем Без затрымкі пераходжу да наступнага ў гэтым бязладным спісе аўтара

Уоік Дзіпін; яго не надта абнадзейліва, але настойліва рэкамендаваў мне якісьці вельмі сімпатычны чалавек у цэнтральнай бібліятэцы. Нягледзячы на тое, што наступствы часта бываюць проста жахлівыя, я абсалютна і, пэўна, нязменна супраць ігнаравання кніг, што ад сэрца рэкамендуюць дужа прывабныя знаёмцы і незнаёмцы; гэта занадта рызыкоўна і не па-людску; апроч таго, наступствы часта прыкрыя на даволі файны лад.

Сёстры Брантэ зноў; непаўторныя дзяўчаты! Прашу цябе мець на ўвазе, што Бады ўжо дачытаў да сярэдзіны "Вільет", лёгкую, займальную кніжку, калі прыйшла пара збірацца ў лагер; гэты ўвішны чытач, як ты выдатна ведаеш, не пераносіць ніякіх пярэрваў, апроч цалкам непазбежных! Тут можна прыгадаць і тое, што ягоная пачуццёвасць вельмі рана прачынаецца; дужа няпроста саўладаць з фізічнай хэнцю да гэтых асуджаных конам дзяўчат. Праўда, сам я ў мінулым ніколі не адчуваў да Шарлоты якой-небудзь пажадлівасці; аднак зараз, у рэтраспектыве, ейныя жаночыя вартасці паўстаюць у надзіва прывабным святле.

"Кітайская "Materia Medica", аўтарства Портэра Сміта, старадаўняя кніга, якая амаль што выйшла з ужытку, мабыць, у ёй багата памылак і яна трохі раздражняе, і ўсё ж я з ахвотай цішком перагартаю яе і, калі яна здасца мне таго вартая, дам пачытаць твайму бліскучаму сыну Бады ў якасці невялічкага сюрпрызу. Цалкам верагодна, што ты нават не падазраеш, колькі незапатрабаваных ведаў пра ўсялякія зёлкі і цудоўную флору гэты хлопец прынёс з сабой, галоўным чынам у сваіх, падобных на рыдлёвачкі, пальцах, з ранейшых з`яўленняў; калі гэта толькі не будзе перашкаджаць справе ягонага жыцця, нельга, каб гэтыя зачараваныя веды зглуміліся без карысці! Я, старэйшы за яго на два гады, ягоны старанны, недасведчаны вучань у такіх рэчах! Нягледзячы на частаванне





Грыфіта Гэмасміта і мяне тымі дзівоснымі прысмакамі, ён проста не здольны сарваць нявінную краску, не агледзеўшы ды не панюхаўшы ейнае карэнне, ды не змачыўшы яго трохі слінай, каб ачысціць ад зямлі; расліны гучна жаляцца гэтаму хлопчыку, ведаючы, што ягоныя рэдкасныя вушы іх пачуюць! Сумна казаць, але мізэрная колькасць кніг на гэтую тэму, пераважна ангельскіх, абцяжарана недакладнасцямі, самападманам ды вартымі шкадавання забабонамі, а таксама бязмерным перабольшаннем ролі валадарнага Крытэрыю! Дык давайце ж мы, сямейнікі, што пяшчотна яго, Бады, любяць, звернемся з пэўнай надзеяй і ў добрым настроі да вандроўнага кітайца, які шчодра дзеліцца з высакародным індыйцам шырокімі, смелымі поглядамі на чалавечае цела, дыханне ды сваімі думкамі наконт неверагоднай розніцы паміж левай і правай часткамі цела. Кніга Портэра Сміта крыху падбадзёрвае ды абнадзейвае, каб ісці далей, ведама, пры ўмове, што аўтар уклаў душу і сэрца ў бязмежны абсяг сваёй тэмы, што ён не яшчэ адзін прыкры, прэтэнцыёзны дылетант, якога клапоціць толькі тое, каб заняць утульную нішу ў навуцы, але не дазваляй мне батожыць гэтага аўтара без папярэдняга добрага, прыстойнага суда!

У адпаведным аб'ёме, вазьмі ў рахубу мітусню і тлум жыцця ў летніку, калі ласка, прышлі наступных французаў, дзеля практыкі або чыстай уцехі, у залежнасці ад магнетызму кожнага паасобнага аўтара. У даволі вялікай колькасці, калі ласка, прышлі кнігі Віктора Гюго, Гюстава Флабэра, Анарэ дэ Бальзака ці проста Анарэ Бальзака, бо апошні самавольна дадаў сабе арыстакратычнае "дэ", сыходзячы з кранальных, смяхотных матываў, без жаднага ўганаравання ці дазволу. Гумарыстычная прага арыстакратызму на гэтым свеце невынішчальная! Зрэшты, на маю перадавую думку, не такі ўжо гэта і гумар. Аднойчы, прыемным дажджлівым днём, маючы на тое ахвоту, даследуй вантробы любой паспяховай рэвалюцыі ад пачатку гісторыі; калі ў глыбіні душы кожнага слыннага рэфарматара ты не ўбачыш, як асабістая зайздрасць, рэўнасць, нястрымнае імкненне самому стацца арыстакратам пад новай, хітрай маскай бягуць навыперадкі з жаданнем, каб ежы было болей, а жабрацтва меней, я ахвотна адкажу перад Богам за гэты шчыры, цынічны погляд. Бяда, але я не ведаю, як адразу можна выправіць гэтую сітуацыю

У меншым аб'ёме, таксама па-французску, дзеля практыкі або чыстай уцехі, разнастайныя выбраныя творы Гі дэ Мапасана, Анатоля Франса, Марціна Лепэра, Эжэна Сю Калі ласка, папрасі міс Овэрман папрасіць містэра Фрэйзара не ўкладваць ніякіх біяграфій Гі дэ Мапасана, па памылцы або сумысля, асабліва ж тых, што належаць пяру Эліз Зухард, Роберта Курца ды Леанарда Бэланда Уокара, якія я ўжо чытаў з невыказным болем і жалем, і не хачу, каб наш Бады чытаў іх з болем і жалем у такім раннім веку Як прыроджаныя юрліўцы, баюся, што гэта так, мы адчуваем патрэбу ў кожным салідным, грунтоўным папераджальным знаку, які толькі здатныя здабыць, на тэму пачуццёвасці, але ні ваш сын Бады, ні я зусім не маем намеру гінуць ні ад мяча, ні ад фаласа; мы цвёрда наважыліся ўзяць за шчэлепы праблему пачуццёвасці, даю табе слова гонару; тым не меней, я рашуча адмаўляюся лічыць Гі дэ Мапасана ўдалай ілюстрацыяй злоўжывання пачуццёвасцю, хоць гэта і вельмі спакуслівa. Калі б ён не злоўжываў сваім мужчынскім органам, дык злоўжываў бы чым-небудзь іншым. Я не давяраю вам, масье Мапасан! Я не давяраю ні вам, ані якому іншаму вялікаму пісьменніку, які чэрпае дзень у дзень натхненне і поспех з нізкае іроніі! Мая недаравальная непрыязнасць цалкам датычыцца і вас, Анатоль Франс, вялікі іраніст! Мой брат і я, як і незлічонае мноства іншых людзей, вашых чытачоў, прыходзяць да вас з непадробнаю вераю, а вы нас аплявушваеце! Калі гэта лепшае, што вы можаце зрабіць, дык майце элементарную прыстойнасць забіць сябе альбо ласкава спаліць вашы цудадзейныя пёры!

Спадзяюся, ты прабачыш мне гэты варты жалю нервозны выбух; так, ён проста недаравальны, ніякія прабачэнні немажліва прыняць поўнасцю, але ж маё рэзка адмоўнае стаўленне да ўсеагульнай іроніі ды аплявух добра вядомае; я спрабую яго змякчыць, не сумнявайся, але з даволі нікчэмным поспехам. Звернемся лепш да іншай, не такой безнадзейнай тэмы і працягнем спіс. Будзь ласкавая, папрасі міс Овэрман прыслаць Марселя Пруста, як апошняга француза, усяго. Бады яшчэ не зведаў бурнай, навальнічнай сустрэчы з гэтым нязручным, разбуральным геніем сучаснасці, але зараз борзда шукаецца да яе, не зважаючы на свой юны ўзрост; я ўжо трохі падрыхтаваў яго ў нетрах цэнтральнай бібліятэкі шматлікімі бліскучымі ўрыўкамі, як вось наступны, з нясцерпна

балючага "A l'Ombre des jeunes Filles en Fleurs", наш хвацкі чытач палічыў вартым вывучыць яго на памяць. "On ne trouve jamais aussi hauts qu'on avait esperes, une cathedrale, une vague dans la tempete, le bond d'un danseur". У адно імгненне гэты хлопец дасканала пераклаў кожнае слова за выняткам "vague", што дакладна азначае "акіянская хваля", які "захоплены прыгажосцю"! Калі ён дастаткова сталы, каб яго змагла захапіць прыгажосць непараўнальнага дэкадэнта-генія, ён павінен быць цалкам гатовы паставіцца спакойна і памяркоўна — да юрлівай вычварнасці ды гомасексуалізму; тым болей, што і ў летніку гэтага не так і мала, асабліва сярод Прамежкавых. На маю думку, нямашака ніякіх падстаў для фальшывага, невідушчага далікацтва вакол гэтых рэчаў. Але крый Бог табе ўнушыць містэру Фрэйзару думку, нібыта я прапаноўваю якую-небудзь кнігу Пруста дзеля пажытку Бады. Наперадзе круты паварот! Улічваючы юны ўзрост Бады, містэр Фрэйзар не ўзняўся б вышэй таго, каб выкарыстаць такія факты ў выпадковай размове, ды пацешыць або моцна зацікавіць сяброў, бо ў ім жыве неўтаймаваная пасія быць цэнтрам агульнага інтарэсу падчас размовы! Гэткая падзея, калі б яна адбылася, запэўніваю цябе, паволі рабіла б нам зло, ушчэнт падкопваючы ўсё нашае прыватнае, таемнае ўдасканальванне, якім мы займаемся пад выглядам бяскрыўдных, узорных хлопчыкаў у самых небяспечных, бязлітасных публічных месцах! Хаця ён надзвычай добры ў душы, спагадлівы і адмыслова адукаваны, але язык у яго такі, што містэр Фрэйзар мог бы ім аперазацца, будзь упэўненая. Славалюбства адыгрывае тут нязначную ролю; страта індывідуальнасці ў раннім веку спрычынілася да гэтага куды болей. Удумлівы, адмыслова адукаваны чалавек, ён здатны бессаромна недалікатна выкарыстоўваць свабодную дзіцячую асобу ў якасці забаўнай тэмы для размовы, бо гэта сумная, бязлітасная праўда, што добрыя людзі, якія недастаткова настойліва намагаюцца высвятліць сваё ўласнае прызначэнне і заўсёдную адказнасць у жыцці, задавальняюцца паразітычным заняткам, жыруючы на жыццях іншых, як вампіры. Містэр Фрэйзар, страшэнна мілы чалавек, прынамсі, даволі часта, здабыў маю прыхільнасць з самага пачатку, але я катэгарычна адмаўляюся дазволіць яму самавольнічаць у дачыненні да майго малодшага брата, як і да любога іншага перспектыўнага, яшчэ нікому не вядомага генія такога надзіва ранняга веку, робячы з яго штосьці накшталт рыбы, за кошт якой існуе арганізм-паразіт! Бязмерная страта, адзінае, што можа быць ад гэткага глупства! Прыкладзі ўсе намаганні, каб гэты выключны юнак як мага даўжэй заставаўся адным з сяброў наскрозь людское, боскае грамады звычайных!

Далей спіс працягваю наўдачу.

Збор твораў, поўны, сэра Артура Конан-Дойля, за выняткам тых кніжак, дзе Шэрлак Холмс ніяк не самы галоўны, да прыкладу, "Белай дружыны" А, табе будзе з чаго пасмяяцца ды павесяліцца, калі я распавяду пра звязаны з гэтым выпадак, што здарыўся са мною аднаго дня, зусім нядаўна! Я бесклапотна плаваў у возеры, аддаючы даніну воднаму спорту, без аніякіх думак у галаве, хіба што прыгадваючы са спачуваннем вартае ўхвалы захапленне міс Констабл, у цэнтральнай бібліятэцы, поўным зборам твораў вялікага Гётэ. У гэты спакойны момант да мяне завітала думка, якая нялітасціва ўзняла мае бровы! Я раптам уцяміў, убачыў як на далоні, што люблю сэра Артура Конан-Дойля, але не люблю вялікага Гётэ! Рухаючыся ў вадзе са жвавасцю бестурботнага лайдака, я выразна зразумеў, што нават тое, ці ёсць у маім сэрцы хоць бы паказное захапленне вялікім Гётэ, далёка не ўстаноўлены факт, а вось мая любоў да сэра Артура Конан-Дойля, да ягонага творчага плёну, факт абсалютны і неаспрэчны! Рэдка мне здаралася зрабіць ярчэйшае адкрыццё, плаваючы ў вадаёмах. Адважваюся сказаць, што ў мяне ніколі не з`явіцца большых шанцаў патануць проста ад удзячнасці за ўзычаную мне долю ісціны Ты толькі задумайся, на адзін ашаламляльны момант, што гэта значыць! Гэта значыць, што кожны мужчына, жанчына і дзіця старэйшыя за, скажам, дваццаць адзін або, самы крайні выпадак, трыццаць, не павінны рабіць нічога асабліва важнага ці вырашальнага ў сваім жыцці, не параіўшыся папярэдне з любімымі асобамі, што жывуць або жылі на свеце. Памятай, малю цябе, што ён не мае ніякага права ўключаць у гэты спіс ніводнага з тых, да каго ён адчувае ўсяго толькі захапленне, няхай сабе ўтрапёнае! Калі асоба ці здабыткі гэтай асобы не абудзілі ягонае любові і не падаравалі яму невытлумачальнага шчасця або вечнага, неадлучнага цяпла, яе трэба бесспагадна выкрасліць са спіса! Для такой асобы можа быць іншы спіс, будзем спадзявацца, вельмі прывабны, але гэты спіс, які я маю на ўвазе, вылучна для любові. Божа мой, гэта можа быць найтанчэйшая, наймацнейшая самаахова супраць ашуканства і хлусні, як для сябе самога, так і для любых сяброў і знаёмых падчас мімалётных і заўзятых размоў з самім сабою! Я ўжо зрабіў у вольны час даволі ладную колькасць такіх спісаў, прызначаных для прыватнага кансультавання, якія ахопліваюць мноства людскіх тыпаў У якасці відавочнага прыкладу, куды гэта можа прывесці, зараз ты пацешышся ўдосталь, хто, як табе здаецца, у маім спісе адзіны сапраўдны спявак, чый голас або запісаны на кружэлцы "Віктролы", або мне даводзілася чуць непасрэдна? Энрыка Каруза? Надта баюся, што гэта не так. Акрамя сямейнікаў, чые галасы, безумоўна, ніколі не страчвалі для мяне сваіх чараў, ёсць толькі адзін спявак, пра якога я гатовы сказаць без сумневу, што я люблю, як ён спявае, і не баюся, што хлушу або дужа кемна ашукваю сябе, гэта мой незраўнаны сябар містэр Баблз, з "Бак і Баблз", які ўсяго толькі нягучна напявае сам сабе ў сваёй гардэробнай, суседняй з вашай у Кліўлендзе! Гэта не прыніжае Энрыка Каруза альбо Эль Джолсана, але факты ўпартая штука! Нічога не зробіш! Склаўшы адзін такі жахлівы спіс, ты прыліпаеш да яго навечна Кажучы пра сябе, даю табе шчырае слова· вярнуўшыся ў Нью-Йорк, ніколі зноў не буду пакідаць свой пакой нават на момант без добрага стоса такіх спісаў, за выняткам блізкага маршруту ў гасцiную або ванную Чыстасардэчна прызнаюся, я не ведаю, да чаго ўсё гэта можа прывесці, але калі гэта не прывядзе да таго, што хлусні на свеце стане болей, скурка варта вырабу. Найгоршае, што могуць зрабіць такія спісы, — засведчыць, які тупы я хлопчык, па сутнасці, не надзелены і каліўцам беззаганнага густу, але ж гэта, мажліва, не зусім так, дзякуй Богу

Шпарка рухаючыся наперад, я прашу цябе ласкава прыслаць любую мужную кнігу пра сусветную вайну, дзе тая была б паказана ва ўсёй сваёй аголенай праўдзе, і найлепш, каб гэтая кніга не належала пяру пустаслаўных ці настальгічных ветэранаў, ані прадпрымальных журналістаў са слабымі здольнасцямі ці сумленнем Майму густу надзвычай адпавядацьме любое выданне, якое не змяшчае дасканалых фотаздымкаў Чым старэйшы становішся, тым больш абыякавы да дасканалых фотаздымкаў.

Калі ласка, прышлі мне наступныя адборныя, брудныя кніжкі, можа, упакуй іх разам, так будзе зручней, апроч таго яны не змогуць заразіць іншыя кнігі, што напісалі мужчыны і жанчыны, пазначаныя геніяльнасцю, талентам або хвалюючай, умеркаванай адукаванасцю "Аляксандр" Альфрэда Эрдоны і "Пачаткі і разважанні" Тэа Эктана Баума Без аніякіх намаганняў, не высільваючыся самі і не абцяжарваючы маіх добрых сяброў у бібліятэцы, будзьце ласкавыя, зрабіце ўсё магчымае, каб паслаць гэтыя кніжкі найраней, як толькі з`явіцца зручны момант Гэта тыя неацэнна нудныя кніжкі, якія я вельмі хацеў бы, каб наш Бады меў у сваім багажы да таго, як упершыню ў цяперашнім сваім аблічы ступіць у будучым годзе на парог школы Не ўскідвайся з пагардай на нудныя кніжкі! Адзін з самых хуткіх спосабаў, хоць ён цяжкі ды пакутны, як навучыць малога, дужа кампетэнтнага хлопчыка накшталт Бады не заплюшчваць вачэй на штодзённую сумоту і зямны бруд, гэта запрапанаваць яму адборную, нудную, брудную кнігу. Магчыма, у поўнай цішыні можна сказаць яму, унікаючы глыбокага смутку ў голасе або шалёнай раз`ятранасці, падаючы яму на срэбранай талерцы неацэнныя кнігі· "Вось табе, юнача, дзве кнігі, абедзве — субтэльныя, надзіва неэмацыянальныя, незаўважна гнілыя наскрозь. Абедзве напісаныя знакамітымі лжэвучонымі, людзьмі паблажлівага і здзірніцкага складу, з умеркаванымі, асабістымі амбіцыямі Сам я скончыў чытаць гэтыя кнігі са слязьмі сораму і гневу Без лішніх слоў я даю табе два Богам пасланыя ўзоры таго, у якое чорнае пракляцце ператвараецца інтэлектуальнасць ды беззаганная адукаванасць, калі яны разлапушваюцца і буяюць без таленту і глыбокай чалавечнасці" Я не сказаў бы ніводнага слова ў дадатак юнаку, пра якога ідзе гаворка. Ты можаш вырашыць, што гэта гучыць зноў вельмі неміласэрна Было б проста неразумна і смешна, калі б я пярэчыў; гэта сапраўды вельмі неміласэрна А з другога боку, ты, магчыма, не ведаеш, якую небяспеку тояць у сабе абодва аўтары Зараз жа сціслa іх разгледзім, каб не было ніякіх недагаворванняў, пачнем з Альфрэда Эрдоны Прафесар вядучага ангельскага універсітэта напісаў біяграфію Аляксандра Вялікага ў няспешнай, чытабельнай манеры, нягледзячы на памер кнігі, часта згадваючы ўласную жонку, таксама знакамітага прафесара ў вядучым універсітэце, ды свайго любімага сабаку Аляксандра, і колішняга, старога прафесара Гідара, які таксама пражыў за кошт Аляксандра Вялікага шмат гадоў І адзін, і другі, выключна ў свой вольны час, добрататкі нажыліся на Аляксандры Вялікім, калі не ў матэрыяльным плане, дык у сэнсе славы

і прэстыжу напэўна. Але не зважаючы на гэта, для Альфрэда Эрдоны Аляксандр Вялікі ўсё адно як яшчэ адзін мілы сабака, частка ягонай праклятай маёмасці! Я асабіста стаўлюся да Аляксандра Вялікага як і да любое іншае невылечнае, ваяўнічае асобы без усякага фанатычнага піетэту, але як адважваецца Альфрэд Эрдона заканчваць сваю кнігу, літаральна намякаючы — тонка, несумленна, нібыта ён, па сутнасці, вышэйшы за Аляксандра Вялікага з тае прычыны, што Эрдона і ягоная жонка, а мажліва, і сабака, маюць дужа зручную і ўтульную пазіцыю, каб эксплуатаваць і апекаваць Аляксандра Вялікага! У яго няма і драбніцы ўдзячнасці да Аляксандра Вялікага за тое, што гэтая славутасць існавала, і як вынік — Альфрэд Эрдона змог займець прывілей “даіць” яе ў няспешнай, вытанчанай форме. Я нават не выгаворваю гэтай ілжэвучонай персоне за тое, што яна сама, асабіста не можа трываць герояў і гераізму і ў адным з раздзелаў, даючы Напалеону столькі ж месца, як Аляксандру, паказвае, якую шкоду і крывавую бязглуздзіцу героі прыносілі свету. Сама па сабе гэтая думка вельмі блізкая мне, тут я аддаю належнае ягонай шчырасці, але, каб пісаць такі дзёрзкі, неарыгінальны раздзел, трэба ўлічваць два моманты. Бясспрэчна, гэта варта хвіліннай, не дужа грунтоўнай дыскусіі; прашу цябе быць безразважна спагадным да мяне, пакуль я не скончу! Зрэшты, ёсць і яшчэ адзін, трэці момант.

1. Куды больш пасуе бясконца не любіць герояў і гераізм тады, калі сам ты напраўду гатовы зрабіць штосьці гераічнае. Калі ты не гатовы зрабіць нічога гераічнага, то ўсё роўна можаш годна ўступаць у дыскусію, але страшэнна асцярожна і памяркоўна, вельмі абачліва і пільна ўключаючы кожнае паасобнае святло ў сабе ды яшчэ, магчыма, з падвойнай жарлівасцю молячы Бога, каб ён не даў табе заблудзіцца і знічожаць душою.

2. Дзеля зразумелых прычын ты павінен заўжды мець пры сабе мадэль чалавечага мозгу. Калі ў цябе няма пад рукой мадэлі чалавечага мозгу, яго зусім нармалёва заменіць аблуплены каштан! Але надзвычай неабходна, маючы справу з такімі рэчамі, як героі ды гераізм, уласнымі вачыма ясна бачыць, што чалавечы мозг усяго толькі прыемны, мілы, вельмі адпаведны для доследу прадмет, які сам не мае і каліва праўдзівай здольнасці зразумець гісторыю чалавецтва поўнасцю альбо тое, якую часовую ролю, гераічную ці не надта, мусіш ты зараз выконваць усім сэрцам і сумленнем.

3. Ён, Альфрэд Эрдона, без утойвання прызнае, што асабістым настаўнікам Аляксандра Вялікага ў юнацкія гады быў Арыстоцель. Ні разу, ні пры якой добрай нагодзе, Альфрэд Эрдона засмучана не выгаварыў Арыстоцелю, што той не здолеў навучыць Аляксандра Вялікага, як не стацца вялікім! Нямашака ніводнай згадкі ў ніводнай кнізе на гэтую цікавую тэму, якія я ўвогуле чытаў, каб Арыстоцель калі-небудзь хоць бы папрасіў Аляксандра ўздзець толькі мантыю шараговай вялікасці ды адкінуць, не раўнуючы, як экскрэменты, калі вы мне хуценька прабачыце, якую б там ні было іншую вялікасць.

Тут я ахвотна скончу гэтую праклятую тэму. Мае нервы напружаны да немагчымасці; апроч таго, я цалкам пазбавіў сябе досыць ладнага кавалка часу, які меркаваў прысвяціць сумнеўнаму і надта небяспечнаму, неталенавітаму, напісанаму з халодным сэрцам літаратурнаму твору Тэа Эктана Баўма. Аднак, паўтараю, я не адказваццыму за свой душэўны спакой, калі мы дапусцім, каб наш Бады пайшоў у школу і далей, доўгай, надзвычай складанай дарогай афіцыйнай адукацыі, не ўзброены такім дасведчаннем, як гэтыя пагрозлівыя, самаздаволеныя, зусім звычайныя кніжкі.

Зараз іду літаральна скокам, жартам кажучы, і прашу вас даслаць мне любыя змястоўныя кнігі наконт чалавечага кручэння ці вярчэння. Бадай, ты прыгадаеш, прыняўшы мае гумарыстычныя, найглыбокія спачуванні, што, па меншай меры, трое з тваіх дзяцей, цалкам незалежна адно ад аднаго ды без чыёй бы там ні было навукі, набылі далікатную звычку надзвычай хутка круціцца целам, як абручом. Пасля гэтага надта дэманстратыўнага, паказнога практыкавання асоба, якая такім манерам круціцца, можа часта, хоць далёка не заўсёды, знайсці вырашэнне таго ці іншага пытання, зазвычай, вельмі нязначнага, або даць на яго грунтоўны адказ. Неаднойчы ў бібліятэцы гэтае неацэннае практыкаванне дапамагала мне ў той ці іншай дробнай справе; вядома, ты мусіш знайсці месца, дзе цябе не ўбачаць няўзброеным вокам. На сённяшні дзень я, канечне, выявіў, што здаўна багата людзей ва ўсім свеце з поспехам ужывалі такое практыкаванне, гэта датычыць, у пэўнай ступені, нават мілых, кранальных трасуноў. Апроч таго, ходзіць вартая ўвагі чутка пра тое, што святы Францішак з Асізі, цудоўная постаць, аднойчы папрасіў сабрата манаха трохі





пакруціцца, калі яны былі на адказным раздарожжы і вагаліся, які абраць кірунак. Так, несумненна, тут мы маем візантыйскі ўплыў на трубадураў, але я далёка не перакананы, што гэты досвед можа быць абмежаваны адным кутком нашае незвычайнае зямное кулі. Хоць сам я ў вельмі хуткім часе назаўжды кіну круціцца, пераклаўшы болей адказнасці на іншую частку мозгу, але фактам застаецца, што шматлікую інфармацыю на гэтую тэму трэба толькі вітаць, бо малыя, паводле сваіх уласных матываў, магчыма, пажадаюць працягваць падобны занятак і надалей, яшчэ доўга пасля таго, як даспеюць; па праўдзе, дык я сумняваюся ў гэтым.

Працягваючы, а тым часам, і міласэрна заканчваючы свой спіс, я быў бы рады прачытаць любую рэч па-ангельску з напісанага досыць прыстойнымі братамі Чэнг або любой іншай, умеркавана адоранай і невераемна амбіцыёзнай асобай, якой собіла стацца аўтарам рэлігійнага твора ў Кітаі пасля двух небасяжных, непараўнальных геніяў Лао-цзы і Чжуан-цзы, не кажучы пра Гаўтаму Буду! Няма неабходнасці падступаць да міс Овэрман або містэра Фрэйзара на пальчыках наконт кніг названых вучоных, я ўжо неаднаразова ўносіў у гэта яснасць, але далікатны падыход, як і раней, надта пажаданы! Ні міс Овэрман, ні містэр Фрэйзар аніколі ні трохі не захапляліся тэмай Бога або суцэльнага хаосу ў сусвеце, таму такая абыякавая, крывадушная ўхвала з іхняга боку маёй усёпаглынальнай цікавасці да гэтай тэматыкі. Але нельга назваць іхняе стаўленне да мяне безуважным або незычлівым, зусім не, гэта ж славуты Эдгар Сэмпл сказаў містэру Фрэйзару, што ў мяне ёсць задаткі стацца бліскучым амерыканскім паэтам, па сутнасці, сказаў чыстую праўду. Яны надзвычай баяцца, усе як адзін, што мая поўная дзівавання прыхільнасць да Бога — без утойвання і без ладу — зруйнуе маю прыўкрасную паэтычную будучыню; гэта не дурнота; заўжды існуе лёгкая, цудная, цалкам вартная рызыка, што я стануся няўдачнікам, якога свет не бачыў, прырода не чула, расчараваўшы ўсіх сваіх дружбакоў і любімых людзей, вельмі рэальны, паганы варыянт, які заўсягды выклікае ў мяне слёзы, калі я па шчырасці разважаю сам з сабою. Якім, бясспрэчна, слаўным і вясёлым дарам было б, калі б кажнюсенькага дня свайго класнага цяперашняга побыту мы беспамылкова і дакладна ведалі, дзе яны, нашыя несмяротныя абавязкі, ідавочныя і канкрэтныя! Вельмі шкадую, а ў душы радуюся, што мае віджэжы да смешнага бездапаможныя паспрыяць мне ў гэткіх справах! Штопраўда, заўжды ёсць кволая магчымасць, што твой улюбёны, без пэўнай формы і аблічча Бог здзівіць цябе, як з грому, мілым, карысным загадам, да прыкладу: “Сімар Глас, рабі гэта” ці “Сімар Глас, дурненькі мой сынок, рабі тое”, але я зусім не здольны прасякнуцца ўцехай ад такой мажлівасці. Гэта, безумоўна, грубае перабольшанне. Мяне моцна цешыць і натхняе такая мажлівасць, калі я разважна смакую яе, але адначасна ўсёй сваёй сумнеўнай душой я адчуваю да яе моцную, нязменную агіду! Вульгарна кажучы, сама гэтая магчымасць атрымлівання зручненькіх асабістых загадаў ад Бога, цалкам пазбаўленага формы або аздобленага саліднаю, прыгожаю барадою, ажно смярдзіць фаварытызмам дый годзе! Дастаткова Богу ўзвысіць адну чалавечую істоту над другой, асыпаўшы яе сваімі шчодрымі ласкамі, і зараз жа праб`е гадзіна пакідаць Ягоную адмысловую службу назаўсёды і без шкадобы! Гучыць надзвычайна рэзка, але ж я эмацыянальны юнак, напраўду смяротны і маю найбагатыя дасведчанні ў смяротным фаварытызме, я не магу на яго глядзець; няхай Бог адорвае альбо ўсіх нас цуднымі, асабістымі загадамі альбо нікога! Калі ў цябе хапае цярпення чытаць гэты ліст, дарагі Божа, будзь пэўны, я ўсведамляю тое, што кажу! Не пасыпай мой лёс ніякім сумнеўным цукрам! Не выдзяляй мяне цуднымі, асабістымі загадамі ды бліскучымі парадамі, як найспрытней дасягнуць мэты! Не прапаноўвай мне стацца сябрам ніякае элітарнае суполкі людзей, якая не адчыненая шырока для кожнага і любога! Прыгадай неадкладна ж, грунтам, на якім паўстала мая гатоўнасць любіць Твайго незвычайнага, высакароднага сына, Ісуса Хрыста, было тое, што Ты не рабіў Яго сваім улюбёнцам і не ўзычваў яму карт-бланш на ўвесь час Ягонага знаходжання тут!

Варта Табе толькі цьмяна намякнуць, што Ты даваў Яму карт-бланш, і я са шкадаваннем вытру Ягонае імя з танюткага спіса тых чалавечых істотаў, якіх я паважаю без незлічоных агаворак, нягледзячы на шматлікія і размаітыя Ягоныя цуды, што, відаць, былі неабходныя ў тых акалічнасцях, але застаюцца сумнеўным штрыхом, на мой перадавы погляд, як і злашчасным каменем спатыкнення для прыстойных, сімпатычных атэістаў накшталт Леана Зандгайма і Мікі Уотарза, першы — ліфцёр у атэлі “Аламак”, другі — абаяльны чалавек без пэўнага занятку і месца працы. Так, неразумныя слёзы

цякуць па маім твары; нямашака прыстойнай альтэрнатывы. З Твайго боку, Ягомасць, ласкава і не без гумару, што ты дазваляеш, каб я заставаўся паглыбленым у мае ўласныя сумнеўныя метады, гэткія, як усёпаглынальнае зацікаўленне чалавечым сэрцам і мозгам. Магутны Божа, Цябе дужа няпроста спасцігнуць, дзякуй Богу! Я люблю Цябе больш, як калі! Ведай, Ты можаш вечна карыстацца сумнеўнымі маімі паслугамі!

Нейкую хвілінку я вольна перадыхну, дарагія Лэс і Бэсі ды іншыя каханыя ахвяры імклівай атакі майго пісьма. Насупраць пустога бунгала, заліваючы святлом краявід, што адкрываецца вачам з акна над шчаслівым ложкам Тома Лэнтарна, ззяе дзённае сонца, надта хвалююча, вядома, калі гэта не ўсяго толькі мой мозг ззяе надта хвалююча. Як бы там ні было на самай справе, але часам проста глупства не прывітаць уцеху, адкуль бы яна ні зіхацела.

Скончу перапынены спіс кніжак для міс Овэрман і містэра Фрэйзара некалькімі сціслымі штрыхамі.

Калі ласка, дашліце што заўгодна пра каларытных і хцівых Медычы, а таксама якую-небудзь кнігу, прысвечаную кранальным трансцэндэнталістам нашай уласнай гадоўлі. Апроч таго, дашліце паасобнікі, пажадана, без эксгібіцыянісцкіх пазнак алоўкам на старонках, як французскага выдання, гэтак і перакладу містэра Котэна "Вопытаў" Мантэня. Які чароўны, павярхоўны, цудоўны француз! Няхай злятае з галавы капялюш перад усімі таленавітымі, цудоўнымі асобамі; мой Божа, яны рэдкія і яскравыя!

Будзьце ласкавыя, прышліце любыя цікавыя кнігі аб чалавечай цывілізацыі задоўга да грэкаў, але якраз пасля таго спіса цывілізацый, што ляжыць у кішэні майго старога дажджавіка са злашчаснай прарэхай на плячы, які Уолт смяхотна адмовіўся насіць на людзях.

Тое, пра што я зараз папрашу, невымоўна важнае Калі ласка, прышліце мне кнігі, у якіх разглядаецца будова чалавечага сэрца: тыя, якія мне яшчэ не ўдалося прачытаць; досыць кампактны спіс у апошні час ляжаў у верхняй шуфлядзе майго шыфаньера — ці пад маімі насоўкамі, ці па суседству з пісталетамі Бады. На нязвыклыя, дакладныя малюнкі сэрца заўжды прыемна глядзець, як і на любы іншы, створаны з добрымі намерамі, прыблізны партрэт гэтага незраўнанага органа, найцуднага ў чалавека; зрэшты, малюнкі — рэч не надта істотная, бо перадаюць усяго толькі простыя, фізічныя ўласцівасці, пакідаючы без усялякай увагі недаследаваныя, лепшыя часткі! На жаль, і засмучэнне ад гэтага непазбыўнае, лепшыя часткі можна агледзець толькі ў вельмі дзіўныя, хвалюючыя, нечаканыя хвіліны, калі твае свяцільнікі без сумневу, напэўна ўключаны; не маючы ладнага рысавальшчыцкага таленту, а яго ў мяне нямашака наогул, не ведаеш, як і перадаць іхні выгляд блізкім і зацікаўленым людзям. Несамавітыя справы, самае меншае! Поўны выгляд такога дзівоснага органа, з якім нішто ў чалавечым целе нельга параўнаць, павінен мецца ў кожнага, а не толькі ў сумнеўных малалетак накшталт тых, чые подпісы будуць пад гэтым лістом!

Менавіта для вывучэння цела, бачнага ці не бачнага няўзброеным вокам, будзьце ласкавыя, дашліце якую-небудзь кнігу, прысвечаную вылучна ўтварэнню калюса. Гэта будзе вельмі няпроста або немагчыма, але вы, калі ласка, не прасіце міс Овэрман або містэра Фрэйзара высільвацца. Калі, аднак, кніга на гэткую палонячую тэму ўсё ж знойдзецца, не сумнявайцеся, яна будзе тутака прагна праглынута, асабліва ўсё, што датычыць таго, як гаючы калюс, лекуючы, злучае зламаную чалавечую костку, проста дзіва, які ў яго розум, ён дакладна ведае, калі пачаць і спыніцца, без жаднай адмысловай дапамогі з боку мозгу параненага. Вось яшчэ адно бліскучае дасягненне, што з вар'яцкай упартасцю прыпісваецца "Маці Прыродзе" Ставячыся да яе з усёй належнай пашанай, мне да смерці дакучыла чуць столькі гадоў ейнае сумнеўнае імя.

У лютым гэтага памятнага года я спазнаў невыказную асалоду ад жвавай гамонкі, што доўжылася поўную, прыемную чвэрць гадзіны, з павабнай жанчынкай, родам з Чэхаславаччыны, асобай у цёмным дарагім уборы, аднак з цікавымі, кранальнымі, бруднымі пазногцямі. Гэты выпадак здарыўся ў цэнтральнай бібліятэцы, недзе праз месяц пасля таго, як высокашаноўны Луіс Бэнфард у адказ на мой ліст цудоўным чынам і без затрымкі зрабіў маю сумнеўную прысутнасць тамака магчымай. Назваўшыся маткай маладога дыпламата, і гэта знайшло сваё пацвярджэнне, яна мякка ўвяла ў размову імя свайго ўлюбёнага паэта, чэха Отакара Бржэзіны, горача рэкамендуючы мне прачытаць яго. Магчыма, містэр Фрэйзар зможа знайсці для мяне адну з ягоных кніг, баюся, у ангельскім перакладзе. Не ўсё так і блага, калі гэтая неверагодная жанчына, хаця і дужа нервовая і, па праўдзе, неўраўнаважаная, мела ў жыцці чарадзейную, журботную іскру любові! У містэра Бржэзіны тут ёсць нязломная прыхільніца! Божа, благаславі спадарынь у дарагіх, густоўных строях і з мілымі, бруднымі пазногцямі, тых, што адстойваюць таленавітых замежных паэтаў і аздабляюць бібліятэку на пекны, меланхалічны манер! Мой Божа, строіць кепікі з Твайго сусвету не выпадае!

У заключэнне, цяпер ужо, бадай, апошняе, я быў бы надзвычай удзячны, калі б вы папрасілі міс Овэрман папрасіць місіс Гантар, мажліва, па тэлефоне, калі зручна, зрабіць ласку адшукаць студзеньскі выпуск "Часопіса Дублінскага універсітэта" за 1842 год, студзеньскі выпуск "Часопіса джэнтльмена" за 1866 год і вераснёўскі нумар "Паўночнага Брытанскага агляду" за 1866 год, бо ўсе тры не надта свежыя часопісы змяшчаюць артыкулы пра аднаго вельмі дарагога мне сябра, толькі па перапісцы, падчас папярэдняга майго існавання, прызнаюся, гэта сэр Ульям Роўван Гамільтан! Я вельмі рэдка здольны рабіць гэта, яшчэ адно пацвярджэнне, што ліха без дабра не бывае, але я ўсё яшчэ магу ўбачыць перад сабой ягоны сяброўскі, самотны, таварыскі твар, хоць і гады ў рады! Аднак не ўпамінай міс Овэрман ні пра якія асабістыя сувязі накшталт гэтых, заклінаю цябе! Усе асаблівасці ейнай аўтаматычнай рэзкай рэакцыі на такое нармальныя і натуральныя; міс Овэрман нязменна ашаломлена, устрывожана і засмучана, калі я, зрэдку, бываю дастаткова неразумным і неасцярожным і закранаю непапулярную тэму ўвасабленняў. Ёсць і яшчэ адзін момант, які не спрыяе таму, каб знаёміць яе з падобнымі сумнеўнымі дэталямі, а менавіта. на жаль, яны становяцца прадметам дужа прыкрага абгаворвання ў кампаніі дарослых. Хаця міс Овэрман, звычайна, не выкарыстоўвае нас, вашага сына Бады і мяне, як сумнеўныя тэмы для размовы, каб пазабаўляць ейных сяброў і калегаў, будучы высакароднаю жанчынаю, якой уласціва лічыцца з пачуццямі іншых людзей і з іхнім сумнеўным становішчам, яна абсалютна няздольная стаіць асаблівую ці пазначаную пэўнай навязной інфармацыю ад містэра Фрэйзара ці якога іншага добра апранутага, культурнага джэнтльмена з адметнымі сівымі валасамі; гэткія джэнтльмены — ейная вечная слабасць, яна схільная адчуваць да іх лёгкую закаханасць, калі тыя з ёю зычлівыя і ўважныя або перасыпаюць сваю гаворку ветлым пакепліваннем, шчыра ці няшчыра. Вядома, гэта дробны, смяхотны недахоп, але махнуць рукой і дазволіць сабе неасцярожнасць задорага абышлося б. Калі ласка, проста папрасі яе, каб яна патэлефанавала місіс Гантар, магчыма, мы здолеем дастаць згаданыя часопісы без вялікіх нязручнасцей, не падавай ніякіх прычын, хіба што вымаві адным дыхам, зусім мімаходзь, маўляў, яна, міс Овэрман, заўжды перадае нам цудоўнае, лёгкае чытанне, якім нядаўна цешылася сама. Ад гэтых слоў за вярсту патыхае страшэннаю двудушнасцю, але ейны густ датычна лёгкага чытання часта бывае і высокі, таму са шкадаваннем я ўсё ж рэкамендую ўжыць гэткі манеўр. Давяраю тваёй абачлівасці, як у дадзенай, так і ва ўсіх астатніх справах, хоць пра гэта, Бэсі любая, я мог бы і не казаць. А яшчэ мы з удзячнасцю ўспрынялі б, калі б вы сунулі мімаходзь у ёмкі канверт твор містэра і місіс Мун Малінз ды, можа, пару паасобнікаў "Вар`етэ" пасля таго, як прачытаеце іх самі. Ісусе Хрысце, якім цяжарам, якой дакукай і ўвогуле мітрэнгай я



# *Замест пасляслоўя*

**Джэрам Дэйвід Сэлінджэр нарадзіўся 1 студзеня 1919 г. у Нью-Ёрку ў сям'і гандляра вяндлінай і сырам Сола Сэлінджэра, габрая па нацыянальнасці. Яго маці Мэры Джылік – шатландска-ірландскага паходжання.**

**У 1936 г. Сэлінджэр скончыў вайсковую школу. Дарэчы, там ён быў літаратурным рэдактарам вучнёўскага часопіса і стварыў школьны гімн, які да гэтай пары традыцыйна выконваецца падчас выпускных святаў. Менавіта ў вайсковай школе Сэлінджэр напісаў свае першыя апавяданні.**

**Наступным летам васемнаццацігадовы Дэйвід слухае лекцыі ў Нью-Ёркскім універсітэце, а затым (1937–1938 гг.) выпраўляецца з бацькам у Еўропу. Ён наведаў Аўстрыю і Польшчу, дзе па патрабаванню бацькі ў Быгошчы вывучаў, як робіцца знакамітыя мясцовыя каўбасы.**

**Вярнуўшыся на бацькаўшчыну,**

раблюся ў вашым жыцці! Дня не бывае, каб я забыўся на сваю паганую патрабавальнасць! І яшчэ, дарэчы, магчыма, варта сказаць: папярэдзь міс Овэрман, што містэра Фрэйзара можа добра-такі збянтэжыць і ўгнявіць колькасць заказаных мною кніг, хоць сам містэр Фрэйзар не парупіўся назваць максімальны лік, які ён з ахвотай даслаў бы нам, пакуль мы ў ад`ездзе. Будзьце ласкавыя, папрасіце міс Овэрман пераканаць яго, што абодва мы чытаем з падвышанай, неверагоднай хуткасцю кажнюткі дзень і зможам вярнуць любыя вельмі рэдкія кнігі ўмомант, калі гэта спатрэбіцца і як толькі здабудзем маркі. Баюся, тут будзе безліч цяжкасцей. Ён, містэр Фрэйзар, і сапраўды вельмі шчодры, добры чалавек, з надзвычайна высокай ступенню талерантнасці ў дачыненні да паганых рысаў маёй натуры, але ў ягонай шчодрасці тоіцца і хітрынка, бо яму падабаецца бачыць удзячныя твары сваіх даўжнікоў, калі ён робіць ім ажно такую ласку. Па-чалавечы, тут усё зразумела, і не трэба чакаць або дарэмна жадаць, каб гэткае знікла на зямлі за адну ноч, так ці інакш, майце мае словы на ўвазе. На мой прыватны, гумарыстычны погляд, нам страшэнна пашанцуе, калі містэр Фрэйзар дашле нам самае большае дзве або тры кнігі з усяго спіса! О, мой Божа, можна адурэць ад такой камічнай думкі!

Адгадай, хто ўвайшоў у бунгала з шырокай усмешкай на твары! Ваш сын Бады! Вядомы таксама як У.Дж. Глас, выдатны пісьменнік! Які няўломны хлапец! Ён, відавочна, меў плённы працоўны дзень! Як бы я жадаў, каб вы ўсе былі тут, уласнай персонай, і бачылі ягоны незвычайна абаяльны, прыцягальны, злёгку загарэлы твар; яшчэ і таму плаціце вы, дарагія Бэсі і Лэс, надта празмерную цану за нашыя легкадумныя летнія забавы ды разрыўкі. Au revoir! Бады далучаецца да кожнага майго сардэчнага пажадання вам заўсёднага здароўя і ўсялякай памыснасці ў нашу працяглую адсутнасць. Застаёмся,

Вашы сыны і браты, якія любяць вас, Сімар і У.Дж. Глас; злучаныя назаўсёды духам і крывёю і нязведанымі глыбінямі ды палатамі сэрца.

Спяшаючыся найхутчэй завяршыць гэты ліст, а таксама ад радасці бачыць вашага незвычайнага сына, які раптоўна прыляцеў у бунгала, пасля сямі з паловай гадзін адсутнасці, я рызыкую забыцца на невялічкую гронку апошніх просьбаў, спадзяюся, дужа нязначных. Як ужо адзначалася мы маем незайздросна бліскучыя шанцы, што містэра Фрэйзара агорне паныласць і скруха па атрыманні гэтага кніжнага спіса, і ён папракацьме сябе за сваю сяброўскую, добраахвотную прапанову; зрэшты, мажліва, я раблю яму вялікую крыўду, думаючы падобным чынам; у такім выпадку (у чым я маркотна сумняваюся), калі ласка, папрасіце міс Овэрман прыгадаць яму, што гэта будзе абсалютна апошні наш кідок, самае меншае, на 6 доўгіх месяцаў наперад! Калі пагасне зіхатлівы бляск лета, рэшту гэтага памятнага года мы аддамо вылучна кансультацыям са слоўнікам; унікацьмем нават паэзіі ў адказны перыяд не ў далёкім часе, гэта, натуральна, азначае што містэр Фрэйзар не мецьме магчымасці, больш турботнай, чымся вартнай, бачыць нашыя юныя, зацятыя твары ў ніводнай публічцы Готама цэлых шэсць поўных ёмкіх месяцаў. Хто не адчуе вялізнай палёгкі, пачуўшы гэта! Вынятку, хоць сам па сабе ён прыемны, бадай, няма. У непасрэдным звязку з толькі што ўпамянутымі

---

Сэлінджэр наведвае лекцыі ў Урсінус-коледжы (Пансільванія). Да 1938 г. адносіцца і яго першая публікацыя — фельетон у штотыднёвіку "Урсінус уіклі", дзе Сэлінджэр загадваў аддзелам гумару.

У 1939 г. Сэлінджэр паступае вучыцца ў Калумбійскі універсітэт, каб паслухаць курс лекцый рэдактара часопіса "Сторы" У. Борнета пра навелу. Менавіта Борнет і надрукаваў яго першае апавяданне "Маладыя людзі".

У 1942 г. Сэлінджэра забіраюць у войска, дзе ён праходзіць падрыхтоўку ў школе сувязі. У 1943 г. у чыне сяржанта штабной службы ён пераведзены ў контрразведку. З 1940 па 1944 год у часопісах "Сторы", "Эксвайр" і інш. друкуюцца апавяданні — "Сустрэнься з Эдзі", "Значэнне гэтага", "Сутнасць нясконченай гісторыі", "Задоўжаны дэбют Луіз Тэгет", "Асабістыя зацемкі пра пехацінца", "Браты Варыоні".

У 1944 г. сяржант штабной службы 4-й пяхотнай дывізіі Сэлінджэр сярод першых салдат саюзных войскаў высаджваецца ў Нармандыі. У контрразведцы Сэлінджэр займаецца вышукам агентаў гестапа і допытам палонных. На вайне ён працягваў пісаць апавяданні. Да гэтага перыяду адносяцца навелы "Апошні дзень апошняга адпачынку", "Абодва зацікаўленыя бакі", "Элін", "Хлопец з Францыі", "Гэты сэндвіч без маянэзу", "Чужы", "Звар`яцець", "Раз на тыдзень цябе гэта не абцяжарыць".

Калі Сэлінджэр дэмабілізаваўся, то нейкі час жыў у Францыі, а затым вярнуўся ў Нью-Ёрк і стаў жыць у бацькоў на Парк-авеню. У 1948 годзе, пасля публікацыі ў "Нью-Ёркеры" апавядання "Добра ловіцца рыбка-бананка", заключае з часопісам дамову і далей пераважна друкуецца ў ім.

У 1951—1952 гг. Сэлінджэр вандруе па Еўропе і Мексіцы. У 1952 годзе ён купляе вялікі надзел зямлі





6 месяцамі, шчыра прашу вас як нашых улюбёных бацькоў, братоў і сястру прамовіць некалькі крамяных, сур'ёзных малітваў за нас. Асабіста я вельмі спадзяюся на тое, што нагрувашчванні ненатуральных, афектаваных, напышліва высакамоўных і паганых, прыкрых слоў зваляцца з майго юнага цела, як тыя мухі, падчас адказнага перыяду, які надыдзе! Гэта варта любога высілку, будова маіх будучых сказаў пастаўлена на карту!

Прашу цябе, не сярдуй на мяне, Бэсі; аднак вось маё абсалютна апошняе слова наконт сыходу са сцэны ў нязвычна ранні́м веку. Я зноў проста малю цябе: нічога не рабі не ў час. Пачакай, цярплівая і спакойна, хаця б да кастрычніка, а тады глядзі на ўсе вочы, каб скарыстаць са спрыяльнай аказіі; у кастрычніку ты, магчыма, рушыш як на мазаных колах! Яшчэ, каб не забыць. Бады настойліва просіць, каб вы абавязкова прыслалі яму некалькі тых вельмі вялікіх блакнотаў, зусім без лінеек, для ягоных дужа займальных апавяданняў Ні ў якім разе не пасылайце яму іншыя, з лінейкамі, тыя, што я ўжываю аж па сённяшні, аддадзены прыемнай размове з вамі дзень, бо ён пагарджае такімі блакнотамі. І яшчэ, хоць я і не адважыўся шчыра абмеркаваць гэта з Бады, думаю, ён дужа ўзрадуецца, калі вы прышляце яму цацачнага трусіка сярэдняга памеру, бо ягоны вялікі трусік згубіўся, калі праваднік у цягніку прыбіраў уранні пасцель; толькі, калі ласка, не згадвайце пра гэта ў сваіх будучых лістах, а проста ціха пакладзіце не вельмі вялікага трусіка ў зручную тару, да прыкладу, у пустую кардонку з-пад абутку ці ў якую каробку ды пашліце поштай Я ведаю, што магу пакінуць вырашэнне гэтай ці любой іншай справы цалкам на цябе, Бэсі; Божа, ты, Бэсі, выклікаеш столькі ж дзівавання, колькі любові! Апроч таго, што больш не трэба яму дасылаць для ягоных апавяданняў блакноты з лінейкамі, не дасылайце яму ніякіх блакнотаў з танюсенькай паперай, падобнай на шалупінне цыбулі, бо ён папросту выкідвае такія ў скрыню для смецця, паблізу бунгала, якой карыстаюцца ўсе Марнатраўства, безумоўна, але я быў бы ўдзячны вам, калі б вы не наказвалі мне ўмешвацца ў гэткую далікатную справу. Не ведаю, ці варта казаць, што не ўсялякая марнатраўнасць абурае мяне; на праўдзе, дык, бывае, у марнатраўнасці ёсць нешта трымтліва-хвалюючае для мяне Будзем мець на ўвазе і тое, што менавіта львіная адданасць Бады свайму літаратурнаму рыштунку ўрэшце дазволіць яму, маё вам шчырае слова, поўнасцю вызваліцца, годна і шчасна, з гэтае зачараванае даліны слёз, смеху і выратавальнае чалавечае любові, прыхільнасці і зычлівасці.

З 50000 дадатковых пацалункаў ад двух баламутных шыбенікаў бунгала нумар 7, якія вас любяць,

*Найсардэчна,*
*С.Г*
*— Дж. Д. Сэлінджэр*

**Пераклаў з англійскай мовы**
**Павел МАРЦІНОВІЧ.**

---

на беразе рэчкі Каннектыкут у горадзе Карнішэ (Нью-Гэмпшыр). Тут ім былі напісаны аповесці з цыкла пра радзіну Гласаў.

Амаль усе лепшыя апавяданні Сэлінджэра былі сабраныя ў кнізе "Дзевяць апавяданняў" ("Добра ловіцца рыбка-бананка", "Дзядзька Вігілі ў Каннектыкуце", "Напярэдадні вайны з эскімосамі", "Чалавек, які смяяўся", "У чаўне", "Прысвячаецца Эсме", "І гэтыя вусны, і вочы зялёныя", "Блакітны перыяд дэ Дом`я-Сміта", "Тэдзі").

Аповесці Сэлінджэра: "Над безданню ў жыце", "Вышэй кроквы, цеслі", "Фрэні", "Зуі", "Гэпварт, 16, 1924".

Апошняя была надрукавана ў 1965 г. пасля працяглага маўчання пісьменніка. Гэта таксама апошні з апублікаваных твораў пра сям'ю Гласаў. Але літаратуразнаўцы лічаць, што першапачатковы варыянт аповесці "Гэпварт, 16, 1924" быў напісаны, магчыма, нават раней за апавяданне "Добра ловіцца рыбка-бананка", з якога распачынаецца знакаміты цыкл.

Вядома, што ў 1947 ці ў 1948 г. часопіс "Хатні кампаньён жанчыны" набыў у Сэлінджэра аповесць "Акіян, поўны бейсбольных мячоў", але не надрукаваў яе, бо яна не спадабалася рэдактару. Затым, у 1950 ці ў 1951 г., аповесць пад гэтай жа назвай была адпрэчана і часопісам "Кольерс". Бібліёграф Сэлінджэра — Дональд Фіні пераканаы, што гэта быў першы варыянт аповесці "Гэпварт, 16, 1924".

Аператыўная рэакцыя амерыканскіх крытыкаў на аповесць была выключна адмоўнай. Адзін з іх (Дж. Мілер) нават заўважыў, што гэта знак заняпаду пісьменніка.

Праўда, з цягам часу стаўленне да "Гэпварт, 16, 1924" перамянілася. І сёння літаратуразнаўцы залічваюць гэтую аповесць да лепшых твораў Сэлінджэра.

# Сташка ГРЫНІЧ



***

Павуцінавы рукапіс,
тонкае мроіва
адвольна танцуючых ліній у паветры,
старонка на волю адпушчаных
светлых
няспраўджаных казак
на смерць перакроеных
Цяпер ужо позна
шукаць у лабірынтах
знікаючых літар
той сэнс зразумелы,
што восень уклала у допіс свой белы
Ляці ж, павуцінне, сумотай нязбытнай!



# Лера СОМ





***

Снег свеціцца. Цемра.
Снег сочыць за сэнсам
Сну ў шэрым суладдзі
Ноч доўгага снежня,
Дзень кволага сонца.
Сэнс роспачы – шэптам

# ЯНО 21 x 21

**_Заканчваем друкаваць адказы на пытанні нашай анкеты._**

## Іван ЧАРОТА

Мушу прызнацца, што стаўлюся насцярожана да азначэнняў "прапушчанае", "нескарыстанае" і падобных.

Ужо таму, што як хрысціянін веру ў правідэнцыйнасць, наяўную ці адсутную благадаць альбо, інакш кажучы, кон.

А яшчэ таму, што ў палкіх дыскусіях апошняга часу запанавалі настроі, на мой погляд, небяспечныя Абвінавачваецца народ. Безапеляцыйна гэта ён нечага не ўцямліваў, некага не разумеў, да чагосьці не ўздымаўся, да кагосьці не дацягваўся I нават пакаленню бацькоў гучыць прысуд. вы марна свой век пражылі Што ж, падобнае вядома і праз слыннага Буравесніка-Сокала (" как черви слепыя живут и песню о вас не споют"), і таксама праз Паўліка Марозава, не менш услаўленага. Ды немагчыма абысці пытанне "А суддзі хто?" Як немагчыма і прагнаць жах ад таго, што рытарычныя практыкаванні на гэтак зададзеную тэму звычайна вядуць да згубных разломаў Самых розных, у тым ліку і самасвядомасці роду, народу Зноў-такі, і гэта ўжо зведана. Прычым неаднойчы, калі "інертную масу" падбухторвалі, гналі-штурхалі, каб у цянётах зламадзёнласці высільвалася, да актуальных мэтаў імкнулася і пра князем гэтага свету вызначаную (вядома ж, "светлую") будучыню дбала.

Ці ў гэтым праўда? А ці ў іншым разуменні светабудовы, ладу на зямлі, зместу жыцця? . Мне, прынамсі, бліжэйшы вось які падыход. "Народ — не тое, што ён думае сам пра сябе ў часе, а тое, што Бог думае пра яго ў вечнасці". З удакладненнем марны занятак — рабіць выгляд, што ты (я, ён, яна. .) упаўнаважаны думаць за народ, а тым болей за Бога.

I калі ўжо ставіць пытанне наконт прапушчанага, дык я б шукаў адказу тут, сцвярджаючы, што як у папярэднім, так і ў сучасным досведзе, на вялікі жаль, такое светаадчуванне ігнаруецца

Між тым, згаданыя адносіны да народа прадвызначаюць далёка не бяскрыўдную апазіцыю: "сляпы, нібы крот", "дурны, як варона", ва ўсім вінаваты і грэшны (народ=наш род) — празорлівы, мудры, чыста беззаганны (павадыр=правадыр). Не бяды, як кажуць, калі гэта падкрэсліваецца ў салонных размовах тымі, хто з радаводнай памяці ніколі не выкасоўваў падзелу на мужыкоў і шляхту, сябе адносячы да апошняй катэгорыі. Але падобнае даводзіцца чуць і ад тых, каго тытулуюць "народнымі" Заканамерна ўзнікае пытанне, якога народа яны абраннікі А таксама прыгадваецца мудрае, хоць і быццам бы ў жарт аформленае незабыўным Уладзімірам Караткевічам паданне пра тое, што Бог беларусам даў, а чым абмінуў Караткевічава меркаванне вельмі дарэчы на выверку слушнасці падобных характарыстык, роўна як і многіх падзей і дзеячаў нашай сапраўды





жалю вартай нацыянальнай гісторыі, якая раз за разам перапісваецца, пераплятаецца, каб кожнае лыка было ў радок, вызначаны інтарэсамі бягучымі, пададзенымі як найвышэйшыя. Ну і вядома ж, дзеля самай што ні ёсць "светлай будучыні" абуваюць у новыя лапці і сучаснікаў, і папярэднікаў Праўда, фасон бярэцца стары і не свой, таму застаюцца нескарыстанымі шмат якія магчымасці і незадаволенымі розныя патрэбы, ад паўсядзённых да вышэйшых. Галоўнае, што па-ранейшаму бракуе самаўсведамлення, а гэта значыць і цвярозых ацэнак тых, хто прадстаўляе мноства правадыроў ці, паводле Караткевіча, начальства, у дзеяннях, якія незваротна, непапраўна вызначалі гістарычны лёс этнасу, асаблівасці яго характару, меру яму прызначаных выпрабаванняў.

Як ні дзіўна, самаўсведамленне беларусаў дагэтуль праходзіць у зменлівай сістэме адліку, прычым досыць радыкальна. Гістарычныя распрацоўкі ў нас заўжды мелі вузка ўжытковы, прыкладны, характар Скажам, для школы, для папулярызацыі=папулізму на карысць альбо на шкоду існуючаму рэжыму. Нібыта і не ставіцца задача скласці поўную аб'ектыўную гістарыяграфію, а тым больш гістарыясофію. Пэўна, абсалютызаваць "задні розум" небяспечна, але страчваць яго яшчэ небяспечней. Бо ў такіх выпадках не застаецца нічога як складаць новую чарговую "міталёгію", аб'ектыўнае значэнне якой — супрацьпастаўленне падманутых сёння з падманутымі ўчора на смех (дый на карысць) рознага кшталту "дабрадзеям" бліжнім і дальнім. Нашыя правадыры, ідэолагі, міфолагі розняцца толькі паводле схільнасці да тых ці іншых інтарэсаў "з боку". Дарэчы, відаць, таму гэткі расплывісты сэнс у паняцця "беларускія нацыянальныя інтарэсы". На маёй памяці тое як ўдзёўбвалася, што самая светлая перспектыва — уліцца ў супольнасць "савецкі народ" і збудаваць камуністычны рай на зямлі. Зараз мяне пераконваюць, што ў майго народа няма лепшага выбару, як зліцца з еўрапейскай супольнасцю і трапіць у іншы рай, але ж таксама на зямлі. I ўсё гэта, як раней, так і цяпер, суправаджаецца культывацыяй, стымуляцыяй барацьбы, варожасці — з капіталістамі, імперыялістамі, камуністамі, нацыяналістамі. А народ, здаецца, у рай на зямлі не верыць, адначасова і захапленне варожасцю цураецца, таму што генетычнай памяццю трымае: акцыя выклікае рэакцыю, зло параджае зло.

Пра зло ў дзеяннях правадыроў ён таксама не забыўся, хоць і не спяшаецца — лічыць марным? — нагадваць, прынамсі гучнымі дэкларацыямі, лозунгамі, якія наогул перасталі ўспрымацца. Ды як можна выкасаваць з радаводнай памяці, скажам, тое, што вялікае не толькі паводле найменне княства здаецца пад карону (за гэтую самую карону), шматкроць меншую па тэрыторыі ды па колькасці насельніцтва. Прычым з абавязкамі вынішчыць праайцоўскую веру, адкінуць запаветы і традыцыі. Яно зразумела, у кожнага свае мэты, якімі апраўдваюцца сродкі іх дасягнення. Толькі ці варта ім надаваць сэнс рэалізацыі беларускіх нацыянальных інтарэсаў, калі гэты вектар развіцця абумовіў доўгі і моцны ланцуг здрадаў, варажнечы ўнутранай. Так што зусім не аднойчы роду беларускаму навязваўся комплекс "меншага брата", не адзін раз продкі нашы траплялі ў саюз, аналагічны савецкаму, ды і ў стане варажнечы ўнутранай (па-цяперашняму, грамадзянскай вайны) апыналіся не толькі на працягу 1917—1920 гг. Горка прызнаваць, але ж было, што пад лозунгамі "за нашу і вашу свабоду" адбываўся тэрор у дачыненні да тых, хто нібыта "як сабака, жыве без веры і, як сабака, здохне чарцям у пекла", г.зн. да праваслаўнага люду, простага, тутэйшага. Дарэчы, спакваля ў здзеклівае ператвараюць гэтае азначэнне, па сутнасці сваёй выключна здаровае. Калі беларус кажа сам пра сябе "тутэйшы", ён не прыніжаецца, а выкладае самы надзейны прынцып этнаграфічнай ідэнтыфікацыі: я — карэнны жыхар гэтага краю, аўтахтон, у адрозненне ад прыхадняў, аблудаў ці захопнікаў, што як прыйшлі, так і пойдуць, шукаючы іншых авантураў; я не маю жадання ўблытвацца ў калатнечы, якім можа канца не быць, а мне б пажыць звычайна, сваім сціплым розумам працаю сваіх рук, паводле спрадвечных традыцый, каб як мага меней залежаць ад розных падзелаў і перадзелаў, разломаў і пагромаў, разбурэнняў з паскарэннем, перабудоў... Вазьму як прыклад жыцці маіх землякоў дзедавага пакалення, у малой колькасці, але жывых яшчэ. Дык вось на іхняй памяці прашугалі "тры рускія рэвалюцыі", дзве сусветныя вайны, а колькі змянілася ўладаў, рэжымаў: цар — акупант нямецкі — акупант польскі — двухдзённая ўлада бальшавікоў, калі намагаліся ўзяць Варшаву — зноў палякі — зноў немцы, пару дзён пасля акупацыі Польшчы — так званыя першыя саветы — яшчэ раз немцы — другія саветы (ад Сталіна да Чарненкі) — перабудоўшчыкі... Іх выганялі ў бежанцы, вывозілі ў

Германію і "ў месцы не надта аддаленыя" СССР, вербавалі ў Амерыку Паўночную і на Сахалін Паўднёвы Многія пад прымусам апыналіся на чужыне, і не раз, ды ўсё роўна вярталіся да сваіх часта спаленых сядзібаў, нанова будаваліся, аралі здзірванелыя загоны, каб есці свой кавалак свайго хлеба, на вечны спачын клаліся ў роднай зямлі. Іхняе ТУТ, нідзе больш Яны дазвалялі каму заўгодна лічыцца-звацца багацейшымі, дужэйшымі, разумнейшымі, гуманістамі, атэістамі, камуністамі і г.д. Але пры гэтым захоўвалі «ад прадзедаў спакон вякоў» атрыманае, шанавалі святое для іх пачуццё тутэйшасці. Вядома, у сваім, а не запазычаным разуменні.

Іх абвінавачваюць у недаразвітасці з пункту гледжання нацыянальнай і дзяржаватворнай ідэалогіі. А ці заслужана? Хіба што адцягненае ад усялякай рэальнасці тэарэтызаванне можа вынайсці нейкія фармальныя падставы. Але тэарэтыкі такога кшталту сябе ставяць у незайздросную пазіцыю — мусова тлумачыць, да таго ж уцямна, чыім промыслам адна супольнасць яднаецца, а другая раздрабляецца, чаму нейкія дзяржавы ўзнікаюць, а нейкія знікаюць, нашто сваю імперыю даводзіцца руйнаваць, а чужую ўмацоўваць... Усе пытанні маіх старэйшых землякоў адразу і не пералічыш. А зрэшты, які сэнс, калі на іх ніхто не збіраецца адказваць па праўдзе І народ — не сляпы, не дурны — гэта бачыць і разумее, вытлумачваючы. усе хлусяць. Хто возьмецца пераконваць яго ў адваротным?

Я, напрыклад, сам ніяк не адолею сумненні У тым ліку і па самых балючых, гарачых на цяперашні момант праблемах. Зноў-такі нацыянальная і дзяржаватворная ідэі ў сённяшніх трактоўках існуюць як дзіўна ўжытковыя (прызначаныя для кароткачасовага ўжытку) і занадта "прыкладзеныя да зменлівай палітычнай кан`юнктуры". Быццам бы гісторыя не давала нам сур`ёзных урокаў, не існуе пераемнасці паміж учора, сёння і заўтра, не даецца ў знакі той неверагодны маштаб дэструкцыі, вынікам якога можа быць толькі канец гэтага свету, калі мы і надалей будзем дамагацца яго славы, не зважаючы на перасцярогі, што паддаёмся розным спакусам, зманам, "прелестям" — па цяперашняму кажучы, ідэям-фікс.

Так, фармулюючы нацыянальную ідэю, найперш варта было б дакладна вызначыць яе перадумовы, апірышчы, важнейшыя праявы І тут не абысціся без такіх прыкметаў, як духоўны генатып, гістарычная памяць, архетыпы свядомасці супольнай Ды, аказваецца, усё можна ігнараваць. Нават законы развіцця і сцвярджэння мовы. Прычым не толькі ўладамі, якія па інерцыі ды спадчыннасці метадаў кіравання інакш не могуць, але і тымі, хто зацята абараняе, быццам бы, гэты сапраўды скарб. А як абараняе? Навязваючы дзве азбукі, супрацьпастаўляючы дзве граматыкі, дакляруючы па сутнасці "перманентную рэвалюцыю", згубную для мовы як сістэмы "Наркомаўка", бадай, недасканалая Але яна так ці інакш праіснавала час, за які створана да 95% усяго фонду беларускай мастацкай, навуковай, даведачнай літаратуры Так што адмаўленне ад яе можа азначаць, па-першае, знішчэнне гэтага фонду, па-другое, істотную перашкоду цяперашнім актыўным носьбітам адносна "рэверсу", па-трэцяе, недавер патэнцыйных носьбітаў, у тым ліку новых пакаленняў, да "сістэмы без сістэмы" Адсутнасць нормы сталай у сваёй мовы будзе стымуляваць пошук трываласці ў іншых, замыкаючы на трывала кадыфікаваных рускай і польскай Так што ў выніку хутчэй за ўсё атрымаецца якраз тое, супраць чаго зацята вядзецца змаганне Змену ж графікі паводле заканамерных вынікаў наогул няма з чым параўноўваць. Бо нават адзін новы знак абумоўлівае "перабудову" свядомасці. А тут справа датычыцца менавіта ўсяго пісьма, складзенага святымі вучыцялямі славянскімі якраз дзеля (пра-)нацыянальнай ідэнтыфікацыі, каб вызначыўся "язык"-народ між астатніх. Адмаўляючыся ад спакон веку <u>нашай</u> азбукі, а таксама ад царкоўна(стара)славянскай спадчыны, мы рызыкуем страціць адну з важнейшых нацыявызначальных прыкметаў. Самахоць, без вонкавай відавочнай агрэсіі, без легальнай інквізіцыі. Часта можна чуць, што царкоўнаславянская мова недаступная, незразумелая (цётцы, матцы, дзядулю, бабулі). А няўжо ім больш зразумелая лексіка цяперашніх палітыкаў? Зрэшты, сяк-так вучаныя па "наркомаўцы", хіба засвояць яны раптам правілы "бэнээраўкі", гэтаксама недасканалай?

Як на мой сціплы розум, беларусы існуюць адвечна ў прасторавых каардынатах сумежжа, у часавых — надойсця, пярэдадня і ўвасабляюць феномен пераходнасці, што нярэдка аб'ектыўна выклікае драматызм. Аднак яшчэ большыя драмы абумоўліваюцца суб'ектыўнымі чыннікамі, перш за ўсё безгляднасцю ідэолагаў і палітыкаў, трыбунаў і правадыроў. Гэта асабліва датычыцца дзяржаўнага будаўніцтва. Уладкаванне дзяржавы, каб было жыццяздольным і трывалым, патрабуе пэўнай самадастатковасці як у рэтраспектыве (забеспячэння грунту, перадумоў развіцця), так у перспектыве (забеспячэння эвалюцыі ў надзейна, правамерна абраным кірунку) Хіба не? А як гэтым патрабаванням адпавядае беларуская сітуацыя? Кажучы мякка, не зусім За што палітычныя плыні вінавацяць адна другую. У той час калі ўсе разам прапускаюць нагоду падтрымаць развіццё належным чынам Каб усвядоміць гэта як след, не лішне звярнуцца да простай, а разам з тым універсальнай, метафары — пра дачыненні душы і цела. Народ, нацыя ў дзяржаватворных працэсах сцвярджаецца і як цела, і як душа. Між тым целу наканавана ў пакутах нараджацца, вырастаць, старэць, а то і гібець свой век, нявечыцца, хутка пераўтварацца ў прах, тады як душы прызначана жыццё вечнае У пакутах ці ў асалодзе, — гэта ўжо іншае пытанне. Аднак намаганне спалучыць у адным целе шмат розных душаў — свядомы выбар пакутаў і згубы. Пяройдзем да таго, што называюць рэчаіснасцю: такое спалучэнне шмат хто прапаноўвае нам у якасці ідэалу Канкрэтызуючы, яшчэ раз вернемся да паралельнага двухмоўя раздваення мовы нацыянальнай, згадаем тэндэнцыі замацаваць раздробленае ўсведамленне этнагенезу, цуранне славянскасці і агульнарускасці, не забудземся і пра навязванне трох плюс ікс рэлігій з псеўдарэлігійнымі рухамі, якія ніхто не злічыць. Пра ўсё гэта час задумацца. Інакш чарговы раз давядзецца ставіць пытанне наконт прапушчанага. Зноў-такі па віне правадыроў, заблытаных чалавечым "суемудрием", што азначае ў перакладзе на сучасную мову "актуальна-палітычную мэтазгоднасць"

Так вось налічваецца нескарыстаных шанцаў больш як трэба.

А таму, хто ў прынцыпе не прымае акрэслены — вядома, спрошчана — падыход, асмелюся задаць сакраментальнае пытанне: чаго ж так адбываецца, што мы ні на крок не пасунуліся ў тварэнні беларушчыны, а наадварот дзень пры дні ўсё болей страчваем тое, што дарагой цаною папярэднікі здабылі?

**P.S.** Прапанаванае да публікацыі выношвалася доўга, фармулявалася не раптам; ужо запісанае абуджала ў самога аўтара шмат рэфлексій, асабліва з прычыны ўсведамлення, што многія ідэі, па сутнасці высокія, выглядаюць скампраметаванымі Ды што ў нас цяпер не скампраметавана?!





## Анатоль СІДАРЭВІЧ

Была магчымасць, ды не было волі, настойлівасці. Ці былі іншыя, больш важныя справы?

Была магчымасць, але нават думка пра тое, што можна выкарыстаць момант, не нараджалася?

Была магчымасць, была воля, ды не ўсе абставіны былі ўлічаны, рашэнне было неадэкватнае

Была магчымасць, была воля, ды не хапіла сіл, ды вонкавыя абставіны перашкодзілі

21 гістарычны сюжэт. Вакол кожнага з іх узнікаюць спрэчкі. Кожны з іх яшчэ не да канца вывучаны і наўрад ці будзе вывучаны. Але кожны з іх наводзіць на роздум. І кожны з іх варты мастацкага твора.

1. 1380 год. Мамай ішоў на Маскву На злучэнне з ім ішоў Ягайла. Адзін дзённы пераход аддзяляў яго ад Куліковага поля. Калі б захацеў — мог бы трапіць на поле бітвы ў самы яе разгар і разбіць войска вялікага князя Дзмітрыя Іванавіча. А заадно знішчыць свайго праціўніка і роднага брата Андрэя Полацкага, які шукаў у Маскве саюзнікаў у змаганні супраць яго, Ягайлы. Сваяцкія пачуцці перамаглі? Ды не быў Ягайла настолькі сентыментальны. Дзядзьку ж свайго, Кейстута, не пашкадаваў... Баяўся, што Еўропа асудзіць за саюз з магаметанамі супраць хрысціянскай дзяржавы? Дык здавён вядома, што пераможцаў не судзяць.

2. Стары Кейстут даведаўся, што ягоны пляменнік Ягайла ўступіў у змову з крыжакамі. Са сваім войскам рушыў у Прусію, потым рэзка павярнуў на Вільню. Заспеў знянацку Ягайлу з Вайдылам, былым халопам, а цяпер велікакняскім шваграм. Атрымаў доказы здрады. Здавалася б, што яшчэ? Вось плаха, вось кат, а вось — вінаватая галава

пляменніка Ды не, прымчаўся з Горадна Вітаўт, заступіўся перад бацькам за свайго стрыечнага брата, таварыша па ловах, угаварыў.

А Ягайла не злітаваўся. Падманам узяў у палон Кейстута і Вітаўта. Кейстута браты Жыбяндзяі забілі ў Крэўскім замку. Вітаўта чакала тая ж доля, ды ўратаваўся. А потым была Крэўская унія...

3. Чаму Ягайла і Вітаўт не пайшлі адразу ж пасля Грунвальдскае вікторыі на Мальбарк? Не разумелі хіба, што за гэты час крыжакі падрыхтуюцца да абароны? Прайшло яшчэ 12 гадоў, пакуль быў падпісаны Мельненскі мір.

4. Няўжо Вітаўту гэтак хацелася пакупацца ў Чорным моры? Ці пакупаць свайго каня? А да Вільні бліжэйшае мора Балтыйскае. Нёман у яго ўпадае, і Дзвіна ўліваецца..

5. Вялікі князь маскоўскі Васіль Дзмітрыевіч, Вітаўтаў зяць, памёр. Сына свайго Васіля (будучага Цёмнага) пакінуў пад цесцеву апеку. А Масковіяй кіруе Соф'я Вітаўтаўна. Была магчымасць узяць Масковію пад цвёрдую руку. Забыліся Альгердавы словы "Уся Русь павінна належаць Літве" ці шкадаванне да дачкі і ўнука, як раней да Ягайлы, узяло верх над меркаваннямі палітычнай мэтазгоднасці? Затое ўнукаў дзядзька, унукавы стрыечныя браты пасля Вітаўтавай смерці не пашкадуюць Васіля — аддадуць у татарскую няволю. Затое Васілёў сын Іван (каторы Трэці) пойдзе на Літву, нягледзячы на тое, што там на пасадзе ягоны зяць Аляксандр і ягоная дачка Алена.. Вось што такое палітычная мэтазгоднасць.

6 Ягайлаў сын Казімір заслужыў, каб палякі з удзячнасцю ўспаміналі яго: адваяваў у Ордэна Гданьскае ўзбярэжжа з Мальбаркам. Вымусіў крыжакоў перанесці Hauptstadt у Кёнігсберг. Літоўскія ж паны адно сачылі, каб лівонцы ў ходзе гэтае вайны не ішлі па сушы ў Прусію. Іх вельмі хвалявала, каб Падолле не трапіла ў рукі да палякаў. А тое, што Вялікаму Княству належыць усяго 16 кіламетраў (сучасная мера даўжыні) узбярэжжа Балтыйскага мора, іх быццам не хвалявала. Не хацелі завалодаць вусцем Нёмана, прабіць прамы гандлёвы шлях ад Меншчыны да мора па тэрыторыі сваёй дзяржавы. Ці не было магчымасці выціснуць немцаў за Нёман?

7. Гісторыкі звяртаюць увагу на тое, што ў Ноўгарадзе Вялікім не толькі склалася свая дзяржава са сваімі інтарэсамі — склаўся свой менталітэт... Нездарма ж Івану IV давялося потым сячы галовы ноўгарадцаў, тапіць іх у Волхаве. Не хацеў Ноўгарад пад уладу Масквы Гэта быў час Марфы Барэцкай Прасіў Ноўгарад у Казіміра Ягайлавіча князя. І атрымаў Алелькавіча. Ды надумаўся Казімір забраць у Алелькавіча Кіеўскую зямлю, а той вярнуўся ў Літву і стаў ворагам вялікага князя Казіміра. І стаў Ноўгарад маскоўскім уладаннем (1478)

8 У 1479 годзе Казімір вырашыў-такі пачаць вайну з Масквою. Ягоным саюзнікам стаў хан Ахмад. Ды марна ў лістападзе наступнага года Ахмад цэлы тыдзень стаяў на Угры (з аднаго берага татарскае войска, з другога — маскоўскае).

Праз 99 гадоў гісторыя паўтарылася: не прыйшоў Ягайла на дапамогу Мамаю, не прыйшоў Ягайлаў сын на дапамогу Ахмаду Яна, гісторыя, давала яшчэ адзін шанц.

А праз тры гады (1492) Казіміраў сын Аляксандр вымушаны быў бараніцца ад Масквы Пачалася эпоха войнаў, якія прывялі да страты смаленскіх і вярхоўскіх земляў.

Для Казіміра больш важна было, каб паўднёвыя суседзі не захапілі польскае Падолле Дый змова склалася супраць яго ў Літве.

9. Змовы. Казіміру пагражалі: пазбавім пасаду. На Сойме яго паранілі. Ад яго патрабавалі раз ты заняты польскімі справамі, прызнач намесніка для Літвы Ён адмаўляўся.

Была магчымасць пазбыцца Казіміра чужымі рукамі. З поля бітвы пад Хойніцамі ў Прусіі польскае войска так уцякала, што забыла пра караля. І трэба ж, яго выратаваў літоўскі баярын.

10 Аляксандр Казіміравіч цяжка хворы. Ягоныя ворагі разгубленыя: крымскія татары пад Лідаю Гетман Станіслаў Кішка "захварэў". Гетманскую булаву паны аддалі саюзніку Аляксандра і свайму супрацоўніку Міхайлу Глінскаму. Князь Міхайла разбіў татараў пад Клецкам, вызваліў вялікі палон.

Неўзабаве пасля бітвы памёр вялікі князь Аляксандр. Вось быў момант для захопу ўлады Міхайла Глінскі праславіўся ў Еўропе як ваяр. У яго асабістыя знаёмствы на Захадзе, у тым ліку з кесарам Максіміліянам І. Не хапіла рашучасці пераможцу татараў? Радавітасці не хапала, каб пасягнуць на Гедымінаў пасад? Гогенцолерны не надта былі





радавітыя, а манархамі Прусіі сталі. Раманавы нават не з князёў, а самаўладцамі Расіі сталі.

11 Каралевіч шведскі Жыгімонт Ваза, па маці ўнук Жыгімонта Старога, у 1587 годзе быў абраны вялікім князем літоўскім і каралём польскім. Пасля смерці свайго бацькі ён стаў і каралём шведскім (1592). Калі ўлічыць, што ў склад каралеўства шведскага ўваходзіла і Фінляндыя, а ў склад Вялікага Княства — Інфлянты, у склад Польшчы — Украіна, дык пад Жыгімонтавым скіпетрам апынулася ці не трэцяя частка Еўропы. Але ж езуіцкаму каралю, як называлі Жыгімонта, вельмі хацелася навярнуць на шлях ісціны шведскіх ды фінскіх пратэстантаў. У 1599 г лютэране пазбавілі Жыгімонта шведскага пасада. У 1600-м пачалася працяглая вайна са Швецыяй.. Страчана бліскучая магчымасць, асабліва, калі ўлічыць, што Жыгімонтаў сын Уладзіслаў быў чалавек талерантны...

12. Масковія перажывала цяжкі час. Смутны. Нашчадкі Рурыка не хацелі, каб усталявалася дынастыя "худородных" Гадуновых (ужо Фёдар Барысавіч падрос). Пушкінская версія паэтычная (Пімен, Грышка, уцёкі ў Літву...) У гісторыі быў Грышка Атрэп`еў. І не ўцякаў ён у Літву (ці прынялі б нейкага там паслушніка князь Вішнявецкі, Леў Сапега, Мнішак?). Грышку адправілі ў Літву супрацоўнікі Барыса. Ды не пра гэта гаворка.. Забіты Грышка, а на троне — Васіль Шуйскі. І зноў знатныя незадаволеныя. Патаемна яны прапануюць шапку Манамаха Уладзіславу, сыну Жыгімонта Вазы. Войска Рэчы Паспалітай перамагае пад Клушынам царскае войска. Царом на Маскве абіраюць Уладзіслава Вазу. Яму складаюць прысягу люд Масквы ды іншых гарадоў Адно трэба дзеля таго, каб абвянчалі Уладзіслава на царства, — прыняць праваслаўную веру, бо ні рыма-каталіцтва, ні уніяцтва люд маскоўскі не прымае. І зноў езуіцкі кароль... Мроіцца яму Рэч Паспалітая з Масковіяй, а ён, Жыгімонт, на чале гэтае дзяржавы. Думкі дапусціць не можа, што Уладзіслаў — праваслаўны цар і вялікі князь маскоўскі.

У 1613 г. пры жывым цару Уладзіславу Масква абрала праваслаўнага цара Міхаіла Раманава.

13 Часта задаюць пытанне: ці стаў бы Багдан Зіновi Хмяльніцкі на чале казакоў, калі б не пакрыўдзілі яго асабіста? Зрэшты, крыўда, якую лях нанёс Багдану, — адна ў шэрагу мноства крыўдаў... А хто мог пакрыўдзіць гетмана Януша Радзівіла? Ён таксама ненавідзеў палякаў і дакляраваў выгнаць іх з Літвы. Што перашкодзіла ім дамовіцца — князю-кальвіністу Радзівілу і праваслаўнаму шляхціцу Хмяльніцкаму? Былі ж спробы... Ці якраз вось гэтае адрозненне ў веравызнаннях, ці адрозненне ў паходжанні абодвух гетманаў, ці тое, што казацкай старшыне хацелася адхапіць кавалак Беларусі ды яшчэ уніяцтва выкараніць?

Не дамовіліся. Гетман Радзівіл, гонячы казакоў з нашага Палесся, узяў Кіеў. Гетман Хмяльніцкі, прыціснуты Польшчай і Літвою (адна Польшча не справілася б), падаўся пад скіпетр цара маскоўскага.

14. А потым казакі разам з расійскім войскам прыйшлі ў Вялікае княства Літоўскае. Шведы прыйшлі ў Польшчу. У шведаў быў саюзнік на Літве — Януш Радзівіл. Паколькі ж Швецыя ваявала ў той час і з Масквою, гетман Радзівіл лічыў яе натуральным саюзнікам Вялікага княства Літоўскага. Гетмана падтрымлівалі паны і шляхта з амаль з усіх земляў дзяржавы, асабліва тыя, якія мусілі ўцякаць ад заваёўнікаў у Жмудзь. 20 кастрычніка 1655 года заключана унія Вялікага Княства са Швецыяй. Быў парваны саюз з Польшчаю. Сцвярджаецца, што Швецыя не ставілася да уніі сур'ёзна, што яна мела намер падзяліць Вялікае Княства з Расіяй Але не адмаўляецца і другое. 31 снежня 1655 года Януш Радзівіл раптоўна памёр Ёсць апісанне ягонага трупа Усе даследчыкі прыходзяць да высновы, што гетман быў атручаны. Прыхільнікі літоўска-шведскай уніі страцілі свайго правадыра.

15 Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Падляшша апынулася пад уладаю Прусіі. Што такое Прусы пасля Фрыдрыха Вялікага? З савецкіх падручнікаў мы ведаем аб прускай муштры, прускай бюракратыі і г.д. Але ў час Трыццацігадовай вайны (1618—1648) у Прусію ўцякло шмат пратэстантаў з розных краін Заходняй Еўропы Гэта былі фінансісты, вучоныя, рамеснікі — людзі з пратэстанцкай працоўнай мараллю. Дадамо да гэтага пратэстанцкую дабрачыннасць. Апека над інвалідамі, хворымі стала законам. Прускія бюракраты цвёрда выконвалі закон і ўжо засвоілі правілы "Усё, што не забаронена законам, дазволена" ды "Нельга патрабаваць ад чалавека рабіць тое, што яму не прадпісвае закон". Чыноўнікі не маглі забараніць тое, што не забаронена

законам, і дазволіць тое, што не дазволена законам Яны вызначаліся сваёй непадкупнасцю. Менавіта ў Прусіі нарадзіўся тэрмін "прававая дзяржава" (І Кант) А раз мы згадалі Канта, дык не можам не ўспомніць Кёнігсбергскі, а заадно і Берлінскі універсітэты, бліскучую плеяду філосафаў моваэнаўцаў, літаратараў. Адны імёны Канта, Форстэра, Гердэра, Гумбальта, Шлегеля, Гегеля пра нешта ды кажуць. Трэба не забываць і тое, што Лютэр хацеў, каб усе пратэстанты маглі чытаць Біблію Дзеля гэтага ён дамагаўся, каб у пратэстанцкіх дзяржавах была ўведзена ўсеагульная элементарная адукацыя. І ўрады пайшлі насустрач такому пажаданню. А яшчэ ў Прусіі, як на той час, была здзіўляючая верацярпімасць.

У час прускай (1795—1807) акупацыі эканоміка і культура Падляшша пайшлі на ўздым Ніхто не пераследаваў Уніяцкую Царкву, як тое было ў Расіі Таму нядзіўна, што з уніяцкага асяроддзя выйшлі выдатныя вучоныя М Бабpоўскі, І. Даніловіч ды іншыя

Перадача Напалеонам Падляшша пад уладу Расіі пазбавіла Беларусь магчымасці развіваць культуру на тэрыторыі, незалежнай ад Расіі Літоўцы мелі Занёманскую Літву (прускае ўладанне). Там друкаваліся літоўскія газеты і кнігі, адтуль прыходзілі кніганошы. Украінцы мелі Галічыну (аўстрыйская тэрыторыя). Львоў стаў сталіцай украінцаў. Беласток не стаў сталіцай беларусаў.

16 "Мужыцкая праўда". Першая беларуская газета. Мала каму вядома, што перад паўстаннем 1863 г задумваўся часопіс на беларускай мове Задумваўся ліберальнымі бюракратамі з акружэння Аляксандра II, якія падрыхтавалі сялянскую ды іншыя рэформы 60-х гг. Вядома, у тым часопісе прапагандаваліся б "праваслаўе, самадзяржаўе і народнасць", але з'явілася б нямала і разумных публікацый (гэта ж факт, што без распрацовак гісторыкаў царскай пары не было б "Кароткай гісторыі Беларусі" В. Ластоўскага, не было б і лепшых дасягненняў сучаснай гістарыяграфіі). Галоўнае ж у тым, што выпрацоўвалася б беларуская мова, навуковая тэрміналогія. Гэта калі яшчэ пачалі працаваць беларускія выдавецтвы, убачылі свет "Маладая Беларусь", "Саха", "Лучынка"..

Паўстанне перакрэсліла намеры ліберальных бюракратаў

17 Паўстанне практычна задушана. Каліноўскі-Вітажэнец у Святаянскіх мурах. А была магчымасць падацца ў эміграцыю. Там, на Захадзе, апынуўся не адзін яго паплечнік. Хто ведае, мо не ўкраінец Міхайла Драгаманаў, а Каліноўскі выпусціў бы першую палітычную брашуру на беларускай мове

18 Сярод ночы дэлегаты Усебеларускага з'езда прыступілі да апрацоўкі рэзалюцыі Быў прыняты першы пункт Абвяшчалася ўтварэнне Савета (Рады) сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў Беларусі — новага органа ўлады для Беларусі Замест мяснікоўскага Выканаўчага камітэта Заходняй вобласці і фронту І вось у гэты момант з'явіўся Крывашэін. Кастусь Езавітаў і іншыя дэлегаты прасілі генерала Цыпрыяна Кандратовіча прыслаць ягоных салдат у Менск — перш за ўсё для аховы Усебеларускага з'езда Кандратовіч глядзеў на маладых як на надта гарачых людзей Генерал недаацаніў магчымасці бальшавікоў ды іх волі да ўлады. Былі б салдаты — сітуацыя ў тую ноч магла б кардынальна памяняцца. Не выключана, што Ландар і кампанія ўцяклі б з Менска не ў лютым 1918 года, а раней

19. Пасля Віскулёў Беларусь стала незалежнаю Пасля Віскулёў нацыянальны сцяг і нацыянальны герб Беларусі зноў сталі дзяржаўнымі Трэба было будаваць дзяржаву. Але ніякае будаўніцтва немагчымае пры канфрантацыі

Лідэрам БНФ раілі склікаць з'езд і памяняць назву арганізацыі само слова "фронт" успрымаецца ўсходнімі славянамі кепска, бо жывая памяць пра ваенныя беларускія франты (дарэчы, на Украіне ўлічылі памяць пра ўкраінскія франты і назвалі патрыятычную арганізацыю проста — Рух) Раілі лідэрам БНФ памяняць і тактыку Кіруючая наменклатура аддавала нацыянальным сілам адукацыю і культуру, сабе ж пакідала эканоміку Але БНФ хацелася больш улады, хоць і не было ў яго належных кадраў для кіравання. Пачаўся збор подпісаў на карысць правядзення рэферэндуму аб датэрміновых выбарах у Вярхоўны Савет Толькі вельмі наіўны чалавек мог спадзявацца, што Вярхоўны Савет самараспусціцца. І калі ён прагаласаваў супраць рэферэндуму, не здолеў БНФ сабраць на мітынг, як раней, 100 тысяч чалавек. Людзі ўбачылі, што галоўны матыў яго дзейнасці — улада. Дый асоба Пазняка будзіла насцярожанасць.

Не памянялі назвы. Толькі і ўсяго. Але ж адгукнулася

20. Сацыял-дэмакратычныя дэпутаты ў Вярхоўным Савеце дванаццатага склікання пачуваліся цалкам незалежна ад партыі — Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Цэнтральная Рада БСДГ вырашыла падтрымаць на прэзідэнцкіх выбарах кандыдатуру Станіслава Шушкевіча. І раптам сябры партыі даведаліся, што іх таварышы з дэпутацкімі мандатамі паставілі свае подпісы на карысць Генадзя Карпенкі. Малы скандал. Атрымаўшы належную для вылучэння сваёй кандыдатуры колькасць дэпутацкіх подпісаў, Карпенка збіраў і подпісы грамадзян. Калі збор подпісаў закончыўся і Карпенкава каманда заявіла, што іх больш за патрэбныя сто тысяч, сацыял-дэмакратычныя дэпутаты адклікалі свае подпісы. Беспрэцэдэнтны выпадак, які ўвойдзе ў аналы Цэнтральная выбарчая камісія пасля праверкі падпісных лістоў устанавіла, што Карпенка не мае 100 тысяч несумненных подпісаў грамадзян. Такім чынам, не без "дапамогі" сацыял-дэмакратаў Карпенка выбыў з прэзідэнцкай гонкі

Аналітыкі сцвярджаюць, што калі б сацыял-дэмакратычныя дэпутаты не адклікалі свае подпісы, улетку 1994 года Беларусь не мела б прэзідэнта, бо наўрад ці адбыўся б другі тур галасавання.

21. Перад сумна вядомай галадоўкай дэпутатаў я сустрэў Алега Трусава. Ён сказаў, што адбылося пасяджэнне апазіцыі, на якім вырашылі не галадаваць. Назаўтра ж стала вядома пра заяву Пазняка і пачатак галадоўкі. Хто штурхнуў Пазняка на гэты крок, невядома. І калі хтосьці штурхнуў, і калі ніхто не штурхаў — у абодвух выпадках Пазняк выявіў элементарную палітычную блізарукасць, калі не сказаць больш рэзка.

Але ўсё трэба тлумачыць псіхалагічнымі асаблівасцямі Пазняка

Па-першае, мне вядома, што Мечыслаў Грыб і Дзмітрый Булахаў заклікалі апазіцыянераў паводзіць сябе спакойна і абяцалі, што Лукашэнкавы прапановы аб рэферэндуме не пройдуць. Але Пазняк і яго сябры не верылі ні Грыбу, ні Булахаву

Па-другое, галадоўкі не аб'яўляюцца экспромтам. Пазняк мог бы пачытаць, як яны арганізоўваліся, ва ўспамінах расійскіх сацыялістаў або, калі ён не любіць сацыялістаў, у "Архіпелагу ГУЛАГу" Аляксандра Салжаніцына. Але і Салжаніцына Пазняк не любіць.

І тым не менш, прачытаўшы або сацыялістаў, або Салжаніцына, Пазняк мог бы высветліць, як бальшавікі распраўляліся з галадоўшчыкамі, і, ведаючы, што Лукашэнка — бальшавік, не надта спадзяваўся б на нейкую маральнасць з яго боку. (У паведамленні пра пачатак галадоўкі іншым сацыял-дэмакратычным партыям, складзеным мною, гаварылася, што фізічная расправа з галадоўшчыкамі не выключаецца )

Па-трэцяе, распачаўшы галадоўку, трэба было працягваць. Хоць бы і ў штабкватэры БНФ . Атрымалася ж камедыя, а не галадоўка. Пазняк і яго аднадумцы паказалі сябе слабакамі. Пасля гэтага спадзявацца на поспех яны не маглі.





## Міхась ТЫЧЫНА

У гады чатыры ў мяне было абсалютна рэальнае адчуванне, што я выйшаў з нейкага аддаленага ад нас свету, перайшоў вялізнае поле ў паўзмроку і ўвайшоў у зямную прастору.

Дзіцячыя сны, фантазіі настолькі яркія, што могуць зацьміць рэальнасць. Яны і ёсць рэальнасць, а наша зямное існаванне — толькі сон. У сноў свая логіка, і свой сюжэт, які не залежыць ад нашых жаданняў і нашай волі. Яны нясуць слабы водсвет іншабыцця.

Калі Гасподзь Бог стварыў нас па свайму падабенству, то свае чалавечыя здольнасці і слабасці мы можам экстрапаліраваць у адваротным напрамку, каб уявіць сабе, што такое Бог. Ён, як і мы, грэшныя, поўны сумненняў. Нездарма на сёмы дзень тварэння было засумаваў і нават хацеў скасаваць адным махам усё зробленае, бо яно здалося Яму недасканалым. Ідэя харасства мучыць Яго, як і нас. І, можа, наш свет — усяго толькі адзін з многіх варыянтаў "тысячагадовага праекта", які здзяйсняе Творца Мусіць, у створанага ёсць свая, незалежная ад Творцы, логіка развіцця. А гэта значыць, што мы маем права ўяўляць, што было б тады, калі б.. Як сказаў адзін літаратурны герой, перарабіць нельга, але перадумаць можна, і нават карысна

Спачатку было сказана Слова — вось момант, калі сусветная гісторыя магла пайсі іншым шляхам.

Затым першыя людзі, Адам і Ева, захацелі стаць самі багамі і ствараць сабе падобных, выбраўшы зусім іншы спосаб — салодкі як працэс і горкі сваімі вынікамі.

Пасля гэтага гісторыя чалавецтва паляцела стрымгалоў уніз, як з гары, і кожная вялікая падзея магла павярнуць нас у той ці іншы бок. Што было б тады б, калі б . Калі б у Напалеона пры Барадзіно не было насмарку, які не даў праявіцца яго генію ва ўсёй красе і магутнасці? Над гэтым шмат разважаў Л. Талстой у шматстаронкавым трактаце-дадатку да "Вайны і міру", які так, здаецца, і застаўся незаўважаным і непрачытаным сучаснікамі і наступнікамі нам бы з рэальнымі, а не ўяўнымі, праблемамі неяк справіцца!

Быў выбар у Рагнеды, і тады беларуская гісторыя магла накіравацца ў іншае рэчышча, і мы сёння не пакутавалі б над пытаннямі данай анкеты. Колькі такіх лёсавызначальных паваротаў у нашай нацыянальнай гісторыі! А, можа, якраз яна, Рагнеда, выбрала найбольш аптымальны варыянт? Затое мы цяпер такія, а не іншыя. І жанчыны беларускія — кожная па-свойму Рагнеда — помняць сваіх гвалтаўнікоў і помсцяць ім. Як, якім чынам? Нараджаючы сыноў, якія з мячом устаюць на бацькоў. Зігмунд Фрэйд і тут меў рацыю — наша нацыянальная гісторыя выяўляе вечнае змаганне з бацькамі, продкамі. Яны стварылі вялікую дзяржаву, а мы яе руйнуем. Яны выклікаюць захапленне, а мы сталі пасмешышчам у вачах цывілізаванага свету. Іх кахалі замежныя красуні, кідаючы, як каралева Бона, свой блаславёны край, а нашы жанчыны хутка ўсе да адной з'едуць у вялікі свет замежжа, дзе іх ацэняць як след.

Вядома, не ўсё і не заўсёды залежала ад нас саміх. Наўрад ці залежала ад Вітаўта Вялікага сітуацыя з каранаваннем. Ён мог яе і не распачынаць зусім, або, пачаўшы, прыспешыць, але наўрад ці ўяўляў ён, што вырабленую лепшымі тагачаснымі майстрамі і асвечаную самім рымскім папам карону проста ўкрадуць. Для гэтага трэба было называцца не Вялікім, а маленькім, не здзіўляць свет сваім высакародствам, а свядома рабіць дробныя прыкрасці не дужа разборлівым у сродках суседзям. Але ён быў не такі, і мы не такія: мы лепш страцім, чым набудзем коштам подласці, лепш перададзім, чым недададзім у дабраце, шчодрасці, спагадзе Значыць, Вітаўт быў абсалютна правы, калі паводзіў сябе так, а не інакш. Сёння мы можам на шматлікіх прыкладах пераканацца, што лепш быць пераможаным, чым пераможцам, слабым, чым моцным. Канечне, спадзявацца на канчатковае "апошнія стануць першымі" наўрад ці трэба беларусам, але ў слабасці — вялікая сіла. Жанчына перамагае мужчыну менавіта сваёй слабасцю, кволасцю. А мы — жаночая нацыя: за доказамі не трэба далёка хадзіць. Ну, была б у нас карона! Але хіба не вядома: "цяжкая ты, шапка Манамаха!" Дык, можа, няхай ужо без "шапкі", але затое з галавой?

Азіраючы нашу мінуўшчыну, міжволі прыходзіш да высновы, што нашы продкі, тыя, ад каго залежаў лёс нацыі, рабілі ўсё (свядома ці несвядома — іншае пытанне), каб уяўленне пра беларускі характар не набыло кандыцыі вульгарных стэрэатыпаў, як гэта здарылася з еўрапейскімі суседзямі. немцы — практычныя, англічане — рацыяналістычныя, французы — легкадумныя, італьянцы — імпульсіўныя, палякі — "каўказцы ў славянстве", рускія любяць крайнасці, украінцы — вялікія гумарысты, эстонцы настолькі самабытныя, што нават слова "Сталін" вымаўляюць на свой лад. "Стаалліінн!" А беларусы? Талерантныя, працавітыя, сціплыя . Гэта беларускія партызаны, ці што, талерантныя і сціплыя? А беларускія рабочыя — працавітыя, ходзячы на працу два-тры дні на тыдзень? Мы — усякія і ніякія Нешта такое няпэўнае, няўлоўнае, як туманнасць Андрамеды. Менавіта таму мы і жывём не дзе-небудзь, а на балоце Адначасова як бы на беразе "мора Герадота", але самога мора даўно няма· яно зарасло раскай, стала дрыгвой, багнай. Глеба, на якой мы трымаемся, хісткая, нетрывалая. Але ж мы неяк навучыліся па ёй хадзіць. Зрэшты, што можа быць больш няпэўным і нетрывалым, як само наша зямное існаванне? Пад намі — тоненькі лядок, пад якім — прорва, акіянская глыбіня неспазнанага свету У людзей, па сутнасці, адна задача — навучыцца хадзіць на гэтым хісткім канаце над прорвай. Навучыліся! Яшчэ і жартуем самі над сабой і сваёй доляй.

Наша дарога з далечыні часу здаецца адзінай — іншай як бы і быць не магло. Няроўнай, з уздымамі і спадамі, зігзагамі і крутымі паваротамі, роўнай і калдобістай, тупкай і гразкай Але на ёй на кожным кроку развілкі, раздарожжы, ростані, і на кожным з гэтых скрыжаванняў мы маглі павярнуць і пайсці іншым шляхам. Але мы пайшлі сваім,





беларускім шляхам. Ці не таму ў нашай літаратуры столькі твораў, у назвах якіх гэта слова: "На ростанях", "Шляхам жыцця", "Адвечным шляхам", "На шляхах волі", "Ростані волі", "На крыжах", "Пошукі будучыні", "Млечны Шлях", "Шлях-360"...

Ёсць воля асобнага чалавека і ёсць магутная інерцыя гістарычнага руху. Ёсць нашы жаданні і нашы лятункі, і ёсць раўнадзеючая гісторыі, якая ствараецца ў выніку супярэчлівага ўзаемадзеяння мноства людскіх воляў і памкненняў Ёсць мэтанакіраваны рух, і ёсць "броўнаў рух", калі "атам" не ведае, дзе апынецца ўжо ў наступны момант, не кажучы пра доўгачасовую перспектыву.

Сёння, калі мы і так і гэтак пераглядаем пройдзены шлях, і гэта захапляючы занятак, бо дае цудоўную магчымасць зразумець шматстайнасць жыцця, яго шматфарбнасць, многаварыянтнасць, я, паводле той жа "тэорыі верагоднасці", з жахам уяўляю, што ўсё магло быць зусім інакш Не было б Леніна — не было б Сталіна, не было б Сталіна — не было б гвалтоўнай калектывізацыі Не было б калектывізацыі — не паехалі б мае бацькі ў далёкую Якуцію, не сустрэліся б там, бо дзе тая бацькава Любаншчына і дзе такая далёкая матчына Валагодчына?! А значыць — о, Божа! — не было б і мяне! Павярнуўшы думку назад, у адваротным кірунку, ад "я" да "мы", міжволі прыходзіш да неабходнасці, з якой розум не згаджаецца, трэба дзякаваць усім за сваё з'яўленне на свет — ад бацькоў (дзякуй, тата! дзякуй, мама!) да Сталіна-бацькі ўсіх народаў

І яшчэ да адной высновы выходзіш, думаючы над такім вельмі нават магчымым варыянтам Вядома, нарадзіцца ці не нарадзіцца, ад нас не залежала. Аднак жа, нарадзіўшыся, дасягнуўшы палавой сталасці і разумовай самастойнасці, мы можам рабіць выбар на карысць той ці іншай версіі. Хоць бы толькі ў сваім уяўленні. Бо менавіта ў гэтай лабараторыі-сінхрафазатроне нараджаюцца ідэі, якія потым кіруюць светам Ва ўяўленні я хацеў бы ў машыне часу апынуцца ў той эпосе, калі ў самых агульных рысах вызначаўся шлях беларусаў у гэтым вялікім свеце. Як герой фантастычнага апавядання Рэя Брэдберы, які адправіўся на паляванне ў пячорныя часы, забіў мамантa, які ўсё роўна ў наступны міг загінуў бы пад дрэвам, што звалілася на яго, але аступіўся з ажурнай паветранай сцяжынкі і раздушыў матылька. А ў выніку адбыліся катастрафічныя змены ў свеце — ажно да таго, што ў англійскім алфавіце, які славіцца сваёй нязменнасцю на працягу стагоддзяў, замест літары "е" сталі пісаць "і". Я хацеў бы таксама аступіцца, абы толькі ў беларускім правапісе захаваўся мяккі знак і мы карысталіся сёння тарашкевіцай, якая хоць у нейкай ступені захоўвае ў сабе жывое дыханне беларушчыны. Нават калі б не было ў выніку Сталіна, а значыць і мяне самога, і гэтага вось адказу на анкету

## Юры ГУМЯНЮК

Усё цячэ, рухаецца, змяняецца . "Двойчы не ўвайсці ў адну раку" — паўтараем мы сёння за старажытнагрэцкім філосафам Крацілам Мабыць, гэта й ёсць той самы "закон незваротнасці", які непакоіць людзей з абвостраным пачуццём усведамлення немагчымасці пераадолення часу і прасторы. Прастора — бясконцая, а час функцыянавання чалавечай біямасы абмежаваны. Таму для творчай асобы надзвычай важна рацыянальна скарыстаць тыя ці іншыя магчымасці для рэалізацыі сваіх задумак. Пры гэтым неабходна захаваць індывідуальнасць, каб не згубіцца ў стракатым карагодзе гісторыі, а пакінуць свой адбітак у Люстры Вечнасці.

У мастацтве, і, у прыватнасці, у літаратуры "закон незваротнасці" — бескампрамісная й бязлітасная рэч. Кажуць, што з песні слова не выкінеш. Так яно й ёсць. Бо тое, што напісана пяром, не высечаш і сякерай Вось таму й пакутуюць пісьменнікі старэйшай генерацыі, ведаючы, што недзе захоўваюцца яшчэ іхнія запыленыя кнігі, поўныя прыгожай хлусні пра шчаслівы савецкі лад. А была магчымасць стаць дысідэнтамі, іміграваць ды казаць горкую праўду на ўвесь свет Не скарысталі і... засталіся ля разбітага карыта.

З другога боку, лёгка некага асуджаць, крытыкаваць, выносіць безапеляцыйны прысуд. Асабліва зручна гэта рабіць з дыстанцыі часу, калі, назапасіўшы досвед папярэднікаў, пачуваеш сябе адносна незалежным у эстэтычным плане. На маю думку,

разважаць над тымі ці іншымі магчымасцямі, тым больш не скарыстанымі — гэта суб'ектывізм чыстае вады, нешта накшталт раскладання картачнага пасьянса. І чым далей заглыбляешся ў мінуўшчыну, тым больш суб'ектывізму і фантазіі. Іншая рэч — сучаснасць, сённяшнія актуаліі, якія, безумоўна, маюць сувязь з недалёкай і далёкай мінуўшчынай. Менавіта сучаснасць з'яўляецца выдатнай прасторай для рэалізацыі нескарыстаных магчымасцяў, выпраўлення памылак папярэдніка і карэкціроўкі ўласных поглядаў.

Нягледзячы на шматлікія цяжкасці, мы жывём і творым у перыяд рэальнага эстэтычнага плюралізму, тым самым фармуючы глебу XXI стагоддзя. Дзіўная рэч, але айчыннае літаратуразнаўства аніяк не можа развітацца з марксісцка-ленінскай метадалогіяй, а літаратура вызваліцца з адбымкаў зацвілай пазітывісцкай народніцкай ідэалогіі. Таму мяне найбольш хвалюе лёс прадстаўнікоў новай літаратурнай генерацыі, бо менавіта яны пачынаюць дамінаваць у сучасным літаратурным працэсе. Аднак многім з іх трэба пазбыцца шматлікіх комплексаў, атрыманых у спадчыну ад сваіх папярэднікаў, і адчуць сябе нарэшце сапраўды нармальнымі вольнымі людзьмі.

## Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

Паводле Пімена Панчанкі, творца — "недакапаны да вады калодзеж" І ў сэнсе паэзіі, і, асабліва, у плане жыццёвых рэалій. Супакойвае даўно вядомае чалавек — сума страчаных магчымасцяў. Зрэшты, гэтая выснова стасуецца не толькі да чалавека, да "метафізічных" постацяў таксама.

Л. Дранько-Майсюк. Шчасце адамізму яму так і не адкрыецца.

У. Някляеў. У першы дзень знаёмства з рэжысёрам В. Раеўскім памыліўся, думаючы, што ў Менску магчыма стварыць азартную ўтульнасць Монтэ-Карла.

А. Разанаў Мог, але так і не вынайшаў форму вершанема. Дадатковая назва згаданай формы — вершанявма.

Л. Галубовіч Тонкая душа ў келіху вясковых манер. Ніяк не здагадаецца гэты келіх разбіць.

В Акудовіч. Ахвяра закаханасці ў хараство ідэі. А вакол столькі жанчын!

У Арлоў Геній нястомнай прысутнасці, ажно зайздросна!

А. Мацievіч У апошні дзень свайго парыжскага побыту апынуўся на вуліцы Бак перад вітрынай замкнутай (!) антыкварнай крамы. На вітрыне быў выстаўлены кіёк работы Язэпа Драздовіча.

Муза. Каля майго ложка так ні разу і не забыла свае завушніцы

Ноч Яшчэ не страчана магчымасць стаць дырэктарам парыжскага цырка.

Дзень. Усё позна прыходзіць — поспех, слава, а найпазней — багацце..

Д. Бічэль-Загнетава. Любоў да часопіса "Крыніца" абавязкова захопіць душу паэткі.

Буйны паэт. Стамлёны Вакхам, Анатоль, павер у гэтае прызнанне цябе не зможа алкаголь, калі паверыш ты ў каханне!

Творчасць. Можна напісаць раман лепшы за раманы М Шолахава і горшы за раманы Т Мана. Можна наадварот. Што на гэтай зямлі заўсёды спраўджваецца, дык гэта самападман.

Паэзія. Тая ж рэальная жанчына, аднак жа з істотным адрозненнем — яе бялізна прываблівае больш чым позірк.

В. Сёмуха. Ніколі не перакладзе на нямецкую мову маё жаданне падарыць каханцы Рыльке таршэрнае святло.

Р. Сітніца. Калі я быў у Афінах, забыўся на мільён драхмаў купіць руж, каб пакласці да помніка Байрану. У мастака ёсць магчымасць выправіць маю забыўлівасць.

Кузьма Чорны. Рана развітаўся з Ідай Чырвань, таму не напісаў раман, галоўная гераіня якога мела б характар Настассі Філіпаўны

М Стральцоў. Калі вандраваў, за ім хадзілі мройныя постаці Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Жылкі, таго ж Кузьмы Чорнага. Узвышанскі Менск набліжаўся да яго, але сустрэчы так і не адбылося.

У. Жылка. Вяртанне ў Менск — трагічная памылка, аднак жа вяртанне гэтае і дакладны адказ на пытанне дзе магчыма, а дзе немагчыма быць еўрапейцам?

У. Дубоўка. Аднойчы мне прысніўся ягоны раман "Цень Арфея".

Янка Купала Доўга жывучы ў Пецярбурзе, так і не пазнаёміўся з Блокам Шкада Руская (а, мабыць, і беларуская) літаратура мела б яшчэ адзін прыгожы міф.

## Кастусь ТАРАСАЎ

Пры пэўнай дасведчанасці няцяжка напісаць 20—30 прозвішчаў слынных людзей мінуўшчыны ды і сучаснасці, якім, на першы позірк, не пашанцавала выкарыстаць цалкам свой патэнцыял у творчасці, палітычным ці грамадскім жыцці. Згадзіўшыся адказаць на нібыта даследніцкае пытанне, я склаў спіс з 22 асобаў, што мелі, з майго пункту гледжання, магчымасці здзейсніць больш ці лепш, чым здзейснілі Але агляданючы слупок шаноўных імёнаў, я адчуў, што ёсць нешта несумленнае, выразна няўдзячнае ў такім падыходзе да іхняга жыццяпісу і спадчыны, нейкая незадаволенасць спажыўца, які лічыць, што ў культурную скарбніцу недададзена і дапушчальна ўзважыць недахоп на крытычных вагах. Паразважаўшы ў гэтым накірунку, я прызнаў сваю няздольнасць быць кантралёрам чужых лёсаў, спраў, удач і наогул неправамоцнасць будаваць гіпатэтычныя канструкцыі без вызначаных параметраў і з мноствам пазарэальных адвольных дапушчэнняў на грунце спадчыны рэальных людзей

Гуляючы ў такое "21", лёгка патрапіць у казачны свет, дзе асоба надзяляецца большымі здольнасцямі, чым надаў ёй, фігуральна кажучы, Бог І, галоўнае, дзе месца пуцяводнай зоркі займае даследніцкая мэта. Атрымоўваецца інтэлектуальная батлейка. Калі б, прыкладам, князь Кейстут у канфлікце з Ягайлам выказаў болей валадарскай дальнабачнасці і зрабіў з Ягайлам тое, што той крыху пазней зрабіў з ім у Кряскай вежы Крэўскага замка, дык верагодна, што праблемы нашай дзяржаўнасці, польскага ўплыву на беларускую культуру ва ўсіх яе галінах, "крэсаў" выглядалі б сёння зусім інакш. Бо пры такім альтэрнатыўным дапушчэнні ўладу пераняў бы адпаведна старому звычаю князь Андрэй Полацкі, старэйшы сын Альгерда, і што больш істотна, праваслаўны. А калі б наступнікам Кейстута на віленскім стальцы стаў Вітаўт, дык і ён не хрысціўся б з праваслаўных у каталікі ў Кракаўскім кафедральным касцёле Нескладана ўявіць усе нерэалізаваныя магчымасці такой сітуацыі і паводзіны тагачасных і наступных палітыкаў, не заключаных умовамі Крэўскай уніі

Сярод агульнавядомых сюжэтаў пра магчымасці, неўвасобленыя ў важкую гістарычную з'яву, заўжды выклікае горыч драма Кастуся Каліноўскага. Калі б гэты энергічны дзеяч, таленавіты публіцыст і прыроджаны водца пасля задушэння паўстання не застаўся ў Вільні, а падобна Урублеўскаму ці Трусаву эміграваў у Парыж, магчыма Інтэрнацыянал меў бы і Беларускую секцыю з дэвізам "Каго любіш? Люблю Беларусь!", узятым з паўстанцкага пароля. Інакш кажучы, яшчэ ў XIX стагоддзі існаваў бы палітычны асяродак, стварaліся б структуры, здольныя канцэнтраваць раздробненыя намаганні дзеля нацыянальнага і дзяржаўнага адраджэння.

Чаму ж Каліноўскі не скарыстаўся з магчымасці эміграваць, а чакаў у цэнтры Вільні той хвіліны, калі жандары адшукаюць сярод ягоных паплечнікаў чалавека з малой мужнасцю і слабым сумленнем? Адказ невядомы, і "Ліст з-пад шыбеніцы" нічога тут не прасвятляе Нельга не зважаць на прынцыповую розніцу паміж ведамі пра плён творчых высілкаў якойсьці асобы і нашымі мізэрнымі, недакладнымі ведамі пра абставіны яе асабістага жыцця. Таму з непазбежнасцю паўстае безадказнае пытанне: што лічыць для пэўнай асобы прычынамі нескарыстаных магчымасцяў? Ды і як без памылак ацэньваць самі магчымасці? Яны ж у большыні выпадкаў — велічыня пераменлівая, а часцяком і падманлівая Прыкладам, у асобы багата творчай энергіі, але ёй бракуе эстэтычнага гарту, ці нават неабходнай начытанасці

Ёсць некалькі неаспрэчных прычынаў, што перашкаджаюць асобе зрэалізаваць увесь аб'ём сваіх магчымасцяў Гэтыя прычыны, так мовіць, трагічнага зместу — заўчасная смерць, цяжкая хвароба, рэпрэсіі. Дзейнасць тысяч таленавітых людзей

знішчыў сталінскі тэрор, наогул бальшавіцкі таталітарны лад. У артыкулах, прысвечаных Купалу, часта адзначаецца яго малая паэтычная актыўнасць у 30-я гады як форма апазіцыі ці рэакцыі на дзяржаўны гвалт і вынішчэнне творцаў. Але калі я думаю пра нерэалізаваныя магчымасці, дык бачу апошні загадкавы палёт Янкі Купалы ў гасцініцы "Масква" з вышыні пятага паверха. Набярэцца ўражальны аддзел творчых асоб, чые стваральныя магчымасці абмяжоўваліся ці выкараняліся і ранейшымі ідэалогіямі Аднак гаварыць пра творцаў, што сталіся ахвярамі рэжымаў і сістэм, азначае перайсці на хібы грамадскага ладу і яго інстытутаў, што мяняе тэму Ніводзін урад і ягоныя органы не могуць станоўча ўплываць на творчыя магчымасці асобы. Бо прапаноўваюць творцу рэалізоўваць свае магчымасці ў рэчышчы іхніх пажаданняў, мэт, густу. Няма сэнсу пра гэта разважаць.

А каму і на каго жаліцца за такія бязлітасныя ўдары па культуры, як ранні скон Максіма Багдановіча. Думаючы пра яго нявыкарыстаныя магчымасці, застаецца толькі смуткаваць аб крохкасці чалавечага жыцця і абыякавасці вышніх сілаў, калі яны існуюць, да аўтара "Зоркі Венеры", "Пагоні", "Народ, Беларускі Народ!". Нават не беручы на разгляд такія скрайнія выпадкі, усё роўна прыйдзецца прызнаць тужлівую выснову, што колькасць людзей, адораных так бліскуча, што паспявае рэалізаваць свой талент цалкам і неаспрэчна, вельмі малая. І наадварот, бясконцым будзе спіс тых, хто на шляху самавыяўлення сустракае разнастайныя перашкоды і пасткі. Бальшыня творчых асобаў — што называецца, дзеці свайго часу Іхнія магчымасці адпавядаюць іх абмежаваным ведам, "перадавым" на бягучы момант поглядам і тактычным, па сутнасці, задачам свайго больш ці менш актыўнага і яскравага ўдзелу ў сучасным ім творчым працэсе Нічога дзіўнага, што з цягам часу ўзнікае сумнеў, ці ўсе творчыя магчымасці яны выкарысталі? На кожным ляжыць адбітак сацыяльнага паходжання і становішча, сацыяльнага асяроддзя. Калі б Васіль Цяпінскі быў больш багаты, відаць, мы атрымалі б ад яго большую літаратурную спадчыну, а ён не стаў бы ахвярай уласных пляменнікаў, якія засеклі яго шаблямі ў лесе, раз`юшаныя тым, што сямейная маёмасць выдаткавалася на пераклад і выданне "Евангелля". На тле такога крывавага сутыкнення беднасці з талентам звычайны ціск непрасвечаных пластоў грамадства на адораны творчымі памкненнямі слой выглядае непрыкметным і не надта крыўдным. Аднак такі ціск існуе і выяўляецца праз абыякавасць да навіны і праз падтрымку стэрэатыпаў.

Не варта вызначаць, калі творцу пакідае вера ў грамадскую патрэбу ці ўласную неабходнасць сваёй працы, той запал, якім адухаўляецца творчая дзейнасць. У нейкі дзень словы, ці ноты, ці фарбы губляюць магію. Знікаюць магічныя здольнасці — пачынаецца творчы крызіс, час падробак. Часам — кароткі, іншым разам — назаўжды. У рэшце рэшт усё мае канец, асабліва ўсё персанальнае Варта ведаць самім, што мы адшукваем. Ці ставім дамінанту над магчымасцямі асобы, выдатна скарыстанымі дзеля славы дзяржавы, нацыянальнага з'яднання, узрастання самасвядомасці этнасу? Ці будзем ацэньваць спадчыну творцы, яго арэчаўленыя магчымасці па пошуку новых сродкаў літаратурнага, музычнага, сцэнічнага і г.д. выказвання? Ці задаволімся адказам, што тая ці іншая асоба была шчаслівая тым, што рабіла хоць нешта творчае і не пакутавала ад думкі, нібыта напрацавала менш, чым ад яе чакаюць цяпер і ў наступным часе. Творчасць, як усе ведаюць, справа індывідуальная і суб'ектыўная. Гэта — цуд. У залежнасці ад памераў таленту — цуд маленькі ці вялікі. Але заўжды таямнічы.

Пагалоскі пра творчую інтэлігенцыю часта сцвярджаюць, што персона X напісала б больш апавяданняў, калі б піла менш. Аднак, магчыма гэты X таму і схіліўся да бутэлькі, што ўжо не адчувае ў сябе магіі апавядаць. А нехта мудры і заслужоны не піша, а гадзінамі шпацыруе ўздоўж ракі, нібы абцяжараны роздумам над працягам сваіх ранейшых прызнаных выдатнымі раманаў Ды скуль нам ведаць, ці не адчувае гэтая асоба большай асалоды, седзячы не за пісьмовым сталом, а на беразе рэчкі, назіраючы, як плынь нясе ў таямнічую невядомасць сарваную навальніцай галінку, і прызнаючыся сабе ў марнасці і наіўнасці сваіх высілкаў стварыць задавальняючую літаратурную копію боскага свету.

А на супрацьлеглым беразе заваражаны плаваннем галінкі маладзён раптам адчувае ў сэрцы шчаслівы штуршок — гэта талент абудзіўся і паклікаў яго зрэалізавацца. Як некалі Купалу, Цяпінскага, Драздовіча, Караткевіча ды іншых, у тым ліку багемнага X і таго заслужонага, які стаіць насупроць і ўжо не спяшаецца.





## Антон КУДЛАТЫ

«Што маглі, але не зрабілі?. » Прабачце, хто? Дваццаць адзін чалавек? Усе, што маглі, тое і зрабілі Усё ёсць як ёсць. Усё заканамерна Няма выпадковасцяў. Не было іншых магчымасцяў Усё зрабілася тое, што было магчыма

Лепей паставіць пытанне так: што маглі, але не хацелі? Таму што калі б хацелі – усё зрабілі б. Я мог бы, напрыклад, нырнуць уніз галавою з дзесятага паверха, але не хачу. Не буду! Навошта? Трэба жыць і рабіць тое, што хочаш Ёсць жаданне – ёсць і магчымасць. Ёсць магчымасць – абавязкова зробіш тое, што хочаш, таму што ты ўжо можаш! А калі не хочаш, то і не можаш, з чаго вынікае· не зробіш. Ніколі Нідзе Ніяк. Вось так.

Трэба навучыцца ХАЦЕЦЬ! Вялікае жаданне – вялікае МАГУ! А калі магу, зраблю ўсё, што хачу, нават і тое, чаго не ўмею. навучуся! А чаго не хачу – не буду! І не зраблю ніколі. Так усюды, заўсёды і ва ўсіх.

Шмыг! мышка за кошкай .. Э, не! Наадварот· кошка за мышкай, так правільна: цапцарап, злавіла і з'ела. Таму што хоча, можа і робіць. А мышка за кошкай не можа, таму што не хоча, таму што баіцца. Вось, трэба навучыцца не баяцца! Калі б мышка не баялася – усё магла б· і за кошкай .. а кошка за сабакам а Моська за сланом... Дарэчы, яна ж «брэша на слана», але з'есці не можа Нават калі б і хацела, не можа Не ўсё можам хіба? Брахня! Можа і Моська! Калі б моцна, вельмі-вельмі хацела злопаць жывога слана, то павінна была б заўсёды падпільноўваць яго, калі слон спаць будзе падбегла і кусь яго за нагу – і ўцякаць. У яе ж зубы вострыя: кусь – і ўцякаць. Так пакрыху· кусь-кусь, – і з'ела б слана Моська па кавалачках.

Усё можам, калі моцна хочам! І ўсё зробім Так і нашы продкі зрабілі ўсё, што маглі! Дзякуй ім вялікі ўсім, за тое, што і мы жывём: і нешта хочам, нешта можам і робім

А чаго ж я хачу сёння?

Хачу, каб Сыс кінуў піць! Ён абавязкова кіне, таму што я так хачу! Засталося толькі крышачку – каб ён захацеў гэтага ж. Галубовіч захацеў і кінуў. Малайчына! Трэба навучыць Сыса захацець кінуць піць, а для гэтага трэба, каб ён ажаніўся, тады нешта напіша, калі захоча. А не захоча, дык жонка прымусіць. вымушаны будзе напісаць НЕШТА, што ж ён будзе рабіць, калі кіне піць, – і сям'ю патрэбна будзе карміць, і жонку любіць, і сына на руках насіць... Сорамна тады будзе не пісаць, калі назваўся паэтам.

Хачу, каб Федарэнка кінуў піць, курыць і думаць, што ўсе яму зайздросцяць. Тады перастане крыўдзіцца і сумнявацца ў тым, што ўсе яго любяць, перастане з Талстога рабіць ідала і сам паправіцца і напіша «Вайну і свет» або «Алену». І яшчэ хачу, каб Федарэнка заўсёды цікавіўся, як паміраў той ці іншы пісьменнік, і раўняўся на тых, хто жыў і памёр па-хрысціянску.

Хачу, каб Разанаў заўсёды тлумачыў мне тэасофскія пытанні і пераканаў, што Сын-Чалавечы і Сын-Божы – гэта Адно. Яму заўсёды няма часу, няхай пазычыць у мяне сядзе і напіша, а то ў мяне слабая памяць: скажа – усё як бы так, а я адышоў і забыўся

Хачу, каб Міхась Шэлехаў жыў доўга-доўга, больш за мяне, і не пайшоў у манахі, і напісаў усё, што задумаў

Хачу, каб усе людзі былі шчырымі– і яны абавязкова зробяцца шчырымі, таму што я так хачу!

Хачу, каб усе людзі былі шчаслівымі і вольнымі, і я з імі разам, – а Беларусь самай квітнеючай.

Я гэтага хачу, і так будзе! Пабачыце.

Не можа быць іначай, калі і вы таго ж захочаце, калі захочам усе разам і кожны паасобку, калі нашы бацькі зрабілі ўсё, што маглі, і мы, дзякуючы ім, яшчэ нечага хочам 1 УСЕАГУЛЬНАЙ ЛЮБОВІ. 2. ЛЮБОВІ КОЖНАМУ 3. БОСКАЙ ЛЮБОВІ ДА ЎСІХ НАС. 4. МУДРАСЦІ 5. ВЕРЫ 6. НАДЗЕІ 7. ШЧЫРАСЦІ 8 ШЧАСЦЯ. 9. ДАБРАБЫТУ. 10. ВОЛІ. 11 РАЗУМНЫХ НАЧАЛЬНІКАЎ, ПАЧЫНАЮЧЫ З ПРЭЗІДЭНТА І КАНЧАЮЧЫ СЯРЖАНТАМ МІЛІЦЫІ ПУПКІНЫМ. 12. ВЯЛІКІХ ГАНАРАРАЎ ПАЭТАМ І ДОБРЫХ ЗАРОБКАЎ УСІМ АСТАТНІМ. 13. і. ТОЛЬКІ Б НЕ БЫЛО ВАЙНЫ...

Няхай будзе так. Таму што я так хачу

## Алесь АРКУШ

Я не маю патрэбных ведаў і смеласці, каб сягаць у прадонне беларускай мінуўшчыны і развважаць адносна нявыкарыстаных мажлівасцяў тагачасных грамадскіх і культурных дзеячаў Для мяне таямніца "данашаніўскія" грамадска-культурніцкія варункі ў краі Няма дакладнага малюнку матывацыяў тых ці іншых учынкаў, памкненняў. Выказваць нейкія прыватныя абстрактныя гіпотэзы не бачу патрэбным, бо й так хапае аматарскіх тлумачэнняў "беларускага лёсу".

Напрыканцы XX стагоддзя карціць паразважаць над спадчынаю адыходзячага веку Ніколі яшчэ беларуская ідэя не развівалася так дынамічна. І ніколі рыса, якая характарызуе якасныя і выніковыя паказальнікі гэтай дынамікі, не была такой віхлястай і стромкай. Стагоддзе бясконцых дылемаў Або — або Або Беларусь — або Паўночна-Заходні край Або вітальны ліст да Сталіна — або ГУЛАГ Або фашысты — або энкавэдысты Або сумленне - або кар'ера Або Лукашэнка — або Пазняк. І г.д. Як ні дзіўна, але "нашаніўцы" першага набору, гэтыя летуценнікі і "дылетанты", у гульні з докамі кірмашных падманаў засталіся пераможцамі і атрымалі неверагодны "куш" — прызнанне Беларусі як адметнага краю, а беларусаў — як народа. Кірмашныя прайдзісветы, праўда, палічылі, што падсунулі "дамарослым сепаратыстам" фікцыю — "надзьмутага каня", які выпруціць ногі на першым кроку. Але конік паціху заклыпаў і — неверагодна — напачатку 90-х ператварыўся ў *Пагоню*. І тут, здаецца, скакаць і скакаць буланаму ў светлую будучыню нястомна і няўхільна. Але не Кірмашныя прайдзісветы не дазволілі "Гасцінец наш — скакаць не дамо!" А што народ? Народ, як дзіця, якое няспынна трэба выхоўваць на любові і павазе да прыгожага, духоўнага, роднага, інакш ператвараецца ў бэйбуса, які трасе бацькоўскія кішэні і збівае медныя літары з помнікаў нацыянальным геніям. Рэлігія ў савецкія часы не магла выконваць ролю выхаваўцеля Галоўная адказнасць ускладалася на творчую інтэлігенцыю.

Аднойчы я выпадкова падслухаў, як кабета казала сваёй знаёмай, пачуўшы запрашэнне прыйсці ў царкву, што ніколі не пойдзе ў гарадскі храм, бо на свае вочы бачыла, як мясцовы поп "ціскае баб і жлукціць гарэлку" У падобную гісторыю патрапіла й сучасная беларуская інтэлігенцыя Сваім канфармізмам, угодніцтвам, часам бессаромным халуйствам яна папляжыла аўтарытэт, які атрымала ў спадчыну ад "нашаніўцаў" Хто цяпер паверыць, што Пазняк не жыве на заходнія мільёны, а Быкаў не рупар капіталістычнага (г.з варожага) Захаду Заўтра прэзідэнт скажа, што яны на народныя грошы пабудавалі сабе катэджы, і людзі пачнуць ствараць камітэты па іх раскулачванню У ракурсе гэтай трагедыі я і паспрабую ўзгадаць некаторыя страчаныя мажлівасці беларускіх дзеячаў XX стагоддзя

**Уладзімір Жылка.** Не павінен быў вяртацца на савецкую Беларусь з Прагі Відавочна, да хаты яго пагналі нэндза і сухоты Магчыма, ён выйграў некалькі гадоў жыцця, але страціў больш — у тым ліку і гонар.

**Алесь Дудар.** Ягоная ваяўнічасць павінна была нарадзіць сапраўдны Саюз Вызвалення Беларусі. Цікаванне сваіх — паскудны занятак.

**Янка Купала.** Ні пры якіх умовах не павінен быў ісці на супрацоўніцтва з бальшавікамі Калі атрымалася "абламаць" Купалу, дык што казаць пра астатніх. (Бадай кожны пісьменнік імкнецца да лаўраў нацыянальнага прарока — але гэтае званне перш за ўсё ўскладае на асобу маральную адказнасць.)

**Уладзімір Дубоўка**. Павінен быў эміграваць на Захад і пачаць працаваць на заўтра Беларусі. Не веру, што такі адукаваны чалавек мог спадзявацца на нейкія перспектывы беларускай дзяржавы пад сталінскім бязлітасным сонцам

Хаўруснікамі Дубоўкі маглі стаць амаль палова "Узвышша" — **Пушча, Калюга, Мрый, Бабарэка, А.Адамовіч, Чорны.** Было б добра, каб яны аселі дзе-небудзь у Празе або ў Парыжы.

У 30-я гады, з дапамогаю сталінскіх катаў, была закладзена традыцыя слугавання беларускай творчай інтэлігенцыі.

Галоўным эпіцэнтрам страчаных мажлівасцяў, бясспрэчна, з'яўляецца канец 80-х—пачатак 90-х гадоў. Наменклатурная творчая інтэлігенцыя не зняла нявольніцкі хамут і засталася ў дзіравым дзяржаўным хляве, пільнуючы свае месцы ля карытаў Не было створана жыццяздольных незалежных творчых структураў (на ўзор трэцяга сектара), таму інтэлігенцыя не здолела хоць неяк уплываць на хаду палітычных падзей у краіне

**Рыгор Барадулін.** Меў мажлівасць стварыць літчасопіс, накшталт маскоўскага "Нового мира", і пачаць працэс фармавання трывалага эстэтычнага мацерыка.

**Генадзь Бураўкін.** Не выкарыстаў шанц замацавацца ў палітыцы і стаць беларускім Паўлычкам-Драчом.

**Станіслаў Шушкевіч** (малодшы). Меў шанц стаць першым прэзідэнтам Беларусі, калі б здолеў аб'яднаць вакол гэтай мажлівасці незалежніцкія сілы.

**Алесь Бяляцкі, Сяргей Дубавец, Анатоль Сыс.** Маглі стварыць на базе "Тутэйшых" моцны інтэлектуальны рух новай фармацыі.

**Максім Танк.** Напрыканцы 80-х мог выканаць місію яднання беларускай наменклатурнай эліты і выпхнуць наверх свайго. Краўчука або падтрымаць Шушкевіча.

**Анатоль Сідарэвіч.** Дарма пакінуў літкрытыку. З ягоным сыходам у "грамадоўства" гэтая важная культуралагічная ніша апусцела (следам за ім з крытыкай развітаўся Дубавец) і літпрацэс страціў "адсочвальнасць".

**Алег Мінкін.** Не здолеў падтрымаць раўнавагу паміж побытавым і творчым жыццём. Побытавыя клопаты праглынулі творцу

**Сяржук Сокалаў-Воюш.** З'ехаўшы ў Амерыку, ён знік для беларускай культуры і палітыкі ў самыя спрыяльныя часы "пасляперабудовачнай адлігі"

**Павел Дзмітрук.** Пасля некалькіх сустрэч з прадстаўнікамі КДБ адышоў ад "беларушчыны" і кінуў пісаць вершы А меў талент, каб стаць добрым паэтам

Названыя дзеячы не згубілі больш за ўсіх астатніх. Але іхнія нявыкарыстаныя мажлівасці для мяне найбольш відавочныя.

Зараз трэба ствараць фонды падтрымкі нацыянальнай эліты. Або яна стане незалежнай (ад дзяржавы) — або знікне І гэта будзе апошняе беларускае "або-або".

## Павел МАРЦІНОВІЧ

У нашае гісторыі, бясспрэчна, былі моманты, што здарыліся "па віне" саміх беларусаў — ці то паасобных палітычных дзеячаў, ці то грамадства ў цэлым. Хацелася б, вядома, "перапісаць" некаторыя старонкі, да прыкладу, пасадзіць айцоў БНР ды вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі на цягнікі і караблі, што трымалі курс на Парыж, Лондан і яшчэ далей, каб не варочаліся яны ў Саўдэпію, пад сякеру ката, а служылі Беларусі Сёння, калі мы ў дужа няпэўным трывожным стане, урокі мінулага для нас — як плямы крыві, што дагэтуль захоўваюцца на пратаколах тагачасных допытаў.

У М Кусянкова гадоў пяць назад я сустрэў поўныя шкадавання радкі пра дзяўчыну-"нефармалку" з бел-чырвона-белым значком, якую чакаюць міліцэйскія дубінкі ды атрутны газ. Паэт не верыў у блізкую светлую будучыню. Няма добрай упэўненасці і ў мяне. Калі ў часткі нацыянальна-патрыятычнай моладзі ёсць магчымасць сабраць рэчы ў валізку ды выехаць, мажліва, гадоў на пяць у Дрэздэн або Мілан, не трэба яе папракаць. Там таксама яна працавацьме для Айчыны І няхай бярэ з сабою бацькоў, калі зможа. У Курапаты іх, бадай, не завязуць: сканаць яны могуць ад сораму за свой народ.

Але шмат чаго, нават калі б можна было напісаць старонкі па-новаму, нельга было змяніць. Мы — маленькая нацыя, нашыя слабасці, комплексы, заганы — прадукт сістэматычнай мэтанакіраванай працы велізарнай суседняй дзяржавы. Зірніце хоць адным вокам на "сакрэтныя дакументы" з партыйных ды гэпэушных архіваў, іх покуль што не абмінаюць у сваіх артыкулах даследчыкі-гісторыкі Найвышэйшыя дзяржаўныя чыны, найгалоўныя юрысты і карыфеі спецслужбаў "суверэннай" рэспублікі днямі, тыднямі, месяцамі трымалі ў полі зроку і вырашалі лёс нейкага няшчаснага студэнта Белпедтэхнікума, які выпусціў танюткі зборнічак вершаў, "дапусціўшы шэраг нацыяналістычных памылак" Калі пагартаеш расійскія энцыклапедыі, дзе напаткаеш мноства дзеячаў навукі, культуры, якія і ў кадэцкіх корпусах вучыліся, і да меншавікоў хіліліся і ў эміграцыі былі, і мірна дажылі ў Перадзелкінах ды санаторыях Акадэміі навук да васьмідзесяці—дзевяноста гадоў, міжволі згадаеш словы ўсенародна абранага пра

"роўныя магчымасці беларускай і расійскай моў", дзеля якіх ён праводзіў слынны свой рэферэндум.

Сённяшні спецыфічны перыяд беларускай гісторыі мінецца хутка (ці лепшы яго заступіць?). Ён стаўся магчымы дзякуючы унікальнай інтэлектуальнай дэградацыі айчыннай наменклатуры Прадухіліць яго яна магла, калі б здолела рашуча згуртавацца ды вылучыла на вышэйшы дзяржаўны пост М. Дземчука або П. Краўчанку, або А. Герасіменку Субардынацыя перамагла здаровы клёк. Калі крывавы расійскі вір не ўцягне ў сябе нашу Бацькаўшчыну і наступныя выбары адбудуцца, абраць на іх Галоўным свайго чалавека апарату будзе яшчэ цяжэй. З'явіліся і замацоўваюцца ў грамадскай свядомасці толькі "частокова свае" для яго: С. Багданкевіч, Г. Карпенка. Да таго ж, пачварныя формы барацьбы за ўладу ў Расіі надта ахалоджваць інтэграцыйны імпэт нават самага цёмнага пенсіянерска-калгаснага электарату на Беларусі, і павысіцца рэйтынг нацыянальна-дэмакратычных сіл. Перакананы: і тады ні ў якія хаўрусы ні з наменклатурай, нават самай "свядомай", ні з "наогул дэмакратамі" ўступаць ім не трэба. Нават калі яны ў чарговы раз прайграюць, дык, прынамсі, не ўзваляць на сябе віны за чарговы "союз" ці "единение" І захаваюць той Шанец для Беларусі, на які ўсе мы (не ўсе, а ўсе мы) спадзяёмся.

## Юрась ПАЦЮПА

Калі не адбылося — значыць і не магло адбыцца, хоць адно можа падавацца амаль верагодным, а другое зусім немагчымым. Да таго ж — гісторыя не любіць умоўнага ладу Але Арыстоцель пісаў, маўляў, гісторыя сцвярджае пра тое, што было, а паэзія — пра тое, што магло быць, і таму паэзія філасафічнейшая за гісторыю. Філасофія пачынаецца з адцягненасці, а адцягненасць, як паказвае ўнутраная форма слова, ёсць адыход ад дадзенага тут і цяпер. Урэшце, адцягненасць заўсёды мае справу з мадальнасцямі і супрацьстаіць будзённай наканаванасці. Умоўны лад філосафа — гэта другасны ўмоўны лад, ён не мае нічога агульнага з плаканнем па нязбытным, усякае "магло быць" тут ператвараецца ў "мусіць быць", усякі пагляд назад становіцца паглядам у будучыню. Дык заставаймася ж паэтамі, і будучыня застанецца з намі.

**І. Палітыка** самая пустая і нестваральная дзейнасць, але ў яе ілюзіях найбольш яскрава адбіваюцца спраўджаныя і няспраўджаныя магчымасці, за імёнамі палітыкаў стаяць кірункі існасці

1) Рагвалод не перамог Уладзіміра, а Рагнеда не адпомсціла рабынічу — ці не адсюль пачаліся нашы наканаванасці?

2) Вітаўт не атрымаў кароны, княства не стала каралеўствам і таму ў нас нават з лексікаю праблема: як па-беларуску сказаць "царствует"? Купалаўскае слова "царуе" нясе непрыемныя ўспаміны пра чужую імперыю, "княжыць" — занадта прыватнае. А можа, — "пануе", "гаспадаруе"? Можна схіліцца да нейтральнага "ўладарыць", але незадаволенасць застанецца.

3) Леў Сапега не здзейсніў свой геапалітычны праект, і Лжэдзмітрыя нашы продкі, на жаль, не змаглі пасадзіць на маскоўскі трон, Расія так і засталася азіяцкаю краінай. Рускія любяць хваліцца, што яны стрымалі татара-мангольскую навалу — дык жа, наадварот, яны пераняліі ад яе сцяг, а стрымалі мы (іх), і загінулі

4) Напалеон таксама не перамог Расіі. А шкада! На месцы імперыі мы мелі б мноства еўрапейскіх гаспадарстваў. І Беларусь была б нязгоршым І расійцы не пакутавалі б ад месіянскае пыхі. І бальшавізму не было б дзе разгуляцца.

5) Булак-Балаховіч не стаў "начальнікам гаспадарства" Гэта апошняя найвялікшая наша страта. Беларускія дзеячы ў гэтыя часы былі занадта наіўнымі, занадта аднабакова шукалі падтрымання на Усходзе.

**II. Літаратура** — адзіная прастора, дзе сапраўды дзеецца Беларусь, і ўсе ўяўленні пра Беларусь — гэта ўяўленні пра яе літаратуру.

1) Адам Міцкевіч пакінуў або не пакінуў беларускія вершы — цяжка сказаць. Урэшце, гэта дробязь, тыя вершы наўрад ці былі геніяльныя, але кожны яго беларускі радок перамяніў бы ўсе культурныя знакі

2) Альгерд Абуховіч (вось геній!) не меў магчымасці апублікаваць свае творы, а калі па яго смерці магчымасць з'явілася, дык кожны найперш думаў пра ўласныя стварэнні, пакуль бальшавікі не знішчылі спадчыну паэта. Цяпер мне ад роспачы, кажучы словамі А.К. Талстога і І Буніна, хочацца качацца па траве і крычаць.

3) Сяргей Палуян дасюль здзіўляе дакладнасцю думкі і вытанчанасцю стылю Нават гадаць цяпер цяжка, што мы страцілі ў яго асобе

4) Максім Багдановіч у крыху спрыяльнейшых умовах усё-ткі мог не захварэць на сухоты, і бацька мог бы накіраваць яго вучыцца ў Пецярбург да Шахматава. Мне здаецца, мы яшчэ і напалову не ўяўляем, якога арыгінальнага літаратуразнаўца і лінгвіста страцілі.

5) Змітрок Бядуля здаўна і незаслужана адсунуты ў другі шэраг літаратараў Для яго, відаць, было б найлепей апынуцца ў Заходняй Беларусі, дзе давяршыўся б талент пісьменніка. Праўда, тады саветы абвясцілі б яго буржуазным, але, такой бяды, усё адно яны Бядулю не спрыялі

6) Уладзімір Дубоўка не павінен быў трапіць у лагер, ён мусіў пісаць у вольных умовах. Не ведаю, як гэта было ажыццявіць, але ведаю, што з вольным Дубоўкам мы мелі б найлепшую частку свае паэзіі

7) Кузьма Чорны бадай адзіны з беларускіх празаікаў, які мог стаць сусветнаю велічынёю. І яго лёс таксама на сумленні бальшавікоў

8) Уладзімір Жылка найтаемнейшая постаць беларускай літаратуры Ён спраўдзіўся, хоць і рана памёр І спраўдзіўся б нават тады, калі б напісаў толькі адзін верш Але адзін і многа — усё ж розныя рэчы.

9) Анатоль Сыс ці не адзін з усіх старэйшых і малодшых маіх сучаснікаў надзелены дарам правадыра і прарока. Але ў XX стагоддзі няма і не можа быць прарокаў, тут, каб нешта значыць — трэба стаць чалавекам-тэкстам. А тэкст не мае вялікасці, бо не мае асабовасці Вось Сыс і зрабіў усё наадварот, пайшоў у бажавольнасць.

10) Андрэй Пяткевіч, "супергеній", так ён сябе называў, стаў, для мяне асабіста, найвялікшаю стратай. Разам загінуў не толькі яго архіў, памерла і мая літаратурная маладосць. Учарашні дзень ужо незваротна ў гісторыі, і нічога адтуль не вернецца, хіба крохі якія

**III. Мова і культура** ў нас цесна пераплеценыя, і тое, што адбываецца ў мове, — адбываецца ў культуры. А калі хто аспрэчвае гэта — той або не думае, або свядома скажае рэчы.

1) На беларускай мове не з'явіліся творы класіцызму, гэта быў першы пагрозлівы вынік, сігнал, які стаўся прычынаю працяглай і пакутлівай кадыфікацыі мовы

2) Чым больш я вывучаю гісторыю мовы, чым больш успамінаю гаворку свайго дзяцінства — тым больш пераконваюся, што толькі Ян Станкевіч, хаця, можа, і занадта катэгарычна, сцвярджаў праўдзівую беларускую мову А цяперашні "акадэмічны" валапюк наўрад ці адпавядае свaёй шыльдзе

3) Аграмадная страта — гэта згубленая падчас вайны картатэка жывой беларускай мовы. Калі сёння чытаеш беларускія тэксты і параўноўваеш іх з "Русско-белорусским словарем", дык здзіўляешся, як гэтыя недарэчныя цагліны могуць прэтэндаваць на нейкую навуковасць, да таго ж і выпраўляцца не думаюць.

4) На беларускіх землях існавала багатая габрайская культура Я шкадую, што ні мы, ні яны не знайшлі належнага сумоўя Ад гэтага горш стала і ім, і нам

5) Беларусы занадта сур'ёзна ўспрымалі "бытнае становішча", мала глядзелі ў будучыню. У выніку кожная наша нацыянальная праява моцна знітаваная з пэўным часам. Вось і цяпер баімся вочы падняць, зірнуць за далягляд.

У звязку з гэтым мушу зазначыць, што колькі ні пераглядаю сваё жыццё, беларускую гісторыю, колькі ні шкадую аб страчаным, але ў істоце не магу прамяняць свой горкі досвед на тыя магчымасці Мой горкі досвед — найдаражэйшае з таго, што маю. І яшчэ я помню: закону незваротнасці падлягае толькі тое, што "ўжо не адбылося", але ёсць і тое, што "яшчэ не адбылося", гэта абсяг нашае волі

21 Вось сюды я і скіроўваю дваццаць першую магчымую магчымасць. Пакідаю яе сабе З Божаю дапамогай

